МІХАСЬ МІХАЛЕВІЧ

# ПРА ВЯЛЛЮ
## *рыбу і рыбалку*

Нататкі вандроўніка
з Вілейкі






М І Н С К, « К Н І Г А З Б О Р », 2 0 20

УДК 358.33(476)091
ББК 68.516(4Беи)
М69

**Міхалевіч М. М.**
М69 Пра Вяллю, рыбу і рыбалку: нататкі вандроўніка з Вілейкі
Міхась Міхалевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 156ст.
З дапаўненнямі
ISBN 978-985-7180-09-7.

Гэта кніга паўстала ад вялікага жадання аўтара распавесці пра раку Вяллю — тое, што атрымалася занатаваць за часы сплаваў і першых вандровак, прыгадаць з дзяцінства і юнацтва, з размоў са знаёмымі жыхарамі паселішчаў на берагах ракі.

Прызначаецца аматарам рыбалкі, вандровак і гісторыі роднага краю.

**УДК 358.33(476)091**
**ББК 68.516(4Беи)**

**ISBN 978-985-7180-09-7** 

# Ад аўтара

Кожныя звесткі аб рацэ Віліі (па мясцоваму, вышэй да г. Вілейкі —*Вільлі,* а ніжэй па цячэнні — *Вяллі,* а пасля Быстрыцы, пасля мяжы з Літвой, - *Neris* ) лепш узбагачаюць адчуванні не толькі вандроўніка, які сплаўляецца па гэтай рацэ, альбо рыбака, які адпачывае на золку з вудай, але і іншых жыхароў Віленскага краю (беларускага Павілля). І нават, думаю, астатніх жыхароў Беларусі і нават Літвы, запаўняючы падзеямі, байкамі, міфамі нішы навакольнай прасторы, цяперашняга і мінулага часоў. Чым глыбей веды пра насельнікаў ракі, аб прыродных і культурных помніках, аб гісторыі ўзбярэжных паселішчаў, аб традыцыях і лёсах мясцовых жыхароў — тым наш час пры сплаве па рацэ, наша існаванне ў цэлым становіцца багацейшым, любыя ўчынкі, рашэнні і проста сяброўскія размовы на беразе Вяллі, нашы спевы і тосты за юшкай пад кілішак жытнёвачкі робяцца больш асэнсаванымі.

Менавіта любоўю да прыроды, да Вяллі дыктуецца жаданне распавесці пра тое нешматлікае, што атрымалася запісаць за часы сплаваў і пешых вандровак, прыгадаць з дзяцінства і юнацтва, з размоў са знаёмымі і незнаёмымі жыхарамі паселішчаў на берагах ракі, пакуль яшчэ жыла вёска; што цяпер засталося малапрыкметнымі слядамі альбо зусім знікла ў багне заплываючых балотам старарэччаў, а некалі яе прыгожых і чыстых берагоў з залатога пяску.

Вяллі былі прысвечаны кнігі нашых славутых землякоў — у XIX стагоддзі графа Канстанціна Тышкевіча, Ігнацыя Ходзькі. У XX стагоддзі былі надрукаваны кнігі пра Вяллю, пачынаючы з вытоку, нашых суседзяў ураджэнца Мядзельшчыны (з Кабыльніка), знакамітага прафесара з Вільні Чэслава Францавіча Кудабы, манаграфія прафесара з Клайпеды Вікінтаса Вайткявічуса. Да знаёмства з літоўскім кінарэжысёрам Вітаўтасам Дамашавічусам мне ніколі не прыходзіла ў галаву думка напісаць кнігу пра Вяллю, пра рыбалку, але Вітаўтас прапанаваў, а Віталь Кастэнка настоіў, падбіўшы мяне, дылетанта, да краязнаўчай працы, публікацый у газетах пра Вяллю, да ўдзелу і напісання навуковых дакладаў да канферэнцыі ў Вільні і да “Тышкевічаўскіх чытанняў” у Логойску, Вілейцы, Валожыне. Не мне казаць, што з гэтага атрымалася, а чытачу і прафесійным крытыкам. У гэтай кнізе сабраны меркаванні пра верхнюю і сярэднюю часткі ракі, пра экалогію самых простых людзей: рыбакоў і старых жанчын, якія пражылі жыццё на яе берагах.Успаміны пра традыцыі і неверагодныя па трагічнасці лёсы мясцовых жыхароў, пра плытагонаў, пра векавыя дрэвы–помнікі на ўзбярэжжы не ўвайшлі ў гэту працу — дасць Бог, яшчэ калі-небудзь апрацуюцца і надрукуюцца.

Назва, прадмова і тэксты большасці частак кнігі дадзены на роднай мове, тэкст адной з частак (успаміны жыхароў) — на трасянцы ці рэгіянальнай мове — менавіта так, як мне казалі тутэйшыя людзі. Да матэрыялаў кнігі, што запісаны ад рэспандэнтаў і апрацаваны мной, прашу адносіцца суб’ектыўна. Гэта не ісціна ў

апошняй інстанцыі: у адной вёсачцы кожны мае як свае ўспаміны, так і свой погляд на тую ці іншую з'яву, па-рознаму распавядае пра адно і тое ж здарэнне нават на працягу дня ці калі не ў гуморы, галодны; ці закурыўшы папяросу пасля сытнага абеду, а сама лепш пасля кілішка, другога.

Кніга прызначаецца невялікаму колу чытачоў: аматарам рыбалкі, вандровак і гісторыі роднага краю – пераважна юнакам і мужчынам, хаця, спадзяюся, можа, і знойдзецца якая жанчына, што здолее яе дачытаць да апошняй старонкі, бо недзе ёсць у ёй з пяць кулінарных рэцэптаў як гатаваць юшку.

З павагай да майго высокашаноўнага чытача, *Міхась Міхалевіч.*

# Частка І.

# УНІКАЛЬНАСЦЬ ВІЛІІ

## Рыбец і жэрах, ласось і мінога

…Літоўская вада багатая на велізарную
разнастайнасць вялікіх і малых рыб.

*Канстанцін Тышкевіч.*
*«Вілія і яе берагі», 1871 год*

Рака Вілія выцякае з бягомльскіх балотаў і нясе свае воды да Балтыкі, зліваючыся з Нёманам у г. Каўнасе. Працягласць ракі — 510 км: па Беларусі — 282 км, па Літве — 228 км. Раку можна ўмоўна (паводле Чэслава Кудабы) раздзяляць на тры характэрныя ўчасткі — верхняе, сярэдняе і ніжняе цячэнні. Верхняе цячэнне мае няспешны характар, рака звілістая, шырыня рэчышча — ад 1-2 метраў у вярхоўях да 60, а месцамі і да 100 метраў ў месцы сутокі з р. Нарач. У сярэднім цячэнні (каля в. Данюшава) берагі пачынаюць узвышацца, рака бяжыць як у каньёне, сустракаюцца камяні, парогі, перакаты, мелі, астравы. У ніжнім цячэнні, пасля Вільні, рака ўжо мае значную шырыню, берагі часта высокія, быццам на ўральскіх перадгор'ях. Асноўныя прытокі Віліі — рэкі Дзвіноса, Сэрвач, Ілія, Уша, Нарач, Ашмянка, Страча, Жаймяна, Вілейка.

Унікальнасць Віліі для Рэспублікі Беларусь вызначаецца, па-першае, прасторавай сувязной роляй з мінулым і будучым нашага краю: на гэтай рацэ, былой дарозе жыцця, знаходзіцца Вільня, наша агульная старажытная сталіца Вялікага Княства Літоўскага, а таксама першыя сталіцы летувісаў — Кернава і Коўна. Па-другое, гэта толькі адна з трох рэк, што працякаюць у Рэспубліцы Беларусь, якая наўпрост злучаецца з Балтыйскім морам і якую насяляюць паўпраходныя рыбы. Бо астатнія зарэгуляваныя, перакрытыя плацінамі без уладкавання рыбаходаў. Па-трэцяе, прыродныя асаблівасці: наяўнасць 12 «сябрынных» парогаў, што надае рацэ асаблівую сакральнасць; вялікая колькасць легендаў, курганоў і помнікаў прыроды і гісторыі нашага краю, якія яшчэ захаваліся да сённяшніх дзён; хутары, засценкі, вёскі і мястэчкі, у якіх яшчэ можна сустрэць бабуль і нават дзядуляў — апошніх карэнных жыхароў, што не пажадалі змяніць прапіску ў пошуках лепшага жыцця, якія радавымі каранямі сыходзяць у глыб часоў і берагоў, па меншай меры, на 10–20 пакаленняў, якія з'яўляюцца носьбітамі рэгіянальнай мовы, традыцый, асноваў і мясцовых звычаяў слаўных крывічоў і ліцвінаў; а таксама наяўнасць Вілейскага вадасховішча — самага

вялікага (на сёння) па плошчы штучнага вадаёма ў Рэспубліцы Беларусь, канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы (далей — ВМВС), па якім частка вадасцёку перакідваецца праз водараздзел у басейн Дняпра і далей у Чорнае мора.

Такім чынам, адразу з Вілейкі водным шляхам пасля 1976 г. можна трапіць не толькі ў Вільнюс, Каўнас, Клайпеду і амаль у Калінінград да Канта, але і ў Мінск, Бабруйск, Светлагорск, Рэчыцу, Кіеў, Канеў, Чаркасы, Крамянчуг, Днепрапятроўск, Запарожжа, Кахоўку, Херсон і ледзь не ў Адэсу (па такім маршруце, мэта якога была за пяць гадоў дасягнуць два моры, трацячы па 30 дзён штогод (цэлы водпуск) на пэўны ўчастак ракі, пачаў сплаўляцца пад ветразем на ўласным швертботе «Мева», пачынаючы ўжо з 1974 г. карэнны віляйчанін, мой цёзка па прозвішчы Эдуард Міхалевіч, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя). Да 1976 года старажытны шлях з "вараг у грэкі" быў трохі даўжэйшы- толькі з самых вярхоўяў Віліі, праз р. Валачанку і Поню , што ля Мільчы можна было трапіць у р. Беразіну і далей у Днепр.

*Лепш за нашых класікаў — Канстанціна Тышкевіча і Ігнацыя Ходзькі*[1] *— нельга апісаць раку Вілію: «…кожная рака мае сваю мінуўшчыну, сваю гісторыю, свой аўтарытэт, набыты дзякуючы карысці, якую прыносіць краіне; мае свой характар і ўласцівыя ёй рысы. Кожная рака цячэ, нібы чалавечае жыццё: у маленстве выцякае з крыніцы спачатку нязначная, потым папаўняецца маленькімі рэкамі; яна быццам бы вучыцца і набывае досвед, вырастае, набірае сілы, становіцца сталай і пачынае прыносіць карысць, калі млыны ці іншыя механізмы варочае, калі на сваім хрыбце цяжкія гружаныя судны з месца на месца ці з краіны ў краіну перавозіць. То бурлівая і пенная, нібы ў гневе, то зноў цячэ ціха і спакойна; далей — глыбокая і сур'ёзная, як чалавек, які глыбока задумаўся, то зноў неглыбокая і шамаціць, весела коціцца па каменьчыках. Шмат разоў у сваім цячэнні какетліва фліртуе і галубіцца са сваім чароўным берагам, беручы яго ў свае абдымкі, як мужчына абдымае сваю каханую жанчыну і ў прывабных абдымках і салодкіх пацалунках шукае кахання і шчасця. І ў канцы свайго шляху становіцца шырокай, сталай, сур'ёзнай і разважлівай; і марудна, як рухаюцца зусім старэнькія людзі, упадае ў вялікія воды, якія яе паглынаюць, дарэмна спрабуючы захаваць хоць нейкія прыкметы актыўнага жыцця і сляды свайго існавання; і, нарэшце, захопленая вялікай сілай, прападае ў марскіх глыбінях, як знікаюць сляды чалавечага жыцця ў вечнай прасторы. Чалавек адраджаецца ў наступных пакаленнях, рака ж абнаўляецца са сваёй крыніцы і цячэ па сваім рэчышчы на працягу многіх тысяч гадоў…» (Канстанцін Тышкевіч*[2]*. «Вілія і яе берагі»).*

У сваёй кнізе «Вілія і яе берагі» граф Канстанцін Тышкевіч з Лагойска, вучоны і пісьменнік, якім ганарыцца ў нас пакуль толькі беларуская «свядомая» інтэлігенцыя, рыбалоўству на р. Віліі прысвяціў цэлы раздзел (IV).

Кніга нашага выдатнага земляка выдадзеная на польскай мове ў 1871 г. у Дрэздэне па матэрыялах экспедыцыі, здзейсненай ім у 1857 г. па Віліі. Была таксама складзеная карта ракі з падрабязна апісанымі перакатамі, парогамі, камянямі. Да гэтага свету былі вядомыя апісанні ўсяго трох рэк: Дуная, Рэйна і Тэмзы. Вілія — на ганаровым чацвёртым месцы.

З усёй разнастайнасці іхтыяфаўны Віліі ўдастоіліся ўвагі графа Канстанціна толькі 15 асноўных рыб, якія ў той час «*звычайна лавіліся*»*: шчупак, акунь, лінь, лешч, плотка, мянтуз, сом, бялуга, язь, вугор, галавень, выразуб, ласось, цырта* і *невядомы навуковай сістэме* ***ганец.*** Рыба, зваўшаяся на рэгіянальнай простанароднай мове ***"ганец"*** была невядомая К.Тышкевічу, а гэта ж быў жэрах, які так сама іначай зваўся ў вярхоўях Віліі ***- бален******ь і жэраспень***, што прывяло да памылковага меркавання графа , аб тым, што "*ганец*" не быў яшчэ не ўключаны ў навуковыю сыстэму.

***Даведка.*** *Іхтыяфаўна Віліі цяпер прадстаўленая 49 відамі рыб, 11 відаў заселеныя ў вадаёмы з мэтай гадоўлі. У Віліі жывуць тры прадстаўнікі кругларотых: міногі ўкраінская, ручаёвая і рачная. Сучасная іхтыяфаўна рэк і азёраў Беларусі шырэйшая, чым у Віліі, – прадстаўленая 69 відамі рыб, сярод іх тры міногі; больш за 40 відаў рыб з'яўляюцца абарыгеннымі. Аднак адзінымі буйнымі рэкамі ў сухапутнай Беларусі, звязанай наўпрост з морам, куды ідзе на нераст рыба, засталіся Вілія (бо яна ўпадае ў Нёман ніжэй Каўнаскага вадасховішча) і Заходні Буг, Нараў, што ўпадаюць у Віслу. Але вадасцёкі басейна Віслы (рэкі Заходні Буг, Нараў) на тэрыторыі Беларусі наўрад ці калісьці мелі нераставае значэнне для ласосяў і цырты, паколькі не адпавядаюць неабходным патрабаванням ні па гідралагічных, ні па грануламетрычных параметрах.*

Пасля таго, як мінула амаль 160 гадоў з апісанай графам Канстанцінам Тышкевічам разнастайнасці, тры віды рыб зніклі цалкам. Гэта два прахадныя віды, што заходзілі з мора на нераст, — балтыйскі сіг і бялуга (атлантычны асётр або нямецкі асётр), і адзін абарыгенны від — выразуб. Колькасць астатніх відаў рыб скарацілася да крытычнай адзнакі. Практычна зніклі (па словах мясцовых жыхароў) неўзабаве пасля будаўніцтва плаціны Вілейскага вадасховішча ў верасні 1973г. У той жа час агульная колькасць відаў рыб у Віліі за 160 гадоў павялічылася на 11 за кошт інтрадукаваных для прамысловай гадоўлі і нетутэйшых інвазіўных, смеццевых, малакаштоўных парод.

Пра **выразуба** (мясц. *віразуб*) ніхто са старажылаў увогуле не памятае, не ведае, калі ён знік з Віліі. Тым больш дакладна і зараз невядома навукоўцам, ці быў выразуб у Віліі, бо гэты від больш характэрны для рэк Каспійскага і Чарнаморскага басейна. Пра **сіга** старыя рыбакі і сёння з захапленнем расказваюць, як яго здабывалі да 70-80х на Віліі, асабліва ў вусці Нарачанкі , і потым нават ў пачатку XXI стагоддзя, ён зноў пачаў выпадкова трапляцца каля в. Трапалава, і ў г. Вілейка. Але гэта быў не той, не балтыйскі сіг, апісаны К. Тышкевічам, а сіг чудскі, паспяхова інтрадукаваны від, які з 1928 г. гадуюць на воз. Нарач. Сіг балтыйскі ў Віліі не сустракаецца з канца XIX ст.

Апісваючы **бялугу**, К. Тышкевіч класіфікаваў рыбу *(accipenser huso)*, якая належыць да сям'і асятровых.

***Даведка.*** *Асятровыя – acipenseridae (лацінская); бялуга – huso (старажытнагерманскія мовы). Сям'я асятровых уключае 4 роды: бялугі, асятры, сцерлядзі і блізкія віды.*

Найбольш праўдападобна, што апісаная К. Тышкевічам «бялуга» ўсё ж не была класічнай, самай вялікай прэснаводнай рыбай з роду бялуг (huso huso), а быў гэта нямецкі (атлантычны або балтыйскі) асётр (acipenser sturio), самы вялікі з роду асятроў. Міфы-ўспаміны пра бялугу (балтыйскага асятра, «вялізную рыбу з мора», «беларыбіцу») на Віліі да гэтай пары захаваліся ў народнай памяці. З пакалення ў пакаленне перадаецца міф, як у 1927 г. злавілі бялугу ў в. Кастыкі. Жыхары в. Глінное і цяпер узгадваюць міф пра тое, як спрабавалі здабыць бялугу («рыбу з мора») у 1926 г. Аналагічны выпадак адбыўся ў 1947 г. на Віліі ў вусці р. Ілія і быў распаведзены жыхаром адселенай пры будаўніцтве Вілейскага вадасховішча старажытнай в. Рыбчына. Таксама жыхары Ністанішак прыгадваюць здабычу (у 50-я гады?) каля Рымшынентаў «рыбы з мора» вагой сем пудоў — найбольш праўдападобна, балтыйскага асятра. А зам. дэкана біяфака БДУ, біёлаг і іхтыёлаг, які нарадзіўся на берагах Віліі, прыгадаў, як яму расказвалі, што апошніх двух асятроў здабылі ў Вялейцы ў 1953 годзе.

***Даведка**. Апошніх двух асятроў у Віліі (у межах г. Вілейкі) злавілі ў 1953г. Праз сто гадоў пасля экспедыцыі Тышкевіча гродзенская рыбалоўная арцель злавіла апошняга асятра ў р. Нёман — у 1957 годзе (Вілія — асноўны прыток Нёмана, і відавы склад іхтыяфаўны да 1974 года быў індэнтычны). Апошні вядомы выпадак вылаву балтыйскага асятра на тэрыторыі Польшчы зафіксаваны ў верасні 1965 года ў Вісле непадалёк ад г. Хэлмна. Гэта была самка вагой 136 кг і даўжынёй 281 см. Непасрэдна ў Балтыйскім моры acipenser sturio быў злоўлены эстонскімі рыбакамі ў Рыжскай затоцы ў 1996 годзе. Гэта была самка вагой 135 кг, а даўжыня складала 290 см.*

Падчас сплаву па Віліі ў 2009 г. ад мясцовых жыхароў атрымаў інфармацыю пра тое, што вясной у сетку ў раёне Белай Гары (той, што ніжэй за Жодзішкі, бо на беларускай частцы Віліі маюцца не менш чым чатыры ўрочышчы Белая Гара) трапіўся экзэмпляр з сям'і асятровых на 5 кілаграмаў, магчыма, сцерлядзі або балтыйскага асятра. Пра аналагічны трафей з сям'і асятровых, здабыты ў 1992 г. у раёне вадаскіду Вілейскага вадасховішча, мне пад вялікім сакрэтам расказалі знаёмыя рыбакі. Турыст з вялікім досведам з Вілейкі Міхаіл Петух, які з'яўляецца прадаўжальнікам справы Віталя Кастэнкі па штогадовых сплавах па Вяллі "Шляхам Тышкевіча", у 2005 г. у раёне Мелі назіраў, як паралельна з байдаркай ішла рыба памерам 0,5 метра з характэрнымі прыкметамі асятровых, праўдападобна — сцерлядзь. Магчыма, гэта «рыбацкія байкі», а магчыма — сенсацыя: відаць, асятровыя, зноў вярнуліся ў Вілію. Ва ўсякім разе мясцовыя жыхары і рыбакі, на жаль, надзвычай асцярожныя, не робяць фотаздымкаў унікальных трафеяў. Не кажучы пра чучалы, бо баяцца пакінуць якія-небудзь улікі, за якія яны могуць быць прыцягнутыя да адміністрацыйнай і нават (пры паўторных выпадках) крымінальнай адказнасці. Хаця маглі б рызыкнуць дзеля навукі і пасля таго, як скончыцца тэрмін даўнасці (3 гады), «рассакрэціць» інфармацыю. Прашу толькі не тлумачыць маю думку памылкова: я заклікаю ўсіх рыбакоў спачатку фатаграфаваць выпадкова вылаўленыя ахоўныя, асабліва

каштоўныя для іхтыяфаўны трафеі і адразу адпускаць рэдкую ахоўную рыбу назад.

Унікальнасць Віліі і рэк яе басейна ў маштабах рэспублікі цяпер заключаецца ў наяўнасці трох відаў прахадных рыб: кумжы, сёмгі (ласось), рачной міногі (сямідырка, вугрыца) і аднаго віду паўпрахадных рыб: цырты (рыбец), якія ўжо паўстагоддзя ў іншых рэках Беларусі проста не сустракаюцца (рыбец абарыгенны прэснаводны сустракаецца ў Прыпяці і Дняпры, але ён драбнейшы за марскога паўпрахаднога). Канстанцін Тышкевіч апісаў у манаграфіі ласося і цырту, межы іх міграцыі (заходу ў вярхоўі) падчас нерасту.

*Згодна з назіраннямі, якія правёў граф Тышкевіч, «у верхняй, «балотнай», частцы Віліі, да Данюшава часцей ловяць ляшча, акуня, плотку, астатнія віды рыб — у ніжняй, «каменнай», частцы, хаця адзначаўся заход з ямаў і лоўля ў верхняй частцы выразуба, ганца і часам нават цырты, што ловіцца падчас нераставання каля вёскі Сосенка. Ласось, які трымаецца ля вусця Віліі паміж Янавам і Коўнам, здзяйсняе часам вандроўкі да Вільні, вясной нават да Ашмянкі, дзе і ловіцца ў той час…*

*…Ганца вылоўліваюць паблізу ад Жодзішак. Вугор у ваколіцах Вільні часцей за ўсё знаходзіцца. Цырта ў чэрвені шчодра вакол Янава ловіцца. Расказвалі мне, што ў ваколіцах Верак [прыгарад Вільні, Вяркяй, бел. Веркі] часам карпы ловяцца; здаецца, што рыба гэтая заблукала недзе з мясцовых карпавых ставоў, бо не належыць да ліку рыб, якія пастаянна запаўняюць раку Вілію. Толькі адзін шчупак свабодна прагульваецца ад вытоку да вусця, спраўляючы паляванне і наводзячы страхі на меншую рыбінку, якую па дарозе пераследуе, даганяе і праглынае. Усюды пераслед і ганенне; у цэлым у прыродзе, як мы бачым, у права больш моцнага ёсць перавага над больш слабым. У паветры, на зямлі і ў вадзе — усюды такія ж звычаі. Як шчупак будзе паляваць на малую рыбку ў рацэ і яе прыгнятаць і крыўдзіць; як сіпы, арлы, каршуны пагражаюць меншым за іх птушкам, так і чалавек прыгнятае чалавека на зямлі…»*

Падчас сплаваў па Віліі ў 1977–2017 гг., слухаючы рыбакоў і прыбярэжных жыхароў, мне пашчасціла прыкмеціць новыя факты пра межы міграцыі ў вярхоўі Віліі ласося, цырты, жэраха, сома, вугра, якія адрозніваюцца ад класічнага даследавання Тышкевіча.

**Пра ласося.** На нераст у Вілію заходзілі і цяпер заходзяць два віды ласося: сёмга і кумжа.

**Сёмга** *(Salmo salar)*. Аказваецца, ласось атлантычны заходзіў на нераст па Віліі значна вышэй вусця Ашмянкі (мяжа, якая занатавана у К. Тышкевіча): у 1910 г. вялікага ласося (сёмгу) вылавілі ў Кастыках; у Жодзішках ласось быў вылаўлены ў 1937 г. рыбакамі Дудзінскім, Кудзіным, Антонам Мізулай; вышэй вусця р. Уша Ясь Сапач вылавіў ласося ля ўрочышча Тапчак у 1938 г.; ля вусця р. Нарачанкі рыбакі з в. Швяды злавілі ласося ля ўрочышча Котра (Котла?) у 1946 г.; у раёне в. Трапалава Вілейскага раёна ў 1952 г. Іванам Мікалаевічам Мамаём, 1900 года нараджэння, была здабытая сёмга (ласось) на 32 кілаграмы. Гэтага ласося прадалі за збожжа ледзь не адзін да аднаго — амаль за мех жыта, бо ў той год вясной быў голад. Апошняя згадка у літаратурных крыніцах пра сёмгу каля р. Тартак адносіцца да 1999 г., а ад мясцовых людзей да 2017 -бачылі пяць рыбін “сігаў”

велічынёй больш метра у Вілейцы, якія зайшлі на нераст у ручай (левы бераг) напроць гарадскога парка.

**Кумжа** *(другі падвід ласося Salmotrutta)* таксама лавілася вышэй вусця Ашмянкі: у 1957 г. падчас лучэння ля каменя «Пеўнік» побач з в. Швяды здабылі восцямі тры кумжы па пяць кілаграмаў. Маецца адно сведчанне пра ўлоў увосень 1962 г. «вялікай стронгі» вагой тры кілаграмы на перакаце р. Дзвінасы, вышэй в. Стахі. Біёлаг Ул. Ляшкевіч з Вілейкі ўспамінае, як пасля вайны ў Сосенцы падчас падрыву ўзрыўчаткай ледзяных затораў перад мостам быў аглушаны і здабыты ласось. Нават жыхары в. Кастыкі ўзгадваюць, што да 1965 г. лавілі вялікую стронгу ў Віліі. Пасля будаўніцтва плаціны пра кумжу, злоўленаю на вадаскідзе, згадвалі рыбакі ў 1977 г. У сувязі з рэзкім пагаршэннем якасці вады пасля ўтварэння Вілейскага вадасховішча (недахоп растворанага кіслароду, цвіценне сіне-зялёных водарасцяў) кумжа на працягу больш за два дзесяцігоддзі амаль не сустракалася ў традыцыйных месцах здабычы і заходзіла толькі да ручая Тартак, рэк Газоўка і Дуда каля в. М. Свіранкі. Але найбольш моцныя асобіны ўсё ж падымаліся ў вярхоўі Віліі. У 90-я гг. у р. Вузлянка, прытоку р. Нарачанка, А. Паўкшта здабыў падводным пісталетам кумжу на 4,5 кілаграмы ў раёне в. Талуць.

Перабудова, распад СССР прывёў да эканамічнага крызісу, рэзкага спаду эканомікі. Але быў у гэтым негатыве адзін плюс: у раку і вадасховішча значна зменшылася скідванне мінеральных фосфарных, азотных, калійных, арганічных угнаенняў і таксама гноевай жыжкі, бо рэзка зменшылася пагалоўе жывёлы. Зменшылася скідванне таксічных рэчываў з гальванічных цэхаў прамысловых прадпрыемстваў. І якасць вады ў рацэ значна палепшылася, што можна ўбачыць на дыяграме дынамікі індэкса забруджанасці вады (ІЗВ) у Віліі за 1986–2006 гг ( дыяграма у папяровым варыянце). У сучасны момант сіне-зялёныя водарасці штогод, як вада становіцца цёплай, масава плодзяцца, але не ў такой колькасці, як раней, у гады да перабудовы. Усё ж пры спрыяльных умовах дасягаюць крытычнай масы, якая выклікае мор рыбы. У зімовы перыяд таксама назіраецца рэзкае зніжэнне ўтрымання кіслароду ў вадзе, павышанае ўтрыманне фосфару. Спатрэбілася больш за дзесяць гадоў пасля таго, як якасць вады крыху палепшылася, каб на пачатку XXI ст. кумжа стала зноў падымацца ў вярхоўі Віліі. У 2002 г., па сведчанні рыбакоў, кумжу злавілі крыху ніжэй Белай Гары ва ўрочышчы Ясьбішча непадалёк ад в. Асіпавічы і дзве кумжы па 3 кілі у кар’еры ля в.Белая, у 2006-м — на вадаскідзе ВМВС, у 2008-м — каля Белай Гары (ля Жодзішак), у 2012-м — каля в. Дубок, у 2014 — каля Белай Гары (Асіпавічы), 2015 г. — у Вілейцы.

**Цырта** *(рыбец, Vimba vimba)* — трэці від унікальных паўпрахадных рыб з апісаных Канстанцінам Тышкевічам, які ледзь захаваўся ў Віліі і занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Варта адзначыць, што да будаўніцтва плаціны Вілейскага вадасховішча ў 1974 г. цырты было шмат у вярхоўях Віліі. Яна з’яўлялася ўлюбёным аб’ектам здабычы з-за выдатнага далікатнага смаку і з-за таго, што ў 60-я гады яе ў вялікай колькасці можна было вылавіць жывадзёрам

нават у гарадскіх межах Вілейкі падчас ходу на нераст (яе сушылі мяшкамі, салілі бочкамі). У вілейскіх хлопцаў-рыбаловаў нават быў своеасаблівы рэйтынг: калі ты не злавіў на вуду цырту, якая вельмі асцярожная ўлетку, то не хваліся, што з'яўляешся рыбаком.

Цырта — самая квяцістая і прыгожая з усіх рыб Віліі. Лепш яе апісаць, чым гэта зрабілі Л.П. Сабанееў і П. Цярлецкі у канцы XIX ст., не ўяўляецца магчымым:

*«Цвет сырти значительно изменяется по временам года. Весной, перед метанием икры, цирта становится самой красивой рыбой наших рек: вся спина делается чёрной, середина брюха и нижние плавники — красными, а у самцов в это время на голове, жаберных крышках и по краям чешуй развиваются маленькие зерновидные бородавочки. Осенью и зимой спина у цирты голубовато-серая, брюхо серебристо-белое и плавники бледно-желтоватые» (Сабанеев).*

*«Сырть бросает икру в конце июня или в начале июля. Ни одна рыба пресных вод не готовится к этому торжеству так, как щука или подуст (сырть). Ещё недели за две до течки подуст начинает окрашиваться и становиться пестрее, блестящее и красивее. Обыкновенно бело-серебристый цвет его чешуи принимает оттенок нежно-палевого и бледно-розового с золотистыми оливами около краёв жабр и при соединении плавников» (Терлецкий).*

Магу толькі дадаць уласныя ўражанні ад карцінкі пачатку 70-х ад трафея, вылаўленага вудай прама ў межах Вілейкі ва ўрочышчы "Дынамка" (раней Восем тапаляў), дзе да 1939 г. быў іпадром для трэніровак у джыгітоўцы польскай кавалерыі, цяпер — Ніжні парк). Асабліва багатай палітрай у толькі што злоўленай цырты вылучаліся часткі вільготнай далікатнай скуры на галаве, не пакрытыя луской, вялікія вочы і ў першую чаргу —ярка расфарбаваныя як вясёлка жабравыя покрыўкі. Калі цырту крышку паварушыць туды-сюды вакол васі, то покрыўкі пачыналі пераліваццa і блішчэць, быццам вялізныя перламутравыя гузікі-пялёсткі: яны былі расфарбованы ўсімі адценнямі колераў ад чорна-фіялетавага, блакітнага, ізумруднага, зялёнага да чырвонага і аранжавага. Прычым на паветры, па меры высыхання, колеры мяняліся, згасалі і цямнелі прама на вачах. У першую чаргу знікалі цёплыя колеры гэтых адценняў, некаторыя станавіліся бялёса-шэрымі і прападалі зусім. Праз гадзіну большасць адценняў на галаве і жабравых покрыўках зніклі, залатыя абадкі вачэй страцілі бляск і сталі шэрымі і сухімі. Тушка сцямнела. Раптам настолькі стала шкада страчанай прыгажосці, што ўпершыню ў жыцці мне, надзвычай азартнаму хлопцу-рыбалову, захацелася адпусціць гэтую рыбу назад у ваду, але ўжо было позна, бо не зрабіў гэтага своечасова.

Ніжэй за Міхалішкі, у вёсцы Малыя Свіраны (былая Фэрма), гэтую рыбу ці то за прыгажосць, ці то за колер брушка і плаўнікоў, часткова жабравых покрывак, жыхары называюць чырвонай рыбай.І рыбец (цырта), і падуст (свінка) занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі. Падуст — таксама ў Чырвоную кнігу Літвы, цырта (рыбец) — Польшчы.

Цырта, згодна з апавяданнямі мясцовых жыхароў, падымалася па Віліі значна вышэй Сосенкі (по К. Тышкевічу), да в. Камена аж да 1965 г.

Улюбёныя нерасцілішчы цырты — перакаты (мясцовыя жыхары называюць іх заборамі) з цвёрдым (жвір) або камяністым дном у наступных месцах на Вяллі: крыху ніжэй вусця р. Нарачанкі (Тапчак), на перакатах ў Швядах, у Трапалаве, на рагу ракі на глінянай заборы крыху вышэй в. Раздоры, ля чыгуначнага моста каля в. Красны Беражок, каля Пераралкі ў Вілейцы, ля в. Сосенка і сутокаў Віліі з Сэрвачам. Таксама лавілася на перакаце р. Нарачанкі пад назвай Скок у млына ля в. Ганута і ля «млына» в. Людвінова (в. Двор Кастыкі) у р. Сэрвач і ў в. Камена. У 80-я гг. цырта з-за пагаршэння якасці вады, выкліканага наступствамі цвіцення сіне-зялёных водарасцяў у вадасховішчы, практычна на два дзесяцігоддзі знікла з Вяллі. Пра яе ўспаміналі толькі жыхары Малых Свіранак. Цяпер цырта на Вяллі, па сведчанні рыбаловаў, сустракаецца ў раёне в. Мель, аг. Міхалішкі, а ў апошнія гады нават пачала вяртацца ў вярхоўі: нерасцілася на «заборы» (перакаце) ля в. Раздоры (2011 г., «аж вада кіпела»); перакаце ля в. Елажычы (2016 г.) на р. Нарачанка. Варта адзначыць, што ў левыя прытокі, Ілію і Ушу, цырта (бялюга або свіння, як яе называюць мясцовыя жыхары) не заходзіла (згодна з успамінамі тых жа мясцовых жыхароў).

**Ганец (***балень, жэраспень, жэрах)*. Жэраха лавілі значна вышэй за Жодзішкі, як расказана ў манаграфіі, — аж да Вілейкі і вышэй за Сосенку ля вусця р. Сэрвач(Сутокі). Там яго, у Сутоках было найбольш. У 80-я гг. быў участак ад вадасховішча і Вяллі ніжэй вадаскіду да Міхалішак, дзе жэрах перастаў сустракацца. Але пасля таго, як вада ў Вяллі стала чысцейшая, жэрах зноў сустракаецца на рацэ ніжэй за Вілейскае вадасховішча (в. Даманава, ур. Ясьбішча, вадаскід ВМВС), так і вышэй вадаскіду (Сутокі, Кастыкі). Але найбольшую яго колькасць цяпер убачыш у камяністай частцы Вяллі, толькі не ў Жодзішках, як было даўней (згодна з манаграфіяй Тышкевіча), а каля Міхалішак.Жэрах мае выдатныя і знешні выгляд і смакавыя якасці пры пэўных кулінарных рацэптах, аб якіх будзе паведана далей па тэксту. Але на мой уласны суб'ектыўны погляд і густ нездарма жэрах уваходзіць у вельмі невялікі пералік дэлякатэсных рыб на Вяллі,якія можна пакаштаваць адразу "з вады" негатаванымі.Трэба толькі выразаць пласт мяса уздоўж хрыбта, парэзаць на кавалачкі велічынёй "на увесь рот" пасаліць і ўжо праз пяць хвілін можна смакаваць, не забыўшыся запіваць кожны кавалачак глыточкам добрай , не менш як два разы перагнанай жытнёвай гарэлачкі. Паспрабуйце, як пашанцуе. Гэта натуральная смаката - бомба! Хіба лепш могуць быць толькі такім чынам зробленыя ліпень, фарэль а сама-сама найсмачней - саленая ікра, з толькі што злоўленага,каштуемая яшчэ ў лодцы, шчупака. А вось калі хто сыраядзенне адмаўляеце ушчэнт, ці мае харчовую непераносцасцьда смаку рыбы,то дарма не губіце жэраха, злавіўшы адразу адпускайце жывым. Як гэны казаў пра смак: каму - як балота, каму - як залота.

У спісе рэдкіх, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі прахадных рыб, што жывуць цяпер толькі ў Вяллі, маецца рачная мінога (мясц. сямідырка, вугрыца). Знешне рачная мінога падобная да больш шматлікіх і шырока распаўсюджаных ў Віліі і яе прытоках сваіх субратоў — украінскай і ручаёвай міног (кроўж, громж, верацяніца). Адрозніваецца ад іх буйнымі памерамі (дарослыя асобіны рачной міногі дасягаюць даўжыні 40-50 см) і дакладна раздзеленымі спіннымі плаўнікамі. Сямідырка і раней дастаткова рэдка сустракалася ў Вяллі, цяпер яе колькасць невядомая. Верагодна толькі тое, што яе колькасць рэзка знізілася паўсюдна з прычыны забруджванняў вады. Але усё ж яшчэ нядаўна сустракалася ля Міхалішак, у вусці р. Страчы, у 1970 г. — у Вілейцы і прытоку Віліі – рацэ Ілія.

У цяперашні час сцвярджэнне К. Тышкевіча, што *«вугор найчасцей у ваколіцах Вільна прабывае»*, таксама не зусім слушнае: пачынаючы з 20-х гг. яшчэ «за Польшчай» пачалося зарыбленне азёраў Нарачанскага і Браслаўскага краёў лічынкамі вугра, якія набываліся ў Францыі і Англіі. Пры савецкай уладзе з улікам былых традыцый «пашавае вуграводства» працягнулася. Аж да 2005 г. азёры Нарач і Свір зарыбляліся шклопадобнай лічынкай гэтага віду, а ў 2015 г. маладняком вугра было зарыбленае возера Свір. Адно можна сцвярджаць без сумнення, што ў Віліі вугор насамрэч у апошнія паўстагоддзя значна часцей сустракаўся ніжэй вусця р. Нарачанкі, а таксама ў большай колькасці лавіўся ў першыя дзесяць гадоў ніжэй затвора галаўнога гідравузла Вілейскага вадасховішча.

Сом цяпер, хоць і рэдка, але ўсё ж лавіўся ў Вяллі: пасля 1857 г. трапляўся рыбакам нават у верхняй, «балотнай», частцы значна вышэй Данюшава. Месцамі здабычы сома ў верхняй частцы Віліі ў розны час з’яўляліся: 1928 г. — Сосенка, 1937 г. — вусце Іліі, в. Рыбчына, 1955 г. — Мель, 1964 г. — Гліннае, 1965 г. — ур. В. Гара (в. Асіпавічы), 1969 г. — Алянец, 1970 г. — Міхалішкі, 1972 г. — Залессе, 1992 г. — Плёсы, 2006 г. — Дубок, 2008 г. — ур. Ясьбішча (в. Асіпавічы), 2010 г. — в. Рыбакі і інш.

*А пра ракаў Канстанцін Тышкевіч у манаграфіі напісаў так: «…Ракі знаходзяцца паўсюль па рацэ, акрамя Міхалішак; у гэтай частцы Віліі, паблізу мястэчка, ніводзін з жыхароў не памятае, як мяне там запэўнівалі, каб рака хтосьці ў гэтым месцы злавіў, і ніхто да гэтай пары не абгрунтаваў згадку, чым можна патлумачыць натуральную прычыну такой з’явы».*

Мясцовыя жыхары Міхалішак пасля таго, як мінула больш за 150 год, удакладняюць даследаванне Канстанціна Тышкевіча на сённяшні дзень: ракі паспяхова тут лавіліся крыху ніжэй за мост аж да 90-х гг. XX ст. У цяперашні момант амаль не трапляюцца, і вінаватыя ў гэтым, на думку мясцовых жыхароў, электравуды.

Варта адзначыць, што на працягу XX ст. у вярхоўях Віліі двойчы ракі практычна знікалі з ракі: упершыню за Польшчай, а пасля таго, як іх пачалі масава і разбойна лавіць амаль ва ўсіх рэчках у пачатку трыццатых гадоў і прадаваць у Берлін і Парыж. Пасля 1939 г., калі гандаль у вярхоўях Вяллі стаў

немагчымым, межы пры Саветах закрыліся і здавалася — зараз ракі адродзяцца, то наадварот, яны практычна прапалі на два дзесяцігоддзі з вярхоўя Віліі ўжо пасля таго, як пачалі сплаўляць лес новым, даўно ужо тут забытым, але больш танным бальшавіцкім спосабам. Пры бальшавіках бярвенні не скаблілі на беразе ад кары, не вязалі ў плыты і пачкі, а як ёсць адразу кацілі у раку — "быдлам" (па-руску — «молью») . Такі дзікунскі сплаў дрэва наносіў вялікую шкоду усім насельнікам ракі, таму што кара набракала, адставала ў вадзе і асядала на дно і гніла там. Другі раз — калі «стварылі» Вілейскае вадасховішча. Але што здзіўляе, ракі ўсё ж выжылі, прыстасаваліся і сталі зрэдку зноў сустракацца як вышэй, так і ніжэй за вадасховішча.

Да будаўніцтва Вілейскага вадасховішча, па апавяданнях мясцовых жыхароў, ракаў лавілі паўсюль, але найбольшая іх колькасць здабывалася на Вяллі "за Польшчай" ля в. Белая і мястэчка Быстрыца, дзе існаваў пастаянны рачыны промысел, даваўшы значны прыбытак наяўнымі грашыма простым сялянам узбярэжжа, бо ракаў куплялі адразу агенты –перакупшчыкі, а рыбу трэба было злавіць і везці прадаць у мястэчка на кірмаш ці перакупшчыку. Жыхары в. Белая, у асноўным дзеці, налоўлівалі іх рачоўніцамі на жабу — за тыдзень некалькі дзясяткаў кошыкаў. Захоўвалі ў скляпах, у халадку, спецыяльна прыкрыўшы мокрым імхом, каб ракі заставаліся жывымі. А ў нядзельку, як апавядала жыхарка в. Белая, ехалі спярша да царквы ці касцёла ў Смаргонь і нават у Вільню, пагрузіўшы вялізныя кошыкі з накрыўкамі на калёсы, і, пабыўшы з раніцы ў храме, пасля везлі ракаў далей на базар ці перакупшчыку, а адтуль ракаў везлі ўжо оптам яшчэ далей у замежжа, на Захад.

Цікавай з'яўляецца народная традыцыя ў прыбярэжных вёсках р. Нарачанкі (в. Слабада, в. Іжа). Існуе павер'е, што ўжыванне ракаў вельмі дадатна ўплывае на палавую сферу, стымулюючы і павялічваючы палавую цягу як мужчын, так і жанчын. Таму юнак, які кахае дзяўчыну і не ўпэўнены, што яна зможа адказаць яму ўзаемнасцю, стараецца для ўзбуджэння лібіда запрасіць яе на лоўлю ракаў. На месцы спаткання ў прыбярэжным лесе загадзя хаваюцца кацялок, соль, запалкі для вогнішча. Калі дзяўчына пагаджаецца зняць пробу далікатэсу, то ні піва, ні віна ёй не трэба: далейшае рамантычнае развіццё падзей гарантаванае. Пры гэтым мужчынская палова свята верыць, што менавіта ракі дапамаглі ім спакусіць сваіх будучых жонак. А жаночая палова хітравата адмаўляецца даць шчырыя тлумачэнні. Аднак, не абвяргаючы мужчынскую версію, абыходзяцца стандартнымі джакондаўскімі ўсмешкамі. Таксама пра гэта я чуў ад Бохана А. А. (1955 г. нар. в. Іжа). Хлопцы з Іжы, калі ў р. Вузлянцы чамусьці не маглі злавіць ракаў, лёталі ў канцы 70-х гадоў у Каралеўцы, на р. Нарачанку, да моста, дзе заўсёды можна было ў віры налавіць ракаў, каб спецыяльна пачаставаць дзяўчат перад вечарынай. Сведкам такой традыцыі частавання дзяўчыны ракамі на спатканні мне пашчасціла быць на р. Нарач ля в. Слабада ў 2005 г.

Ведаючы пра магічныя ўласцівасці гэтых істот і верачы ў іх, тутэйшыя жыхары спецыяльна выстаўлялі вараных ракаў на вясельны стол у якасці

абавязковай стравы для маладых, каб была ўдалай першая шлюбная ноч для працягу роду. Так сама чуў пра павер’е, што дзеці, зачатыя пасля частавання ракамі, нараджаюцца здаровымі, не схільнымі да алергічных захворванняў.

Вось яшчэ прыклад з радзімы графа Канстанціна Тышкевіча апісаны удзельніцай экспедыціі “Шляхам Тышкевіча” Дзінай Рамадзінай:

-Ад Рамадзінай Т. А., 78-гадовай жыхаркі г. Лагойска, я пачула наступны аповяд:

*…“Яшчэ гадоў 50 таму рэчка Гайна не была такой бруднай, як зараз. У ёй можна было і купацца, і бялізну мыць. Шмат рыбы тут было… І нават ракі пад калодамі ў норах вадзіліся. Дык хлопец, які што дурное ў галаве ў адносінах да дзеўкі меў (нават калі потым ажэніцца з ёю), прызначаў ёй спатканне на беразе рэчкі са словамі: “Пойдзем ракаў лавіць!”. Або загадзя з сябрамі ці братамі наловіць ракаў, наварыць, а потым дзеўку частуе, каб яна ў ахвоту ўвайшла, калі і не надта яго любіць. А потым карыстаецца гэтым, каб з ёю ажаніцца.”*

*…“без ракаў не абыходзіўся ніводзін вясельны стол. Маладыя абавязкова павінны былі пакаштаваць іх, калі хацелі мець шмат дзяцей. Трэба было маладому асабліва налягаць на шыйкі, а маладой – на клюшні...”*

Вось тэкст адной з вясельнай песен нашага віленскага краю:

*Хаділі дзеўкі па балоту,*
*Рабілі ліха, не работу:*
*Лавілі рачка за клюшаньку,*
*Пасадзілі рачка на калодзе,*
*Сталі думаць-гаварыць:*
*Як нам рачка падзяліць?*
*Таму-сяму – па клюшаньцы,*
*Маладому Ванечку – сярэдзінку,*
*Таму-сяму – па дзевачцы,*
*Маладому Ванечку – паненачку.*

**Унікальнасць Вяллі вызначае наяўнасць трох відаў прахадных рыб: кумжы, сёмгі, рачной міногі і паўпрахадной цырты (рыбец прахадны)**

*Кумжа (Salmo trutta (лац.); мясцовыя назвы: ласось, стронга, фарэль марская*

*Сёмга (Salmo salar (лац.); мясцовыя назвы: атлантычны ласось, ласось высакародны, рыба з мора*

*Рачная мінога (Lampetra fluviatilis (лац.); мясцовыя назвы: вугрыца, сямідырка*

*Рыбец паўпрахадны (Vimba vimba (лац.); мясцовая назва: цырта*

# Частка ІІ.

# УСПАМІНЫ І БАЙКІ ЖЫХАРОЎ ПРА ВІЛІЮ, РЫБУ І РЫБАЛКУ

Зверала́ўства і рыбалоўства
былі ўлюбёнымі заняткам і
старажытнага ліцвіна.

*Канстанцін Тышкевіч.*
*«Вілія і яе берагі», 1871 год*

Вельмі маляўнічымі з'яўляюцца рыбацкія апавяданні, байкі мясцовых жыхароў, што жывуць на берагах Вяллі. Сюжэт практычна ўсіх пачутых мной падчас падарожжаў і сплаваў-экспедыцый «Вілія-Нярыс» у 2007 г. і «Шляхам Тышкевіча» ў 2008–2015 гг. апавяданняў падобны да таго, што даводзілася пачуць у 1857 г. Канстанціну Тышкевічу. Час цячэ, але апавядальнікі якім ад 25 да 90 гадоў ад роду такія ж самыя што былі і тады наракаюць на тое, што «вось раней рыбы ў рацэ было больш». Канстанцін Тышкевіч у сваёй манаграфіі піша пра гэта так: *«Колькасць рыбы ў рацэ Віліі зменшылася значна з той прычыны, як мне гэта апавядалі, што плытагоны, якія сплаўляюць лес, і каманды суднаў, якія сплаўляюць тавары, кідаюць атруту і загубілі гэтым раку значна»*.

Канешне, суднаходства і гандаль на Віліі ішлі жвава да XVI ст., у XVIII ст. працэс пачаў значна спадаць. У 1813 г. у Вілейцы грузілася ўсяго 16 каробак і 14 плытоў пянькой, ільняным семенем, будаўнічым лесам, зернем, цыбуляй, шкурамі. Але перад самай экспедыцыяй графа Тышкевіча зноў была «ўспышка» гандлю на Віліі. Гэта было звязана з тым, што ў перыяд Крымскай вайны 1854-1855 гг. паўднёвыя парты Расіі былі заблакаваныя. Толькі ў Вялейцы ў той час былі загружаныя і сплаўленыя да тысячы і больш плытоў. На Віліі пачалі дзейнічаць новыя прыстані ў Сосенцы, Малмыгах. Пасля Крымскай вайны гандаль зноў пайшоў на спад і скончыўся роўна праз сто гадоў: у 1957 г. у па Віліі ў апошні раз сплавілі плыты.

Плытагонаў па розных прычынах жыхары берагоў Віліі не вельмі любілі, як ў XIX ст., так і і ў XX ст. дражнячы і называючы іх не толькі «штырнікамі», але і «засёрамі» — па сведчанні Мамая Фаміча 1924 г.р. з в. Трапалава (зап. у 2010 г.), які да вайны 1941–1945 гг. сам быў плытагонам. У Пільцах, па словах Ядвігі

Антонаўны Дзябрэй (Пілць), 1924 г.н., плытагонаў дражнілі жартаўлівай прыпеўкай: «Плытнічкі з вадою, з вадою, а за вамі чорт з дудою, дудою».

Падчас паходаў, а потым сплаваў-экспедыцый мне з прычыны прыроднай цікаўнасці даводзілася размаўляць з многімі мясцовымі жыхарамі. У першы раз на простых гумавых лодках з сябрамі-студэнтамі (Ул. Крушэўскім, С. Сербянковым, Ю. Канкаловічам і інш.) сплавіўся да Міхалішак у 1977 г. Тэмы былі розныя, але кожнаму сустрэчнаму мясцоваму жыхару з вёсак і мястэчак, размешчаных на берагах Віліі, я задаваў пытанні на тэмы: «Якая ж самая смачная рыба?», «Якую ты самую вялікую рыбіну злавіў? Ці сарвалася? Ці бачыў?», «Якія выкарыстоўваеце снасці для лоўлі?», «Як тут святкавалі Купалле?». Ніжэй будуць прыведзеныя адказы, якія датычаць толькі рыбалоўства.

Пра густы не спрачаюцца, у цяперашні час рыба з Вяллі надзвычай рэдка сустракаецца ў рацыёне жыхароў прыбярэжных вёсак, але памяць яшчэ захоўвае яе смак. Так, жыхары самага вярхоўя Віліі, ля вытокаў, лічылі самымі смачнымі ментуза, келбу, шчупака, ліня, яльца, ляшча і нават сяляўку (верхаводка або ўкляя).

Каля ўпадзення ў Вілію Сэрвача жыхары прыбярэжных да Віліі вёсак лічаць самымі смачнымі судака, акуня, вялікага ляшча, жэраха, шчупака, келбу (печкура). У Вялейцы — судака, ментуза, ляшча. Таксама старажылы адзначаюць далікатны смак цырты, вусача, келбы, яльца. Ніжэй за Вілейку, аж да р. Нарачанкі, жыхары самымі смачнымі называлі вусача, вугра, ментуза, сома, цырту, і ўжо згадваецца ласось.

У раёне Смаргоні, Данюшава перавага аддавалася вусачу, вугру, ментузу, сому, цырце, ласосю. У населеных пунктах Астравецкага раёна (у Дубку, Рымшынентах, Міхалішках, Свіранах, Быстрыцы), як і ніжэй, у Літве, жанчыны больш успаміналі пра смак ласося, вугра, цырты, сома. Але паўсюдна жыхары як «каменнай» часткі Вяллі, так і «балотнай» адзначалі выдатны смак печкура (мясц. келба, калбун, келбун, курмель), якога тут раней вялося багата.

Апавяданні і ўспаміны жахыроў Павілля пра рыбалку і рыбу, пра Вілію і яе берагі, пра звычаі прыводжу на рэгіянальнай мове або «трасянцы» так, як іх запісаў. Прыкладам для мяне ў гэтым служыць кніга літоўскага прафесара Вікінтаса Вайткевічуса, з якім давялося сплаўляцца і размаўляць падчас міжнароднай экспедыцыі «Вілія-Нярыс» у 2007 г. (Vykintas Vaitkevičius — Neris. 2007 metų ekspedicija. Vilnius: Mintis, 2010). Прычым нельга не заўважыць паралель: чым старэйшы чалавек, тым чысцейшая ў яго родная мова, як і чысцейшая калісьці была вада ў Віліі.

*Вёска **Вялікае Поле** Бярозкаўскага с/с Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

**Марыя Казіміраўна Гінтаўт** (дзяв. Воўк-Ланеўская), 1935 г. н., родам з в. Дзяружкі:

...Вільля пачынаецца тут. Сёлета Вільля перасохла зусім. Яна начынаецца, гэта Вільля, во туды, прайсці ў тую сторану. Там будзе горка. Горка. І туды, там быў некалі мосцік, усё. Там была, некалі грэбля, там пачынаецца Вільля. Там на гарэ жыў нейкі пан багаты, унізу было балота, з якога пачыналася рака. Пан Харастовіч. Мельніца тут на Вільлі была у Шыленцах. У Вільлі мы некалі купаліся, глыбокая была. А даўней такая глыбокая была, што караблі па ёй хадзілі. Нават пры маёй памяці яшчэ рака была, цяпер жа нічога не стала.

...Тут у Вільлі найбольш была шчука, рыба харошая. Там вірок быў адразу за Вялікім Полем, у канцу. Там быў вір, і там вадзіліся шчукі. Вот сынок у мяне, як быў падросшы, з 55-га года, дык нейкімі асцямі лавіў такіх шчупакоў і такіх прыносіў. А тады нейкі чудак нашоўся на нейкай лодцы праехаў, нейкая там электра, нейкае там нешта, і прапала шчука. Была яшчэ нейкая рыбка, звалі мянькі. Галава ў іх была таўстая, а хвост вузкі. В'юн нейкая была рыбка. І былі тут у нас ракі.

...Я знаю, як папасці да сасны Куліны, але цяпер да яе дарогі няма, дайсці можна толькі пешшу. Тут было турыстаў, во нядаўна, гэткія маленькія, усякія, Божа, Божа. Дык сын быў дома, дык ён знаець гэты лес, усе хады, так сказаў, была дарога на Куліну, на Доўгае, там пераезд, там капцы, там і Куліна недалёка. Адсюль кілометраў васямнаццаць. І да Сцепкамяня таксама, ён там блізка, радам. Яно там на адным поле. Яна, ну не знаю, нейкая быль. Панясла жонка мужыку есці. А ён араў, тый Сцяпан, ну, на валах. Ну і нешта там яна зазлавала і кажа: каб ты каменем стаў. А ён на яе: каб ты сасной. Яна недалёка адышлася, і гэта. Ну тая сасна была дзіўная некалі, дык рукі — веткі. Веткі былі якраз як рукі, і сама такая страшная, тоўстая тая сасна. Куліна стаяла пры дарозе на Доўгае, капцы і паварот на Баяры. Ну, а Сцёп-камень на полі, ну як раньшэ, дык казалі, былі камяні,

пахожыя на валы. А цяпер яны, мусіць, ураслі, застаўся адін Сцеп-камень, як чалавек, хто яго ведаець.

Тут карэнныя былі па фаміліі Дабышы. Праваслаўныя. Я сама з Дзяружак, там за Шыленцамі. За гэтага Гінтаўта пайшла. Ну, фамілія нейкая вродзе як фрыцкая, нямецкая, але бацька быў каталікам. І мой бацька быў каталікам. Мае бацькі некалі яшчэ былі дваране. Мелі футар Загіссе. Яны былі дваране і дзве фаміліі насілі: Воўк і Ланеўскі. Але ж тады прадзеда выслалі і дзеда майго выслалі, а бацьку майго забралі. Хараніліся мае ў Мнішаве, пры касцёле.

Ля мастка на тым баку Вільлі, дзе Шыленцы, стаяла каплічка. За мастом, справа як ісці з Вялікага поля. У якім гаду ўжо не помню, прыехалі сюды студзенты. З Віцебскага інсцітута. На трэцім курсе яны былі. І вот яны разламалі гэту каплічку. Гэта каплічка, абразы такія, і іконы харошыя, і ўзялі пакідалі па дарозе і па полі. Былі два студзенцікі ну такія харошыя, на кварціры. Яны нікуды не хадзілі. А тут у саседняй хаце былі нейкія пяць хлопцаў. І адзін быў фамілія Барада. Бараду во гэткую насіў. І ён дзе-та быў. Ну, памагалі саўхозу, ну і разламалі каплічку і нашлі там вялікі клад. І тут яны разламалі капліцу, і тут яны шукалі клад. І там вось, як ехаць гэтай дарогай на Шклянцы, кладбішча было

якое, яго ніхто не помніць. І там яны раскопвалі, каменні падымалі. Цяпер такіх завуць чорныя капацелі. І там былі захаронены людзі седзючы, косці стаялі. Нічога там яны не знайшлі. І пры гэтай капліцы была бабка, Анеля, і нічога і ў яе не знайшлі. Жыла яна тут за рэчкай, на пагурачку стаяў дом. Раскулачылі яе бацькоў. Потым вайна была — ніхто не ведае, дзе яна тады была, і усё. После вайны яна явілася. Хаты яе не было, там ужо цяляты стаялі, там авечкі і ягняткі, калхоз ужо там быў. Ну яна, гэта Анеля, далася ў веру, у касцёл, каталічка была. У чым хадзіла, у тым і ляжа, што на ёй было. Такое пальцішка чорненькае было. Начавала па хатах. Дужа малілася Богу. Іконы прадавала. І яна нідзе нічога, і някага ў яе багацця не было. А ў гэту каплічку яна малілася, там абразы былі, дык людзі прыносілі капейкі калі. Кінулі там каля дваццаці капеек. Капеек трыццаць ахвяроўваліся. Вот. І яна была настолькі набожная, некалі знайшла святы камень, а я ішла замуж. Тут, за рэчкай, быў першы дом на перакростку, ну, яго ўжо няма, на тую сторану. Свякроў жа была, мужык быў, і вот Анеля як мяне палюбіла ну і прышла да мяне, каб я ёй нейкія бліны спякла. Ну, я буду пячы тыя бліны, а для чаго яны, ужо за нейкі камень. Найшла нейкі камень у Вільлі — след анёла. Сабралася мужчын, выкапала гэты камень, выцягнула з ракі, і мужчыны ўкацілі ў гэту каплічку. На камяні быў нейкі слядочак, нешто было. Яна так яго засцілала, так прыкланялася яму, малілася і ўсё, гэта Анеля. А мне тыя гэтыя бліны даліся, гэта ж не цяпер, а тады! Я тут нейкіх яблыкаў нарэзала нескалька штучак, нейкага цеста развяла, ды развяла рэдзінька, ну што — у печы. Божа, — кажу, мама, на свякроў, — дзе ж гэткія бліны зраблю? Во якая работа. І ніхто не знае, дзе пасля разгрому капліцы дзелася Анеля, дзе яна пахаронена. Перастала хадзіць па хатах. (зап.2007г)

*Вёска **Шыленцы** Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

**Зінаіда Разумееўна Мікульская**, 1934 г. н., родам з в. Бярозкі:

...Вільля во якая стала: я падыду — і ўжо транту якую не папаласкаю. Дзе мосцік праз раку па берагі вады было. І рыба была ўсякая. А цепер не падысці, усё заплыло, зялёнае. Палавінкі няма. І бабры тут былі, закапалі ўсё. Пачыналася во з гэтага балота.

У Вільлі лавілі шчуку, ведаю такую рыбу. Каплічка стаяла, тут, ля дарогі, пасля як разбурылі і каменне цяпер пасцягвалі трактарамі, места гэта парасло травой. Я праваслаўная, каплічка была каталічная.

*Вёска **Кромавічы** (2 км/508) Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

**Мікалай Іванавіч Лынько**, 1921 г. н. (зап. 2006 г., ВВ., Г.З. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685/350а):

...З-пад зямлі б'ець ключ, а ўсюды ўжо бальшая рэчка. Кілометр сюды ці паўтара. Усякая рыба была.

**Алена Анатольеўна Усціновіч**,1961 г. н., мясцовая (зап. 2015 г., М.М.):

...Мая і дзевіч'я фамілія Ўсціновіч. У маёй мамы была фамілія Чарныш. У Кромавічах цяпер нікога нет, а было хат сорак. Карэнныя фаміліі Батура, Чарныш, Скаромік, Сіняўскія. Вёска праваслаўная. Да вайны хараніліся ў Вілейцы (деревня за 3 км), а пасля ў шасцідзясятых гадах зрабілі сваё кладбішча ў Кромавічах. Купалле спраўлялі, палілі вогнішча пад лесам. Там такая паляна была. Цяпер ужо нідзе не паляць. На Троіцу пад бэлькі падтыкалі бярозкі-май. Можа, на Купалле і палілі май на вогнішчы — не памятаю. Да Вялікага Поля ад нас кіламетр. Там, дзе пачынаецца Вільля, чатыры вёскі: Шыленцы, Вялікае Поле, Дзяружкі і Кромавічы; з двух старон рэчкі — адна школа, магазін. Ля Шыленцаў, ля Вільлі была каплічка. Яе студэнты разграмілі, пакралі там іконы. Гэта як бульбу капалі, разграмілі гэту каплічку. Я яшчэ малая была вельмі. Гэта было можа які семсят шосты год, не помню. Анэля была, каплічку даглядала, начавала па людзям. Дажа і месца таго, дзе каплічка была, і няма ўжо, я не магу сказаць, дзе яно. Цяпер і да рэчкі не дойдзеш, бо там бабры і там балота. Еслі мы там дзецьмі купаліся ў той Віліі, там усё ў нас было чыста, то цяпер там не падысці да рэчкі нідзе. Там была глубіна і па тры, і па чатыры мэтры, было дзе купацца. Там такія віркі былі, што, ф'юць — «з ручкамі», взрослыя хаваліся. Рыбы было ўсякай. У асноўным гэта былі галаўні, шчупакі, келбы і сяляўкі. Келбы былі невялікія, але смачныя. Цяпер ніякай, мусіць, рыбы няма, толькі колюшка. Мы больш шчуку лавілі, асцямі, у нас з вудачкамі ніхто не сядзеў. Усе толькі асцямі лавілі. А рукамі лавілі галаўнёў. Там цяпер адны бабры і бабровыя хаткі. Бабры — гэта злодзеі, яны забалочваюць берагі. Цяпер нічога няма. Цяпер ужо чаплі завяліся, раньшэ ў нас ніколі чапель не было. А два года назад пайшла да рэчкі — о-о-о-о — там дзве чаплі стаяць. Цяпер і людзей няма, адны звяры. Сядзіш на лаўцы — заяц пабег, ёжык пайшоў.

*Вёска **Вілейка** (6 км/501) Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

**Вольга Макараўна Лях, 1924 г. н., мясцовая:**

...Усе завуць мяне Волька. У Вілейцы было 73 хаты. Нарадзілася я ў 1924 г. на футары Мядзель за 3 кілометры адсюль, у старану Хацені. У Вілейцы пашла ў першы клас у школу. Было тут многа Шынкевічаў, Ляхі былі. Дзяцей было ва ўсіх памногу — па шэсць, па сем. Раку звалі Вільля. Даўней у Вільлі лавілі ракаў. Я сама баялася, а лавіла сястрычка мая. Яны, гэтыя ракі, абычна жылі там нейдзе пад берагам. Дык яны рукамі іх даставалі. Рыбу лавілі на вудачку. Усякія былі — платва была. Вільля і тады не такая ж вялікая была, але чыстая. А цяпер жа гэтая бабры заглушылі яе і ўсё. І канчаецца наша рака. А такая рэчка была. А так нічаго не рабілі тут нашай рацэ — ні міліарацыі, не спрамлялі.

...А яшчэ мой папа сплаўляў плыты ў Вешках. Дык рэчка ж тады была шырокая. Тут у нас у Вілейцы не такая шырокая, як была ў Вешках, цяпер зарасла саўсем. Ён сплаўляў лес сколькі там паложана кілометраў, а потым далей другія людзі гналі...

Нашай царкве лет чатырыста. Паначалу яна была касцёл, а патом ужо перастроілі на цэркву. У Вілейке цяпер адны праваслаўныя, католікаў ураждённых няма, ёсць адна прышлая. Пры Саветах царкву закрылі, прыйшлі немцы — і зноў адкрылі. Бацюшка прыязджаў з Мільчы сюды, кілометраў за дзесяць, к нам служыў, і на прастольныя святы. Ад нашай Вілейкі ў пяці кілометрах была граніца польская, а мы былі бальшавікамі, калхознікамі, звалі гэдак. Як пры немцах адкрылася граніца, нашы людзі туды хадзілі, каб купіць што, прыабрэсці з яды. Зярно якое, голад жэ быў. Там жа аднаасобнікі былі, за Польшчай жылі, былі багацей. Ездзілі да радні і мы аж у Мядзельскі раён, там былі маміны дваюрадныя. Нашы прадзеды былі з Мядзельшчыны, купілі тут зямлю, таму футары пасёлак такі і называлі то Мядзельшчына, то Мядзель.

...Спачатку мы жылі аднаасобна, а потым сталі ўсё абагуліваць у калхоз. Мне было пяць годзікаў, а запомніўся мне наш конь. Жарабок быў чорны, добра помню, а тут лысы, дык уцёк з гэнага калхозу. А мама абняла яго галаву, гэдак цалавала і плакала. А папа ўжо ўсё абагуліў: і каня, і ўсю скаціну, і прылады здаў, усё ж трэба было здаваць. Ну і папа быў такі рабацяшчы, хоць няграматны быў, звалі яго Макар Фёдаравіч Кулеш. І не змог ён быць пасля таго, не змог ён жыць у калхозе. Дык ён выйшаў, а тады ж многа раскулачывалі, хто быў багацейшы, убіралі. Заставаліся такія, такія-сякія. Але ж вось як-та не раскулачылі, і цяпер мне часта прыходзіць у галаву, якто нас не выслалі. Ён апяць купіў коніка, апяць купіў усё, што нада ў хазяйстве. Апяць. І далі зямлю самую благую, пясчаністую.

...Спаліў Вілейку ў вайну карацельны атрад. Вродзе і чулі, што ёсць такі атрад, не знаю, дзе стаяў. Ну і ішоў да нас, мы пачулі стрэлы ля кладбішча. Мы тады сталі ўсе ўцякаць, маладзёж. Нашы радзіцелі — папа з мамай, брацік, чатыры годзікі, і дзве мае сястрычкі. Пабеглі ў лес, пад Бягомль. А немцы з сабакамі многіх палавілі, каго, як мяне, адправілі ў Германію, а маму з малым брацікам і сястрычкай пагналі назад у Вілейку. Людзей, якія засталіся ў дзярэўні і каторых паймалі пры ўцёках, сабралі ў нашым двары, наш дом быў самы крайні ў Вілейке. І вы знаеце, хто то ж быў прэдацель тут у дзярэўні? Па спіску немцы вызывалі, фаміліі людзей, сем'і — расказалі — і іх тады пагналі ў пуню на самым канцы дзярэўні. Туды іх сагналі трыццаць два чалавекі — там цяпер стаіць памятнік. Там іх стралялі і палілі. Нявінных. Наверна, быў той чалвек такі прадажны, у дзерэўні жыў, можа, хто што зрабіў ці сказаў яму што ці глянуў не так.

Унічтожыў тых, каго не залюбў. Некалькі старычкоў забілі, якія ніякага дачынення не мелі да партызанаў. А аднаму на лбу звязду выразалі. Ой, не магу дажэ думаць. Думаю, Госпадзі, — ай-ай-ай! — за што?

*Вёска **Вешкі** (8 км/503) Бярозкаўскага с/с Докшыцка гараёна Віцебскай Вобласці*

**Ніна Трафімаўна Шустоўская** (дзяв. Рудкоўская), 1936 г. н., мясцовая:

Хадзілі мы з маім мужам у рыбу, як ён кавалерам яшчэ быў. Лавілі, ну як называюць шчупакі, пападаліся, ну плоткі. Дзеці бегалі, дык у бучы лавілі і проста ціскалі рукамі ў траве. Цяпер ужо Вільля зарастае. Так пра Нестара Сакалоўскага

знаю, і ён яшчэ родсценнік нам, а дзе быў дом, так не скажу, не памятаю. Плыты вязалі пад канец вёскі і лес ганялі.

**Зося Кандратаўна Несцяронак** (дзяв. Сакалоўская), 1934 г. н.:

... Мая мама, Зося Аляксандраўна, была Нестару дваюрадная сястра, а тата мой Сакалоўскі Якаў Кандратавіч, з 1910 г. Мужык мой з Юрылава. Пяць дзяцей у нас, усе раз'ехаўшыся. Вешкі да 39 года былі ня ў Польшчу. Вільля даўней была глыбокая, усе купаліся, а я не ж ня ўмею і вады баюся. Рыбу лавілі. Шчупакі былі самыя смачныя. Карасі былі сладзенькія, але многа ў іх касцей, а так сладзенькія. Маленькую рыбу нават сын мой лавіў кошыкам. Было і рыбы і ракаў. Ракаў варылі і елі. А потым чаму тут рыбы не стала? Во тут во недалёка, там на пагурку з аміякамі былі бальшыя бочкі. Амміяк лілі гэта ўжо пры саўхозе. Спачатку тут калхоз быў, а потым саўхоз. Бочкі там палажылі, ля Вілейкі радам, але на гэтым баку, сюды да нас. Гэтыя бочкі ўзарваліся, і ўсё ж у раку пайшло. І ўсё, пасля таго няма рыбы, няма ракаў.

...Мой папа быў дзясяцкі, прымаў лес. Ганялі ў Вялейку. Ганяў на плыты. І каля берагоў ішлі, гналі. У іх былі такія длінныя шасты — бусакі. Бусакамі ад берага адганялі і пяшком. Гналі баланс — ну гэта такія, як дровы прадаюць. Звалі моллю, як цяпер на дровы рэжуць, па 2 мэтры. Быў моль і даўжок. А даўжок — гэта каторы страіцельнае дрэва. Вада была чысценька, пілі ваду людзі з ракі, а ў нас з крыніцы бралі. Вільля памялела і стала зарастаць ужо як перасталі па ёй лес ганяць, як не стала скаціны. Скаціны было поўна. Было людзей, я помню, толькі баб 45 прыходзіла ў брыгаду на работу. А цяпер засталося дзве бабы на стаканніку, адна ўжо зусім ня ходзіць, а другая на калках ходзіць, і там відаць жаўтаваты дом — гэная такая, як і я.

...Сакалоўскія жылі зажытачна, многа зямлі было, кароў, быкоў было. Там авечак было. І вот празднік быў, і на Вяліканне ўсе пайшлі ў цэркву. У Вялейцы была царква. Пайшлі яны ў Вілейку ў царкву. А быў іхні бацька стары. А даўна ж толькі люлькі курылі, самасадам напіхалі. А папірос не было. Самасад сеялі, крышылі. І гэты стары пайшоў есці даваць, закінуў з люлькі ў сена агню. Пакуль з царквы прыйшлі, усё згарэла. Усё згарэла, уся скаціна, усё пагарэла.

*Вёска **Саланое** Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Аркадзь Фёдаравіч Кур'яновіч**, 1924 г. н., мясцовы (зап. 2012 г.):

...Вілья, пакуль не спрамілі, ішла за 200 мэтраў ад хат, унізу. Тады ўжо ад Саланога яна ішла на Хацень, і тады каля Хацені яна луку такую рабіла, Парфёнава лука яна называлася. Слышал я это ад таты — вясной на Вільлі ставілі мужыкі ез — убівалі калы і перапляталі хвояй. А ў вароты ці акно ставілі хабатню — прыладу такую, плеценую з лазы. Хабатні былі длінныя — 3 мэтры, спачатку рабілі большае кальцо з лазы, потым меншае, потым яшчэ меншае, і ўсе яны саедзіняліся ўздоўж длііннымі дубцамі і перапляталіся поперак, украгавую, каб трымалася канструкцыя. Шчэлкі ў хабатні былі досыць вялікія, каб вада і мелкая рыба прахадзіла свабодна. Ставілі хабатню абавязкова пад ваду, на ход рыбы, бо

яна як уб'ецца, ужо назад чамусьці не ідзе, так і стаіць. Найбольш пападалі шчупакі, аж да васьмі-дзесяці за раз. Заезжэлі ці заязілі раку паміж двума вірамі — «Паненкай» (шасціметроўкай) і дванаццаціметроўкай, што каля Мільчанскага маста, паміж урочышчамі Буй і Аўдзей, не даходзячы Стафалюковай лукі. Стафалюкова лука — гэта бераг, дзе некалі стаяў лагер Стафалюка Батуры (Стэфана Баторыя), калі той ішоў на Маскву праз Полацк. А «паненкаў вір» ад таго, што аднойчы летам прыплылі з Мільчы на лодцы дзве паненкі, адна з іх, дачка пана, у вір, каб нарваць белых лілей. Надта пекныя былі тыя ліліеі, але адарваць іх было цяжка, бо хацелі адарваць з дудачкай, каб зрабіць пацеркі, замест ланцужка выкарыстаць гэну дудачку, паламаўшы на кавалачкі. А калі проста так пацягуць, то рвецца толькі сам квет. Тады яны нахіліліся, каб узяцца за дудачку далей і глыбей ад квета, і пачалі цягнуць, а корні не пусцілі, лодка нахілілася, чарпанула — і дзеўкі патапіліся. Ад таго вір пачаў называцца «паненкаў». Дык вось пачалі мужыкі выцягваць хабатню, а тая ні з месца. Пачаліругацца там на аднаго жартаўніка: «Каб табе ў кішкі так убіла, як ты калоду ўбіў!» Думалі, што нарочна ўсадзіў бярно, але ж не — выцягнулі, а там — вялізны шчупак! Ды такі вялізны, што ніколі такога не відзелі. Адразу вырашылі прадаць жыдам у Даўгінава. Перакінулі поперак праз каня, прывязалі, пайшлі — а галава шчупакова і хвост па зямлі цягнуцца!

**Іван Міхайлавіч Машонскі**, 1960 г. н., мясцовы, і **Іван Яўгенавіч Кур'яновіч**, 1951 г. н., мясцовы:

...У Саланым тут толькі тры фаміліі: Каралі, Кур'яновічы і Машонскія, усе праваслаўныя.

Самая смачная па мне дык была маленькая рыба курмель. Курмеля яшчэ дзе завуць келба. Рыбы даўней было, пакуль Вільлю не спрамілі, у 1966 г., у той год сюды свет правялі. Бучы ставілі, асобенна вясной бучы ставілі на шчуку. А рыбы ж даўней было: і наловяць, і ніякай прыродаахраны не было, і рыбнадзору. Ловяць — і ўсё, і было. З Мінску прыязджалі, помню, да бацькі, столькі рыбы было. Проста сабіраліся спулкай, рыбы наловяць, нажараць — вось і прычына выпіць. Збіраліся ў хаце Караля Івана Іванавіча. Невад узялі, паром, паехалі, рыбы налавілі — вось і прычына.

Вёска была вялікая, на две стады кароў ганялі, а цяпер усё, пяць кароў засталося. Даўней Купалле рабілі каля Віліі, на пагурку за кладбішчам раскладалі агонь.

*Вярхоўе Віліі — вёска* ***Мільча*** *Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Пётр Міхайловіч Цыгалка**, 1950 г. н., мясцовы (зап. 2011 г.): − Назву гэтым мясцінам Саланому і Мільчы даў Стэфан Баторы. Калі верыць легендам, якія ўпершыню запісаў Ігнат Ходзька, Стэфан Баторы, прыехаўшы ў гэтыя месцы, частаваўся яешняй, якую яму прыгатавалі мясцовыя жыхары. А яна аказалася салёнай. Адсюль і назва -Саланое.Мільча таксама абавязаная сваёй назвай таму ж Стэфану Баторыю. "Маўчаць!" − сказаў скардзяшчымуся на страты ад войска

мясцоваму шляхціцу Стэфан Баторы, а на польскай мове гэта гучала, як слова "мільч". Так што з лёгкай рукі караля гэтыя мясціны набылі свае трапныя назвы.

...А яшчэ зімой ставілі бучы на наліма. Галоўнае было спачатку паймаць самку ментуза, яе пакідалі ў бучы, а назаўтра вынімалі поўны буч ментузоў, самку зноў пакідалі ў бучы. Налім — самая смачная рыба, але жыды яе не куплялі, бо калі есці галаву, то там ёсь костачка — ну падобна на настаяшчы крыж — дык, мусіць, таму яны і есці не маглі. Па старыцам лавілі сотні піскуноў простым сакам, толькі ваду трэба было спачатку замуціць — тожа смачная рыба — яе лепей за ўсё не смажыць, а тушыць: невялікая, да 30 сантыметраў, але ж без касці, адзін хрыбет. Былі яны жоўтыя такія, па бакам чорныя плямы. Паласатыя. Як вытрасеш іх на бераг — дык уюцца і пішчаць. Няма цяпер ужо піскуноў. Сама цяжка было злавіць язя і на вуду выцягнуць: выпрыгваў і праз галаву круціўся, каб сарвацца; цяжка загнаць і ў сетку — ён і праз верх сеткі скакаў, каб не папасціся.

А вот бацька расказваў, што больш усяго развялося рыбы ў Вільлі пасля Брэсцкага міру — амаль 19 гадоў праходзіла граніца па Вільлі, па берагу паставілі калючы дрот, а дзе не праходзіла, то ад Мільчанскага маста зрабілі строгую лінію — штрыф шырынёй 20 метраў. Палякі нашых мужыкоў наймалі з сякерамі — вырубалі дзе кусты, дзе дрэва. Ад штрыфа была пагранзона ў 3 кілометры, куды ноччу нельга было заходзіць. І тут дырэктар Мільчанскай школы, лідар мясцовага панства, Аўчыннік, аформіў арэнду ракі. Штоб палавіць рыбы, трэба было купляць за злоты карту лавецку. Меліся тры расцэнкі: на вуду, на сетку-трыгубіцу і на брэдзень; можна было купляць на раз і на месяц. І каб не прыгранічная зона, нічога б з той арэнды не вышла б, але польскія жолнежы, ахраняючы граніцу, пільнавалі і лавілі браканьераў — і рыбакі мусілі зматаць вуды.

Дык вось тады толькі адзін той Аўчыннік і лавіў у Мільчы сам сабе на вуду рыбу на Вільлі, а астатнія, хто не меў грошы на карту лавецку, вельмі пакутавалі. Жыў тады такі Валодзя Рысік, з 13-га году. Надта ж ён любіў рыбаліць. Дык ён адразу, як у Даўгінаву на плошчы па радыё аб'явілі 1 верасня, што пачалася вайна з германцам, прыляцеў дахаты ў Мільчу, адшукаў свае закінутыя восці і стаў іх істрыць, бучы і сакі латаць ды лесы да вуды і шнуроў ладзіць. Дагадаўся: нешта будзе, будуць змены на Віллі, пагоняць паляка.

Ужо 15 верасня праляцелі на вескай у напрамку Даўгінава два чырвоназвездных самалёта. Надышло 17 верасня (1939 г.), раніцай акраз кароў выганяў, гляджу — нейкі топат у нас па вёсцы, там, дзе брук паложаны быў на Слабаду. Гляджу — гэта бягом усе салдаты, уперадзе гэты Бацьмага, сяржант, і за ім пагранічнікі. Усе з аружыем — і бягом праз Слабаду на Будслаў. Бой быў толькі на іншых стражніцах: у Вардамічах з пяці да сямі, у Пагосце Комар прыняў бой, яго і чатырох забілі і пахавалі ля дарогі. Бой быў у Гняздзілаве і ў Камені. Удзень схадзіў да бальшака на Пагост сустрэць бальшавікоў, мо каго і запытаў з камадзіраў, ці можна да ракі падходзіць парыбаліць, а можа, і не асмеліўся запытацца. Чырвонаармейцам было не да тутыйшых. Многія гэта адразу зразумелі, адразу ў першы дзень жа разграбілі стражніцу ў Даўгінаве: хто коўдры,

хто мэблю, хто патроны, хто харчы — усё панеслі. Зналі ўсе толькі адну забарону — Віллю: пераходзіць на той, левы, бок нельга. Рысік стражніцу раскрадаць не пайшоў. Як ацямнела, то пайшоў да Віллі, паставіў і шнуры, і бучы. Ды, мусіць, і не ён адзін быў на рацэ ў гэну ноч свабоды. Ніхто гэнага не знае. Бо рыбу лавіць — гэта як красці: і злодзею, і рыбаку лацвей ноччу. А ўжо раніцай усе ў Мільчы ведалі, што надта добра рыба ловіцца і нікому няма дзела, што нехта ходзіць ля ракі. Дык мужыкі (і мой дзядзька Валодзя Цыгалка), хоць была восень, вада ўжо сцюдзёная, на радасцях, ужо на другі дзень «свабоды ад кілбас, масла і сала», але ўсё ж такі як прыцямнела, палезлі з друзьямі ў ваду і зацягнулі венцар — сетку такую, як невадок густы. Дык выцягнуць на бераг не далі рады — коні гужамі выцягвалі, во што рыбы ўлезла, што за гэтыя гады напладзілася! І ў асноўным гэта была сяляўка. Вялікую рыбу — тую ж сухарэбрыцу (мясцовая назва ляшча) ці язя — толькі і можна ў нас злавіць у вясну, на нераст. Але усё ж рыбу ў 39-м гаду лавіць яшчэ вельмі баяліся, ды і ўжо холадна было. А пачалі з саракавога. Кожны, хто не ляніўся, за зіму нарабіў сетак, зрабілі палазы і ў вясну 40-га года засаліў па вялікай бочцы рыбы, сялява была не хужэй цяперашняй камсы. Яна ж была без скарлупы, гэна сялява. Столькі сялявы было, асобенна многа на водмелях, дзе цёплыя места былі. Яна заходзіла туды, а мы зналі, як зацянеш палазамі. Шчупакі, гаворыць, такія пападаліся і па пятнаццаць, і па пуду, — расказваў ён. І, гаворыць, выдры былі. То многа выдраў было. Бывае, як зацягнуць, выдра як дасца — мне, — кажа, — як дала выдра ў грудзі, дык аж грудзі балелі. Рвала нашы сеці толька так. Сразу ж пасля 17 сенцябра 39-га Віллю пераходзіць нельга было. Як расказваў Фёдаравіч, бабы пайшлі ў Сакавічы за соллю — дык палавілі і пасадзілі ўсіх. Але тады ўжо адпусцілі, папярэдзілі, што праз граніцу няльзя хадзіць. Стаўбы ж пагранічныя знялі ля ракі толькі ў 1941 гаду, за месяц да вайны. А самую вялікую рыбіну — шчупака — злавілі ў самой Мільчы ў 1973 годзе, як спрамлялі Вільлю. Была гэта шчука яшчэ ў двух старых панскіх ставах, але ўзяць яе ніхто доўга не мог. Я браў яе з 1966 года, ды не змог. А тут, калі раку спрамілі, канал да ставоў высах, ну рашылі спусціць і пруды. Капанулі зверху, бо зналі, што ёсць рыба. Калі вада памалу сышла, то выцягнулі з гразі шчупака паўтара метра дліной. Казімір Альбінавіч Сяржант злавіў яго, а я памагаў. Колькі важыла — не помню, толькі Казік помне, бо ён важыў. Мусіць, болі чым два пуды. А дліны быў шчупак паўтара мэтра. Гэта добра помню.

***Вёска Камена*** *(Каменно, Камень) (47км/463) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Рэня Адамаўна Спірыдонава** (Голуб) 1932 года нар. Каменна (Голуб):

Маю маму звалі Франя Францішка Карлаўна, а тату Адам Іванавіч Голуб. Нас было трох дзяцей. У Камені было больш за сто дамоў, вёска вялікая была, і даўней маладзёж была. Цяпер толькі дачнікі. Быў калхоз 1 Мая, а потым ужо другі. Працавалі ў ім, света не відзелі. Даўнёй, як плыты ганялі, рака была вялікая, не заросшая і глыбокая. Рака была абгледжаная, чыстая вада, дзе мялей, дзе глыбей. Кароў да ракі ганялі, а цяпер усё зарасло. Вельмі заядлымі рыбакамі ў Камені былі

Лабачы і Спірыдонаў з сынам. Алёшавы ловяць. Таксама ў Лабачэй гэта рыбацкая справа перадавалася па наследству: ад дзеда — бацьку і сыну. Калі бацька рыбак, дык і сын на ваду глядзіць. Сын іх працуе ў лясніцтве. Але рыбак ён ужо не такі заядлы, а вось дзед яго быў найлепшы ў Камені, як рыбак, так і музыка. Дзед іх, Лобач Іван, ён быў брыгадзір плытагонаў, галоўны штырнік. У іх хаце часцей і начавалі плытагоны, іх прымала яго жонка Уладзя. Усіх, хто гнаў дрэва, у нас прызывалі штырнікі. Мой бацька таксама плыты ганяў, але рыбу не лавіў. Дзеці ўжо мае любяць рыбу лавіць, але едуць далей, на Кумельшчыну. Самая смачная рыба — гэта шчупак, таксама язь. Цяпер падыходзіць судак з вадахранілішча. Лавілі рыбу даўней хапамі, восцямі, бучамі, вудамі.

За Польшчу я яшчэ не хадзіла у школу. Помню толькі што у нас ля лесу быў дрот зацягнены. І мая мама там каля лесу увідзела грыбкі. Яна падышла да дроту і як сагнулася браць, дык яе схапілі і павялі. Яна за дрот працягнула руку. Павезлі яе аж у Барысава. У Барысава, як разаблачылі, што яна грыбы збірала і малазямельная, што мы небагата жылі, на пяць душ чацьвярціна зямлі. Як хлеб канчаўся дык пуд жыта пазычаў сасед Карповіч, мама яму жала. Так пусцілі і яна назад пехатой да дому шла. Гэта я помню.

**Алімпіяда Навойчык:**

Самы ўловісты быў волак. Я нават з мужыком хадзіла лавіць гэту рыбу. Былі дзве палкі, сетка і нацягнуты шнурочак — і ідзеш у раку і ловіш. Яна і ляціць. А адзін раз злавілі не нашу, прышэдшую аднекуль вялікую рыбу — акраз гэтым месцам, дзе вы лодкі збіраеце. Яна як тарганула ў сетку, дык я мужыку і кажу: «Давай на бераг». Вялікая і смачная тая рыба была, але як правільна яе завуць, мы не ведалі; галава і рот у яе быў незычайны. Мусіць, была тая рыба з мора. Цяпер шчупака амаль звялі, і другой рыбы не засталося. А даўней, як не было вадасховішча, сюды ў маі прыходзіла самая смачная рыба — свіння. От укусная рыба! Тут у нас даўней жарствы было многа, дык як яна і ішла касякамі на нераст, дзе жарства і каменьчыкі, дык спадніцамі лавіць можна было. Было і яльца, і шчупака, і плоткі. Смачны быў і мянтуз, але з яго трэба было шкуру здіраць — круга так адрэзаць каля галавы і сцягнуць — а там адно мяска. Лезлі ментузы ў бучы. Я нядаўна буч, зроблены з нітак, аддала чалавеку. Абручы былі драўляныя. Калі ў каго і ёсць буч, то ў Ванькі Лобача. Рака зімой, як мароз, замярзала.

**Генадзь Карповіч:**

...Самая смачная рыба ў Вільлі — шчупак невялічкі. А яшчэ каўбун, бо тлусты. Але каўбуны ўжо былі прапалі, як водахранілішча зрабілі, на нерыст толькі заходзяць. Паследнія гады трохі паявіліся. Уся рыба з Вільлі смачная, бо свежая. Восці малыя ў нас на 5 зубоў, шырынёй 10 см. А ёсць таксама і вялікія.

**Паліна Іванаўна Навойчык**, 1923 г. н. (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7685/42):

...А рыба лавілася, дык прама па вядры два налоўлівалі рыбы, пойдзе — за мінуту! Так яны, а рака палавіна была наша, палавіна — бальшавікі. Тут была Польшч, а ў іх там бальшавікі. Дык яны, можа, і скочылі тамака дзе, там на рыбе

ніхто не глядзеў. «Стойце!» А яны ўцякаць сталі, дык майму брату як далі ў плячо, куля ўляцела, а во тут вылецела, а гэнаму другому — ззаду, а тут кішкі выбеглі, дык пажыў гадзіну і памёр, а мой брат выжыў.

Узнікшы на Віліі статус памежнай ракі паміж Польшай і СССР не мог стрымаць векавой рыбацкай страсці тутэйшых жыхароў. Нягледзячы на вялікую рызыку і пагрозу быць па меншай меры заключоным у турму ці забітым рыбу ўсёж лавілі. Падводзіў азарт. І не толькі хлопчыкаў. Перападала рыбакам не тольки ад палякаў, але і ад бальшавікоў, калі пападаліся. Аб такіх фактах сведчаць старыя газеты.

**Bolszewicy uwięzili rybaków polskich.**

Z Wilejki donoszą, iż 10 b. m. w rejonie Kamienia patrol sowiecki zatrzymał na rzece Wilji łódź rybacką z dwoma rybakami narodowości polskiej. Rybacy P. Linkun i T. Janulewicz zatrudnieni byli połowem ryb na rzece i przez nieuwagę swoją zbliżyli się do brzegu sowieckiego, na którym zatrzymani zostali przez bolszewików.

Rybaków bolszewicy odwieźli do strażnicy Dzierżynowo gdzie ich uwięziono.

Kurjer Wileński, Nr. 186, 17.08.1932

Для тых, хто не ведае польскага языка перакладу адну газетную заметку: **Бальшавікі злавілі рыбакоў польскіх.**

З Вілейкі паведамляюць, з 10 вч в районе Каменя савецкі патруль затрымаў на рацэ Вілія рыбацкую лодку з дзвумя рыбакамі польской нацыянальносці. Рыбакі П. Лінкун і Т. Янулевіч наняліся былі палавіць рыбы на рацэ і праз сваю няўважлівасць падыйшлі бліжэй да берага савецкага, на каторым былі затрыманы бальшавікамі. Рыбакоў бальшавікі адвезлі на Дзяржынскую заставу, дзе іх заключылі у турму.

***Вёска Бакунькі*** *(50 км/460) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

Жыхарка Бакунек **(імя невядомае)**:

...Я сюды выйшла замуж з Аношак у 1957 годзе. Мой муж лавіў рыбу. Перш жа рыбы было многа. Ездзілі ў рыбу за Пагоста, там надта многа шчупакоў было. А цяперака няма рыбы, я не знаю. Самай смачнай рыбай былі шчупакі. І ментузы былі ўкусныя. Но гэтыя гады няма, вада ніколі не выльецца за раку. Перш жа было такое разводдзе — вада заўсёды залівала левы бераг аж у лес. Па два разы на год рака вылівалася, увесну і ў такую пару, як чарніцы збіраць. Нас чарніцы збіраць на лодке перавозіў бацька маёй сяброўкі, на той бок — вада залівала луг аж да лесу (прыкладна да 1 км). Рака разлівалася з дажджу. І тады ўжо, як назбіраем, на гарэ агонь раскладзём, ён як дым увідзіць прыедзе на лодке і

забярэць у нас ягады, і нас прывязець. Так як выліецца рака аж да лесу, пастаіць тыдзень, ды як упадзець, дык у лагчынах вада астанецца, а так там ліны боўталіся. Іх можна было рукамі лавіць. Ліны таксама была смачная рыба.

А цяпер вада не выліваеца з ракі. Нават калі снегу многа, то і вады поўна, але да лесу не даходіць. Ды і гарод не топіць, толькі да плоту даходзіць. Перш скаціну гадавалі, берагі былі абкошаны, было чысценька, падцёлкі хадзілі за ракой. Яна зараз зарасце, вунь як анялой пазарастала. Перш жа не было гэткага, чыста адна рака была. А цяпер скаціну паставілі на хлеве, кормяць, а берагі зарастаюць. Перш ідзеш у раку, за раку — вада чысценькая, пясочак відаць, а цяпер гразь. Гразь, і ўсё. Абы-што зрабілася, і ўсё. Мой хлапец хоць калі ходзіць ля берагоў з вудай. Дык хоць калі і вывудзіць невялічкага шчупачка. Але няма рыбы надта. Надта многа мурашак было перш, за ногі кусалі, а цяпер нават у лесе мурашак мала.

**Леакадзія Іванаўна Навойчык** (дзяв. Путрыч), 1924 г. н. (зап. 2013 г.)**:**

...Мой бацька Яся зваўся. Мы жылі на футары, далей Мішаны, мо знаеце.Тут жылі Рачыцкія, дзе зараз гэта хата,тут зараз мая ўнучка жыве.. Жыла я тут і пры Польшы. Граніца праходзіла зусім блізка. Пераходзілі граніцу, каму трэба, найбольш у Камені. У нас, у Бакуньках, было вельмі строга. На граніцэ быў вялікі лес. І зараз відаць за ракой, дзе высокі лес, гэта ўжо былі бальшавікі. І рыбу можна было тут лавіць. Самая вялікая рыба ў рацэ — шчупакі. Былі і плоткі. Рака гэта — Вільля. Красіва тут і харашо, праўда? Вокны хат глядзяць на раку, бо там юг. Зімой замярзала — і канём пераезжалі. Дровы ж з лесу вазілі праз Віллю. Лавілі рыбу волакам. Лавілі і сакам. Калі хто адзін, то мог лавіць адзінокім сакам. Самая смачная — мянтуз і шчупак. І салілі рыбу, і жарылі. Усё было так, як сейчас, яшчо, можа, і лучше. Зямля на гародзе — вось паглядзіце: адзін пясочак, але вот дзіва, расце ўсё. Неплоха расце, вось паглядзіце. А кажыцца, ні грама няма глебы. Даўней ваду з ракі пілі. І цяпер, калі вельмі захочацца, бывае, нап'ешся, бо вада з ракі надта ўкусная. Купацца я ўмею, не так каб сільна, але так, каб паплаваць па раке сваей. Усе дзеці ў Бакуньках раней умелі плаваць. Даўней па рацэ лаўкі сплаўлялі. Лаўкамі у нас звалі плыты.

**Здзіслаў Навойчык**, 1917 г. н., мясцовы (зап. яго пляменнік Лявон):

...Сама лепей рыба лавілася на рацэ, як па ёй ішла граніца. Граніца па Вільлі і Поне ішла з Саланога да Бакунек. Ад Бакунек да Саланога кілометраў 20, ну а па рацэ ўсіх 30. Польскія пагранічнікі патруліравалі граніцу, ходзячы папарна. Адна пара ішла па цячэнню, другая ўверх, потым назад. Калі яны разыходзіліся, то зручны быў момант у 10 хвілін, калі можна было на вуду налавіць рыбы. Вудоўе рабілі з арэху, кручкі рабілі з дроту, а лесу рабілі з конскага хваста. Ужо зналі, які конь спакайнейшы, каб не даў азадкам, дык у яго і рвалі па адной валасінцы. Хадзілі на рыбалку толькі хлопцы да 14 лет, бо старэйшым маглі выпісаць мандат — аштрафаваць. Хадзілі толькі па двое, каб адзін лавіў, а другіназіраў навокал. Але дзе там, у азарце абодва глядзелі на паплавок, пра тое, як цёк час, забываліся адразу — гэдак клявала. Раптам — жалнер хваць за вухо! Біць крэпка не білі.

Некаторые з каравульных былі злёйшымі, дык білі і па срацэ, і дубцом, і рукой, другія дабрэйшыя — толькі болі ругаліся, але ўсе дзёрлі за вушы. Рыбу палякі канфіскоўвалі заўсёды сабе, вуды калі-некалі і аддавалі. Ля нашай вёскі неблагія пагранічнікі былі, а вось у Камене дык па двум падлеткам страляць пачалі. Уцякалі яны, дык аднаго ранілі, другога забілі.

Са стражнікамі ў Бакуньках з часам усталяваліся знаёмствы — самыя смелыя па дагавору ноччу перахдзілі на той бок, заходзліся да знаёмых, каб зрабіць узаімавыгадны тавараабмен. Магазіны ў Савецкай Беларусі былі амаль пустыя, але ўсё ж у асартыменце былі 3-4 неабходныя рэчы: спічкі, керасін, хлеб, мыла. Газа каштавала ў 3 разы танней. Спічкі таксама. Бралі загадзя прыгатоўленую каністру, а ўзамен прыносілі барахло, спірт. З савецкага боку прыходзілі найчасцей жулікі, якія кралі кароў, абувалі іх у лапці і вялі праз граніцу. Але і на правым баку Вяллі жулікаў хапала: аднога разу ўкралі быка, павялі як бы да ракі, а потым павярнулі назад. Па заяве пачалі следства. Дык мужыкі спужаліся вобыску, сабралі з паўвёскі і талакой зацягнулі тога быка на гарышча. Калі прыйшлі паліцыянты аглядаць хлявы і пуні, то нічога не знайшлі. А быка после вобыска зноў апусцілі на зямлю. А ўжо потым уся акруга смяялася з тых злодзеяў. Калі 17 верасня быў бой, стражнікам дапамагаў адбівацца ад бальшавікоў толькі хазяін маёнтка ў Караліна, быў сам паранены ў перастрэлцы. Астатнія, як праваслаўныя, так і каталікі, ветліва сустракалі чырвонаармейцаў, з ежай у святочнай белай адзежэ.

*Вёска **Сцешыцы**, Спас (55 км/455) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Віторыя Мікалаеўна Пякарская** (Клемантовіч). Баба Вікця нарадзілася ў 1937 г.:

— А якая самая смачная рыба з Вяллі?

— Рака тут недалёка, самая смачная рыба — шчупак і мянтуз. У плоткі касцей многа. Самы рыбак у Сцешыцах, Шчэрба Казімір, жыве туды, пад Даўгінава.

*Вёска **Кумельшчына** (61 км/449) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Алена Станіславаўна Гурыновіч, 1933 г. н.:**

...Перш у Кумельшчыне не было калодзесяў, з ракі ваду і пілі, і адзежу мылі. Прорубка праб'ецца, і набярэш вады. Вада была чысценькая, фільтравалася праз пясочак. І ніхто не хварэў, і нічога не рабілася. А цяпер п'ём з калодзежаў, а ўсе гнілыя. Ракі ў нас у рацэ былі. Але ж даўней гэдак у раку нічога не кідалі і не злівалі. Карацей, даўней не гэдак было, бо цяпер болей, чым што, рака засорана. Тады рыбу лавілі кошыкамі. Пойдзеш, кошык заставіш — і гатова, поўны сяляўкі ці каўбуноў. А зараз і ракаў не стала, і рыба памянялася. Усё памянялася: і свет, і рака памянялася. Мужык мой не любіў рыбу лавіць, а страх як любіў грыбы збіраць. А вось сын любіў рыбу лавіць. Мне з рыбы найсмачней акунь. Мянтуз — тожа смачная рыба, але акунь смачней. Лешч сухі, многа касцей, а як малы, дык адны косці. А яшчэ была даўней смачная рыба, такая круглая і даўгая, як мая

ляска, каторая пішчэла. Піскун, мусіць, і звалася. Лавілі ў старарэчышчы. Але як прынясуць і вытрасуць з торбы, то крыку было! Бо яны страшныя, як гадзюкі. Не ўсе людзі піскуноў маглі есці. Плотка смачная, але таксама многа касцей. Але сына ўжо няма, і бучоў не захавалася.

**Іван Святоха**, 1939 г. н.:

...Самая смачная рыба ў Вільлі — судак. Цяпер яго ёсць, як вадахранілішча зрабілі. Найбольшага шчупака, што я злавіў, на 8 кіль. У сеткі. Лавілі з дзвюх лодак сеткай, якая ў нас завецца волак. Шчас волаком ніхто не ловіць. Перасталі пасля запрэту на лоўлю рыбы. Рака і даўней у Кумельшчыне была не глыбокая, толькі вось даўней ямы былі глыбокія, а цяпер ям зусім няма. Перш ідзеш па берагу, відзіш рыбу, сейчас і рыбы няма, і не відаць дна ў рацэ. Перш хадзілі на лучніцу з васцямі, усё было відаць. Восці былі вялікія, можа на дванаццаць зубоў. І зімой хадзілі з доўбнямі — лёд жа быў чысты, а сейчас лёд такі, што нічога не відаць.

Доўбнямі білі і шчупака, і яльцаў, і ментуза. Яльцаў перш колькі было. Лавілі іх на вуду зверху на машку. Машка такая была, звалася таўкала. Яна над ракой лётае. Калі на дрэва сядзе, то знімеш — і на кручок. Калі яльца засаліць, то смачней, чым селядзец. Рыба быстра на таўкалу брала. Брала таксама і жучка-грачаніка, але не так. Лавілі язя на майскага жука і што меншы быў, палавінны. На ўсе вёскі быў самы галаўны рыбак і паляўнічы Фаня з Кастык. Адна рука была ў яго паврэждзена, што нічуць не перашкадала яму быць самым лепшым. Але ён даўна памёр. Фаня як язя лавіў, бродзіў. Усе месцы знаў. Ездзіў за язём пад Караліна, там вялікай рыбы больш было. І тут рыбы было шмат, што шапкамі лавілі. Знімеш з галавы, раз — і ёсць, яе, — яльцы. Яны жырныя, і касцей меней, чым у платвы. Лавілі рыбу бучамі, сакам, таптухай з кулём. У таптуху добра лезла. Наставіш ля ціны, абтопчыш кругом, а рыба ўся ў куль. У затоках і старыцах цягалі невад. Дзе многа ціны ў затоцы, невад не працягнеш, трэба, каб чыста было. На лодке закінеш вяроўкі на другі бераг, а тады ужо з берага і цягнеш удваіх, потым саедзіняешся — і ўсё. Пападала ў невад многа, бо займаеш бальшую плошчадзь, і куль быў вялікі. На нэраст лёгка біць судака васьцямі — ён блізка да берагу падыходзіць. Там, дзе завадзі. А лешч, як нарастуе, аж вада кіпіць. І што цікава, увесь лешч пад адзін размер. Было многа і піскуноў, але я іх выкідваў на бераг, баяўся. Утраіх лавілі палазамі, удваіх цягнуць, а трэці зваўся дзед. Палазамі больш лавілі па затоках. Каля дна вядзеш, але сільна не нажымаеш, каб гразі не забрала, а то і падняць ад гразі няможна.

Ставілі і трыгубіцы, ці, як у нас звалі, путаніцы — дзве рэдзі, а пасярэдзіне сетка. Рыба ў путаніцы, нават добра не ўчапіўшыся жабрамі, не ўхадзіла, бо не давала, путала рэдзь. Хто бывае, дык ставіў рэдзь толькі з адной стараны на палатно, але з двух старон лепей. Рыба і адтуль, і адтуль можа папасці.

*Вёска **Чапельшчына** (62 км/448) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Канстанцін Пятровіч Чараповіч**,1921 г. н. (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7686/78):

Рыбы даўней было крэпка многа. Раней дык гэта наша гордасць была тут. А рэчка цяпер — і рыбы саўсім не відаць нідзе. Мутнае ўсё, забалочанае. Гэта ж мора зрабілі. А чысценькае, светленькае — ідзеш па беразе. Ну рыбы многа было.

— Ну а чым лавілі рыбу?

— Ну, як на эна ўрэмя, цяпер снасць саўсем другая. Удачку, сак такі, волак на двух жордках. Самі вязалі, самі бабы, жэншчыны, пралі, ткалі. Усё ж гэта ўручную.Бродзень быў. На паясах такіх тожа сетка. Два палазы такія загнёныя. Па затоках, ну дзе і па рацэ дзе ціхае месца. Ну і невад быў. Венцер у нас не асоба распрастранёны. Венцер, дык гэта з лазы. Бучы мы звалі. Дык, бываіць, сам мянтуз туды ўлезіць. Так устроена. Туды, а назад — не.

— А якія рыбы тут былі, як называлася рыба тут?

— Акунь, шчупак, ясь, карась, галавень. Ну вот такія. Кялбы былі. Помню, у дзецтве малы, цэлы дзень кялбы надта браліся. Такія невялікія, але ўкусныя надта.

— А якая самая смачная рыба?

— Як мне, дык мянтуз. Пад гадзюку такі. Цёмны такі, чорны. Нада кожу знімаць з яго. Але ж рыба.

— А што з рыбай рабілі?

— Ну што? Жарылі, тушылі, хто, бываіць, і пасоліць.

— А ц капцілі?

— Пазней ужо. Пазней пачалі. То і цяпер не ўсе рыбу копцяць. Надта не было калі раней і лавіць яе. Жылі на зямлі, дык нада было на полі.. Можна было і рыбы было болей так. Але врэмя нада ж на гэта. А трэба ж ісці жаць, трэба ісці касіць, толька як свабоднае врэмя калі якое. Ну і то ж нада прыспасабленія. Ну дык пойдзеш, торбу зловіш рыбы.

**Канстанцін Пятровіч Чараповіч, 1921 г. н., і Аляксандр Сяргеевіч Савінскі, 1940 г. н. (зап. 2013 г., М.М.):**

...Самая смачная рыба ў Вільлі — мянтуз і лінь. Смак у рыбы быў не такі, як зараз: даўней не было солі, каб рыбу саліць, і не было алею, каб яе смажыць. Рыба не свіння — на патэльню кавалак так не кінеш. Дык гатавалі рыбу ў гаршках у сваім саку ў печы. Соль была дарагая, саліць у бочкі рыбу было шкода, і свіны жыр таксама быў дарагі, і летам жыру ўжо не было. Тушыць у печы ў гаршку было сама проста і танна, амаль нічога не трэба, кропу ці траў якіх, ягад дабавіць — і ўсё. Алей быў толькі льняны і канапляны, і на ім рыбу не пяклі. Цяпер па-другому гатуюць, таму і смак у рыбы другі. Не сказаць, што са спецыямі і спечаная на патэльні на алеі лепей, бо ежа, згатаваная ў печы, тая ж груца ці капуста, або той жа хлеб, выпечаны ў печы, непараўнальна смачней, чым на газавай пліце. Таксама рыбу ў печы сушылі.

Вільля памялела пасля вайны, як лясы пачалі рэзаць. Зараз гэта не рака, а нейкае непаразуменне. Вышэй Пагоста — яна канава. Зрабілі канавамі Сластоўку, Кабылянку і ўсе малыя рэчкі, што даўней неслі ваду ў Вільлю. Балоты паасушалі, і

няма ніякага адстойніка, каб дзе муць садзілася. Уся гэта муць ідзе адразу з поля ў Віллю. Нават ракаў не стала ў рацэ. Першы раз ракаў вывелі, як прыйшлі Саветы і сталі "моллю" ці як тутэйшыя казалі "быдлам" , а не плытамі сплаўляць лес. Не любілі яны(ракі) кару, іх тады знішчылі. У нас платагонаў звалі штырнікі. А после як перасталі моллю слаўляць лес, у 60-70-х ракі паявіліся ў Віллі зноў, не то што многа іх было, як даўней, але ўжо пападаліся. А як зрабілі вадахранілішча, то ўсё, ракі зніклі зусім. Самую вялікую рыбіну злавілі ў Кастыках гадоў 75 назад. Рака была перагарожана бомаю, якраз вышэй царквы, напроць Яўгеля, сабралася бярвенне, затор. І вось людзі заўважылі, што адным месцам бярвенне стала падымацца, як хто боўтаеца і кратае знізу. Сказалі рыбаку аднаму, ён пабяжаў па бярвеннях і ломам ці бусаком і забіў тую рыбіну. Рыбіна была страшэнная, калі нёс на плячах, то цягнулася па зямле: больш чым паўтара метра. Тая рыбіна была тут невядомая,з мора прыйшла.

Леску і нават сеткі вязалі з воласа конскага хваста. Найлепш калі конь быў белы, тады волас быў без колеру, у вадзе нявідзімы для рыбы, так у нас на Чапельшчыну была толькі адна белая кабыла, усе за хлапцы ёй ганяліся. Гаспадар шкадаваў кабылу, рабіўся шалёным згледзіўшы, як хто рваў валасок з хваста, мог і адмясіць як не ўцячэш, і ўжо так злосна лаяўся і кляў, калі хто даносіў на якога хлапца. Такім чынам мы змалку па своему зразумелі, чаму Пільсудскі, ці іншыя маршалы і магутныя уладары краін паважалі і любілі выязжаць на парады менавіта на конях белай масці …

Самае вялікае і страшнае разводдзе было ў 1931 гаду. На тым берагу Віллі, напроць цэрквы была лесьнічоўка — усадзьба лесніка. І за ноч так паднялася вада, што яны на страсе ратаваліся. І скаціну на страху ўсцягнуў. Пачаў страляць з ружжа, і тады людзі з вёскі пачулі, агледзеліся і на лодках пачалі ратаваць.

*Вёска* ***Кастыкі*** *(64 км/446) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Мікалай Мікалаевч Заяц**, 1937 г. н. (зап. 2007 г., В.В., С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах):

...Усякай рыбы. Не было вудакоў. Адзін чалавек толькі на ўсю вёску. Сто дваццаць двароў у нас вёска была. Дык адзін чалавек толька ў нас. Пойдзіць там, пяць-дзесяць мінут пасядзіць — і любой вядро наловіш. А цяпер дзе ж табе рыба? Электравуды, сеткі, во машын панаязджае — у Мінску на базары нямашака гэтулькі машын, сколькі на Вілле. Дык дзе ж рыбы будзець? Ды гэтыя — браканьераў поўна.

— А якая рыба вадзілася?

...Шчука, ляшчы, язі, плотва, бялюга. А цяпер усё вывелася, нямашака, адны яршы, платва. Па грам семсот, трыста. Шчупачок. Усё павыводзілі. А цяпер мора як зрабілі яшчэ гэта Вялейска. Дык ужо вада начынаець псавацца. Усё — і салляркі, і з машын, з усяга лятуць. Дык гэту рыбу гадка есці.

**Віктар Іванавіч Яўгель**, 1955 г. н., мясцовы:

Вялізную рыбу з мора злавілі ў Кастыках, можа, у якім 1910 гаду. А стронга лавілася ў сеткі яшчэ да 1965 года. Найчасцей яна пападалася, калі валакавалі,

восенню. На дзвюх лодках. Два ўперадзе з вёсламі, такімі лапатамі, а ззаду з канцом сеткі, валакуюць. Пачыналі ад Каменя ці Сцешыц, на конях ці машыне лодкі завязуць і ўніз валакуць. Пападалася вясной бялюга, ці свіння, але яна вельмі кастлявая. А яшчэ лавілі цырту. Менець рыбы стала ў сямідзясятых. Я калі школу канчаў у 1972 годзе, мы прайшлі ад Сцешыц да Суток і толькі аднаго шчупака залавілі на паўтара кілаграма, і па нулям. Ваабшчэ рыбы не было. Хацелі зрлавіць на выпускны вечар. І рака была той год была мелкая-мелкая, брылі да Суток. А як стала вадахранілішча, рыбы стала столькі многа, як ніколі. Першыя гады. А потым усё меньшэ, меньшэ. Так было і на вадахранілішчы. Даўней лавілі людзі з Кастык і на лучніцу. Пад цячэнне лучыць было лягчэй. А ўжо лепш, чым Ліліі Іванаўны Мойскай, яго «панок» звалі, ніхто не біў васцямі рыбу. Ён так умеў. Еслі гразь пад нізам, мяккае дно очэнь — эта трудно забіць. А ён так: цюк-цюк, рэзка ўперад і назад, і рыба ўжо не сходзіла. Мы з ім ездзілі на лучніцу, калі яму было пад 80 гадоў. Кажам, шчупак стаіць. А ён дзе-дзе, знаеш, ужо возраст, не так бачыць, і як пабачыў, адразу забіў, не прамазаў, і лодку станавіць не трэба было. Ён, Мойскі, да дзевяноста гадоў не хадзіў, а шустра бегаў так, чух-чух, з бярозавай вудачкай на шчупака, сам невысокі, заўсёды ў гумовых ботах. Глядзіш — туда пабег, і ўжо пабег па берагу разам з цячэннем. Усё на жыўца лавіў. Берага былі тагда харошыя, можна было да вады падысці, асака толькі ў вадзе расла.

Цяпер самая смачная рыба — судак, а як даўней, то мне — кялбы. Хоць малыя, але іх многа, як нажарыш! І ментузы. Мянтуз летам пад каменем стаіць. Пайшоў, вілку узяў, да палкі прывязаў — і тыц пад галаву. А найбольш на нераст у бучы лавіліся ментузы. Нерастуюць яны тут вось у двух месцах, зімой у дзекабрэ.Іх вунь там і вось тут быў харошы нэраст, такія клубкі мянтузоў. І калі рака не замерзшы, то зімой вада чыстая, відаць добра, то грашылі, і выедзеш ноччу і іх васьцямі білі.

***Вёска Сутокі***

**Канстанцін Тышкевіч** (нарадзіўся 5 лютага 1806 г. у Лагойску):

*«Казённая вёска Сутокі!» — гучна закрычаў стырнавы, калі судна праплывала паўз вялікую вёску на правым беразе Віліі. Я заўважыў, што мясцовыя жыхары павінны былі займацца рыбалоўствам, бо, плывучы па рацэ, шматразова бачыў расстаўленыя на шчупака прынады, на якіх плотка, як нявінная ахвяра людской хітрасці, прыцягвала пражэрлівага шчупака. У пакутах на жалезных кручках з апошніх сіл круцілася. Каманда майго судна заўважыла на рацэ вялікага шчупака ў неўласцівым для гэтай рыбы здранцвенні. Узялі яе трызубцам і пераканаліся, што гэты вялікі шчупак быў падмануты хітрыкамі рыбака, праглынуў кручок і, раздзіраны балючымі пакутамі, шукаў месца, дзе мог спакойна сканаць, не падазраючы, што гэтым месцам стане для яго лодка вандроўніка, які плыве па Віліі. У гэты дзень яшчэ да захаду сонца мы прысталі да берага ў Сосенцы». 1857 г.*

(З кнігі «Вілія і яе берагі»)

У Сутоках налічвалася кала 40 хат. Жылі там людзіз фаміліямі Шупенькі, Вайцішонкі, Рыманты, Вярбіловічы, Выайцішонкі. Веска Сутокі была выселена пры будаўніцтве Вілейскага вадасквішча, у Людвінова пабудавалі цэлую вуліцу з новых дамоў. А на берагу застаўся футар, з дзвух хат – якія стаялі на пагурку, і іх не затапіла. Там упарта жылі людзі да сконцу дні сваіх, без электрычнасці, за 4 км ад бліжэйшай крамы. У іх вельмі любілі астанаўліваццa аматары рыбалкі сеткамі з Вілейкі і Мінску. Жылі яны аж 90-х гадоў ХХ стагодзя.

**Казімір Мікалаевіч Ярашонак,** 1928 г. н., родам з в. Сосенкі (зап. 2013 г.):

...У Сутоках было многа хат, якіх дванаццаць-трынаццаць, усіх знялі , як будавалі водаховішча. Ладная вёсачка была каля ракі самай.

***Вёска Сосенка*** *(78 км/432) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Януш Андрыеўскі, 1939 г. н.:**

...Самая смачная рыба — судак і шчупак.

**Міхаіл Голуб,** 1939 г., мясцовы (зап. 2013 г.):

...Я не рыбак, рыбу толькі на лучніцу лавіў, васцямі. Спераду каза называлася.

— А вот у Асіповічах гэта прылада завецца накра.

— У нас называецца каза. Агонь раскладаеш, смалякі нада. Смаляк у лесе з карчоў дабывалі. Я на трактары рабіў. Тросам выцягнеш корч, бывае каторы сарвецца, вярхушка. Прывязеш дадому. Паколеш. Што на дровы, што на смалякі. Загатовіш тых смалякоў дзве вярсты. Вярста — мера такая, гэта зложаныя ў паленніцу смалякі вышынёй мэтра паўтара і даўжынёй 5 мэтраў. Само палена даўжынёй паўмэтра. И за восень усе спальвалі. Пачыналі ў самую восень, у глухую восень. Каб цёмныя ночы, і тады палучаецца. І каб не было ветра, калі такі вецер, ужо не паедзеш. Панімаеш, вада каб была чыста, не рабіла. Спічку запаліш — правяраеш, спічка гарыць прама, як свечка, і ўсё, паехалі. Нагружаеш лодку. А лодкі былі пласкадонкі. Адзін стаіць уперадзе. Ну, як называецца, на адну крывульку, у лодцы, як лічылі, прымерна пяць рагацін, ці крывулек. Ён на першай, ну і заднюю не закладаеш. А так што пасярэдзіне — накладаеш смалякоў — і паехалі. Ён, каторы б'ець, — уперадзі, канчаецца гарэць — раз, падкінець. Мы ездзілі і па вадзе, і пад ваду. Лепі ехаць спачатку пад ваду, у Сутокі. Бо туды едзеш — сілы ж болей, а так на ніз спусцішся, а тады дуй, і дуй — выдахнешся. Лодка усё ж гружоная, праедзеш кіломераў пяць, а тады абратна, вярніся ты. Часы тры-чатыры, во так. Пачыналі з самага вечара, каб толькі цёмна стала — і ўсё, паехалі. І прадстаў: едзеш во на такой глыбіне, як да стала (1.5 м) — кажды каменьчык відаць. Асвяшчала, а дзе глубіна вышэй роста, то там не так, калі рыбіна бальшая — то відаць. Білі ў аснаўном з глыбіні да двух мэтраў. Я лічна забіў найбольшую рыбіну на 7 кіль, а хлопцы на 19 кіль. Самая смачная рыба ў Віллі — мянтуз, а тады вансач. Цяпер ёсць смачная рыба сазан. Нічога на смак жэрэх, ці балень. Але даўней сазана не было. Вансачы стаяць на мелкай вадзе, хаця самі былі ў сярэднім па 4-5 кіль. Слухай, адзін раз быў случай: стаіць рыбіна на гэты стол. Я лодку гнаў, і быў са мной Ігнась. Ён пытаецца: «Што рабіць? Восці парве!» Я кажу: «Бог з імі, бій». Ну, ён за такое растаяніе ўдарыў за галавой ніжэй. Бах! І восці пусціў, каб

рыбіна спачатку памучылась. Тут як плесканула, аж лодка задрыжала. Ручка (з сухой елки, каб лягчэй) знікла ў вадзе. Восці ў нас рабілі на 5 зубоў. Ну лодка і праехала гэту рыбіну, далей яма была, шаста не хапае, пакуль я аб'ехаў яміну, развярнуўся, глядзім — ручка васцей тырчыць з вады, паднялі, а там вансач усяго на 4 кілі. Яны, відаць, нескалька стаялі хвост у хвост ці галава ў галаву, а мы думалі, што рыбіна вялікая. Ям было многа, самая глыбокая, дзе вада круцілася, звалася «тонь», была глыбінёй больш 5 мэтраў і другая яміна, дзе зараз астраў, звалася «цёмная бухта». И то гэта ўжо калі Вілля стала мялець. А мялець стала, як пачалі пасля вайны надта лясы выразаць.

Вёска Сосенка **Баба Вікця і Рычард:**

...Я яшчэ малая была. Прачнулася раніцай, выйшла з хаты, чую — гвалт стаіць. Гляджу — уся, чуць не ўся Сосенка сабралася на беразе Віліі. Бабы — хто хрэсціцца, хто моліцца, хто лямантуе, бо па рэчцы носіцца ці то цмок, ці то чорт. Тады адзін рыбак схапіў восці, у лодку — і забіў. А гэта ў сома вялікі каршун спікіраваў, усадзіў кіпцюры і заграз. А сом пачаў тапіць яго. Як забілі тога сома, то на 45 кіль быў.

**Казімір Мікалаевіч Ярашонак** (Казік), 1928 г. н., мясцовы в. Сосенка (зап. 2013 г.):

...У Сосенцы даўней былі Андрыеўскія, Голубы, Ярашонкі. Ярэзаў было многа.

У Сосенцы на гэтай старане жылі каталікі, на тую старану найбольш яўрэі. З камення мураваная будыніна там засталася дагэтуль, кузня. Там рабіў каваль Ярашонак. Ён з'ехаў у Польшч. Мост праз Вілію прастаяў усю вайну, спалілі партызаны за месяц, як нашы прыйшлі. Мусіць, не пускалі Красную армію. Добры мост быў, зроблены ледарэзы спераздзі. Купалля ў нас не было, ведзьму не палілі. Самая смачная рыба — гэта мянтуз. Судака да вадахранілішча ваабшчэ не было. Ну, на вудачку, каўбункі зваліся. Усякія рыбы смачныя. Усач быў, сільва была харошая. Яе зловіш і на жыўца — шчупака лавілі. Ракаў было. Казаў бацька, яшчэ пры Польшчы, адзін тут каня заводзіў праз раку і брыў назад, а ён праходзіў, сом. Дык ён на яго аброць накінуў і лег на яго. І ён яго ўцягнуў да маста. Сюды, глыбака было. І ён астанавіўся. Дык вёскай усёй агні рабілі, лавілі, тры пуды быў. Забілі асцямі тады. А яшчэ бацька расказваў: ездзіў па Сутокі, там была яма, Цёмная бухта. Глядзім: стаіць рыба, і крылля. Дык гэны пытаецца: біць будзем ці не? Ну, так рашылі біць. Ну забілі. Дык, аказваецца, быў шчупак, ён казаў на колькі кілаграм, а я забыў, стаяў нейдзе пад вярхом, і каршун у яго когці ўпусціў, а ён забіў каршуна і з каршуном хадзіў, як цмок які. Так спужаліся.

*Вёска **Рыбчына**на р. Ілія пры ўпадзенні ў Вілію, (знікшая, зараз на дне Вілейскага вадасховішча).*

**Піліп Адамавіч Гаўрылік,** 1923 г. н., мясцовы (зап. 2012 г.):

...Рыбчына да вайны была вялікай вёскай, болі чым 120 двароў. Рыбчына была праваслаўна-евангелісцкая вёска, мусіць самая старынная на Вілейшчыне. У асноўным праваслаўныя і бабтысты, толькі адзін каталік быў. Рыбчанскія мужыкі былі адмысловымі плытагонамі. А пры Польшчы ганялі плыты і жанчыны. Рыбу спецыяльна для ежы плытагоны не лавілі, толькі калі задавіць якую, а так на лоў часу не было: работа ёсць работа.

Самая смачная ў Рыбчына рыба — гэта мянтуз, бо мяккі. Яны бальшынство ў норах жылі. Мая хата над берагам была, пайшоў я аднаго разу купацца. І ў беразе нура там. Дык туды руку — і выцягнуў вось такога ментуза. Чуць выцягнуў я яго з нары. Каля метра быў. Я не рыбак, але бродзень меў, усё ж пры рацэ жыў, і як да свята якога, мы з пляменнікам шлі па вазерам, па старыцам. Дык там і карасі, і шчупакі, але невялікія. Я адзін раз на карася наступіў, брод брыдучы, ну такі карась, во што лапаць. Дзяржу пад нагой, тады сагнуся, боўць — і дастаў.

**Раіса Канстанцінаўна Соніч (Яцынович):**

...Часам дзеці самі забяспечвалі сябе абедам. Два чалавекі трымалі за ражкі вялікую хустку, а трэці заганяў у хустку рыбу. Больш за ўсё любілі яльца. Потым смажылі яго ў лазні на керагазе. Мы жылі дружна, хваляваліся адзін за аднаго, суперажывалі. Не было ніякай зайздрасці. Можа, таму, што зайздросціць не было каму.

**Мікалай Філіпавіч Яцыновіч,** 1944 г. н., мясцовы, в. Рыбчынана (зап. 2011 г.):

...Рыбу загатаўлялі пад восень — у ваду ўжо не залезеш, дык на лодках. Лодка, лодка і ведзея такая. Лавілі на Віллі ведзеяй. Што злавілі, раз — і ў бочку. Пад гнёт. Кішкі не выпускалі, луску не абчышчалі, груз наверх — і ўсё. А смак быў такі, што німа з чым параўнаць: і цяпер хочацца.

Дык вось дед мне расказаў пра вялікую рыбіну. Прыгналі скаціну на вадапой. Жара, лета. Гэта часоў у дванаццаць; скаціна заходзе ў раку і да двух часоў у вадзе стаіць. А тут сом. Ён да авечкі сунуўся і застраў. Тут людзі яго вілкамі запаролі. Дык дзед казаў, што мусілі калёсы распускаць. І то хвост яшчэ па зямле цягнуўся. Болі чым чатыры метры быў той сом, калі везлі, то хвост па зямлі цягнуўся.

Яшчо скажу такое. Да вайны і ў 1936 годзе наша гарэла вёска. Рыбчына. 38 дамоў ураз згарэла, а было 110 дамоў, а у 1946 гаду 30 дамоў згарэла. Зайшоў вецер как раз, як падняўся віхор, бура — за кіламетр адносіла броўны.Такі віхор падняўся. Іскра і пайшла. Мама расцяралася, а мой дзед, бацькін бацька, узяў мяне на рукі і пайшоў у поле. Ну, мы не згарэлі. І вот тады гвалт, гвалт, і ўсё. Пасля гэтага праз год у Слабадзе шум такі і гвалт чуваць. На Віліі. А там рыбіна ішла праз мост. Там брод быў ужо пры мне — малому ў пояс. Там ніхто пешшу праз Віллю не ішоў, а пераязджалі ці на лодках, ці на калёсах, конь ужо ішоў. Там рыбіна такая ішла, усе паднялі шум. Нашы падумалі: Слабада гарыць! Такі гвалт стаў. Пахапалі хто вёдры, хто бусакі і паляцелі на помач. Білі тую рыбіну, білі, ды не забілі. Восці і вілы ламаліся. Ад Слабады да усця, дзе наша Ільянка ўпадае, ну,

метраў 800. Гналіся за ёй. Тая рыбіна туды — шах, а там вір — і канцы ў воду. Ніхто пасля той рыбіны не відзеў.

*Вёска **Слабада** (зніклая, зараз на дне Вілейскага вадасховішча).*

**Распавядае Страшынская (Клемянок) Алла Леанідаўна 1961, Маладзеча.**

… Мой тата быў са Слабады, таму кожнае лета, пакуль не знеслі веску і не было вадосховішча я ездзіла да майго дзядулі Антона Дзімітравіча і бабулі Алёне Мікалаеўны. Алена Мікалаеўна была з роду Баслыкоў. Веска была досыць вялікая. Болей чым 30 хат, стаяла на правым берагу Віллі. Гэта была веска старавераў, татараў і беларусаў, у кожнай хаце была свая лодка, а ў нас аж дзве. Рыба была адным з асноўных прадуктаў харчавання, яе загатаўлялі многа і захоўвалі ў глыбокіх мураваных скляпах –лядоўнях, так сама было многа вяленай рыбы. Лёд гатвалі пад час крыгаходу — кавалак вялікай крыгі зацягвалі канём з берага да склепа. Лед ляжаў аж пакуль не паспявалі траскалкі, мы у летняю спякоту часта лазілі у склеп каб ахладзіцца. Рыба у лядоўні захоўвалася і так проста і падсоленая ў вялікіх бочках. Мая бабуля Алена найчасцей гатавала нам з рыбы, калі вынутай з той бочкі, а калі і так з вяленай, густы як пюрэ суп, нашклат поліўкі. Перш варылася рыба, пакуль мяса не адставала ад касцей. Косці і галовы вымаліся. Потым яна прыпраўляла адвар з юшкі расчыненай ржаной мукой, узбіваючы калатушкай, калі–нікалі троху прыбелевала малаком. У Слабадзе тутэйшыя рыбу лавілі сеткамі альбо рукамі і калі каго бачылі з вудай –то было здалёк відаць прышлага, не мясцовага чалавека. Мой тата і мяне навучыў лавіць рыбу рукамі ў карчах і пад камянямі. А мужчыны лавілі з нагоды рыбу у дзве лодкі, ведзяёй. На рыбалку шлі рана, на золку, піхаючы прысам лодкі супраць цячэння, уверх, у потым нацягнуўшы сетку паміж дзвух лодак сплаўляліся да Слабады. Рыбы прыносілі многа, усялякай, не менш трыдцаті шчупакоў. Я вельмі любіла есці мянтузоў і невялікіх шчупачкоў.

*Вёска **Рабунь** Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Вера Сцяпанаўна Галко (в. Пахомава, зніклая, зараз на дне Вілейскага вадасховішча), 1935 г. н.:**

...У Рабуні раней была адна рака — Арпянка, яна на лузе ў Віллю ўпадала. Да Віллі цягнўся красівы луг. Было надта добра. Колькі было да Віллі — не скажу, але калі разлівалася вада, рака даходзіла да самай вёскі. Дзеці лёталі купацца да ракі. А ў рыбу мой мужык не хадзіў, пакуль мора не зрабілі, не было надта лодак у Рабуні, людзей. Тады ўжо ўсе пачалі рыбу лавіць.

**Судніковіч:**

...Наліма, ці ментуза, мы звалі калека, бо ён быў без лускі, нейкі мядліцельны.

**Уладзімір Іванавіч Ляшкевіч,**1941 г. н., родам з в. Баяры, калісь вучань сярэдняй школы у в. Рабунь, настаўнік біялогіі г. Вілейка, зараз пенсіянер:

...Я з Баяр, праз Пахомава хадзіў у Рабунь, у школу. Праз Вілію — ці раздзеўся, ці любы ў лодку бярэ. Пахомаўцы лодкі мелі. Крыкнеш — і абязацельна

перавязуць. Рабуньскіх хлапцоў дразнілі, заводзілі перад бойкай — «Братцы рабунцы, Слабада гарыць!» І звалі іх, рабуньскіх, усе вароны. Былі таксама «Паняцічкія шнарукі», «Рэдзькаўскія худэркі» — так тады празывалі людзей з іншых вёсак.

...У Рабуні была рэчка Арпянка, прыток Віліі, надта ў ёй было яльцоў. Есць такая рэка Грэзніца, упадала ў Вілію ля Сосенкі, там млын стаяў. Так вот мы пачынаючы адтуль — якая там таптушка невялічкая, і насцёбаем, пака ўпадзе ў вусце, там затока такая была, па торбе рыбы зловім. Мы ж карміліся з гэтага. Я ў Кавалі прыходжу да друга, маці ставіць гаршок у печы — кажа хлопцы, а варыць то няма чаго, пасля вайны, ляціце за рыбай на раку. Пака закіпіць вада, мы ўжо злётаем і зловім рыбы. Яльцоў і шчупакоў. Толькі плоткі не лавіліся ў гэнай рэчцы.

...Тады надта келбоў было ў Віліі. Я пакуль з Рабуні, са школы прыду дамоў пешшу, а праз Вілію пераходзіў ля Пахомава, ад келбоў аж дно чорна, дык хлопцы лавілі такой штучкай-волакам іншую рыбу, так яны зацягнуць і мне адразу цэлы кош наловяць і я з ім дамоў іду. Асноўная сетка ў нас была яльцоўка, ачко на два санціметры. Але сеткі тады рэдка ў каго былі. Вясной, як нераст ідзе, іх у асноўным ставілі. А так у народа асноўная прылада была сак-таптуха. У жніўні месяцы тады рыба ідзе да берага, у траву. Ну вот адзін застаўляе, а другі траву топча. А ў аснаўном рукамі лавілі. Яна не баіцца. У траве, у дубах я сам во гэткіх мянтузоў даставаў. Сямідырка — гэта была мінога. Яны ёсць буйныя -марскія або рачныя і дробныя - ручавыя. Мінога рачная ішла табунамі на нераст з Віліі ў левы прыток у раку Ілія да 1968 года, у раёне Баяр. Ну яны после нераста гінуць, сплывалі дохлыя ўніз па цячэнню. Іх лічынкі — грамжы — белыя, іх як насадку на рыбу капалі, на шнуры і донкі. Сямідырку, тую што якая вялікая, мала якія людзі ужывалі ў ежу, толькі тыя хто ведаў і не гідзіўся, тыя хто быў за Польшай на заробках у Латвіі. У многіх сялян пры Польшы хлеба было толькі да Каляд, і тады мусілі падавацца ў заробкі, ў Латвію, як тады казалі “даіць кароў”. Адтуль да нас прынеслі на яе моду. Астатнія гідзіліся — бо сямдырка сама формай як вужака. Так і вангораў і уюноў-піскуноў не кожны наш чалавек можа есці. У рацэ Ілле не было цырты, ёй нада чыстая, чыстая вада, а была свінка, ці падуст.

...У Віліі ёсць руччавая фарэль-стронга, а ласось прахадная рыба. У Сосанцы, казалі людзі, што вясной паяўляўся ён (ласось). Ну цяпер не паявіцца. Перакрылі Вілію. Ну, пра ласося гаварылі адразу пасля вайны, у шасцідзесятыя гады ўжо перасталі. Справа ўся ў тым, што там лёд рвалі, каб мост захаваць у ледаход. Сапёры кідалі ўзрыўчатку. Так вот там ласосі трохі. вродзе паяўляліся, пасля выбухаў усплывалі. Ну я сам не відзеў, так чуў.

...Мы ў аснаўном на Віліі лавілі рыбу рукамі. Мой швагра і сын. Вот тут раней, каля стройдеталей за час цэлаю выварку акунёў накідаем і мянтузоў во гэткіх во. Тут дубы былі такія. Мной апісаны ўсе ўрочышчы ад Сцешыц да Гліннага і тыя, што ўжо схаваліся ў вадасховішчы, заплылі вадой, усё я прайшоў гэта. «Туберщчына», «Алены», «Селякова», «Падмлынок», тут «Крапіўніца» была.

«Паташня», «Норт» — гэта дзе зараз вадазброс, дзе былі Вольшына і Лазырцы. «Ляшнае». Вельмі глыбокае месца было ў Віліі пад Пахомавым. Усё гэта мной было апісана, усе прытокі абышоў, рэчку Кабылянку, такую знаменітую. Высокі пахомаўскі бераг і зараз відаць з дарогі, праз вадасховішча, напроць Рабуні. А там было Пахомава, дванаццаць, можа, хат, а была царква і самы бальшы фэст на Спаса — з усіх вялікіх вёсак з'язджаліся, з усяго наваколля. Хадзілі крэсным ходам.

***Вёска Вольшына (Лазарцы).*** *(зніклая, зараз на дне Вілейскага вадасховішча).*

**Лупіносаў Александр Васільевіч, 1954 г.р.**

У Лазарцах, ці Вольшына была 21 хата. Карэнныя фаміліі Наркевічы, Гісічы. Мая мама бла з Лазарцаў, таму ўсё лета я праводзіў у бабулі. Наркевічы –ўсе мае. У Лазарцах самыя рыбныя места былі, месца называлася Кастылёва. Берага Вяллі вышэй чым у Вялейцы ў парку, і песчаныя і мы малыя разганыешся і па гэтаму берагу кулік, кулік ну ехалі ў рэчку. Так там глубіны, пад вадой карчы, дубы! Ля вескі было урочашча "Дубняк" — казалі расла дубрава. Вот там бывае сядзеш на лодку-пласкадонку, якую усе звалі толькі "чайка" і бярэш вуду шчупакоўку з бярозы, леска мілімітроўка, зачапляеш на жыўца і ваду шах. Толькі боўць – паплавок у дно — во-о-о такія шчупакі кіль па пяць па сем.. Даўней самых вялікіх шчупакаў рыбакі з Вілейкі лавілі менавіта пад Лазарцамі. У затоце мы малымі лавілі вадзяных чарапах, тады із пладзілася мноства. Я цепер зімой на вадасховішчы лаўлю рыбу на коміне ў роднай бабкі. Там дзе кладбішча затоплена, там уся мая радня на дне водасховішча. Веска стаяла на левым, берагу Віліі, ён і цяпер самы высокі на водасховішчы…

***Вёскі Малмыгі і Сенішча***

**Мікалай Іванавіч Саўчыц,** 1944 г. н., родам з в. Сенішча:

...Чым я лавіў? Найбольш сеткамі, рукамі лавіў — туды ў кусты залез, ці ў карчах. Пісталетам троху пробаваў. Ну ён мне нешта не панаравіўся. Я рыбу з пісталетам мала лавіў. Некалі яшчэ Трус Іван Міхайлавіч пакойны (старшыня гарсавета) і Каляда там прывезлі пісталет для падводнай ахоты. Ну, Каляда Мікалай Іванавіч, ён пасля вайны з пісталетам ездзіў, па нечым, не знаю па якіх дзялах, упаўнамочаны, а тады прадсядацелем райсаюза быў, а тады, як пагарэлі ў райсаюэзе яго паплечнікі, яго после перакінулі дырэктарам на мебельную фабрыку. Дык я проста з гэтым пісталетам лазіў: Вілія ж была красавіца, вада чыстая. Дык я некалькі такіх язёў забіў. Нават глушыў рыбу. Бамбіў рыбу найбольш пад Сенішчам Пётр Астрэлін з такім Валынцом, тожа ў цюрме рабіў, месны чалавек з Лазарцаў, цяпер Вольшына завецца, як адсялілі. Пётр Астрэлін у 1961 ці 62-м гаду быў апошні начальнік Вілейскай цюрмы, як яе закрывалі. Дык яны ўсягды, было ж у іх гэтага аманалу; а я заўсёды ля Віллі тарчэў, бо і я участвавал інагда. Так я всё врэмя іх лавіў, Астрэліна гэтага і з Валынцом. Яны бамбяць, ну а я ўжо лаўлю, дастаю рыбу.

...Сто грам тола хватала, каб падняць яму. Ну, места, дзе глушыць, выбіралі ямы. Калі яма невялікая, то сто грам і многа. Пяцьдзесят хватала, во так вот.

*– Ці былі выпадкіі пакарання за браканьерства ў Вілейцы?*

– Пасадзілі за браканьерства аднаго хлопца, Васілія Шабанова. Фамілію, может, і путаю, но точна Васілій. Ён рабіў шафёрам, ён вазіў Лузіка. А Лузік быў начальнікам страіцельства этага вадахранілішча. Тожа яго Васей звалі.

І ён *(Шабанаў)* пользаваўся тут усімі благамі. Ну, ён быў не толькі рыбаком, у яго паднаготная была мафіёзі. Крымінала ў яго многа было. Не знаю толькі якога, можа, нават звязанага с убійствамі. Но ён увесь быў у татуіроўках. Ён нікогда не раздзеваўся на людзях, нікому не паказываў. Я толькі чуў гэта ад жанчыны, з якой ён жыў, патаму што яна ў школу разам са мной хадзіла. Была ў яго, у Шабанава, жонка, але сыйшла, і ён пачаў жыць з такой Маяй Субач. Яны ў Халапах адстроілі ад арганізацыі домік двухкварцірны, ён быў дзелавы, пастроіў гараж, у якім абарудаваў самагонны апарат. Узяў ён Лузіка на вудачку, сталі яны заганяць цэмент: што ж хацець – страіцелі. Але ў Лузіка быў у Мінску такі пакравіцель Голуб. Голуб быў генеральны дырэктар стройкі Вілейска-Мінскай сістэмы. Ну, так стала, што Шабанаў ужо і не шафярыў, а толькі і лавіў рыбу. Смела лавіў. Ён закідаў гэтыя вудачкі на правада, і дзе вадазброс, апускаў у ваду адзін провад, другі провад, а тады кантакт. І вада станавілася белая ад рыбы. А там на вадазбросе рыбы заўсегда было мора. Не знаю, хто яго прадаў і як, карочэ, яго за гэта дзела судзілі. Ці не тры гады далі.

За рыбу таксама было громкае дзела ля Сенішча. Я чуць не ўліп, як той казаў, у гэну рыбалку. Я на свадзьбу паехаў, і гэта мяне спасло. Было гэта ўжо, калі тут паявілася рыбаахрана. Хто быў тады ў рыбаахране, не прыпомню. Быў такі шафёр у бальніцы, вазіў глаўнага ўрача Владысіка, Валынец Лёня. І вось раз яны ўчатырох паехалі на рыбалку. Гэны Валынец, потом, значыць, Мішка Невар, а Мішка Невар быў тады сташыня раённага обшчэства рыбаловаў і ахотнікаў, і хлопец з Малюноў, Усціновіч, тады гэтага Валынца швагра, каторы быў у міліцыі, у паспартным стале, Кавалёў, ён ужо пакойны. Вот яны паехалі, каля Сенішча там цягалі брэднем ілі чым, і налавілі там мора гэтых ляшчоў. Мора. Можа, тону, можа, паўтары. На нерэст кагда ён ішоў. Ну налавілі, прыехалі, падзялілі. Мяшкамі яны дзялілі, не то што галовамі ці хвастамі, а мяшкамі. І гэтаму Валынцу, язык мой враг, паказалася, што яму мені папала. І ён тут каму та ляпнуў у аддзеле, ці не Кузаўкіну, што рыбы Усціновіч налавіў мора. А яны прыехалі раніцай і не ўспелі пасаліць у бочкі і схаваць. І гэту рыбу Кузаўкін, а я еду назаўтра рыбу лавіць туды ж на гэнае ж самае месца, а Кузаўкін ходзіць па Малюнах і рыбу забірае ў Усціновіча. Дык я яшчэ прыастанавіўся, кажу: «Сашка, што ты тут ішчаш?» Ён кажа: «Ты, мусіць, тожа едзеш лавіць рыбу? Шчас і цябе злаўлю!» А я не знаў. А ў мяне ў кузаве ляжыць невад, сядзяць пару хлопцаў са мной. Едзем у Сенішча, знаем, што там лешч нерастуець. Я кажу Кузаўкіну: «Ну прыязжай, я буду там у Сенішчэ, у бацькі, як будзеш лавіць, так лаві мяне там». Але ж Кузаўкіну было не да мяне, ён рыбу выграбаў у Усціновіча. І ў другім месце

знайшоў, а тыя як узналі, што гэта Валынец іх здаў, дык і кажуць, што быў і ён са сваім шваграм з аддзела, з Кавалёвым. І ў яго ж рыба. Ну раз так заявілі, то нада ісці і да яго. Яны прышлі, а ў Валынца поўная ванна. Поўная ванна ляшча. І так ён сам на сябе наклікаў гэту бяду. І ім тады ўсім траім, і таму самаму Валынцу, далі па тры гады, і Невару — не адмазаўся, хоць у яго нічога не знайшлі. Адзін Кавалёў адмазаўся: і не знайшлі нічога, і не прызнаўся, як ні круцілі.

Прыехалі да Сенішча, я тут хлопцам кажу, раз такое дзела пайшло, трэба толькі раз зацягнуць па-быстраму — і ходу, а то пападзёмся і мы. Як зацягнулі, не можам брэдзень выцягнуць. Так ляшча набілася. Адзінаццаць мяшкоў. Я гляджу, тут машына стаіць, думаю: еслі будуць ехаць, кідаем усё — і ўцякаць. А хлапцы падцягнуць чуць-чуць, ляшча ў мяшкі — і мне ў машыну кідаюць. Яшчо падцягнуць — у мяшкі, і кідаюць у кузаў. Адзінаццаць мяшкоў сразу, за адзін заход. Невад невялікі быў, крылля ўсяго па метраў дзесяць. А лешч як збіўся ў затоке, там такая была трава. І яны ж тут таксама лавілі ў гэтай затоке, што злавілі, што разагналі. Ну што ж, ноч прайшла, лешч зноў падайшоў туды. Там нейкія два пацаны тожа лавілі таптухай. Таптухай нейкай цягалі і то выкідывалі. Ну мы на іх не абрашчалі вніманія. Толькі я іх папярэдзіў: глядзіце ў мяне, калі што. Хто яны былі, я не знаў, але калі мясцовыя, то мяне то яны зналі.

Нас тожа некалі са шчупакамі хвацілі, маглі адкрыць угалоўнае дзела. А мы ваабшчэ іх «на хрэн» паслалі. Патаму што быў самы паследні дзень запрэта. Сягодня мы шчупакоў налавілі — і сёння запрэт кончыўся. У нас там было многа шчупакоў. Кагда нас там міліцыя залавіла, тут усе, значыць, давольныя былі, што мяне злавілі, Пецьку Камінскага, і такі Падбярэзкі быў (Гога). Самыя байчакі аўтабазаўскія. Усе давольныя, міліцыя аж падскаківала. Тады, як яны павязлі здаваць тых шчупакоў назаўтра, а там дзеўкі ў дваццаць пятым магазіне перапалавінілі, дык усяго сем з палавінай кілаграм асталося тых шчупакоў. Дык мяшок быў, а гэтыя дзеўкі расцягнулі, ды і сама міліцыя, можа, расцягнула, і засталося сем кілаграм. Хацелі на нас наехаць, што многа налавілі, а тут аказалася, што мені чым па тры кілаграмы на кожнага, і яшчэ запрэта не было, і снасцей ніякіх не знайшлі. Чым лавілі? — Рукамі лавілі, глядзім: шчупакі нечага на бераг самі з вады лезуць, ну і дасталі. І ўсё. Нічога больш не знаем. Павыпісывалі нам па трыццаць рублёў штрафу, гэныя рыбнадзоры Пецька Лаўрыновіч і Данільчык. І тут жа да гэтага дзела быў прычасцен начальнік угро, Мышко такі. Мышко занімаўся гэтым дзелам, і дайшло да міліцыі, што толькі трыццаць рублёў штрафу. Гэныя ці не заплацілі, а я — ні ў какую. Кажу: падавайце на мяне ў суд. А што суд? Усяго тры кілі шчупака, снасцей — арудзій браканьерства — няма: хай бы хоць астрога якая была ці сетка. Адны шчупакі былі ў нас у машыне. Шчупак галаву з вады вытыркнуў, я яго рукамі хоп — і сюды. Мышко тут кажа, каб не спорыць: заплаці — і ўсё будзе ціха. Я яго тады па-мацернаму паслаў. Ты ж такі браканьер, як я, як і ўсе. Не хочаш паціху — тады толькі праз суд, я там усё пра цябе публічна раскажу, што кожны знае, але толькі шэптам кажа. Так і не заплаціў штрафу. Мусіць, каб не скандаліць, парвалі яны тыя бумагі. Каб нада было

заплаціць, то заплацілі бы, не такія ўжо бедныя былі, але тут дзела на прынцып пайшло — чаму гэта міліцыі можна і браканьерыць і беспрыдзел рабіць?

Самую вялікую рыбіну я злавіў на дзевятнаццаць кілаграм. Гэта быў сазан. Сазана цяжка злавіць. Ён нам папаўся, гэту лесачную сетку враз бы парваў. Но ў мяне былі сеткі новыя, Сцяпан Круцько з Мурманскам связь імеў. І аттуда прывозілі бабіны нітак капронавых. Я помню, купіў на сто пяцьдзясят рублей дзве ілі тры бабіны. А ў саначыстке рабіў стары рыбак, які сам умеў сеткі вязаць. Рыбака гэтага зяць строіў хату, яму трэба было строймацерыялу. А я ж вазіў з лесазавода піламатэрыялы. Я, значыць, яму гэтыя бабіны, купіў гэтых шнуроў, усё, вяжы. А ўзамен доскі. Доскі-то нада. Я даў яму ўсё, што прасіў, дажа сто палавых дасок. Гэта па тых врэменах не сто рублеў, а яшчэ дарожэ, а ён мне такіх сетак адмысловых навязаў з запасам, мэтр семдзесят высатой. Запуск быў, там як дасць шчупак — на мэтр выцягвае запас. Там, як ляшчы нераставалі, так у адзін мяшок па два-тры ляшчы заковывала! З двух бакоў была рэдзь, не то што ў трыгубіцы. А ніткі на рэдзь мне Каляда даваў, з КБО. Тады ў КБО шылі і раманціравалі бацінкі — ніткі крэпкія, капронавыя, тожа ў бабінах былі. Бабіна стоіла тады пяць рублёў, дзяшоўка — глаўнае дастаць: нідзе не было як. Там такая рэдзь палучалася файная з тых нітак! І вааабшчэ сеткі былі крэпкія. Камінскі пробаваў парваць рэдзь рукамі — не даў рады. Так я раз учапіўся ў сук: карчоў многа пааставаўшысь на дне вадахранілішча, а мы лавілі пад Старынкамі, дык тоўсты сук ад карча адламаў. Не даязджая Старынак і налева. Так там мы нарваліся на гэтых сазанаў. І яны там буквальна нераставалі разам з ляшчом. І лешч нераставаў, і яны. Ну лешч неяк раней пачаў, мы ляшча гэнага нагрузілі, божа мой! А тут глядзім — ля лодкі як тарпеды лётаюць. Ну давай акружаць, а яны, — ну настолька яны граматныя — хто іх вучыў? Кажацца, мора толькі нядаўна абразавалася, каб яны такія граматныя былі. Заводзім сеткі, вот тут яны нерастуюць, пагналі, толькі як дэльфіны, во так (паказвае рукой) — цераз сетку. Тады думаем не, раз не так, то па-другому. Усё, глядзім. Там далей яны ізноў зайгралі. Я гавару: заводзім раз, а ззадзі яшчэ ставім заградатрад, за метраў трыццаць ад гэных сетак. І тады мы іх пугнулі. Ну, меншыя сазаны па сем-восем кіль заскаківалі ў першую сетку адразу. А тады гляджу: другую; кажу: ну, доўжан папасціся хоць які гад! І точна, гляджу: пераскочыў першую сетку, а ў гэну ўжо забыўся пераскаківаць. І як даў ён у гэну сетку, як ён там зарабіў, як ён там захадзіў! Там ён спутаў усё, усю сетку. А сетка крэпкая, яна яго выдзержала па поўнай. Так вот дзевятнаццаць кілаграм быў. Дліна во, як гэты журнальны стол, але ж ён во гарбаты быў і такі, як свінчо! Ну, судакоў па пятнаццаць кіль браў. Некалі аднаго каціў, каціў па сетке і не даў рады, адцапіўся, выкаціўся і паляцеў, бо ў сетку не ўлез. Ну, мне трэба было яго троху папусціць, каб ён зачапіўся гэтым вусом. Ну не скеміў, па сетке ганю, а ён, таўсты, як гэты стол, па сетке коціцца, але ў лодку не выкаціўся.

– *А што гэта за рыба бялуга?*

— Бялуга — гэта свінка. Яе звалі свінка, падуст. Бялуга, ці свінка, нерастуе на перакатах. Яна ў Вілейцы сабіралася проціў Бондарава, напроціў пераваліі, там быў такі перакат. Там вадакачка такая была і качала ваду на жалезнадарожную станцыю, там была башанка, падходзіў паравоз і даліваў вады. Там робіць зяць Левы Балюры. Балюра таксама быў рыбак, але не такі — знаў, як любую рыбу лавіць, але, ну не меў азарту такога. Яму абы да ракі, закінуць снасці, выпіць. Як выпіў, сам ляжыць у кусце, на ваду ці неба глядзіць, а вы лавіце. А калі ўзяўся лавіць, то мне трэба штосьці дабыць.

***Вілейка** (110 км/400) — адзіны горад у Беларусі, дзе штогод, пачынаючы з 2010г. праводзяцца кулінарныя спаборніцтвы «Дзень судака». Аўтар ідэі, натхняльнік, спонсар, арганзатар і галоўны суддзя кулінарнага конкурса Ігар Сямёнавіч Кіцікаў, дырэктар Вілейскага прафтэхвучылішча (цяпер каледжа), у якім у тым ліку вядзіцца навучанне паварoў. З 2017 на Вілейскім вадасховішчы праводзіцца раённае свята "Уха –фэст" у якім удзельнічалі усе сельсаветы раёна, каледж, многія прадпрыемсвы г. Вілейкі.Кожны удзельнік гатуе юшку па свайму найлепшаму рацэпту, якую можна усім ахвочым пакаштаваць і за грошы і нават задарма пад медавуху і музычнае суправаджэнне –ля пляжа была разгорнута сцэна, па сцэнары фэста праводзяцца спаборніцтвы на лепшае выкананне песні пра рыбалку і гатаванне юшкі, конкурс на самую прыгожую русалачку і т.п .*

**Ігар Сямёнавіч Кіцікаў:**

З Віліі самая смачная рыба — налім, я сам лічно её біл. Із мелкой — келба. Із верховодкі, там, дзе в Вілію речка с Беловоротіцы впадает, её много было — елец. Самая смачная рыба з Вілейскага вадасховішча — судак. Судак — візітная картачка Вілейкі. Судаку трэба паставіць у Вілейке помнік.

З **Аляксандрам Зубрыцкім,** мастаком-аматарам, які з 1956 па 1959 год працаваў афтальмолагам у Вілейскай абласной бальніцы, гутарыў карэспандэнт «РГ» Алесь Высоцкі:

— *Якія найбольш яркія ўспаміны засталіся у вас пра Вілейку?*

— Запомнілася, як уначы на драўляных лодках рыбакі з факеламі білі вялікую рыбу васцямі прама ў Вілейцы. Надта ж чыстая Вілія была тады.

**Віктар Пятровіч Анікеенка,**1951 г. н., заўзяты рыбак і паляўнічы, з 1973 г. працаваў у Вілейцы, былы першы сакратар Вілейскага райкама ЛКСМБ; трэці сакратар Вілейскага КПБ, які атрымаў партыйную вымову за рыбалку ў працоўны час; дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; былы дырэктар камбікормавага завода; дырэктар Бярэзінскага біясфернага запаведніка.

-Рыбу вельмі люблю лавіць, а есці не ем. Ужо калі ем — то толькі самую смачную: ці судака, ці акуня, ці ярша.

**Уладзіслаў Уладзіслававіч Сапея, 1943 г.н. Вілейка, чэмпіён СССР. рекардсмен Еўропы (100м за 10.0), удзельнік Алімпійскіх гульняў у Мехіка.**

Рыбу лавіў у Віліі з малалетсва. Найбольш смачная рыба - лінь. Самую большую што злавіў -усача, не узважываў. На вудачку і леску 0.2 выцягнуў ляшча на 3 кілі, вудзілішча было бярозавае. Найбольш любіў біць рыбу з падводнага ружжа. Падводнае ружжо я сам зрабіў, яно і зараз яшчэ нейдзе ляжыць у сарае. Цяжэй было зрабіць маску. Рабілі з гумы аўтакамер якія станчалі на нет і аконнага шкла. Былі спецыяльныя прыспасобы для лелкага арашэння шкла. Ведаў дзе які дуб ляжыць ад аўтамаста у Вілеку аж да Даманава. Самым лепшым маім сябрам па рыбалцы быў Ленька Валынец. Я перад рыбалкай яго заўсёды чакаў ля Віліі пад вялікім дубам у Раманіхе ці як зараз завуць Красным Беражку. На фотоздымку пасля ўдалага падводнага палявання я стаю разам з аднакласнікам Валекркам Шырочыным. Бываў і наначной рыбалцы з васцямі. Люблю лавіць рыбу і цяпер, акраз да юбілею, на 75 годзе пашчасціла на спінінг злавіць шчупака на 10 кіль.

**Вячаслаў Міхайлавіч Семянковіч, 1949 г. н., родам з Вілейкі:**

Самая смачная **жараная** рыба — сямідырка, ці вугрыца. Сур'ёзна, в ней нет ні жэлчы, ні касцей, і кішкі пустыя. Сямідырку можна і нада ўпатрэбляцьцэлікам**,**эта рыба без адходаў. Толькі, еслі её не капціць, а жарыць, нужна ачышчаць зверху трапкай, пакрытай соллю, — ад слізі.

Самая смачная сырая рыба — ліпень (харыус): яго выпатрашыў, пасаліў — і праз гадзіну, ну два часы, можна есці, яго многа была в прытоках Віліі — Пелле, Нарачанке. Можна пачці адразу есці салёную ікру шчукі і печань ментуза. Прысоленысіг таксама смачны, але ж яго нада саліць два дні. Але найсмачней з усяго — гэта свежая салёная ікра са шчупака. Глаўнае, адразу плеўку удаліць — і солі не жалець.

Судака лучшэ жарыць, чым большы судак, тым смачнее. Капчоны ён, судак, сухават, акунь гарачага капчэння панежнее і смачнее, а гарачага капчэння цырта — самая смачная, толька очэнь кастлявая, децям нельзя даваць. Капціць сама лепш не на альхе а на дудках маліны. Лучшая самадзельная сялёдачка получаецца з язя і яльца. Мяса язя ў марынадзе робіцца краснае, костачкі раствараюцца і з віду і ўкусу ён пачці гарбуша, але найлепш салёны яльчык — ён самы жырны і ўкусны.

Харош, еслі, канечно, чалавек не брэзглівый, в любом відзе угар — і капчоны, і жараны, і заліўное вкуснае, і уха наварыстая, адно дрэнь: - угар быстра прыядаецца. Еслі зловіш замнога, ну, дзень паеш, ну втарой дзень паясі, а на трэці — ужо ў рот не лезе ні ў якім відзе. Адзін год в Слабадском озере вясной лось пад лёд праваліўся, так я летам з таго лася, з падводнага руж'я па дзесяць угрэй каждые выхадные страляў.

Кансервы лучшэ ўсяго ставіць з сяляўкі і ярша, ну і з падлешчыка. Падлешчык кастлявы — только на кансерву і гадзіцца, косці за чатыры часы праварываюцца на нет. Сяляўку, якая б ні была мелкая, нада вначале выпатрашыць. Кансерву я дзелаў так: чысціў рыбу, мыў, крупную резал, мелкую слажывал в стеклянные 0,5 л банкі, дабавляў солі 1 чайную ложку, спецый, кроме лавровага ліста, закататываў крышку — і пад струбцыну. Струбцыны на «Зеніце»

дзелалі і на адну крышку,і на выварку — на 12 поллітровых банак. В выварке нужно кіпяціць 4 часа. Еслі ярша перад гэтым падкапціць, а потым злажыць у банкі, такіе цудоўныя шпроты палучаюцца, сур'ёзна, куда лучшэ рыжскіх. Калі варыў уху на вадасховішчы па просьбе Анікеенка В.П., секратара Вілейскага ГК КПБ для важнага госця для артыста Вячаслава Ціханава, што Шціліца іграў, то спачатку зрабіў адвар з патрашоных ярша і акуня, яле не чышчанага, з луской; і чышчаннага падлешчыка, а ўжо патым адварыў бульбу, моркву, цыбуліну і пад канец палажыў на 15 мінут судака і пару невялікіх шчупачкоў. Да шэраговых спецыў — перца і лаўровага ліста абавязкова дабаўляю перамолаты на кафемолке сушаны баравік, і абавязкова дзве галоўкі чосніку і тры-чатыры памідоры. Ад сябе дадам, што юшку Самую з большых шчуку я паймаў на вадахранілішчы, рукамі, на 24 кг; на жэрліцу з-пада льда — 17 кг, у сетку — на 14 кг. Удзвюх шчук на 24 кг і на 14 кг мяса было ўкуснае і нежнае — іх проста жарылі, так как ані былі пойманы ва врэмя нерэста, а после нерэста мясо бальшых шчук становіцца жосткім, іх надо на катлеты пускать ілі фаршыраваць.

(*Ад аўтара*) *Слава сапараўды рабіў вельмі смачную юшку, гатаванне паходзіла на адмысловы кулінарны рытуал; ён вельмі злаваўся, калі чарга выпадала гатаваць мне – бо я калі — нікалі, пры дэфіцыце часу, калі душа гарэла і трэба было як мага хутчэй зрабіць сраву, а іншай закускі не было, мог карыстацца адным з самых маіх простых рэцэптаў — усе інгрэдыенты – рыбу, бульбу, моркву, цыбулю, спецыі і соль закідваў у кацёл адразу-і на вогнішча, бо лічыў, што пасля трэццяга кілішка гарэлкі ўсе будуць усяроўна нахваліваць страву і прасіць дабаўкі. Бо без гарэлкі юшка- не юшка, а рыбны суп.*

**Анатолій Іванавіч Капцюг,**1951 г. н., родам з Вілейкі (перакладзена з рускай на беларускую):

…Самая смачная рыба з Вяллі — гэта вусач і мянтуз. Вусачоў мая мама гатавала добра. У прынцыпе, з любой рыбы можна стварыць выдатную страву. Вусачоў я лавіў пісталетам. У межах Вілейкі іх ўжо ў 60-я выбілі, хадзілі вышэй, у раён Малмыгаў, Касуты. Там, дзе былі водмелі, і цячэнне вымывала каменне. І вось яны ямкі выбіралі такія.

Вусачы — яны такія, што стаялі там, па некалькі штук, такія па паўкілаграма нават. Можа, яны і большыя былі, але ж я ў першы раз, яшчэ не разбіраўся. Стаяць яны ў яме за каменем, такія прыгожыя. Мы ж хадзілі на іх не на рыбалку, а на паляванне, толькі не са стрэльбамі, а з пісталетамі. Са стрэльбай развярнуцца няма дзе, мы рабілі пісталеты, кароткія такія. Набывалі эспандэры — гэта быў самы дэфіцытны тавар. Колькі б іх у Вілейку не завезлі, хоць поўны грузавік, за дзень ўсё раскуплялі. Там, у эспандэры, былі чатыры гумкі. І гумкі — з пятлёй. Карацей, амаль нічога рабіць не трэба, толькі знайсці латунную трубку, фанеру для ручкі. Трубку прапільвалі.

Канструкцыя спускавога механізма была вывучаная і вядомая кожнаму вілейскаму хлопцу. Хто быў таленавіты і кемлівы ў слясарнай справе, той рабіў капітальный пісталет, а хто рабіў і прасцей. Прычым усе рабілі свае пісталеты на ўроках працы ў школе, між іншым. Дома не ва ўсіх былі варштаты, ціскі,

інструмент. А тут было ўсё: напільнікі добрыя, шмат металу, нажоўкі. Крышкоўскі Багуслаў Станіслававіч, настаўнік працы, быў геніяльным педагогам: не забараняў і не перашкаджаў рабіць пісталеты. Але за ўсім гэтым працэсам сачыў, пры гэтым паказваў на праграмным металічным шуфліку для смецця, як правільна трымаць напільнік, як мацаваць палатно нажоўкі па метале, як зняць фаску і завусеніцы, як надзейна замацаваць у цісках без дэфармацыі трубу, як ставіць заклёпку. З яго ўрокаў «на вагары» ніколі не сыходзілі самыя зацятыя і адпетыя педсаветамі школьныя хуліганы. Тут сапраўды атрымлівалі веды, з дапамогай якіх можна зрабіць усё: і шуфлік, і нават пісталет. Гарпуны былі не ў пашане, усе мы, як тыя бандэраўцы, рабілі на наканечніку трызубец. І вось першы раз пайшлі з Колем Квятовічам каля 1965 года на вусача. Вусача ў межах горада ўжо не было — трэба было ісці або вышэй па рацэ, або ніжэй. Мы пайшлі вышэй, да Малмыгаў, Касуты, бо ніжэй быў не наш раён. Ты ж, вілейскі, ведаеш: у чужы раён нос не сунь. Ну, стаяць два, прыгожыя такія. Я нырнуў, у аднаго прыцэліўся, стрэльнуў. Ну, думаю, усё, другі, як звычайная рыба, збяжыць. Здымаю, хаваю там у нейкую сетку на поясе. Адварочваюся і бачу: другі толькі ледзь адышоў на метр і стаіць тут жа. Я — і другога сюды.

У ваду падалі вялізныя сосны і дубы. З таго боку, дзе Пахомава, Рыбчына, быў лес. Карнявая сістэма аднаго дрэва-вывыратня была памерам з пакой. І вось у гэтых каранях, пакуль размые грунт (відаць, у грунце было харчаванне), збіралася рыба. Хадзіла плотка касякамі, і акунь, а недзе шчупак і язь. Не я, а Коля Квятовіч тады ў каранях забіў шчупака, кілаграмы на два-тры, напэўна. А мы ж як ідзём — месцы ведаем, ныраем па чарзе, хвілін па дваццаць. На падводнае паляванне паасобку не ходзяць, хтосьці павінен страхаваць: пераахаладжэнне, лабірынты пад дубамі і каранямі і іншае. Смешна сказаць, мы, хлапчукі, бралі з сабой бутэльку гарэлкі для сугрэву. Гідракасцюмаў тады не было. Той, хто адседзеў у вадзе, вылязаў і рабіў глыток дзесьці на грамаў трыццаць. Што цікава, пакуль мы ідзём, адзін — у вадзе, а другі — па беразе, а з вады вылязаць не хочацца, па 20 хвілін можна было па няпісаным рэгламенце сядзець у вадзе, інакш — пераахаладжэнне арганізма, можна прастыць і захварэць, дык вось, вылезеш, вып’еш гарэлачкі — толькі сагрэеш страўнік і ні ў адным воку. Хіба што, троху яна дапамагала з гэтага холаду.

І мы так даходзілі да вусця Арпянкі, да Рабуні. Потым — на спадарожную машыну. У нас Колін шчупак не ўлез у пляцак, тырчыць вось такі хвост. Мужыкі адразу грошы прапаноўваюць, купіць. А яшчэ ж там у нас таксама буйная рыба: вусачы, акуні. Ну, дзе ж ты прадаш такую прыгожую рыбу, калі толькі ўехалі ў горад з такімі хвастамі! Якія тут могуць быць грошы? Яшчэ наперадзе, па дарозе дадому, амаль уся Вілейка, трэба ж засвяціцца, каб потым можна было як бы неўзначай і пахваліцца!

Потым яшчэ прынята было ў нашых пацаноў з Дзяржынскага хадзіць кампаніяй на сур’ёзную рыбалку, на два дні. Бралі не толькі пісталеты, але і вуды. На такой рыбалцы гатавалі самую смачную ежу з рыбы, якую я калі-небудзь

спрабаваў. Страва гэта была юшка. Але не такая, як цяпер робяць. Бралі з сабой вядро, набівалі яго поўнасцю ўсякай дробнай рыбай: плоткай, акунём, сяляўкай, яльчыкам і нават шчупаком, рабілі навар, працэжвалі, рыбу выдалялі. І на адвары рабілі юшку спецыяльна толькі з тлустай келбы, з адных адборных печкуроў. Такі вось рэцэпт быў вілейскай юшкі. І поліўка, і рыба былі проста аб'ядзенне, магчыма, яшчэ таму, што самі гатавалі.

Калі хадзілі на рыбалку з начоўкай, заўсёды ладзілі спаборніцтвы: хто адным стрэлам больш плоткі здабудзе. Так, ракорд на трайнік-трызубец быў чатыры штукі. Плотка стаіць шчыльна так, дзесьці забіваецца пад дуб — даш нырца і бачыш раптам пад пэўным вуглом суцэльны срэбны бляск, можна нават не цэліць у асобную рыбу, а біць адрау, як вестарнаўскі каўбой Ліманадны Джо, ад бядра. І вось мы набівалі плотку, потым хтосьці шукаў цыбулю, каб юшку варыць, хтосьці лавіў келбу і іншую драбязу вудай. Тады начавалі без палатак, проста на зямлі, без тэрмаізалючыхдыванкоў; спосаб гэты перадаваўся хлапчукам з пакалення ў пакаленне, пакуль палаткі не сталі даступныя. Распальвалі вогнішча, надзіралі моху, зялёнага, пышнага, раскладвалі вакол вогнішча. Яно гарэла, мы на ім гатавалі ежу, мох награваўся, аж пар ад яго ішоў. Потым — касцёр далоў, і наверх насцілалі гэты цёплы, аж гарачы мох. І клаліся. Ну, колькі там спалі, больш сядзелі гадзін да дванаццаці, а ў чатыры ўжо віднела , станавілася халаднавата, ужо ўставалі, разміналіся: школьнікі, што там, пабегаем, паскачам — і сагрэліся. Пасядзім яшчэ раз, абгаворым і выберам рыбныя месцы, пакуль сонца ўстане нармальна.

Ну, а так, калі дзяліліся ўражаннямі, даведваліся, што самыя ўлоністыя для пісталета месцы былі ніжэй Вілейкі, дзе ўпадае Нарачанка. Там былі шыкоўныя ямы, да чатырох-пяці метраў. Туды пісталета было мала, патрэбныя былі стрэльбы — на вельмі буйную рыбу. Але гэта было ў сярэдзіне — канцы 60-х гадоў, калі ў Вілейцы ўсе пагалоўна закінулі вуды, ну, акрамя старых і малых да 12 гадоў, і перайшлі на падводнае паляванне. А яшчэ раней у межах Вілейкі рыбы было, і ўсім хапала. Толькі на ўчастку ад спуску па вул. Дзяржынскага да парка (вул. Першамайская) лавілі што дзень не менш дзясятка-двух шчупакоў. Выцягнуць, а яны на наступны дзень прыходзяць зноў, яны ж недзе жылі.

Былі ў нашым раёне Вілейцы два пастаянныя дарослыя рыбакі. Аднаго звалі Чалей. Іх дом на рагу знеслі, калі будавалі «Аграпрамбанк». Былі ў яго снасці спецыяльныя. Чалей любіў лавіць на караблік, запускаў жыўца да супрацьлеглага берага. І быў яшчэ адзін рыбак, які працаваў поварам у рэстаране. Хлопцы ўсе яго так і звалі — Повар. Ты павінен памятаць: быў такі падцягнуты, зграбны дзядзька. Ён нікуды па рацэ не хадзіў. Выйдзе з дому па Дзяржынскага, пройдзе прама да ракі, пакруціцца тут паўгадзіны, а то і менш, і вяртаецца, несучы тры шчупачкі. Гаворыць: усё, хопіць, рыба смачная толькі, калі адразу з вады. Чалей таксама — зловіць тры штукі і адразу дадому.

А колькі ж яшчэ хлапчукоў было! Усе хадзілі на рыбалку і вярталіся назад з рыбай, абавязкова са шчупаком. Вуды на жыўца ў бераг уваткнём і гуляем фінкай

у рэпку ці карты. Потым хтосьці заўважыць, крычыць: «Хапай, твая вуда, ужо канец у вадзе!» — «Зараз, дай скончу!» Выцягваеш, а шчупак жыўца ўжо заглынуў унутр так, што, калі пашчу раскрываеш, і не бачна. Нажом разразалі, даставалі з сярэдзіны пуза.

Раней вуліца Дзяржынскага ўпіралася прама ў ваду. Там было вельмі камяністае дно, зроблены прычал, дзе навязвалі на ланцуг лодкі. Камень быў на дне проста суцэльны, і ментуза было шмат. Мянтуз лавіўся сантыметраў па трыццаць. Нас ругалі, а мы кралі дома відэльцы з нержавейкі, малатком крыху расклёпвалі, разводзілі, рабілі там завусеніцы. Заходзілі крыху вышэй за калена і паміж гэтымі камянямі ментуза відэльцам здабывалі. Гэта была не рыбалка, а такі занятак. Гэта раней, калі яшчэ малодшымі школьнікамі былі. Кляшняк, Каркоцкія — нас было шмат. Я быў не рыбалоў, так, за кампанію, а вось калі падрос, і пайшлі пісталеты, там мой тэхнічны ўхіл, мабыць, спрацаваў. А вуда ці відэлец — так усе лавілі, і я лавіў. Пісталеты ж — гэта цікава, зрабіць самому, нырнуць пад дуб, выцаліць. Была такая павальная мода ва ўсіх.

На вуліцы ў нас жыў святар, твой сусед, межаваў з Мажулямі. Яго сын Ігар, старэйшы за нас, можа, і даваенны, першы прывёз на нашу вуліцу сапраўдную падводную стрэльбу з Ленінграда. Усе сабраліся, а ён паказваў і расказваў будову і правілы карыстання. Ён часта прыязджаў, нават атрымаўшы званне прафесара Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Раней яна была семінарыяй. Ігар скончыў семінарыю, акадэмію, але служыць не пайшоў, яго пакінулі ў навучальнай установе. Абараніў там дысертацыю, застаўся выкладчыкам. Ён быў заўзятым рыбаловам і паляўнічым. Але, як я ўжо казаў, гэта была не наша публіка, а старэйшая, з года саракавога. У яго была такая кароткая бародка, як цяпер прафесары носяць.

Глінкай называлі месца, дзе мы купаліся. Назва таму, што ўвесь бераг быў гліністы. Я падазраю, што даўней, калі там быў порт, і будавалі прычалы і прыстані, палі забівалі, то гэтую гліну маглі насыпаць. Месца было глыбокім — адразу глыбіня ў метры два з паловай. Цягнулася яна амаль да гідрамета, там была самая глыбокая яма. Памятаю, Валік Субач там шчупака больш за 15 кілаграмаў дастаў, усяго ў ракавінках. Проста пашанцавала. Хлопцы ўбачылі шчупака, ён збегаў дадому, узяў пружынную стрэльбу, маску і нырнуў. А мы стаім на беразе. Яго доўга не было — і раптам выныўвае, выскаквае на бераг. Вочы лупатыя, зрэнкі па тры капейкі, стрэльбы няма, і ні слова не можа сказаць з перапуду. Толькі калоціцца і стаіць на беразе. Мы пачынаем разважаць: напэўна, шчупак стрэльбу сцягнуў, і старэйшы брат Коля заб'е яго за гэта. Стаім, і праўда, першае, што Валік сказаў, было: «Канец мне за тое, што ўзяў стрэльбу». Яшчэ пастаялі і раптам бачым — нешта там з вады ўсплывае. Усплывае шчупак больш за метр даўжынёй, на ім нейкія п'яўкі, наросты, наліпла ўсяго. Уяўляеш, ён як убачыў рыбу з кракадзіла пад вадоў, са страху выстраліў і трапіў у першыя пазванкі, гарпуном перабіў спінны мозг. Гэта проста ўдача. Бо яна як рванула, вырвала стрэльбу з рук.

Валік, калі ўбачыў, што яна ўсплыла, кінуўся адразу ў ваду, схапіў за лёску, да якой гарпун быў прывязаны, і пацягнуў. І зараз памятаю, як гэтага шчупака Валік цягнуў дадому. Іх дом прама на рагу, дзе трэба паварочваць. Набярэжная там. Вось ён узяў рыбу за жабры, паклаў на плечы так, што хвост яе цягнуўся па зямлі — яму было 13 гадоў, сёмы клас, ужо высакаваты быў. Прывалок яе дадому, маці пачала гатаваць, паспрабавала смажыць — шчупак проста рассыпаецца. Але ведаеш, бабы, час такі, не выкідаць жа — перакруціла на фарш, нешта там дадала і зрабіла катлеты. Дык Валік іх пару тыдняў еў.

***Грышкевіч**, 1941 г.н. (перакладзена з рускай на беларускую):*

…Самая смачная рыба — келба. Да 1957 г. прама ў Вілейцы вялікаю рыбу – васачоў, шчупакоў, ляшчоў лавілі папросту ўначы з лодак на лучніцу са смаляком. На ўвесь горад былі толькі два чалавекі, якія прафесійна займаліся лоўляй рыбы сеткамі з лодак, хаця рыбу лавілі ўсе. Самае ўловістае месца было каля ўрочышча Кляцішча, гэта там, дзе ўпадала рэчка Халопаўка, дзе цяпер плаціна ў раёне вадаскіду.

**Леанід Дзмітрыевіч Бурко**, 1946 г.н., родам з Вілейкі, кандыдат біялагічных навук,іхтыёлаг, намеснік дэкана біяфака БДУ (перакладзена з рускай на беларускую):

…Самыя смачныя рыбы з Віліі — калі браць агулам, з улікам таго, што тут некалі вялося, — балтыйскі асётр, сёмга, кумжа, мінога. Апошняга балтыйскага асятра злавілі ў Вілейцы ў 1953 г. на Дынамцы жывадзёрам. Пра гэта мне расказаў былы старшыня Вілейскага БТПР (Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў) Іван Архіпавіч Ахрэм. З яго словаў, гэта была самая смачная рыба на Вяллі, а я яго ўжо не застаў. Не хапіла пары гадоў, каб паспрабаваць. Ласося -сёмгу і кумжу можна набыць у магазіне, а можна з'ездзіць у Літву і самому вылавіць па ліцэнзіі ў Вяллі. І, канешне, добрая мінога рачная. У нас не купіш, у Літве яе спрабаваў. Яна і цяпер ёсць у Вяллі, нельга яе залічваць да зніклага віда. З рыбы, што цяпер можна лёгка самому злавіць у Вілейцы, на рацэ і ў вадасховішчы, самы смачны судак, потым буйны акунь, потым ёрш.

Лавілі мы ў дзяцінстве выключна на вуду, у праводку, на лічынку аўсяніка (матыліцу). Вудзільная лоўля была калектыўнай, удзельнічалі не менш 5–7 чалавек. Па чарзе па адным заходзілі ў ваду і разміналі на пясчаным дне рукамі і нагамі ком матылічніка. На каламуць ішла рыба, і ў гэтую струю закідвалі, стоячы шэрагам уздоўж берага. Лавілі такім спосабам больш за ўсё добрага ляшча, яльца, плотку, цырту, галаўня, язя. А старэйшыя, даваенныя хлопцы займаліся падрывам. Здаралася, што глушылі рыбу нават на Дынамцы.

Нашымі самымі лепшымі месцамі былі першая і другая Дубаўка, Раманіха і, канешне, Чорны бераг, за Асіпавічамі ў раёне Даманава, туды хадзілі з начоўкай. На Глінцы, каля лесазавода, мы не лавілі — не наш раён (мяжа ішла то па Чырвонаармейскай, то па Першамайскай).

**Ігар Васільевіч Лупіносаў**, 1948 г. н., родам з Вілейкі:

...Мне больш усяго нравіліся ментузы (так іх тут называлі), добры акунь і лінь. Лінь, карась — гэта такая более сладкая рыба. Акунь — тожа надта харошая. А найболей мне нравіўся мянтуз, асабліва пячонка. Яна ў яго асабліва бальшая пад нерэст. Рыбачыць усе пачыналі тут з дзецтва, з шасці-сямі гадоў вудамі. Раньшэ тут сплаўлялі лес па рэчцы, і былі бомы, не даходзячы лесазавода. Такія вот плыты, звязанныя папярок ракі, называюць бомамі. І перахадзілі па ім на той бок, бо рака была надта глыбокая, і было там рыбы ваабшчэ поўна. Як цяпер помню, акуні такія «царскія» з-пад бомаў гэтых цяглі на вудачку — чуць выцягнеш. На тым баку былі вазёры — Цішкава, Козье, Сцулінка; туды пад Вольшына, Сенішча, Лазарцы, аж да Слабады былі азёры, азёры, там было возера Гнірова, было возера Падвельцы. Мы там лавілі таптухамі. Гэна мясцовасць называлася Ятчыне. Там яшчэ сартавая смуродзіна расла. Я пацаном быў. Там раньшэ пан жыў, гэта ягонае было. І асталася смародзіна, астраў такі абразаваўся Ятчыне, бо рака раздваівалася. Лавілі там ў аснаўном ліня, карася і шчупака. Піскуноў, ці, іначэ, уюноў, было пално ў кожным возеры. Палазы такія былі — два крылы, адзін ззадзі топчыць, как падымеш — там іх пално. Елі іх, знаеш, яны даволі ўкусная рыба. Прывыкці трэба проста было, но хватала ўсялякай другой рыбы, дык на піскуноў проста вніманія не абрашчалі. Лескі не было, кручкоў не было. Леску плялі з конскага воласа, з хваста, а кручкі самі дзелалі. Падбіралі провалачку болі пасталісціе, як ціпа цяпер скрэпкі. Ну тады аб каменьчык шмаруеш, шмаруеш, тады выгінаеш кручок, чарвячка і зараз жа насцёбаеш келбы (пескаря). Келба надта ж добра бралася. Позжа паявіліся магазінныя кручкі, але дастаць іх было сложна, еслі ў каго радзіцелі побагачэ, прывязут з Мінску ілі Вільні два-трі кручка. У аднаго ёсь, у астатніх няма. Украдуць, адгрызуць. Потом ужэ сталі в магазінах Вілейкі паяўляцца кручкі і леска, тады ўжо пачалася настаяшчая рыбалка. Рыбакоў тут заядлых многа было, старшы брат мой Лёнька, Юров такі, друг яго, Коля (Казановіч) — повар з рэстарана. Ментуза лавілі прама напроціў дома — кроўжа накапаеш, шнуры паставіш вечарам, раніцай знімаеш — былі харошыя, па кілаграму, па штук восем-дзесяць, дажа кагда дванаццаць хвастоў на шнурэ. На шнур ставілі дваццаць кручкоў. На платву і ляшча лепшай нажыўкай была матыліца. Матыліцы было поўна ў кожным беразе, цяпер няма, прапала. А тагда нырнеш, глыбу адарваў, разаб'ёш — усё. Чырк на кручок — і платва, яльцы адразу. Брала і цырта. Цырта ў асноўным і круцілася, дзе высокія берага, дзе матылічнік. У неё рот такі знізу. Ана імела разный цвет, еслі жыла окала матылічніка, то верх у неё был цёмный, чорный, еслі ана гдзе на пясчаным месце — то светлая становіцца. Такая рыба, што мяняла цвет. На матыліцу её і лавілі, но ана астарожная рыба, яна рэдка бралася. Цырта, бялуга і свінка — гэта адна і тая жа рыба. Гэта як хто называў: па меснаму — свінка, таму што рот у яе быў пахожы. Хто называў бялуга, хто цырта. Па вясне, як ішла на нераст, тады ўжо пално людзей па берагах са спінінгамі, уся Стаханаўская стаяла, лавілі на жывадзёра. Яна на камнях, на жвірку нераставала. Калі відзіш, што стаіць многа людзей са

спінінгамі — так і знай: ужо сёння цырта нерастуе. Хто за бок, хто як падцэпіць, мяшкамі запасалі за дзень.

Усачы былі, так я іх лавіў так: на кручок паболе чарвей, штукі тры-чатыры, такія тоўстыя. І тут прама ў нас у парке пад камнямі. З берага, там дзе водмель, заходзіў у ваду і пускаў здалёк нажыўку. У нацяжачку пускаў, з-за паварота, падводзячы да каменя, там, дзе яны абітаюць, так як дасць, чуваць па леске, хоць і паплавок быў, падсячэш рэзка — адразу цягнеш. Але найбольшым майстэрствам у пацаноў счыталася злавіць на рэчцы на вуду язя і ляшча. З пісталета я першы раз, нырнуўшы, рыбіну ў 1957 годзе, у трэцім класе. Пайшлі разам з Генкам Кудзіным, у яго быў самадзельны пісталет. Вусачы стаялі пад карчом сем'ямі, па пяць-шэсць: як пачнеш — аднаго забіў, а яны не адходзяцца, дык з-пад карча ўсіх выб'еш па аднаму. Найбольш карчоў і усачоў было пад лесазавод, там лес сплаўлялі, на дне тапляка было многа. Былі там экзэмпляры па пяць кілаграм. А самую вялікую рыбу-шчупака я злавіў на вадахранілішчы на сямнаццаць з палавінай кілаграм. Маці пусціла на фарш і катлет надзелала поўны таз, дык такія харошыя катлеты былі.

...На лучніцу хадзілі прама ў Вілейцы, сам яшчэ хадзіў. Відзеў у лодках такі прэнт папярок устаўлены, так туда шэст такі ўстаўляеш, на шэст вядро з дыркамі. Касцёр распаліш у вядрэ — і пашлі ўдваіх: адзін з астрагой во так во, другі з шостам талкае. Прама ў чарце горада і вышэ туды. Яно асвяшчае — так калолі язёў, шчупакоў. Тагда ж запрэта такога ж не было.

...Палатно сеткі да трыгубіцы ў Вілейцы рабілі пяці размераў. «Ляшчоўку» на 75-80 мм, лешч лез і ў саракоўку. Даўней не было, каб як зараз, стандарт саракоўка: нявопытныя рыбакі вязалі сеткі ў завісімасці якую рыбу хацелі злавіць. Чыста саракоўку не рабілі, не так лезла рыба, а вязалі на 38 мм, ці 45 мм, не было так, каб была роўна трыццатка — а рабілі ці 32 мм — на невялікага шчупака, акуня ці на 28 мм — на бальшую плотку. «Яльцоўка» была на 22 міліметра, бо на 25 ялец ужо праскаківаў. Самае малое ачко вязалася для сялявачніцы, ці, як звалі, «на верхаводку», ад 10 да 15 мм.

**Уладзімір Мікалаевіч Альфер**, 1956 г.н., родам з Вілейкі (перакладзена з рускай на беларускую):

…Я буйнога ляшча люблю. Таму што судак — ён рыба такая, смачная, але трэба ўмець прыгатаваць. Ён вельмі добры ў цесце, як у нас тут робяць. Яго добра запякаць у фальзе, напрыклад. З соўсам тушыць. А вялікага ляшча нават падсмажыць — ужо добра. Ляшча, які больш за паўтара кілаграма. Лепш, калі на 3-4 кілаграмы трапіцца. Акуня буйнога добра вэндзіць, шчупака дробнага — смажыць. Але менавіта дробнага: чым буйнейшы шчупак, тым цвярдзейшы.

Гэта тры самыя смачныя рыбы, якія масава даступныя. А ёсць рыбы дастаткова рэдкія, але таксама ў нас сустракаюцца. Той жа лінь, да прыкладу. Лінь — рыба смачная. Ёсць жэрах — таксама смачная рыба. Але яе мала. Ёсць мянтуз, але яго зноў жа мала. Калі выбіраць з гэтых рыб, тады мянтуз, але толькі свежы, бо яго нельга есці пасля замарозкі. Ляшча — можна, а мянтуз поўнасцю страчвае

смак. Ліня добра, як і ментуза, смажыць. Але з ментуза ёсць самая выдатная страва — гэта печань, якая валодае выключным смакам, яна займае дзве трэці брушной поласці. Трэці па смаку пасля ментуза і ліня — жэрах. Гэта спецыфічная рыба, яе трэба ўмець гатаваць. Гэта самая тлустая рыба, з яе самае смачнае — вялены балык. Спачатку трэба пачысціць, распляскаць, аддзяліўшы мяса ад хрыбта. Або разрэзаць уздоўж: адзін пласт з хрыбтом, другі без хрыбта. Пасля прасолкі павяліць.

**Уладзімір Ігнатавіч Кульбацкі**, родам з г. Белагорска Амурскай вобласці (перакладзена з рускай на беларускую):

…Там, дзе цяпер міліцэйскі пост на ўездзе да дамбы вадасховішча, нічога не было. Яго потым адсыпалі. У нас была афіцыйная лодка. Лавілі шчупака на дарожку у 75-м і 76-м гадах. Яго было вельмі шмат, што заканамерна для вадасховішчаў. Я з Пецькам Сільвановічам (ведаеш кранаўшчыка?) раніцай на лодку — і пайшлі на вёслах. Метраў 20–30 прайшлі — адна-дзве ўжо ёсць. Маторка таксама ў мяне была. За дзень, да абеда, штук сорак–пяцьдзясят лавілі. Не адзін жа едзеш, чалавекі тры ззаду, то адзін, то другі цягне. Яршы ў вадасховішчы размножваліся хутка, раней іх у Віліі амаль не было. Начальства на першую насосную паедзе, яму брадніком зацягнуць тры мяхі — на ўсю ноч чысціць. У першы год пасля таго, як перакрылі Вілію, з нізоўяў, з ручаёў хлынула колюшка, для яе былі прыдатныя ўмовы. Вядро дзіравае з вадаскіду кінеш уніз — амаль паўвядра колюшкі выцягнеш. Цяпер на земснарадзе яе поўна. Сусед пайшоў, маленькае вядзерца хутка нацягаў малявачнікам — курам. А бічы робяць фірмовую юшку з колюшкі, з яе тлушчу столькі, ажно жоўтае ўсё ў ёй. Юшка гэтая называецца «з вілейскай скумбрыі». Яе і чысціць не трэба, зварыў — і ўсё тут. На раніцу так застывае, што лыжка вертыкальна стаіць. Калі рабіць двайную або трайную юшку — то гэта ідэальны булён. З ярша і акунька таксама выдатны булён. Ідэальная юшка бывае, канешне, у залежнасці ад гатунку вялікай рыбы. Але ёсць аснова, калі на вядро бульбы кідаеш вядро дробнага акунька з яльчыкам для навару. Дадаеш груцы. Бульба варыцца 25 хвілін. Галоўнае — не пераварыць.

Да перакрыцця Віліі было шмат цырты: яе мясцовыя звалі «бялуга» або «свінка». Сапраўдная цырта нерастуе летам, а свінка — увесну. Цырта — жоўтая, а свінка — белая. Больш за ўсё цырты было на Нарачанцы. Вугра і нядаўна выцягнуў на вадаскідзе, і раней трапляўся. Сома лавілі на вадаскідзе, маленькага. Зловіш соміка, занясеш, выпусціш у вадасховішча. Гадоў пятнаццаць таму маленькага сома на вадаскідзе было навалам. Часам і на вадасховішчы трапляюцца. Самага вялікага шчупака мы спаймалі на 18 кілаграмаў. А па 16 некалькі разоў трапляліся. Яшчэ «снікерсамі» лавіў. Павуком судакоў па дзевяць кілаграмаў лавілі.

Самыя дробныя сеткі адзін і два — сялявачніцы. 12 міліметраў. Яльцоўка — сетка-двойка, ну, бывае ад 18 да 22 міліметраў, хто як больш любіць. «Дваццацьпяткі» — сеткі на плотку. Далей былі трыццаткі. У іх у нас ялец часта садзіўся. Самыя хадавыя былі саракоўкі. Ляшчоўкі — гэта сеткі ад шасцідзесяці.

На пад'ёмнік звычайна ставілі з двух бакоў рэдкую сетку, а пасярэдзіне — сетку-саракоўку. Я вязаў пяцёрку. У мяне павук быў два з паловай на два з паловай. Вось яго пацягаць трэба было. (Смяецца). Там — як падняць на лодку. Выбіралі рукамі: калі такі на кале падымаць, то пуп лопне. Штангіст быў такі, Жабацінскі, той бы падняў. Падымаеш рукамі, а ён бокам ідзе, пруты па борце і раз — у лодку. Для таго і рэдзь ставілі з двух бакоў. Ён, як блытанка, быў. На палцы таксама павук быў лёгкі. Метр восемдзесят на метр восемдзесят, ну, даш каму пазабаўляцца. А я сваім калі ўзяў, то ўзяў. З Воўкам, бывала, па пяць-шэсць во такіх рыбін цягнеш за раз, такіх добрых. А адзін раз, узімку, узяў адразу 20 буйных ляшчоў і язяў. Нават 22 за раз. Цягнеш — дык ледзь выцягнеш. А цяпер ходзіш-ходзіш — і нічога.

Самыя смачныя рыбы на нашым вадасховішчы — судак, лінь. Акунь мне таксама падабаецца. Смажаны. Я любіў, калі Слаўка Семянковіч судака рабіў. Ён яго ў алеі добра прапітваў. А потым смажыў. Азоўскага судака даводзілася есці — ён больш салодкі, тлусты і больш смачны за наш. На Нарачы сіга лавіў Сярожка Мысін. Частаваў. Смачная рыба. Ласося на тры кілаграмы давялося злавіць на Віліі ў раёне «Буддэталяў». Гэта не нашанская рыба, адразу відаць, што з мора. Стронгу лавілі на тры кілаграмы, а асятроў на вадаскідзе не лавілі, я бы ведаў. Стронга гэтая не чыста марская, а рачная. Раз паставіў шасцёрку на ляшча на вадаскідзе, якраз брат мой прыехаў, а ўлезла стронга або, як ты кажаш, кумжа. Паехалі да Валеркі Ката (у яго лазня ў Івонцавічах), юшку зварылі. Ён такой юшкі і на Волзе не спрабаваў. Смачная рыба — стронга. Сямідырка — гэта мінога, вялікая верацяніца ці вугрыца.

Была і вялікая. Мне дзядзька, Гаўлік (мянушка) Лёва Глускі такі, расказваў пра сямідырку. Яго жонка і мая цешча родныя сёстры былі. Раней на нераст сюды прыходзіла, да камянёў прысмоктвалася. Да камянёў, што вымытыя на перакатах. Да вайны шмат было, і пасля вайны яшчэ прыходзіла. Яна пасле нерасту здыхае. Я яе толькі пару разоў і бачыў. А купляў яе ў Ленінградзе вэнджаную, да піва. Смачная. Лёва жыў на перавалцы, рыбак быў. Я з ім з Вілейкі на лодцы ледзь не да Суток даходзіў — гэта да вадасховішча было. І на Воўчышчы лавілі. Гэта дзе цяпер Востраў кахання на вадасховішчы. Якраз тут гэтае Воўчышча было. Старыца вельмі вялікая была, калі Вілія ішла. Насупраць Слабады. Гэта было вельмі рыбнае месца, там зімавальныя ямы былі, некалькі азёраў.

Раней глыбіня была, я з маскай усе ямы на Віліі і ў палове Нарачанкі аблазіў. На Нарачанцы ямы былі па пяць-шэсць метраў. Я з маскай не пісталетам, а падхватнікам лавіў. І шчупакоў, і язёў. А пісталетам толькі таварны выгляд рыбы сапсуеш. Добра лавіў рукамі. На Дынамцы лавіў пад берагам. На Глінцы. Ведаеш, дзе Глінка была? Спускаешся з танцпляцоўкі — і ўлева, пяцьдзясят метраў уверх уздоўж берага. Там была самая вялікая глыбіня адразу з берага і камяні-валуны. Пад іх нырнеш — заўсёды ментуза возьмеш. Было вілейскае прыслоўе: «Прэш на Глінку — бяры вілку». Там адэльцам ментуза пад камянямі калолі. На левым беразе, за Казіным мастком, былі тры азярцы: Сцулінка, Акунёўка і невялікае (забыўся назву), трыццаць на дзесяць, не вельмі глыбокае, метраў пяцьдзясят ад

берага і пятнаццаць ад Сцулінкі. Там, дзе ручаёк, у старыцы заходзіла краснапёрка, я яе з лодкі на вуду лавіў. Краснапёрка хадзіла там чародамі. Адну-дзве спаймаеш — парвуць лёску. А лёскі тады не было. Або кручок адарвуць, таксама дэфіцыт быў. Але прыгожая рыба, не мог не лавіць. А ўзяць язя! Прыгожая і смачная рыба, калі правільна прыгатаваць. Трэба маласолачку рабіць. Язь паляжыць, соль выдаляе дробныя косткі. З жэрахам — таксама. Трэба рэзаць на пласты і саліць, ці таксама маласолку: пастаіць, дастаў — і з бульбачкай вось смачна! Люкс. Жэрах — моцная рыба. Мы жэраха сеткай уплаў лавілі. А на вадаскідзе я яго на спінінг спаймаў на вялікую жоўтую бляшню.

**Сяргей Аляксеевіч Пучкін, 1954** г. н., родам з г. Пермі. *З 1981 г. жыве ў Вілейцы, працаваў трэнерам па грэблі на байдарках і каноэ; практычна на голым энтузіязме, самавольна рэканструяваўшы пустуючы будынак невядомага архітэктара, абсталяваў вяслярную базу (байдаркі) на Вілейскім вадасховішчы, дзе было месца пад вогнішча, і стол на 20 чалавек пад навесам. Пасля працы і ў выхадныя гадоў дваццаць пяць прымаў на базе гасцей, сяброў і «патрэбных людзей», частуючы юшкай :*

…Самыя смачныя рыбы на вадасховішчы — судак, акунь і асенняя плотка. Восенню, калі вада робіца празрыстай і плотка перастае харчавацца водарослямі а корміцца выкючна жучкамі-чарвячкамі, ужо да кастрычніка набывае асаблівы выключна нежны і прыемны смак. Калі зварыць у сагане нават тры вялікія плоткі, то назаўтра юшка загусцее — ні ад адной рыбы так юшка больш не гусцее, такая плотка становіцца жырная увосень. Смачны таксама буйны вясенні ёрш. Плотку і ярша лепш есці смажанымі. Добрая стронга, але рэдкая, я толькі дзвюх злавіў у 1982 годзе на Віліі ў раёне ўпадзення Пляснянкі, або Гаўнацечкі, як яе тады абзывалі. Самая вялікая рыбіна, якую я злавіў на Вілейскім вадасховішчы, — гэта быў, канешне, судак на восем з паловай кілаграмаў. Юшка добрая толькі, калі ў ёй прысутнічае не менш за тры віды рыб: пажадана два драпежнікі і адна белая. З драпежнай рыбы лепшы смак юшцы надае акунь, яшчэ лепш — ёрш. Калі няма трох відаў рыб, юшка не атрымаецца. Спачатку закладваю для навару плаўнікі і галовы, потым — бульбу. Бульбу кладу цалкам. Праз некаторы час закідваю груцу (ячневаю крупу): яна дае мяккасць. Потым цыбулю — у рэпах, і ў канцы — рыбу, парэзаную буйнымі кавалкамі. Самая галоўная спецыя для юшкі — соль. Таму, каб юшка ўдалася, я кладу соль па гусце, і толькі ў самым пачатку варкі, пасля таго, як закінуў бульбу. Каб можна было як след распрабаваць ледзь гарачы булён, але толькі не кіпень. Салю ваду заўсёды з невялікім лішкам, з разлікам, што бульба і рыба забяруць лішняе і атрымаецца самае тое. За пяць хвілін да гатоўнасці дадаеш кроп, перац духмяны, перац чорны, далей кідаеш лаўруху. І ўсё. А каб надаць сапраўдны смак, загадзя кладу ў вогнішча бярозавае палена. Яно падгарае, становіцца галузай, палымнеючай галавешкай. Яе акунаю прама ў юшку. Перад самым зняццем. І усё. Менавіта бярозавую, хаця, калі няма бярозы, можна і альховую (*перакладзена з руск*).

**Аляксей Іванавіч Чарапан, 1956 г. н., Вілейка:**

...Самыя смачныя рыбы на водахранілішчы былі сазан, жэрах, судак. Жэрах кастлявы, але яго нада сялёдкай рабіць ці капціць — очэнь сочный і жырны. Гарачага капчэння таксама смачны бальшы лешч. На рацэ Віліі самыя смачныя — гэта налім, сяляўка ці ўклейка, цырта, акунь.

...А што раньшэ рыбы было нават тут у Вілейскім парку! Бяром жменю майскіх жукоў, бальшых, і ў рэчку — бах. Толькі над вадой адразу — цмок, цмок, цмок і ўсё — праз пяць мэтраў чыста. Язі. Тут перад Лысінай Паца была па дну сплашная града камянёў, я там вілкай ментузоў пароў, іх там аж кішэла. А цяпер іх не стала ваабшчэ. А яшчэ летам сюды прыходзіла нейкая вялікая рыба з мора. Плёхала тут, праз сеткі пераскоквала. Яе ў нас звалі сігі. Але настаяшчыя сігі куды менш, іх лавілі на Нарачанцы, найбольш міліцыя электравудамі. Ездзілі і з «Зеніта» — Сяргей Гулецкі — дабывалі інагда. І зараз яшчэ рэдка, але ловяць. Старэйшыя хлопцы — браты Каркоцкія прама тут, на Первамайскай, за перакатам глушылі цырту. На рэммехмасцярскіх з аднаго боку заварывалі трубу, з другога заплёсківалі, астаўляя дзюрку, засыпалі порахам, устаўлялі бікфордаў шнур і кідалі ў ваду. Як рване — рака бела ад цырты і свінкі. Ну любілі гэта месца два віда іх пахожых — сырць і падуст.

Судак на Віліі паявіўся толькі ў 73-м гаду, перад самым вадахранілішчам. Лавілі на жыўца напроць втарой школы па сем кіль. Аказваецца, вродзе судака запусцілі на Нарачанскія азёры, а ён праз Нарачанку скаціўся ў Вяллю, не палюбіў той вады. І судак дзяцей сваіх водзіць два гады. Я сам відзеў, нырнуў каля жалезнадарожнага маста з маскай, правы бераг, там, дзе былі кагда-та карчы. Іх там стада — два стаяла чуць ззаду, па два з бакоў, а ў сярэдзіне самыя вялікія, а паміж імі ўкругавую малыя. Хацеў бальшога застрэліць, а малыя падпіралі, і папаў у такога на паўкілі. А назаўтра я пайшоў, гэту стаю відзеў ужо ў Вілейцы. Тут на Дзяржынскага нырнуў, напроць дзе потым пабудаваў дом Сініла. Яна толькі фьюць — толькі іх і відзеў. На вадахранілішчы кагда выбіваюць на мармышку малькоў судака з глубіны дзесяць мэтраў–то завуць іх сіроткі.

Судакі акружаюць малька, і пачынаецца жор. Я раз злавіў судачка на 800 грам, так у ім было дваццаць шэсць акунькоў унутры. Прэдстаўляеш, аны як малька акружылі, брухі набіваюць, набіваюць. Шчупак не так есь.

Міногу я толькі раз злавіў у таптуху. Во гэткую (50 см). Улезла шчупаку у жабры, была ўпіўшыся, мы яе кінулі сразу. Злавілі тут, прама ў Вілейскім парку, сразу дзе Первамайская ўпіраецца ў раку. Было гэта ў саплівым дзецтве, у 69-м гаду, мне было трынаццаць гадоў. Злавіў я яе з Кунавічам Толей. Помніш, ад старога малаказавода ў Вілію ручаёк упадаў, дык у раёне гэтага ручайка. Там такі каменны перакат быў. Ніжэй была «Лысіна Паца» і «Глінка» а напроціў была баржа затопленая.

...Я самага бальшога шчупака злавіў на 14 кг 600 г, судака на 10 кг 100 г, жэраха на 6 кг 750 г, фарэль на 800 г. Марскую фарэль, ці кумжу, злавіў не я, проста на мяне казалі: «А знаеш, Раман Ц-н у Глінным у 2011 г.».

...Самага большага ментуза застрэліў на дзве кілі, дзе Трусава плаціна. Бацька мой казаў яму, што плаціне будзе кірдык, ён гідролаг у мяне. Ён (Іван Спірыдонавіч Чарапан, 1924 г. н.) адразу, як прыйшоў з фронту, паступіў на мецеастанцыю тэхнікам, кончыў дзесяць класаў вячэрняй школы і паступіў у БГУ, потым быў глаўным інжынерам, начальнікам і ўсякім там. Тут у парке быў гідралагічны мецеапост, там рабіў наблюдацель дзядзя Міша, каторы два разы мераў тэмпературу вады ў рацэ і пісаў мелам на такім шчыце — шыльдзе. Раніцай у восем часоў і вечарам у восем часоў. Міхаіл Ефімавіч Усцінаў яго фамілія, ездзіў на матацыкле. Усе дзеці ўгаварывалі яго напісаць тэмпературу болі чым 18°С. Купацца даўней дазвалялася толькі калі вышэй 18°С, і былі некаторыя такія дзеці паслухмяныя, што калі было 17,9°С, то ўжо не купаліся і вярталіся назад дамоў. А тут ёсць такая Леанардаўна, фамілія Занкавіч, то казала, што як немцы прыйшлі, то тожа ваду замяралі і мецеаслужба была. Яе там бацька — Леанард — працаваў. Таксама трос апускалі, каб памерыць шырыню — 95 метраў была шырыня. Ён дажа адседзеў у лагерах пры Сталіне за тое, што замеры рабіў на Вялле, за пасобнічаства немцам. Калі ж стаў апраўдвацца, што рабіў не дзеля немцаў, а для людзей, што жывуць па берагам, дзеля прагнозу разводдзяў на Вяллі, так адзін з «тройкі» прапанаваў адразу расстраляць, але, дзякуй богу, неяк абышлося, не забілі! А як выйшаў — прынёс дарагі нямецкі інструмент абратна на мецеастанцыю, у яго захаваўся, немцы аставілі, не забіралі, як адступалі. Ён яго схаваў, каб не выкарысталі як вешчдок. У майго бацькі ад здзіўлення чуць вочы на лоб не вылезлі, калі прымаў прыборы. Расказаў, што ў лагеры таксама была нейкая дзікая таёжная рака, але толькі ўспаміны пра сасновыя берагі Вяллі з залатымі выспамі, жаданне пабачыць іх ізноў дапамаглі яму неяк там выжыць, ды ўменне лавіць рыбу, неяк не прапаў. Шырыня Вяллі ў Вілейцы не менялася, як казаў мне бацька, да 1973 г. была 95 м, там, дзе быў трос, пакуль не зрабілі плаціну, хаця пасля вайны рака сільна абмялела.

**Аляксандр Васільевіч Лупіносаў, 1954 г.**

Косця Глускі — Гаўлік участнік вайны, сільна заслужаны. Ён вязаў сеткі, а яго родны брат –рабіў лодкі. Селявочніцу-дзесятку у мімлмметрах ці так-адзінку; яльцоўку –дваццаць мілімітраў –гэта двойка, трыццатка —ці тройка, гэта на платву была; а вышэ пяцёркі –на ўсё астатняе, што у рацэ ёсць. У парку, за гідрапастом самая глыбокая яма была "Лыжка", а каля куста была яма "Шчупакоўка" і расло бальшое дрэва з дуплом, зараз толькі карэньчыкі засталіся ад яго. За гідрапастом была вышка-трамплін на беразе , з якой смялейшыя давалі нырца у раку.

…Даўней вілейскі бетонны мост ахранялі часавыя з трохлінейкамі са штыкамі, тэрыторую за калючым дротам ля вады аўчаркі. Так Віцька Харчанка раз завёў дзяўчыну у Малюны, назад ішоў ноччу –разуражыў ахрану і у ваду паўкідаў ахраннікаў. Ён п'яны быў, яны нешта пачалі яго кантаваць, дык ён іх у ваду паўкідаў а трохлінейкі дамоў прынёс. Тады ужо з райаддзела прыехала каманда і забрала яго разам з вінтоўкамі…

…Тут дзе ручаёк за Куліцкай хатай, маці расказвала пры немцах быў рыбхоз, хат тады не тут было, пасля панастроілі. Прыстань была дзе выезд з Дзержынскай. У мяне фотографія ёсць,16 года. Там дзве баржы ляжаць. Адна тут, другая там, дзеравянная, перак русла. А гэта вось, вышэй па цячэнню лесазавадское возера. Для леса. Як сплаўлялі, то туды заганялі лес і тады сарціравалі і бралі на завод баграмі –тонкія-тоўстыя і на лесапілку. І як вясной разліў, ён, лес, уцякаў, бацька лавіў гэты лес і хаваў у барозны, у бульбу. А ручаек шоў удоль ракі аж да бухты, дзе і злучаўся з Віліяй. Ручаёк упадаў у Вяллю бухтай. Мы яе бухта "шухера" звалі. Берагі бухты былі трасіністыя. Бо туды збягалі на вагары, у карты там гулялі малыя ну а бацькі раз пораз то з дзягай, ці пугай…ну і шухарыліся. Ну Гогі і ўсе іншыя… Напроць бухты, дзе цяпер астравы, пачыналіся на Вяллі віры. Яшчэ ніжэй быў трос. Тут мералі шырыню ракі. На тым, на левым беразе яшчэ захавалася бетонная свая, дзе крапіўся трос. На той старане, за козьім мосцікам былі тры возеры –першае самае мелкае, дзе пачыналі купацца у весну, бо вада праграўлася быстрэй — "сцулінка", далей — "акунёука", а далей — "трохметроўка", ад бомбы, самае глыбокае. А яшчэ далей было самае вялікае і глыбокае возера гэта Пішчова, з якога крыніца і ручай выходзіць. Даўней на тым берагу было чыста поле лесу не было, гэта цепер лес вырас. Па рацы было мноства віроў. Лысіна Паца была паміж двух віроў, яна якраз замыкала віры. Дно было сплош з камня. Камні і зараз засталіся. Якраз навярху быў дом бацюшкі. Вось Лысіна Паца. Пасля тага як Вілію перакрылі і замыла асноўнае русла да непазнавальнасці у раёне парка, засталіся тэрчэць на зямлі два камяні. Капцюг быў знайшоў нейкі маленькі камень у 2007г як ладзілі международную экспедыцыю "Вілія-Нерыс" да 150 годзя экспедыцыі графа Тышкевіча. Напісалі пра "Лысну паца" і фото было у раёнай газеце "Шлях перамогі"я прачытаў — зусім не той камень, не так! Сабраў іх усех:- Касценку Віталя, Рогача Валенціна, Капцюга Анатоля, Петрыкевіча Гену, доктара Сцебураку з сынмі, з лапатамі мы пайшлі, Петрыкевіч яшчэ з чарцяжом, з рысункам нехта яго калісь зарысаваў, ну адкапалі ад гразі. "Лысіна Паца" была і ёсць якраз насупраць "глінкі".

Плесняўка за маю жызнь раза тры памяняла вусце пры ўпадзені у Вяллю. Вось тут быў трос. Мішка Усцінаў ездзіў на маторке, ну стары дзед, той што ваду мерыў. Трос быў дзета сямёрка, навярху, мэтраў пяць над вадой стаяла лябёдка, і быў верхні зацэп, дзе цяпер ангар, і ступенек гэтых не было, после прывезлі. Гэта ступенькі спецыяльна каб спускацца лацвей да ракі было, саздавалі наш савецкі уют. Трос то падымалі, то апускалі, а лябёдкай нацягвалі. А ангара тады яшчэ не было. Лебёдкай нацянут на дзень, можна ездзіць на лодках. А на ноч апускаюць, тут унізу быў так сама зацэп, і трос ужо быў нізка над вадой, можна было з лодкі цапляцца і передвігацца уздоўж і мераць. Мераў шырыню, глыбіню Вяллі і цемпературу вады Мішка Усцінаў

Даўней да Вілейкі даходзілі летам вялікія страшныя фарэлевая рыбы –сігі. Сіг болей па Нарачанцэ ідзе, іх там жывадзёрам ловяць. І сейчас кожны год прыходзяць. І жэрахі сюда прыходзяць біць малька. Мне аднаго мятровага сіга

давялася трымаць у руках. Злавілі акраз пад козым мосцікам, закрылі іх у бухце дваццацьдвойкай, пяць штук, яны ніяк не маглі выйсці. Ганялі іх ганялі, ніяк ўзяць не маглі. А тады яны пачалі перапрыгіваць праз паплаўкі, як дельфіны бу-бух бу-бух! Громка, як быццам чалавек у ваду нырца дае! Паўхадзілі, дык ўсёж нейкага самага меншага ўзялі. Ён быў на метр. А яшчо раньшэ ішоў падуст. Бялуга то есць. Ішла сцяной. На Стаханаўскай міліцыя ацапляла там, дзе камні, дзе парогі стаханоўскія. І жыадзёрамі па мяшкам лавілі. Міліцыя ацапляла-уцякалі. Так шоў падуст, тут пад нізам рот у яго. Гэта рыба свіннёй завецца. А цырта чорнаспінная, краснаперая. Сырть. Лодкі стаялі перад тросам. Вось тут даўней упадаў белы ручай з малаказавода. Уся рыба з Вяллі тут дзяржалася. Глыбіня была тут страшная, бераг украплен яшчэ палякамі. Былі загнаны у дно калы і камні да берага уложаны, і заплета была. Там віры пасярэдзіне былі, а за вірамі ужо мелка, дык мы абходзілі і стой стараны шчупакой лавілі на жыўца. І было тут многа галаўля. А вот судака было мала. Судак з Вілейскім морам паявіўся. І ярша зусім не было. На ярша аж у Кавалі ездзілі, на веласіпедах, малыя былі.

...Самыя смачныя рыбы — окунь, мянтуз, шчупачок да ста грамм. А на вуду сама пачотна было спаймаць вусача. Лавілі яго на камок чарвякоў, на стаячку:-паплавок падымаеш уверх за метр ад вудзіша і кідаеш у глыбіню. Вусач быў самы сільны і таму самы пачотны, для нас рыбакой, еслі хто паймаў вусача была самая вялікая чэсць. Паклёўка моцная, паплавок адразу бах у дно. А калі падсячэш і ўцэпіш, то мінут дзесяць яго трэба вадзіш пакуль выцягнеш наверх. Дык гэта кілаграмовіка, а большага так яшчэ і болі. Рваў леску толькі так. Помню з Генкам Твардоўскім, я Чыжэўскі, што быў у ахране, ён з «Чыжыкам» дружыў, а мы лавілі шчупакой , яны прыйшлі налавілі мальца. Вот ён зацапляе шчупака, Генка, цягне і кажа памагай. Я ўжо ўзяй вуду, а вуда у яго бярозавая такая, леска мілімітроўка, ну наверно гэта і спасло. Прэць вочы вылупіўшы, я яшчэ памагаю, чуць выцягваем. Значыць сядзіць грам трыста шчупак, на малька, а на ім выехаў другі шчупак, на сем кіль. Сем кілаграм выяхай прама сюда, на бераг. Ну тут мы кінуліся “рукі заламалі” гэнаму шчупаку. Два зараз спаймалі адной падсечкай! А як па аднаму вялікаму шчупаку лавілі, дык нават не важылі, не лічылі рэкорды. Помню галаўлеў вялікіх лавіў. Яльцаў жоўтаперых вялікіх лавіў, што сялёдка былі. Тут, у Вілейцы на тым берагу самаго большага шчупака я злавіў на возеры Пішчова –разлівалась ўсё. Тожа на жыўца. Пяць кіло. За пяць кіль быў шчупак. У трохметроўке после разліва так сама хадзілі на шчупака. Заходзіла у разводдзе вельмі многа, да хрэна. Плылі на лодке з маей хаты аж на стрэльбішча, туды. Яльца я лавіў у Пляснеўке вясной і ў сябе ў агародзе. Па забору, па забору як разліта рака, на слупок садішся, вядро вешаеш на калок. На слупку забора сядзіш і ловіш яльцаў на чарвяка. Лавіў я тут напроць хаты і угра і харыуса злавіў каля кілаграма. Трох харыёсаў злавіў, там дзе пляж напроць школы, як сейчас помню. Кумжа на Вяллі яшчэ не звялася, і зараз пападаецца. Кумжа гэта не сіг, гэта

фарэль памельчэ. Ёсць і малая фарэль, рачная — я яе так сама лавіў, яна і зараз ёсць у Халапоўке.

...Байдаркі рабіў Вілейцы Галамоўза Сяргей, ён аднаногі, тожа інвалід пасля вайны. А са мной Лёўка, яго сын вучыўся. А дочка яго счас за Стукам Валеркам замужам. Рабіў ён байдаркі з фанеры, гнуў там неяк. І лодкі дзелаў. Раньше лодкі дзелалі Грышка Барысёнак, тожа памёр, а цяпер няма дзе лодкі зрабіць, у мяне вось доскі загатоўлены, буду сам дзелаць. Лёўка, брат Касціка Гаўліка гэтага рыбака, пра каторага я табе гаварыў. Ён тут за молоказаводам жыў. Усё время да нас хадзіў і казаў усё врэмя — "Лаві пака ловіцца, бо заўтра ня будзець". І ўсё польскія песні блатныя пеў. Мурку і то — "..То з Яшкам, то з Абрашкам і чайнікі чапала кожны дзень. Я к ёй подбягаю, за рукі хапаю, я з табою буду нешта гаварыць…" Да жэншчын культурна абрашчаўся —"Дамачка прэпадобная". Расказваў пра Германію, пасля вайны — "усе бралі грошы, доллары, маркі. Каб знаў, што цяпер так стане — так мог некалькі рукзакоў набраць. Усе прыехалі прывязлі хто што трафейнае-часы, пасуду, паліто, скупаныя плашы, хто ровар, хто аккардеон, а я прывез два рукзака сетак рыбацкіх. З Германіі сюды прыпёр. Ну канешне былі яны фабрычныя, не самадзельныя". Казаў у поездзе якехалі вельмі гулялі на грошы на доллары. Бывае хто выйграе, пьяны, на тыя долары не было што купіць, дык з акна як запусціць — красіва так лятуць. Ён –Гаўлік - із рода Атрошкіных. Брат яго жыў каля вадакачкі. Глускі фамілія, а паганяла Гаўлік была. Ён сеткі вельмі добра вязаў, на продаж. Ён таксама рыбак быў страшны. Таму што калі з'явіліся тыя сеткі фабрычныя стаў ён больш усіх рыбы лавіць, пайшла слава –бо якасць снасці тожа мае значэнне для лову. Яго, каб памагчы выпалніць сталічныя заказы прывлекала міліцыя, дажэ сам начальнік аддзела Карповіч, тут як мора зрабілі, дык міліцыя на рыбу села. Але Гаўлік надта баяўся глубіны. Ляжыць у лодку і кажа:

- «Не едзь далей, не едзь далей».

Папрасіў яго Карповіч рыбы налавіць, так ён у Сосенке налавіў — і ўсю аддаў — думаў выпіць дадуць, закусі, з ментамі там разнаёміцца. А Карповіч прыехаў, рыбу забраў і ўсё. Ты спрасі у каго хочаш, у Сталыгі (былы участковы інспектар) спрасі. Гаўлік рыбу аддае і пытае начальніка міліцыі" Дык а што?", "А дзе?" і глядзіць так вочы выразна начальнку міліцыі і пры гэтым аж вушамі быстранька шавеліць узад-уперад. Ён мог надта вушамі шавяліць.

-"Ну добра, спасібо" — Карповіч гавора. Так ён на спасіба і кажа — "Паслюшайце, майор, я стары чалавек, а ты малады асёл". Менты што былі разам, чуць стрымліваючы смех накінуліся адразу на яго - кажуць гэта вось ты дурань стары гаворыш не тое, чуць не біць пачалі —для адводу вачэй, бо над начальнікам смеяцца няма ж як, ды слухаць нават неяк няёмка, што крохабор. І Гаўлік пасля гэтага случая стаў ва усім аддзеле унутранных спраў у пачоце, за смеласць - байка імгненна разышлася сярод супрацоўнікаў, дык яго ніколі так і не чапалі ні шарагоўцы, ні іншыя упаўнамочаныя. Дык вось якая была яшчэ унікальная сітуаця з Косцей Гаўлікам. Сабраліся мы да Грышкі Мачыцкага на шчупака з

сеткамі. На матацыкле, на іжэ з каляскай. Сашка Альфер мой друг з дзецтва і ўзялі Косцю з сабой на рыбалку. Сашка за рулём, я ззаду. Узялі сетку-авоску віна, палажылі Гаўліка у каляску галавой уперад, ну ён ляжыць. Прыезжаем-высаджваем Косцю, а ён падае, не стаіць. Выцягнулі авоську- не развязана, а дзве бутылкі віна няма. Я і цяпер не магу паняць, як умудрыцца лёжа — закінуць то не закінеш бутэльку і як ён выцягнуў тыя дзве бутэлькі, да сіх пор не пайму.

Самаю вялікую рыбу што давялося відзець — гэта забіў Гіві — Алег Мароз у Лазарцах, гэта быў вось гэткі галавень. Не знаю колькі ён важыў, але не менш чым кіль восем. Даўней галаўні былі вялкія машыны, цяпер няма такіх. Даўней, да водасховішча уся вялікая рыба была у Лазарцах.

**Дуровіч Петр**, **1950 г.н**., брыгадзір рыбалавецкага кааператыва на Вілейскім водасховішчы.

Даўней на яльцоў лепшае месца на Вяллі было ля вадакачкі, там быў Бондар такі, так каля сябе так і лавіў іх на вуду. Пакуль іх электравудамі не павыбівалі. Па рэчцы многа хто хадзіў з электравудамі. Тады, яшчэ многа рыбы мусіць у 97 годзе унічтожыла "Сельхозімія", што за вакзалам, склады па Шубіна. Перакачвалі на централны склад у цыстэрны амміяк і прагледзелі, прахлопалі там. І пацякла хімія у раку, нават у газеце гэта было. І мужыкі што ніжэй тога ручая жылі, казалі што ніколі не відзелі гэтулькі рыбы. Такія здаравенныя — белая рака была, як плыла рыба.

— «Якая самая смачная рыба?»

- «Канешне найлепш судак, тады вкусны акунь; жэрах з яго добра сялёдку рабіць і карась. Карася люблю з дзецтва, а у шостым, сёмым і 2008 г.г. іх надта было многа на Вілейскім водасховішшчы, ён аднекуль хлынуў, рэзка. Не было, не было і раптам запаланіў усё. І так многа лавілася, мы гэтым карасём план у рыбалавецкім кааператыве выпаўнялі. А тады рэзка ісчэз. Не стала. За гэта лета мы усім каператывам толькі два карася злавілі і ўсё. Куды ён ісчэз? Прыйшоў, палавіўся тры гады і ўшоў, ну бывае, яшчэ перад самай зімой, як пачынае першы лёд заходзе і трохі ловіцца. Акуня адно толькі што чысціць цяжка, лепш усяго чысціць яго пілой па металу, чатыры санціметра шырынёй, былі даўней такія на "Зеніце". Зубамі, пад вуглом. Вуху раблю проста :-вада, рыба, бульба і соль. Перцу трошкі ну і з водкай. А то як пачнуць, ды як хто любіць і дабаўляюць то круп, то грыбоў, то папрыкі, то качку дзікую ці петуха — то гэта ўжо не уха а суп. Рыбны суп. А кажуць яшчэ што без водкі гэта рыбны суп, ну гэта ўжо между сабой так кажуць». (зап. 2017)

*Вёска **Красны Беражок** Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Уладзімір Андрэевіч Уладыка,1969 г. н., мясцовы:**

Самыя смачныя рыбы — гэта лінь, мянтуз, келба.

Яго маці **Аляксандра Георгіеўна Уладыка** (дзяв. Валынец), 1938 г. н., мясцовая:

Самая смачная ў Віліі рыба — гэта мянтуз. З яго шкуру здзярэш — і на патэльню, і не трэба ніякага жыра — на сваім пячэцца. Мы з братам Лёнькай (1943 г. н.) іх кожы дзень лавілі, там, дзе сваі драўляныя ад маста былі, усе з гэтага так і жылі. Даўней Вілія далей ад засценка цякла, і там быў мост да брукаванага гасцінца. Яшчэ таксама смачныя галаўні і вугры. Вугры па расе паўзлі, як вужакі, толькі даганяй і кідай у мех, хто не баіцца. Я баялося іх лавіць. І прыходзіла на нераст нейкая смачная рыба з мора. Яе лавілі ноччу, на лучніцу, васцямі. На нос лодкі пачэпяць карбідную лямпу, выплывуць на сярэдзіну ракі — і рыба сама ішла на свет. Гэта цяпер завецца наша вёсачка Красны Бережок — нейкая польская пані, як карту састаўлялі, назвала гэта месца Чырвоны Бжэжак, па футару, які стаяў далей, дзе цяпер пабудавана станцыя чыгункі, а сапраўды даўней вось тут быў засценак, які ўсе звалі Раманіха. Мне мая бабуля расказала, а ёй яе прабабка, адкуль такая назва пайшла. Жыў тут калісь мой далёкі пра-пра-пра-пра-пра-дзед Раман з дзвюма фаміліямі Валынец і Новаш. Далі яго бацьку ці дзеду зямлі тут, як удзельніку, пасля нейкай вайны. Той быў ваяр прышлы, аднекуль з Валыні, і паставіў ён тут засценак. Так вось той Раман ганяў плыты ў Коўна, спачатку разам з жонкай, надта спрытная яна была. А як звалі — ніхто не помне. А ёй стала трэба дзяцей даглядаць — у іх было сямёра, дык стаў Раман ганяць плыты з таварышамі. Даўней сем'і вялікія былі, не было абортаў — сколькі дзяцей палучылася і Бог даў, столькі і гадавалася. Аднаго разу пагналі яны з таварышамі позна, увосень плыты, і ён там зваліўся ў халодную ваду, аж пад Коўна. З таго захварэў, азяла яго гарачка, мусіць запаленнё, і ён там у Коўне памёр і нейдзе там пахаваны. А жонцэ трэба ж было неяк адной дзяцей падняць, і яна не толькі змагла сама зямлю абрабляць і касіць, а яшчэ пачала ў восень і зіму рыбу лавіць у Віліі і прадаваць — і ў Вілейку, і па карчмам. Развозіла сама на белым вале. І ўсе ў Вілейцы і дзе далей сталі ведаць пра ўдаву плытагона, і празвалі яе па мужу — Раманіхай, а засценак на берагу Віліі так сама сталі зваць Раманіхай. І цяпер, хто яшчэ вілейскія каранныя, то яшчэ завуць гэта месца Раманіхай.

**А. В. К.**, раней, у маладосці, браканьерыў, таму не раскрыў сваё імя:

...Было это в 60-х. Глушылі бракан’еры рыбу за «Лесной сказкой». Бросілі неяк няўдала выбуховае прыстасаванне — не адразу спрацавала, его плынню знесла пад чыгуначнадарожны мост. А тут акраз хуткі Масква-Калінінград па масту шоў. Рвануло на водмелі, брызгі высака уверх. Машыніст-франтовік з Россіі адразу за мастом, не даехаўшы а. п. «Красны бережок», зрабіў экстраную астаноўку, абвясціўшы по радзівасувязі:- «Воздух!» «Всем пассажирам покинуть вагоны!» — и сам першы саскочыў з паровоза і даўся у лес. Думаў, пачалося (тады быў карыбскі крызіс). Міліцыя хутка прыляцела. Машыніста вілейскіе пассажыры, хто ў поездзе ехаў, дагналі і растлумачылі, што гэта не война, тут завсегда так: просто глушаць рыбу. Угаварылі вярнуцца і прадоўжыць рух. Поезд пастаяў, пастаяў — і пойшоў далей. Па дадзенаму выпадку рабілі следства і аблаву - чуць паспеі ногі ўнесці, апрашывалі усіх-але ніхто не здаў.

*Вёска **Глінная** Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Субач,** 1975 г. н., мясцовы (зап. 2013 г.):

Тут толькі Субачы ў Глінным. Любая рыба з ракі смачная, любая шла. Самая смачная — налім і ракі. Многа ракаў было пад піянерскім лагерам «Лясная казка». Потым прапалі.

**Іраіда Канстанцінаўна Дзяруга (Субач), 1937 г. н. (зап. 2013 г.):**

...Рака пачці не змянілася, толькі русла, дзе сцяна зусім ужо падыйшла да вёскі. Найбольш лавілі шчуку, платву, ляшча на нераст. Быў тут калхоз Суворава. Жылі з гародаў, саджалі бульбу, капуста была свая, цыбуля свая. Нічога на трудадзень не зараблялі: ні хлеба, ні грошай, — таму ў калхозе ў нас былі толькі жанчыны, а мужыкі на работах у горадзе. Жылі таксама з лесу. Хто дровы прадаваў. Мой бацька быў бондарам, аж у Маладзечна на работу ездзіў. Зарплата была 37 рублёў. А мама пенсію палучала калхозную аж 12 рублеў. Насмешка.

Самая смачная рыба была мелкая, уклейка ці сяляўка. Папа на лодке пойдзець, сетачкай наловіць яе і ў гаршок, тушылі разам з маркоўкай і цыбуляй. Была ў нас і трыгубіца для большай рыбы. Месца, што вышэй па Вяллі, дзе быў луг, звалі «норт». Зараз лес вырас на «норце».

**Ірына Пятроўна Субач, 1935 г. н.:**

...Норт зваўся востраў, там два русла зліваюцца. Гэта русла пракапалі з Краснага Беражка, бо там рака рвала бераг і ужо да хаты падходзіла. І тады рака павярнулася, размыла і стала на нас ісці. Вунь Субача Лёнькі паўхлева ўжо падмыла рака і хаты чуць засталося.

Жылі з лесу і ракі, рыбу лавілі. Ягады, грыбы. Даўней ягады не здавалі, сабе бралі. Брусніц цэлы цэбар вадой залівалі, а то і бочку. Клюквы многа загатаўлівалі. Тут даўней панскі лес быў. Талоны па ягады ў лес бралі ў пана. А дровы кралі. Калі каго без талона ляснік лавіў, то ягады адбіраў — і ўсё. Рыбу па-ўсякаму лавілі. У рацэ жылі рыбы. Пасля вайны найчасцей глушылі. Як пачалі глушыць, так і рыба паісчэзала. Гібла і вялікая, і мелач, уся. Самая смачная рыба — гэта, наверна, сом. Людзі сама надта хвалілі, а я-то не пробавала. Окунь смачны, і ментузы. А найчасцей лавілі і елі шчупакоў. А адзін год ішла ў нас, казалі, рыбіна велічынёй з лодку. Расказала мне пра гэты выпадак мая свякроўка, Марыя Пятроўна

**Субач, яна з 1900** году, а казала мне ў 1958 годзе. А здарылася гэта, як яна замуж ішла, нейдзе ў1926 ці 1927 годзе. Тую вялізную рыбіну ўсёй вёскай лавілі. А яе бацька быў асноўны рыбак. Казалі, што яна з мора ішла. Страшна бальшое нешта шло з мора. Усе хвасталіся: і хто відзеў яе, і хто лавіў. Але пабаяліся яе лавіць. Упусцілі.Так яна і далей пайшла. У Глінным усе ўмелі лавіць рыбу. Лавілі даўней рыбу ў аснаўном таптухамі.

*Вёска **Асіпавічы** Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Уладзімір Мікалаевіч Цітоў**, 1950 г. н., мясцовы (зап. 2012 г.):

— А ці лавіў хто рыбу ў Асіпавічах на Вяллі? Якая самая смачная рыба?

— Я сам рыбалкай не ўвлякаўся, а ў Асіпавічах рыбакоў было мора, лодкі ўсе мелі. І Валынец Міша, Жэнька Валынец, і Субач Пеця — Грэк, і стары Руль — Субач Рыгор, і Маліноўскія. Ай, тут рыбакі ўсе. Пагуда Міша быў шалёны рыбак. Жывы застаўся толькі Пеця Субач, з 1948 года, — вунь у жоўтым доме. Самая смачная рыба — судак. Я хоць не рыбак, а лодку меў. Аднаго разу шоў я з вяслом длінным сабе на чайцы і згледзеў рыбіну, ці нешта такое, у усці нашай Спорні з Віллёй. А пры лодцы якраз ляжалі восці. Я лодку развярнуў назад, думаю, калі рыбіна — дык занясу кату. Тыц — і неяк папаў — і ў лодку. А яна як пашчу адкрыла — там зубы такія, што са страху чуць назад тую рыбіну не выкінуў. Не знаю, што за рыбіна такая, а мяне нехта з берага згледзеў. Пытае: «Што там рабіў?» А ў мяне была штармоўка. Я ёю накрыў, але не хапіла: хвост тырчыць. Што ж рабіць? Кажу: «Рыбу нейкую ўзяў, паглядзі, што за яна». Ён палядзеў, зразу кажа: судак. Ну, рыбак! На дзесяць кіль. Кажу рыбаку таму: «Мусіць, яна на вадазбросе хрыбетнік паўрадзіла, а я вось падабраў». Большай я ніколі не ўлавіў.

*— А што былі карокія вёслы?*

— Кароткія вёслы былі для вядзеі. Што ж, бальшое вясло — не дай бог, стукнуў па барту — спужаеш рыбу. Як некаторыя няграматныя абшывалі вясло ці мехам, ці што, каб толькі аб борт не стукнуў. Тут жа людзі такія: толькі стукні — цябе затаўкуць. Не дай бог, лешч калі ідзе на нераст, ён жа чуе, стая адразу заверне. Так яно ці не так — не ведаю. Я не рыбак. Каб не стукаць, вясло абшывалі аўчынай. Не ўсё вясло, а тое месца, дзе грабеш, цяжэй толькі грабсці. А граматныя не абшывалі, ён ніколі вяслом не стукне. Гэта толькі навучыцца на вядзею, навічкам. А так нашто, ён як знае, ніколі ўжо не так не зробе. Знае, як падвярнуць, як затрымаць, як зрабіць: спецы.

*— Як даўней называлася ўрочышча ля Вяллі?*

— Даўней у Лібіна быў вір шалёны, называўся Страла. Быў ён перад лібінскім бродам, толькі ў левую старану. Там са старарэчча выцякае канава, дык за метраў трыццаць быў той знакаміты вір Страла. Надта там круціла: калі ўжо папаў — не супраціўляйся, не выграбеш; наадварот, апускайся ўніз з цячэннем, тады жывы застанешся, толькі выкінець цябе метраў праз дваццаць ці болі. Толькі каб не расцяраўся і саабражаў, нада ўсягда ныраць на ніз і вочы не закрываць. Тады ж вада была празрачная, дубы былі відаць, рыбу. После мора стала не так. У Дрывасеках высокі бераг Вяллі завецца Белая гара. І за Дрывасекамі, там, дзе канчаецца Белая гара, пачынаецца Ясьбішча. Аж да Даманава — гэта Ясьбішча. А *Там дзе р.Спорня ўпадае у Вяллю.* далей ужо пачынаецца Шыпачова. Гара такая пад Халяніна пачынаецца: там аддахнуць харашо. На мястах, дзе былі лугі, зрабілі пасадкі леса. Што на той старане, што на гэтай. Аж да Даманава. Каля Даманава была гара высокая, і з яе біла крыніца, але пракраціла, высахла. А на той гарэ зараз маладзечанцы зрабілі кладбішча для сабак і катоў. Хароняць, зроблены і названія іх. І на гарэ быў есцествены ключ. А на гары раслі адны дубы. А яшчэ вялікая крыніца была, ля вярбы, там, дзе канава з рыбхоза ідзе ў Віллю. Ад

жалезнага маста да Даманава пяць ручаеў даўней упадала ў Вілю злева: з Бабровых азёр, тады з старарэчча, з азёр у Глухой, дзе заходзіць рыба, тады ўпадае ручэй з рыбхоза, і з старарэчча ля Даманава. Але цяпер, я хадзіўшы, вада перасыхаець, не йдзець у Вілію.

Мая фамілія русская, мой бацька з Маскоўскай вобласці. Быў у вайну у партызанах, а пасля асвабажджэння іх 19 чалавек аставілі для барбы з бандзіцізмам. Ён адсюль, пяшком удоль жалезнай дарогі хадзіў у Маладзечна. Машыны былі толькі, калі выязжалі на ліквідацыю. Так і астаўся. Жаніўся ў 1947 годзе.

**Аляксей Субач** «Макараў», 1947 г. н., в.Асіпавічы,мясцовы:

...Пеця Грэк быў болей рыбак, яго старыкі бралі з сабой, Толя Маліноўскі (яго вясковыя мянушкі — Будка, Кукалоў ці калі Манюка). Ён са старыкамі хадзіў. Я лавіў рыбу пастаянна, але ж не так. Даўней уся рыба была ўкусная, гэта цяпер нейкім балотам ваняе. Вся рыба была вкусная. Ну самая смачная — ментузы, ці налімы. У нас у аснаўном быў шчупак, карась, акунь, уся рачная рыба. Была такая рыба, у нас бялуга называлася, а ў Каралеўцах паехалі — ані называют свінка. А свінка і бялуга — гэта адно.Так і цырта на яе падобна. Так ёсь тры назвы ляшчоў. Бо лешч-то адзін, а тры разы нерастуе ў гаду. Аўсянікі — нераст, як авёс каласіцца, і іншыя — гэта па народным прыметам. Как только начнёцца альха лопаць — ужо знай: платва нерастуе. Як чаромха цвіцець — лешч пайшоў. Відзіш Кукалава, на тым баку Вілі, пад Даманава, пад Круглай гарой. Тут Кукалы ёсь, іх быў сенакос. На Кукалаве бальшое возера. Ён купіў сенакос, і папалася возера. Пасля гэтага ўжо яго вадаём. Гэта яго. Хаця другі кажа: сенакос сенакосам, а возера не яго. Тожа было такое. Але найбольш кажды рыбачыў на сваім возеры. Вось такі Дыдра быў, царскі афіцэр. Вот як з Белай гары з'язжаеш, первае гэта возера. Гэта яго. Во, лодка стала, ніхто да яго не лез. Во Жэнька Шклют — гэтта ўжо чуць дальшэ. У каждаго было сваё возера, гэта старыцы. І ніхто не лез, ні жакі не трос, патаму што быў такі звычай, і везде рыбы хватала. Вот мы сабіраемся, пяць чалавек. Бацька мой, зяць, дзядзька і сасед. Пяць таптух. Таптуха — гэта куль і палка, сак такі бальшы. Вот гэта старыцу бяром пяці і цянем. У каво-та есць, так. Ну і пачынаем муціць большэ-большэ рыбы, большэ рыбы. Усё, налавілі. Кожны налавіў добрую торбу. До. Усё. До. Адзін сказаў: до, усё. Патаму што ты рыбу прынясёш, халадзільнікаў не было, машын нет, нікому ты не аддаш. А цяпер бы. Нада з'есці за два дні гэту рыбу. Всё хлопцы: до, і ідзём дамоў. Хадзілі раз на тыдзень, як толькі нядзеля прыходзіць — і пайшлі цепаць. Свята, нядзелька, выхадны, у будні ж дзень дзе ты пойдзеш. Працаваць трэба ад цямна да цямна А свята — і пайшлі на рыбалку. Як толькі цяпло стане, часоў у дзесяць так і пайшлі. І былі такія людзі бедныя, як пачынаўся калхоз, што штаноў адзець на рыбу не было. Бывае, хто так ужо надзенецца, што яйцы відаць. Бедната такая была. Лавілі таксама ўтраіх санямі ці крыгаў. Тут і тут былі такія палазы, ззаду дзед, сходзяца. раз — і ўсё. Лавілі і броднем.

**Пётр Субач (Пеця Грэк)**, 1948 г. н., мясцовы:

...Напроць Язбішча, на той старане Вяллі, урочышча называецца Гарадок. Дзе цяпер выцякаець ручай. Пракапалі. А раньшэ рэчка з рыбхоза цякла гаразда вышэ. Гэта як началі асушаць балота гэта, тады толькі туды працягнулі. А так яна ішла, дзе паром быў кагда-та. Ты ў курсе. Тады пачалі капаць ад кладбішча, ад Смярдзейскага. Там журавіны хадзілі сабіралі кагда-та. Там адна хата была кагда-та, перад пераездам. Гэта кладбішча ля дарогі, дзе крэст французскім салдатам, палёгшым у напаляонаўскую вайну,аднавілі, дык у добрае разводдзе, я на лодцы, аж да самай дарогі на лодцы сам егдзіў. Сам егдзіў, такія разводдзі Вяллі былі. А адзін год Вялля ў разводдзе тут, дзе твой гарод, працякала. Вось тут цякла, аш патуль, я яшчэ тады зусім пацаном быў. Мы з Мішам Карыцька з аднаго года, з 48-га, а калхоз у Асіпавічах стаў тут у 49-м. Я да калхоза радзіўся. Яшчо, аб'ясніць табе, свайго каня помню. Дык майго каня ўгробілі быстра. На спадаровым кані дык яшчэ бульбу аборваў. У бацькі і зямля, і лес быў свой — усё адабралі. Панімаеш, Лішчавічы і Баранцы былі пад панам, а Асіпавічы ад гасударства, то есць плацілі налог — і ўсё. Гэта мне расказвалі. А во тут во, дзе Спорня ўпадае, то тут раньшэ Спорні не было. Спорня раньшэ выцякала там, вышэй, дзе цяпер «ванючка» цячэць. Там яна цякла, гэта пры мне яшчэ было, ну як ужо не цякла, а яшчэ пятляла. Яе не спрамілі, яна, мусіць, сама прарвала.

Бацька казаў, што палякі за рыбалку дзяўблі мазгі толькі так. Не давалі лавіць. Не. Проста лавіць — лаві. Бацька мой тожа спецыяліст па рыбе быў, глушыў. Пераксілінам глушыў. І вот расказваў. Каля маста жэлезнадарожнага не ўспелі закінуць, а паліцыя на конях была, і гаворыць: гэтыя хлопцы засталіся ўдваіх, а я, гаворыць, на той бок рвануў. Ну, відаць, хто-та ўжо палякам падсказваў. Гаворыць, рвануў праз раку. Гаворыць, вымачыўся — і бягом дамоў, дамоў прыпёр — на мацеру: давай быстрэй перадзявацца. Скінуў гэта мокрае ўсё, укрыўся. Не ўспеў толькі ў кравäць легчы — ужо паліцыянты тут. Ну і што — сам сухі, а галава-то мокрая! Як не дазнаваліся: «Чаму?» — «Памыўся, сплю!» І не дакажаш. Усё. Во як. А тыя ўспелі так ушыцца ў лес ці балота, што не знайшлі, уцяклі. І тады за рыбу ганялі. Мы ж уцякаць прывычныя: у нас у Асіпавіцкай школе фізруком працаваў, яшчэ як быў маладым, Сапея, яшчэ як не стаў рэкардсменам, то нашы хлопцы не саступалі яму. Ды хлапец Карыцькаў — Валодзя наш, асіпавіцкі, таксама добра ў футбол бегаў і ў «Чарнаморцы», і ў Мінскім «Дынама», аж за зборную Беларусі. А глушылі тут рыбу заўсягда. Тады не тол, а піраксілін быў. Я-то яго не відзеў, адкуль яго бралі, я табе канкрэтна не скажу, вот шнура-то не было. Дык вот крушыну, выталківаеш сярцавіну, порах дымны мяшаеш з вуглём (гэта тожа апасна было), туды напіхаеш, во такі з пядзю кусок, чмырк — і ўсё, і ў ваду. Бучы з дубцоў вязалі. А мярожы — гэта сеткі — тожа вязалі з нітоў. Невад — гэта той самы брэдзень, толькі крылля бальшыя. Ідзець куль адзін, дзе-та метры чатыры. Вось на ўвесь стол гэтай бяседкі. І крылля. Брэдзень меншы. Брэдзень удваіх цягнулі па старыцы: адзін па аднаму берагу, другі — па другому, і невад тожа ўдваіх цягнулі. Лавіл і ведзяёй, на лодках, тожа пераегдзіў, але мне не вязло. Еслі я паеду з ведзяёй, то ніколі рыбы не злаўлю. Вось

такое няшчасце. Усе егдзяць, ловяць, а толька я паеду — і ні халеры не зловяць. Вот так вот.

— *А на лучніцу?*

— А-а-а. я перасек столькі, мора рыбы! На лучніцу спрыт маю. Да лучніцы мяне прывучыў Лёнька Валынец, муж Зінкі Царыцы. Яшчэ цяпер жыва яго сястра Рэня. Ён, Лёнька, быў за мяне намнога старэйшы. А сярод старэйшых рыбакоў лепшым у Асіпавічах быў Руль (Субач) Рыгор. Твой сусед, ён надта любіў лавіць зімой. Лавіў ён больш вудай. Тады Паўла Міронькаў (Валынец), бацька Наташы, што за Афганам, ён самы большы спец быў лавіць зімой. У Асіпавіч найбольш былі Субачы, Валынцы, Маліноўскія і Пагуды. Занкавічы — «булёны» былі там у Камарах. Даўней іх у Асіпавіч не было. Пра Лёньку: так вот у Вілейке не было арганізацыі, дзе ён не пабываў. Ён такі быў мужык: добра, добра — і на начальніка: пайшоў на., я найду сабе работу. Тады ж работы было — пажалуйста, дзе хочаш, там рабі. Ён усё ўмеў: і работу рабіць, дзе качагарам, дзе сваршчыкам, дзе грузчыкам, і ўмеў сеткі і бучы вязаць і ставіць. А вось васцямі біць не было ў яго спрыту, а ў мяне, мусіць, перадалося ад бацькі, ці найболей ад бабкі маёй. Яна ў 15-м гаду, як рускія пагналі немца, пачула — крык стаіць з тога краю вёскі, ад Спорні. Скеміла — значыць, рускія салдаты ідуць. Схапіла вілы, заляцела ў хлеў і так удала чахнула кабану пад лапатку, што той адразу і лёг, нават не віснуўшы. Троху прыкапала гноем, дзверы адкрыла ў загарадке і хлеве, быццам бы кабан збёг, і хуценька назад у хату. А тут зараз і салдаты. Прыходзяць у хату, хрысцяцца па-нашаму на ікону, здароўкаюцца і кажуць: «Пойдём, хозяйка, в сарай». А ў хлеве ўжо пуста, ну і не знайшлі тога кабана. Шкода было біць яго да Каляд, дык хоць самі з'елі.

Пайшоў я першы раз з васцямі на лучніцу ў гадоў дванаццаць. Узяў мяне з сабой Косця Дзянісаў, на чатыры гады старэйшы. Ён з васцямі стаяў, а я лодку гнаў, а тады памяняліся, даў папробаваць. Палучылася і ўсё. Дзела ў том, што ў вадзе палучаецца праламленне, палку вродзе бы тыкаеш, б'еш па рыбіне, а яно міма, там у вадзе праламляецца. Нада ўгадаць і выбраць мамент такі. Натрэніраваўся — палучалася, бывае, ўперадзе, бывае, збоку, бывае, ззаду, бывае, на дне, бывае, у паўвады, а бывае, і кідаеш, як кап'ё. І кідаў з лодкі за два-тры метры, і пападаў. У асноўным ляшчоў. Ай, у нас пакуль не было гэтага вадахранілішча, была рыба, як зрабілі — рыбы не стала. На лучніцу мы звычайна егдзілі пад ваду. Аж да Вілейскага маста. Пад'язджаем. «Стой! Стралять буду!» — крычыць з маста часавы-ахраннік. А Лёнька тожа ахраннікам быў там. Ён ўжо па голасу пазнаваў і таксама крычаў у атвет: «Я табе, Мікола, зараз стукну, крычыш ты тут "стой"». А ахраннік усіроўна крычыць: «Стой!», але ніколі не пульнуў. Мы лодку разварачваем — і паехалі назад. У запрэтную зону, што была з берага агароджана, ад маста не заходзілі, не наглелі. Каб дайсці ад Асіпавіч да Вілейскага маста і абратна, трэба было загрузіць поўную лодку смалякоў. Дык гэта добра, і смех і грэх, вот сёння з'егздзілі, прыязджаю дамоў — мне на работу нада, і на Мінск ехаць, а Лёнька-то выспіцца. Прыязджаю вечарам дамоў — сядзіць, ждзець

мяне. Паехалі. А пагоду на лучніцу выбраць знаеш як цяжка, трэба, каб ціха было. Каб чуць вецер — усё, не паедзеш, бо не відаць рабіць. Дык пагода выбірала нас. Бывае, дзень, два, ён ужо трэці, а я кажу: «Лёня, я не магу. Я не высыпаюся». Еду на Мінск. Астанаўліваюся, мыюся, каб не заснуць. Панімаеш, устаўшы ўжо чалавек, а ён — ну і што, нічога і ведаць не хачу, сёння рыба ловіцца. Ты прадстаўляеш, па тры начы падрад не спаў. А калі з смалякоў перашлі на салярку (па прынцыпу керагаза: круг, выразаеш трубу-саракоўку, асбест закладваеш, бачок, самацёкам пaступае туды салярка, змешаная з бензінам, каб святлей было), ставіш на накру — і ўсё. Вот так. Відаць было ўглыб на метры два. А копаць-то ўся — на морду. Как негр. Вочы красныя. Гэта смех і грэх. Вродзе бы памыўся, дык так закопціцца твар, вродзе вымыешся, а дзе брові і расніцы — астаецца, дык дзеўкі смяяліся. Так сначала маўчалі, думалі: чаго ён красіцца? А я ў бухгалцерыю заходзіўся, даверанасці браў. Я быў і шафёр, і снабжэнец. Тоня кажа: «Пецзя, а чаму ты красішся?» Усяклі. Добра тады, у 60-я ні ў нас, ні за бугром не было паняцця пра Канчыту Вурс. За гэтым мастом, помню, едзем з Лёнькай назад, а база, як я шчытаю, была тут, каля Спорні. Лодку я астаўляў тут, і флягі з саляркай. Нешта во такое белае стаіць. Ну, я як стаяў — і шахнуў. І ты знаеш, чую толькі: «хрась!» — нешта храснула. Прысок зламаўся. Зламаўся прысок, выцягваю — васцей няма. Зламаўся прысок мой. Началі мы круціцца: дзе, што, к чаму? Замуціла, пакруціліся, а восці згубіліся. Тады на трэці дзень ужо чалавек з Лішчавіч сказаў. Адзінаццаць з палавінай кіль. Вансач. Гаворыць: «Я перабрыдаў (сенакосы ж былі тут, гэта цяпер нет). Перабрыдаў — плывець уверх брухам, і восці тарчаць. Так вот адзінаццаць з палавінай кілаграм усач». Ён звесіў дажэ, но, свалата, восці не аддаў. Самыя лепшыя восці былі на дзевяць зубоў. Восем — не, дзесяць — не, вот трэба дзевяць. У мяне двое яшчэ захаваліся, я імі сколькі сазаноў перапароў.

Няпісаны закон быў у Асіпавіч. Што калі возера, затока ці старарэчча не на тваёй зямлі — ты сюды рыбу лавіць не лезь. Жакі — уперад жа не было капрону гэтага, рабілі з нітак: лён, пянька; вісяць, сушацца (гэта пры мне яшчэ было). На кустах. Таму, што ноч прастаіць, вынуў, значыць, рыба ўлезла — забраў. І сушыць жак трэба, інача згніець. У вадзе гніець. Дзе ловіш, дзе ставіш, там і вісела. Я так і рабіў, як усе. Скажу табе, і ніхто не краў. Паняція не было. Усе зналі, што гэта тваё. Нават калі калхоз зрабілі, яшчэ доўга па няпісанаму закону жылі, граніцы зямлі, якую адабралі, ведалі і паважалі. У нас так было. Эта цяпер: што паставіў — адразу забяруць, і я ўжо забіраю, навучыў калхоз красці, патаму што маё, і не маё — усё забіраюць. Не вернеш ні зямлю, ні адвечныя звычаі. Так вось — высахла, вечарам едзеш, паставіш. Утрам зняў (рыба ж яна ідзець найбольш ноччу), падняў, пасушыў. Цяпер капронавыя, дык можа ж дзяржаць у вадзе гадамі.

На вуду я таксама лавіў. Конскі волас: два-тры пляцеш, звязваеш, а кручок быў з школьнай цетрадзі, са сшытка вынімалі скрэпачку. Зубамі скруціш, ну, а штоб засечка была — аб камень шмаруеш. Інструмента ж не было ж. Чарвяка нацэпіш, бывала, пяць келбаў зловіш на аднаго чарвяка. А после і па два кручкі

вешалі, як леска і кручкі з'явіліся ў прадажы. Келбы была самая смачная рыба, цяпер іх няма, звялі, а ўперад іх было, божа мой! Яна невялічкая, з палец таўшчынёй, а цяпер прапала. Тады акунь — тожа яго на палку, попелам абсыпеш, спячэш на агні вогнішча — смаката. У попеле качалі, бо солі ж не было, дык хоць такая. Паджарыў — і ўсё. Чысціць не трэба, шкура сама злазіла. Таксама пацаны і з келбай рабілі. А на патэльні даўней рыбу жарылі на сале. Дадому прынясеш, госпадзі, маці паджарыць. Плотка вясной нармальная, смачная, а летам горкая плотка палучалася. Смачныя шчупачкі. Ножыкі во такія, ай сколькі іх было! Божачка! Ляшчы зваліся ад врэмя, калі нарастуюць. Вот цепер павінны быць «мікольнікі», таму што ідуць на нераст на Міколу. «Юр'евікі» — на Юр'я ішлі ляшчы. Яны, па суці дзела, адзінакавыя, ну проста парода такая, можа, раньшэ, можа, позжэ. Я табе магу расказаць, як яны нераставалі. Вот, бывала, нераставалі на Першае мая. Лешч нераставаў. Бываець, сёмага мая. Гэта завісіць ад пагоды. Уперад пагода более-менее была адзінакавая, а цяпер відзіш якая. А тады адзін год у мяне, палучылася, сазан нераставаў. А сазан нерастуе пасля дзясятага чэрвеня. З васцямі я хадзіў, хадзіў: чах! Выцягваю, думаю, сазан, а там лешч, і было гэта дзе-та пятнаццага іюня. І я ляшча, і з ікрой! Ну. Вот і ўгадай. Очэнь позна, ужо сыпаны.

— *А якую ты самую вялікую рыбу відзеў?*

— Без мяне Будка з Мішам, ну, з кумам з маім, ну, гэта сама, на пуд забілі во тут, ля порама. Ласося я не відзеў, а чуў, што тут былі. Гдзе-та тут во. Мне сказалі, што ікра, як гарох, вялікая. Дзе-та тут, ля Белай гары, у нашым раёне. Але было гэта гадоў дваццаць назад, мусіць, у 1995 гаду. Касута ты знаеш дзе, там жа такая рэчка харошая была. Стронга лавілася там і харыус-падляпень. У рэчцы, што ідзе праз Куранец, і цяпер стронга ёсць. У Куранецкай рэчцы Пэлла фарэль ёсць. І ў Спорні нашай Асіпавіцкай сторонга таксама ёсь! Очэнь рэдка, но ёсь. Стронга — самая смачная рыба, яна невялічкая, но ёсь. Я кілаграмовую злавіў.

— *А што гэта за рыба бялуга?*

— У бялугі во такая морда, нос быў. Нос во такі(паказвае). А цырта была — не ўспееш яе злавіць, як толькі яна пагібаець, заміраець, адразу цёмная становіцца. Палосы, палосы ў яе ідуць. Удоль цёмныя палосы тады ідуць. Я многа лавіў яе ў Ялажычах (Нарачанка). Сеткі ставіў там.

Я ўсюды пабываў. Цырта ідзе навалам. Месца там есь, парог «Шум», метраў пяцьсот ніжэй маста. Самыя вялікія віры тут былі — «страла», глыбіні мэтраў шэсь-восем. Тады пад мастом. Як стары жалезнадарожны мост быў, там было дзе-та метраў пад дзесяць глыбіні. Панімаеш, вымывала пад мастом. Ну, а тут астанія ямы някрэпка вялікія: пяць-шэсць метраў глыбінёй. Больш не было глыбіні. Тут дажа прама, як спускаешся з ракі, я дажа нырaў. А як ныраеш, аж вушы давіць — гэта ўжо чатыры-пяць метраў глыбіні. Еслі ўжо ў вушах. І калодзец быў тут нейкі. У Вяллі быў калодзец. Расказвалі, і я нырнуў, праўда, дастаў гэтага калодца. Ну, прама як спускаешся знізу, з Белай гары, і калодзец быў. Адкуль ён — я не знаю. Я стаяў на гэтым калодцы. Быў зроблены зруб. Я сам відзеў гэта, табе як чалавек

гавару. Як нырнуў і стаў на зруб, я стаяў на гэтым зрубе. І перад гэтым мне хлопцы гаварылі: зруб стаіць! Дык я не паверыў. Сам нырнуў яшчэ. Праўда, я после не знайшоў гэнага месца — ужо замыла. Не буду. У мяне сын чуць не ўтапіўся там. У Мікалаеўскую вайну прама ад Асіпавіч да Смердзяі быў мост, дзе порам. І яшчэ мост быў напроць Даманова. Там яшчэ і зараз стаяць сваі. Я ўдзіўляюся: нашто было рабіць праз увесь луг, гэта ж столькі трэба было пяску навазіць, ты прадстаў. Можна ж было вышэй ці ніжэй.

Я з'ездзіў за жыццё, мусіць, пяць лодак. Першая была б/у, дасталася мне яшчэ пацаном. Скора згніла. Лодка жыве, як глядзіш. Вось ты за ёй глядзіш, столькі гадоў і будзець. Можыць і дваццаць гадоў лодка адслужыць, а можа і за чатыры гады згніць. Сначала мы смалой смалілі, тады после атработкай. Уперад жа масла было, божа, сколька хочаш. Зімой, восенью выцягваеш, каністру масла прынясеш дваццаць літраў, абліваеш яе і — лампай паяльнай грэеш, аж каб кіпела яно. Змазаў — і ўсё. Пятую лодку, паследнюю, у мяне ўкралі. Нядзелю не пабыла, спёрлі — і канцы ў воду. Раней ля Белай гары, у затоцы «Равучка», заўсёды лодкі стаялі. Прадстаў, што чатырнаццаць лодак было ў Асіпавіч, і так стаялі не замкнёныя.

Люташы — ты такое слова чуў? А я з люташаў яшчэ жыта вазіў з хлопцамі. Яно на гэтай старане Вяллі. Цяпер там во такія сосны стаяць. А я вазіў жыта ў снапах.

**Анатолій Васільевіч Маліноўскі (Будка, Манюка), 1929 г. н., в. Асіпавічы: Пра звычаёвае права у Асіпівічах.**

...Быў даўней у Асіпавічах звычай, няпісаны закон, як паводзіць себе на рацэ і балоце, у лесе: — не стаў буч не ў сваю старыцу, не ў сваё месца;

— не трасі не свой буч ці сетку;

— не заходзь з вудай наперад (ніжэй па цячэнню) бліжэй чым за 20 мэтраў ад рыбака, што першым заняў месца. Калі абходіш, ідзі ціха, на воддалі ад берага, каб не відзець вады. Вітайся не ўголас, проста кіўні галавой. Размаўляй шэптам. Таго, хто трос не свае бучы і сеткі ці знімаў вяршкі брагі ля апарата, каралі жорска. Злодзея як бы ненаўмысна запрашалі прыняць удзел у рыбалцы самыя аўтарытэтныя і лепшыя рыбакі са сваей жа вёскі: гэта была чэсць. А тады дзе-небудзь на сярэдзіне Віллі лодкі збліжаліся, на злодзея зверху накідвалі сеткі і казалі: «Калі ж табе сваіх сетак не хапае, так хопіць нашых, ужо рыбы табе хопіць наўсягда, аж сам карміць рыбу будзеш». І кідалі за борт. Калі чалавек пападаў першы раз і пачынаў прасіцца, то, падзяржаўшы над вадой, астаўлялі жыццё, але прашчоны быў вінен кожнаму ўдзельніку гэнай рыбалкі-правілкі. Мусіў выканаць адно пажаданне. Другі раз ужо ніколі не даравалі. Таму, калі хто з рыбакоў тапіўся ў Вяллі, заўсёды цікавіліся, пры якіх абставінах знаходзілі тапельца, ці не ўчапіўся незнарок нябожчык у сетку.

…Любіцеля зняць вяршкі з брагі лавілі і апускалі галаву злодея ў брагу, каб піў, аж захлынуўся. Тапіць да смерці — то адразу не тапілі, адкачвалі: з аднаго разу адбівала ў злодзея ахвоту хадзіць да ляснога апарата. А калі ўжо не адбівала

красці -чамусці доўга гэны доўга ня жыў, найчасцеў чамуці не шанцавала -тапіўся п’яны ў лужыне.

…Калі ж на паляванні ці па грыбах усё ж набрыў у лесе на апарат, на якім ідзе гонка, мусіш там застацца. Трэба рабіць, што скажуць, і разам пакаштаваць гарэлкі. Ніколі ў такім разе не ўцякай. Будзе хужэй, бо потым знойдуць. Тут не кажы, што няп'юшчы. Трэба піць ад душы, пакуль не станеш п'яны. Бо калі піў і рабіў гарэлку разам — то парука. Значыцца, не пойдзеш дакладаць у міліцыю.

…Калі на паляванне сустрэў незнаёмага са стрэльбай — ніколі не падыходзь, не ідзі насустрач прама на яго. Як убачыў — стань. Калі ёсць сабака — вазьмі на шворку. Глянь, куды ён ідзе. То ты звярні ў другі бок. Абміні.

…Тутэйшыя больш памяркоўныя, чым «васточнікі», ніколі адразу за шкоду не помсцяць, чырвонага пятуха на хату не пускаюць. Прама ў вочы нічога благога ніколі адразу не скажуць. А вот лазню ці пуньку пагадзя спаліць могуць. Пра гэнага казалі: нішто сабе чалавек, не благі, але і гаўно, лазня тры разы гарэла.

…У вайну немцы Асіпавічы не спалілі і нікога з заложнікаў не растралялі -як гэта адбылося у суседніх вёсках. У Ілішчавіч палову расстралялі -бо ля вескі на дарозе узарвалася патрызанская міна, усе Ратосы спалілі і мужыкоў растралялі, дзяцей і жанчын сагналі у Нямеччыну -як партызаны забілі немца-малакасборшчыка. На ўсе Асіпавічы было два паліцаі з мясцовых, тутэйшых, браты Субачы. Іх Саветы абідзелі, многа зямлі адабралі. А немцам служыць -гэта не палякам ці бальшавікам, гэта іншае, людзі ненавідзелі іх, хоць яны нікога і не расстралялі. Толькі ўжо за адно тое, што п’яныя стралялі па званам цэрквы у Асіпавічах. Цэркву тую пры Хрушчове разабралі і следа не аставілі. Дык вось адзін з іх быў заядлы рыбак. Рыбу глушыў. Як там , што там -але падарваўся і загінуў ля Віліі. Немцы следства вялі -так і не знайшлі доказаў што яго забілі партызаны. Прызналі нясчасны выпадак. А ўся веска трэслася і думала наадварот, бо усе рыбу глушыць добра ўмелі і ніхто ніколі ні да таго ні после не падарваўся. А брат яго жывы застаўся, з немцамі уцёк, жыў доўга у Бразіліі, можа і цяпер жыве.

**Субач Рыгор 1919 г. в. Асіпавічы**

… Мой бацька ставіў бучы на Спорне (прыток Віліі), і я так сама лавіў насіў зімой шчупакоў на продаж у Вілейку па адрасам. Калі прадавала потым і жонка, нават на рынку – але там маглі злавіць. Ля старога рынка жыў адзін жыд да вайны, Зуська, гаваркі такі, ласкавы, дык усягды сустракаў і у потай купляў ментузоў, бо вельмі іх любіў. Дамовіўся з бацькам, каб нікому не казалі пра гэта, бо баяўся што іншыя сародзічы даведаюцца пра яго грэх. Так мы яго прамеж сабой звалі празвалі “ белы жыд”. А ён быў увесь чорны, смуглявы, толькі што зубы былі белыя, ну і ментузоў купляў.

*Вёска* ***Плёсы*** *Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці*

**Аркадзь Трафімавіч Капуцкі**, 1947 г. н., мясцовы (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Летам у Алясеевам перавозе быў брод, на кані можна было праехаць, да таго ж быў да сямідзясятых гадоў паром. Вясной жа, да пабудовы вадасховішча, Вялля разлівалася так, што Плёсы заставаліся на востраве, тады ўжо толькі на чайцы можна было прабрацца да Вялікай зямлі. Раку ніколі Вілія не звалі, а толькі Вяллёй. Усіх, хто жыў насупраць, на правым берагу, звалі завельцамі. Дзяцьмі купаліся і плавалі ў рацэ кожны дзень. Ваду пілі прама з ракі. Зойдзеш на цячэнне па калена — і п'еш. Усе дзеці ўмелі і плаваць, і ныраць. Ныралі з адкрытымі вачамі, бо вада была чыстая і празрыстая. Нават ігры такія былі, калі кідалі які-небудзь прыметны камень на дно, і хто першы знойдзе яго. Кожны гаспадар меў сваю чайку, так звалі лодкі. Кіраваць лодкай вучыліся з маленства, я ж у школу хадзіў на чайке, спачатку ў Камары: там у хаце была пачатковая школа, а после другога класа вучыўся ў Халяніна: там на школе вісела шыльда з назвай «Камароўская 7-класная школа». Пераедзеш праз Вяллю, замкнеш на замок чайку — і пайшоў на заняткі, а потым назад. Зімой пераходзілі раку па льду, абавязкова з палкай у руцэ. Рыбалкай амаль не займаліся, бо былі бедныя і найбольш жылі з лесу (трэба было збіраць грыбы і ягады: чарніцы і брусніцы). Найбольш жылі з грыбоў і ягад. З іх былі грошы, а рыба — толькі паесці калі. Раньш за лісічкамі ў Плёсах нават не нагібаліся, бо не лічылі іх за грыбы. У Мамаях, праз рэчку, была грыбаварня, тут жа на месцы можна было здаваць, баравікі былі самыя даражэйшыя. Я хоць ля ракі радзіўся, рыбак не очэнь, але невадок палазы і бучы меў, бо жыў усе ж на рацэ. Вудачкай не любіцель. Вот Фама быў рыбак. Добра невадам цягаў. А мы толькі калі бывае невадам зацягвалі, бывае ўтраіх лавілі сеткай, яна завецца ў нас сані. Дзе дык завуць палазы. Застудзіўся я з-за тых саней, мачавы пузыр і цяпер баліць. Набродзішся па гэтай ваде халоднай. Як быў малы, лавіў рыбу на вуду, на чарвяка і на шнуры, на грамжа.

**Сяргей Лазар**, 1979 г. н., родам з Маладзечна:

Цяпер у Плёсах застаўся одзін дом, было два, так недаўна сгарэў. Яго купіў новы гаспадар, дык спалілі. У 90-м гаду я бачыў на Віліі вялікага сама. На школьных вакцыях быу у бабулі, у Варвары, маміной мамы (дзявочая фамілія Лазар). Пайшлі на луг, там дзе вялікія дубы. Сом ляжаў на водмелі. Спачатку мы з інўымі дзецьмі думалі, што гэта бервяно. Прыглядзілісь — сом, мэтра паўтора, ткнулі кіем — дакладна сом, пайшоў на глыбь. Дзед мой Тамаш ня быў рыбак, але сеці былі.

**Сяргей Мікалаевіч Мінкоўскі**, 1955 г. н. (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Майго дзеда звалі Габруковіч Дзмітрый Пятровіч, 1900 года нараджэння, радзіўся ў Плёсах. Габруковічы аснавалі гэту вёску. Мой дзед не быў рыбак, але ж у яго былі невад 25 метраў, была таптуха вялікая, на ямах у рэчцы лавіць вялікая, тры лодкі. Ну, таптуха, знаеш, што такое? Таптуха ёсць малая, дзеці ёй раз-раз-раз, дзе ў старыцы, а то вялікая — не падымеш, рабёнкам не падымеш.. Ямы на Вяллі. на яму ставілі пад лазовы куст таптуху — і тады мужыкі гоняць. Вяслом ці палкай вялікай давай боўтаць. Быў венцер, во два крылы і куль такі, і кагда вясна ілі так дзе ставілі, і рыба туды заходзіла, а назад ужо не. Венцер — нешта пахожае на буч,

толькі больш усавершэнстваванае, з нітоў, з сеткі: крылля і задняя часць як буч. Расстаўляліся крылля, і тады ўжо ў чарнільніцу заходзіла рыба. Была трыгубіца: гэта сетка, каторай перагаражывалі, трайная ілі двайная. Самае інцерэснае, што мой дзед снасці меў, а рыбалкай не займаўся, меў так на ўсякі выпадак ці якую патрэбу. Ну, хадзіў у рыбу калі з суседам на свята. У дзеда было многа зямлі, паны папрадавалі, прэдвідзя сітуцыю, трэба было абрабляць. У дзеда ведзяі не было, ведзяя была ў бабкінай сястры, у Тышкевічах, яе муж быў кузнец, яго фамілія Мамай. Ён быў і рыбак, і паляўнічы. У яго была ведзяя. Ён, што цікавае, з жонкай удваіх і лавіў. У Тышкевічах былі Мамаі, Занкавічы, Сыраквашы. Занкавічаў многа ў Швядах. Тых Занкавічаў, што жылі ў Камарах і Тышкевічах, празывалі Булёны.

У шасцідзясятых рыбы маглі лавіць у Плёсах нямерана. Вот сколькі б яны хадзілі, столькі б і лавілі, но не было жаднасці да гэнай рыбы. Яны паймаюць вот два разы з'есці — і до, пайшлі. Калі ўжо замнога паймалі, то рыбу сушылі ў печы: халадзільнікаў не было, а ніхто сушоную рыбу тады не еў. Любілі рыбу з вады. Нават карасёў дзяржалі ў вялікіх цэбарах, во гэткіх, па тоне. І вот яны сядзяць там да маразоў, пакуль не пачынае замярзаць гэты цэбар. Пачынае троху карась усплываць — зарэжуць і ядуць. Дык я первы раз буквальна паняў прымаўку «рыба згніе з галавы», бо сапраўды рыба жывая, зарэжуць, вот пачысціць, а мозг у яе ўжо нежывы. Рыба яшчэ жывая, а мозг не жывы. А тады, як зіма, возьмуць з цэбра астаткі, пасушаць у печы, раней не так сушылі: не вялілі, а сушылі, як грыбы, печ вытапяць — і раз. Насушаць тых карасей — і ў торбу. Яны вісяць, вісяць, ніхто яе не еў, возьмуць, стаўкуць, як камбікорм, і свінням дабаўлялі.

Самыя смачныя рыбы з Віллі — судак, акунь, мянтуз, яльцы, язі. Даўней смачны быў вансач, вялікая рыба, яго лавілі, каб на вяселле падаць. Вусачэй лавілі сеткамі — гэта ж свадзьба, трэба было. У Плёсах у 60-я гады нікога не было, дач не было, у Слабодке ці Акушках, дзе былі асаднікі, зусім нікога не было — так лавілі смела. Келба смачная, раней сколькі келбаў было. У раку заходзіш — яны па нагам так вот лёталі, пяткі шчыкаталі, з ног цыпкі абгрызалі. Лавілі і сырту. Але сырты ў Вяллі было мала, больш усяго было ў Прынце, на Нарачанке, ля млына. Там мужыкі ў мае, як яна ішла з мора, проста яе на жывадзёра лавілі, выцягвалі за бок. Дык складалі ў бачонкі — столькі той сырты было. Счас берага сталі заросшыя, а раньшэ гліна была і матылічнік, такі чорны. Цэлы іюнь матыліца была, яна падзенка ці як называлася. Такія дырачкі, і там такія чарвячкі беленькія і з чорнай галоўкай, і гэта ж іюнь (жор рыбы быў), яна ў канцы іюня вылятала, на Яна. Даўней былі ў кожнага каровы. Весь луг да Даманава выкашвалі, збіралася мужыкоў. Што звазілі ў гумно, што ставілі ў стагі. І тады вясной, як Вілля разліецца, усё да Даманава было заліта. Усё заліта вадой, мора вады. Мора птушак, мора рыбы. Рыба нерастуе, гэта яе колькі было, я не знаю. Кагда вада спадала і аставаліся лужынкі (там малька было!) — вёдрамі чарпай: там кішыла. А ніхто не лавіў. После высыхала, і рыба гінула. Гэта столькі было рыбы на нераст.

Выходзілі на лодках мужыкі на нераст — ставілі трыгубіцы, але тожа ніякага фанатызму не было. Паймаюць там сколькі (паесці), пажарыць — і ўсё. Вяллі не стала факцічэскі, як зрабілі Вілейскае водахранілішча. Яна ж зусім другая Вялля стала. Вялля была вездзе ля Плёсаў глыбокая, Вяллю нідзе не пяройдзеш. Каб гэта з аднаго боку былі некolькі брадоў. Там напроць Камароў брод, а так еслі з аднаго боку мелка, то з другога будзе больш глубокая Вялля. Вада была такая чыстая, яе піць можна было. Чысценькая. Аляксей Перавоз два хутары і цяпер застаўшыся, ля Слабодкі. Там, дзе кладбішча наша, родственікі захаронены. Дзедаў брат, дзве сястры бабкіны пахаронены, і маці там пахаронена. Там інцярэсна, там Вялля такая сама па сабе красівая: высокія берага сасновыя. Мамаі сюды — гэта ж сказка. На Нарачы няма такой красаты, як па Вялле ідзеш. На лучыну ездзілі лавіць. Ужо старэйшыя, малых не бралі. На лодцы, калі вада праясняецца, наябр дзе-та. Лучыну на насу палілі, і тады бальшыя рыбы, вот калолі іх астрагой. Але тожа так, без фанацізма. Не было фанацізма, яе можна было столькі налавіць, што я не прадстаўляю сабе. Але людзі былі как-та тады не жадныя. Всё-такі атнасіліcь к этаму па-другому, рыбалка была не як дабыча ці нажыва. Прыедуць, гэта ж Плёсы была Мясоцкі сельсавет, а бацька жыў у Лебедзеўскім. Дык другі раз прыедуць старшыня з Мясоцкага сельсавету рыбу палавіць, але як прыедуць. Возьмуць невад: дзед дае — бяры невад. Пацягаюць гэты невад. Пажараць рыбы, наловяць. Віна вып'юць, пасядзяць на берагу, пагавораць, адпачнуць. Паехалі, тожа. А тады, зараз, бацька прыедзе адсюль, са сваім, Лебедзеўскім старшынёй сельсавета. Тожа пацягаюць невад па старыцах, і тожа зловяць, і напякуць рыбы, і атдахнуць. Былі старыцы глыбокія. Такі случай быў. Пацаном, малы, на рыбалку на старыцу прыхаджу. Раз — вудачку закінуў. Вада чыстая. І віжу: такія вялікія рыбы ходзяць, ну, акуні, платва там вялікія. І не бяруць, я віжу, майго чарвяка ў вадзе. Я думаю: прыцягну сетку гэту, падлажу, закіну, а яны як зойдуць у сетку, я падыму. І гэту сетку, што таптуха такая вялікая, можа, метры два ў дзіяметры і такая высокая — палка высокая — метры чатыры. Ямы такія вялікія былі на Віліі, што мужыкі бралі на лодкі гэту, раз таптуху аж уніз, а другія палкамі: раз! раз! раз! — пад лазовы куст ганялі. Так я паваліў гэту сетку, а падняць — дзе ж я падыму! Пацаном быў. Не здужыў. Многа інцярэснага было, рыбы многа было. На старыцах явар рос, а там плотачкі ходзяць, хозяць, ходзяць, як у акварыуме. Сначала кошык возьмеш, кошыкам ловіш, а навучыўся кошыкам — тады ўжо сеткай вучышся лавіць. Ракаў я не лавіў, а ў 1967 гаду злавіў балотную чарапаху. Прыехаў да бабы на канікулы вясной, і да рэчкі іду, гэта апрэль месяц. Да ракі не дахаджу, і такая як балоцінка, ну, апрэль, ранняя вясна. Яна: раз-раз-раз — у траве, глядзь, — чарапаха! Я за чарапаху — і дамоў прынёс. Дзед — раз — усё: цэбар налілі вады, упусцілі гэту чарапаху. Жыла гэта чарапаха ў цэбары, хоць бы ёй што. А тады Васілька такі быў, учаснік вайны, ён кулямётчык, паляўнічы. Дзеду нешта нагаварыў, нагаварыў, што пан пускаў чарапаху да пані, і яны ўзялі і гэту чарапаху спалілі. Па цемнаце сваёй гэты нешта нагаварыў пра пані. Дык балотную чарпаху. яна ў Краснай кніге цяпер. Якая была прырода чыстая! Угалок у Плёсах дзікаваты быў,

прыдзеш раніцай на рыбалку, на канікулах, і ўвечары. Прыходжу раз, такі быў паварот, дзе старыца злівалася з Віліяй, яма там агромная. Старыца была незаросшая. Там Вілія такую дугу робіць, месца гэта завуць Высокі бераг. Я стаю — выплывае рыба, можа, усач, можа, што вялікая, метра паўтара. Я сваю вудачку кідаю ёй, а яна не рэагіруе. І вот яна, як цень, — раз! з глубіны выходзіла берага і — раз! туда, назад. Тады яшчэ відзеў сільна вялікую рыбу, усача. Яго спецыяльна для свадзьбы адлавілі ў 1967 годзе. Балея рыбы, і усач ляжыць. Тожа, можа, паўтара метра. У нас самая рыба была усачы і ментузы. Каб ласося ці сама злавілі — не чуў. На бульбу вараную лавіў вялікіх язёў. Лепш чым матыліца нажыўкі ў нас не было: цэлы іюнь не яе лавілі. Лавілі вялікіх яльцоў. Многа ляжала дубоў па Віліі, і пад гэтымі дубамі хавалася рыба. А раз дзядзькі кінулі аманала. Шашкі, імі карчы рвалі. Пад Даманава пайшлі, як кінулі, а вір круціў — фантан вады, можа метраў трыццаць, — ні адной рыбы, а тады падышлі яны. А я пацаном балтаўся. Вось гавораць: ідзе вялікая рыба, там малой не будзе. І праўда — уся вялікая была, сама меншая на кілю, і ніводнага малька не забіла той шашкай. Мелачы не было. Казалі мне (зап. у 2016 г.), што цырту селёта вясной лавілі на перакаце на Нарачанке, каля Ялажычаў, як ішла жывадзёрам, злавілі нямнога, можа штук пятнаццаць. Ды яшчэ раз столькі ж язей злавлі.

*Вёска* ***Раздоры*** *(Тышкевічы) (127 км/383) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Мікалай Іванавіч Мамай,** 1948 г. н., родам з в. Швяды (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685/177, у час беларуска-літоўскай экспедыцыі 2007 г., Вікінтас Вайткявічус, Юрась Унуковіч):

...Бальшой рыбы не вядзецца на Вяллі. Ну якая гэта рыба? Тамка васямнаццать кілаграм, там дваццать. Ну вот шчупак, напрымер. Такія: кілаграм шчупак. Ну дык што ж? Не сказаць, што гэта вялікая рыба. А адно врэмя агледзелі людзі сама, як у нас тут гаворацъ, на дзесяць пудоў. Сом. Сом — рыба бальшая. Расцець бальшая. І гэты сом, адно врэмя, ёсць такі футарок Даманава, у людзей было многа гусей, і выпускалі гусей, і прападалі гусі. Сом лавіў гусей. І думалі на суседзей. Ты на мяне думаеш, я на цябе думаю. Тады давай гаварыць: ну, па очарадзі будзем пасвіць, глядзець. Ну нехта ж крадзе гэтых гусей! І відавочна, у вачах гэнага чалавека, каторыму очарадзь прышла пасвіць гэтых гусей, сом заглаціў гэтую гусю. І тады людзі доўгае врэмя баяліся лезці ў раку, не зналі што да чаго! Гусей хапаў. Ну дзесяць пудоў! А ў пудзе — шаснаццаць кілаграм. А потым, там недзе каля жалезнадарожнога маста, у рацэ ёсць завадзі такія, мелкаводзіе такое, і яны яга ніяк не лавілі, а ён зайшоў у гэту мелкаводзію — і чэй ён быў, чыя была ўдача — агледзеў! Во так не ловячы і рыбу злавіў на ўсю вёску. Дзесяць пудоў — гэта дзесяць кошыкаў мяса!

**Вёска Раздоры (Тышкевічы) (127 км/383) Зінаіда Рыгораўна Мамай**, 1953 г. н. (зап. 2012 г., МММ):

...Коля ўжо два гады як захварэў. У аўгусце 2010-га. Сам ён, Мікалай Іванавіч Мамай, з 1948-га. Радзіўся ў Швядах. Быў вялікі рыбак. У Швядах усе рыбакі, у нас

не так. Хоць і плаваць, і ныраць, і ездзіць, і рыбу лавіць умеем — усё ж ля ракі жывём. Але ж на рыбу трэба ўдача. Такая ўдача, што, бывала, і нічога не прынясеш. А цяпер і ніякай рыбы няма. І рыбакоў нават у Швядах няма: ці састарэлі, ці памерлі ўсе. Умеў Мікалай лучыць, аднаго разу і я з ім ездзіла. Ладне тады прывезлі. Ён наперадзе з васцямі, ля накры, а я ззаду веславала. Акраз вышэй заборы, па лузе вада была шырака разліта. Ездзілі па мелкаводзе. Дык нават вялізнага сазана забілі. Я кажу: давай яго каму ададзім, надта ж вялікі, а Коля смяецца: самі з'ядзім, гэта ж самая смачная рыба. І праўда, мяса такое смачное было, як парасяціна. Зімой самая смачная рыба — ментузы, яны нерастуюць, як холадна. Смачныя таксама судак і шчупак.

Раней усе: і мужыкі, і бабы, і дзяўчаты — умелі кіраваць чайкай. Усе, хто ля ракі жыў, умелі прыс у руках дзяржаць. І маці мая умела, і саседкі. Усе. Каля заборкі сама цяжэй было. Дно там у Вяллі глінянае, цьвердае, нават прысам не упёрціся, як на чайцы едзеш.Там так дно вымата, аж скальзіць, там і вада быстро ідзёць. Прыс –гэта шэст такі, высатой мэтры чатыры. Хто які зробіць, але жэлацельна каб вышэйшы. Рабілі з ёлкі. Трыба каб крэпкі быў, каб папхнуцца. Вунь яны стаць пад дрэвам, каля ракі. І “чайка” яшчэ ёсць. А на лучніцу толькі мы з Мікалаем ездзілі, а так толькі мужык з мужыком.

**Тамара Дзмітрыеўна Сыракваш** (Мамай), 1959 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Даўней у Раздорах было толькі трынаццаць дамоў. Цяпер дачы сталі будаваць. Во гэта — з райіспалкама, Касцевіча. Жылі тут Тышкевічы, Сыраквашы, Мамаі. Дажа па-стараму Тышкевічы нашу вёску завуць. За рэчкай былі Плёсы, цяпер вёска вымерла. Самая смачная ў Вяллі рыба тая, што зловіш. Учора судак папаўся, дык елі, надта смачны. Рыбу ў асноўным дзеці і лавілі, старым за работай часу не было. Хазяйства, там араць, там сена. Акрамя што плаваць, дык усе на лодках умелі, і я з сеткамі на рыбу ездзіла. Дзеравянная ў нас была лодка, чайка. Згніла ўжо, і ту нехта ўкраў. Умела і з шастом, і з вяслом. Сеткі ставілі. Там рабіць нада ўсё правільна: чуць не так, не патрапіш — мужык злуецца, сварыцца пачынае, дык і рыбы той не захочаш.

**Мікалай Іванавіч Мамай**, 1948 г. н., родам з в. Швяды (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685/177, у час сумеснай беларуска-літоўскай экспедыцыі 2007 г., Вікінтас Вайткявічус, Юрась Унуковіч):

...У людзей да дваццаці кілаграм ласосі ў сваё врэмя былі. Цяпер няма. Гэта после вайны яшчэ, да вайны. І после вайны ў нас рыбы было ў Вяллі: кішэла. Кішэла рыбы. Ну, усякай. Там і лешч, і шчупак, і цырта, і бялуга, і налім, і плотка, і галаўні, і язі. Несчыслена сартоў было рыб! А цяпер абнішчацела прырода. Эта ў рэдкіх случаях, цяперка ў рэдкіх случаях можаш улучыць такую рыбу. Цяпер астаўся лешч, шчупак, ну, зімой мянтуз. Усё.

*Вёска **Трапалава** (138 км/372) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

Жыхарка Трапалава **(імя невядомае)** (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Уся рыба была смачная, усякую лавілі, а ў той, дзе касцей няма, самая смачная. Было рыбы. Ментузы, акуні і шчукі. Забілі аднаго раза ласося ля Трапалава. Са швядскімі яго лавілі, з Мамчыцам и Маркевічам. Мне мая хазяйка расказвала: «Прынёс пад раніцу, дык як глянула на рыбіну, аж спужалася. Галава роўна з маім Іванам, а хвост па зямлі цягнецца».

**Ерамей Аляксандравіч Мамай**, 1932 г. н., мясцовы (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Ля Слабодкі адно месца, ля ракі, дзе яма была, назва Качан-дуб. Рыбы было раньшэ Вяллі. Рака была глыбейшая, як цяперака. Я сам рыбак, у лучніцу ездзілі. У карно ўставіш накру — і паедзеш. Забівалі усачэй, жарстней, самоў. Усе самы былі пад Слабодку. Самыя вялікія рыбы ў Вялле — самы і ласосі. Ласосей мала пападалася, але пападалі. У асноўным больш гэтай палкі (палка около метра). Жарстні былі бальшыя. Зімой лавілі ментуза, як нераствоў. Ментуза лавілі ў сеткі і на пераметы, на краўжа. Пападаліся і вугры. Я сам лавіў вугроў. З вангораў, як варыць, знімалі кожу. У лес можна было хадзіць па картачцы. Адрабі пані — картачку дадуць. А калі пойдзеш без карткі, то ляснік наляціць, у яе быў, то злове, кошык адбярэ, то паламае. Усяк было. Дзед мой Янук, Іван Дзмітрыевіч Мамай, плыты ганяў і ў Вільна, і ў Коўна, а я не ганяў. Ён наперадзе быў, глаўны. Бо хто наперадзе, той галаву вядзець. Задніка штырнік звалі. Многа ён сцішкоў складаў, усю дзярэўню перахрысціць. Складаў сам праз сябе, нідзе не вучыўся. Рыбак на лучніцу быў заядлы. Лавілі таксама ведзяёй, шнурамі, палазамі, бучамі. Даўней у лучніцу збіраліся аж у восем лодак. І гналі падгонам рыбу. Каму як павязець, на каго пойдзе рыба. Але беражному было заўсягды лепе. Як павязёць. Аж пад Смургонь на кар'еры спускаліся, кілометраў на дзесяць, і тады назад, уверх. Але, як кажуць, свая цяльняшка не цяжка. Лодкі ў нас кожны сам сабе рабіў, усе ўмелі. Хаця былі і такія, што не ўмелі. Трэба было паняціе мець. Рака раней не такая была: баб у лодку насадзіш, вязёш — весела.

**Уладзімір Фаміч Мамай**, 1914 г. н., мясцовы (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7685/204):

...Пака не перакрылі ў Вілейке, рыбы было навалам, і якой хочаш было. І вангароў, і ляшчоў, і галаўнёў, і язёў. Якой толька рыбы не было! І вусачоў. Разнай рыбы было.

— *А раскажыце, як лавілі да вайны?*

— Як лавілі? Вялі шнур такі, а на шнур маленькія вяровачкі чаплялі. На адзін канец — камень, і на другі канец — камень. І закідалі ў раку. А назаўтра ўжо бярэш бусак і дастаеш. Як рыба бальшая, дык тады савок такі быў, падсоўваеш: так цягнуць, дык адарвецца, як бальшая рыба. Тады савочак раз падлажыў і сюда.

— *А як яшчэ лавілі?*

— Лавілі сяляўку, яльчыка, невялічкую рыбку. На гэтага коніка, каторы прыг-прыг. І на гэта прынада. Зловіш яльчыка гэтага, і чапляеш на бальшую вуду, і закідаеш, як цяперака, блісна, ці спінінг, называецца. Дык вот тады рыбку жывую начэпліваеш — і закідаеш, і закідаеш. А шчука тады хап — і ёсць. Тожа тады нада

савочак, бо бальшая рыба. Па восем кілаграм шчукі былі. Такія бальшыя шчукі былі.

*— А ўночы ці лавілі?*

— Уночы толька ўжо трыгубіца. Застаўлялі трыгубіцу, дзе ўжо зацішша, атвойчык называлі мы. І тады спецыяльны боўт, так называецца. Боўтаеш і боўтаеш, заганяеш. Тады нада з поўчаса пасядзець, зразу не падымаць сеткі гэтай. Трыгубіца называецца. Поўчаса прайшло, тады падымаеш. О, ёсць рыба. Во так і лавілі.

*— А на лодках ці лавілі?*

— На лодках — гэта вядзяя называецца. Учатырох: два цягнуць лодкі, а два дзяржаць сетку. — А ўночы так лавілі?

— Уночы не. Толька трыгубіцай ночы.

*— А з кастром ці лавілі?*

— З кастром бывае. Але строга-настрога. Лучніца называлі. Смалякі загатаўлівалі і ночы тады, восці мы называем, па-рускі астрага, а пабеларуску восці. І вот, брат, ужо такія людзі ёсць, на якіх рыба ідзёт! Тут вёска Швяды, два былі рыбакі, што на іх рыба. Адзін гарбаты быў, калека быў, вот на яго ішла рыба! Ад гэтага шусь, а на гэтага як навязана. Стаіць, як прывязаная, — і ўсё. Чук васцямі і.

*— А якая самая вялікая вам траплялася рыба?*

— Самая вялікая рыба, вот дажа ляшчы, яны і цяпер пападаюцца, але як толька нарастуець, цяпер ляшча зловіш. А так такая рыба, што нікагда на вуду ні вазьмёцца, очынь жосткая рыба лешч. Такая ўжо шырокая, што засланка ў печы. Такая шырыня, але недаўгая. Даўгі толька вангор быў, длінны. Па палтара мэтра вангары былі, пяць кіляграм…

**Уладзімір Фаміч Мамай**, 1914 г. н., мясцовы (зап. 2009г. М.М.М)

… Дык вот і прырода. Адкуль яна гэта цячэць, вот дзіва, наша Вялля? Там камень вялікі недзе у Віцебскай воблаці у лесе ляжыць. Дык кажуць:там цяперака надта шчукі бяруцца — адзін вывудзіў на 6 кіляграм шчуку. А у нас няма. А даўней, пака не перакрылі, што рыбы было! Самая смачная рыба мянтуз. Але яе не куплялі жыды. Судака даўней амаль не было. Жэрствня лавілі на крамжа. Лапатай выкапывалі і чаплялі на кручкі на шнуры. Шнур таўсцешы і да яго прывязывалі тоненькія лесы, называліся у нас вусачы. А вось рыбу вансача лавілі васцямі ці найлепі взрыўчаткай. На шнуры жэрствень браўся рэдка, найчасцей галавень, язь, шчука на гэтага крамжа. Мянтуз ужо увосень. Шнуры ставілі з чайкі, а у каго не было з берага кідалі. Калок укапывалі у беразе, чаплялі адзін канец а другі з грузам кідалі у ваду. Чайкі рабілі спецыяльныя сталяры. 5 упруг у сярэдзіне для прочнасці.

*Вёска **Слабодка** (133 км/377) Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці*

**Вікенцій (Вінцук) Пятровіч Белянкевіч**, 1926 г. н., мясцовы (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Мне 87 гадоў, а брату 90. Жылі ў Слабодцы тры нацыі: праваслаўныя, каталікі і жыды. І гэта на 9 хат. Яўрэі зямлю паролі таксама, як і мы. Адразу не ўмелі, але навучыліся. Касілі добра, так, што соль на плячах стане. Сенакос у нас цяжолы касіць. Сівец рос, цвёрды такі, купінамі. Урочышча ля берага называліся Аселіца, там Заграззе, там Выган, там Палянка. У 1943 гаду першы і апошні раз былі ў Слабодцы немцы: прыехалі, палавілі кур, вывелі ў лес жыдоў, застрэлілі ўсіх: і старых, і малых — і паехалі. На той старане была зямля каталікаў Акушка. Была на той старане і наша зямля, аднойчы Вялля адмыла, змяніўшы русла. Даўно гэта было. Бацька мой там жыта садзіў. Кусок зямлі тады дорага стоіў. Хараіліся праваслаўныя на той старане Вяллі.

*— Дык вы ж Вінцук, напэўна, каталік?*

— Ну і што з таго, што Вінцук? Я праваслаўны. Тут у вёске ўсе так мяне клічуць. Можна, канечна, і па крашчэнію, Вікенцій, Вікенцій Пятровіч Белянкевіч. Але ўсе прывыкшы па-простаму: Вінцук. Ці, хто хоча, Вінцусь. У лес мы хадзілі пры ўсіх уладах: мы ж лясныя людзі. Хоць у панскім лесе збіраць ягады і грыбы нельга было. Пан так загадваў. Ну і што ж, калі злове, ну паругае, калі і штраф дасць, калі і так пусціць. Я колькі хадзіў, ні разу не папаўся, я ж у лесе жыву, хіба ж мяне пан знойдзе і злове! Ісці з кошыкам ягад ці грыбоў не баяўся, бо ў нас свой лес быў, абы не папаўся, як збіраеш. Гарэлку пры Польшы так, як цяпер, не гналі.

*— Мусіць, строга было?*

— Ну што там строга?! Калі зловяць, шэсць месяцаў турмы. Не было з чаго гнаць, бо шкадавалі зерне: трэба было кабанам, трэба было кароўцы, курам даць. Усё ж хазяйства было, трэба было карміць. Не так жа пілі, як цяпер п'юць! Тады вып'е на Каляды, на Вялікдзень, тады на Сёмуху. І ўсё. Свадзьба якая, дык адна чарка кругом ходзіць. Ходзіць памаленьку. Літраў колькі вып'юць — і парадак, а цяпер трэба канамі. Кожнаму чарку, кожнаму стакан. Я рыбалкай асобенна не займаўся. Толькі што ў дзецтве. У нас у Слабодцы такіх рыбакоў не было. Але ж рыбу елі. Найсмачней гэта келба. Бярэш два, а то і тры кручкі, прывяжаж да лесы з конскага валасня, вудачку з бярозкі зрэжаш, абкарыш, забрыдзеш у ваду, а яны ідуць на муць, каля ног круцяцца. Начэпіш чарвячка — і цягай. Вудаўё таксама рабілі і з ляшчыны, але з бярозкі длінней. Бучы і сеткі болі ставілі людзі з правай стараны: Трапалава, Швяды. Было даўней рыбы ў Вяллі: язі, вусачы, галаўні, цырта, бялуга — усякай рыбы было. Пакуль вада белая была. А як затапілі вадахранілішча, вада чорная стала, густая, зялёная, і рыба адразу звялася. Цяпер вродзе зноў пачала паяўляцца. А як сойдзе вада, дык зелень, гразь па берагам, такая, што руку не адмыць. Лодкі ўсе дзяржалі. Праз Вяллю трэба, ці ў Вілейку з'ездзіць. Даўней лодку да берага прыткнуў, прывязаў — будзе стаяць. А цяпер нават замкні — украдуць. Дзе да берага прыстаў, там ужо з лодкі не выходзь. Я ў чатырнацаць гадоў пайшоў касіць, разам з бацькай, на гэтым і скончылася мая рыбалка. Трэба было балота касіць.

**Пётр (Пётра) Пятровіч Белянкевіч**, 1923 г. н., Слабодка мясцовы, (памёр у 2015 г.у в. Слабодка, зап. 2013 г., М.М.М.):

Ці пры Польшы, ці пры Саветах, каб добра жыць, трэба было працаваць. Не будзеш рабіць, будзеш п'янстваваць — нідзе не будзе толку. Я не рыбак, хоць каля ракі жыў. Ну, лавіў, бывае, акуня, плотку. Бывае, язя, што пападзецца на чарвяка.

*Вёска **Мамаі** (129 км/381) Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Мікалай Ільіч Мамай**, 1933 г. н., мясцовы (зап. 2013 г.):

Мамаі — мая радзіма. Самы рыбак у Мамаях быў Міхалюк, хатка яго яшчэ стаіць. Ён пракцічэскі адзін і быў, бо другім не было калі займацца гэтай рыбалкай за працай. Міхалюком яго празывалі, а фамілія была Мамай. Ён лавіў толькі на вуду, сеткамі не займаўся. Было ў яго вудзілішча дліннае, не такое, як сейчас, суцэльнае. Вудоўі рабілі найбольш з бярозы, ляшчыны і пад'ялоўца. Пад'яловец на канчык ставілі. І вот ён, еслі махане, а рака шырокая, так вось ён мог перакінуць аж на той бок. Цапляў каніка, ці гэтага грачаніка. Гэта ў яго лоўкасць такая была. Як спецыяліста крупнейшага. Ніхто іншы не мог тога жучка — грачаніка запусціць на жылцы гэтак і перакінуць аж на другі бок ракі. А леску ён вязаў з конскіх валос. Ну колькі там дліной валасіна, а звіць, звязаць такую даўгую і вуділішчам як пусціць — і ляціць гэты самы конік аж пад бераг. А ён плывець пасрадзіне ці пад гэтым берагам. Плывець з аднім вяслом такім маленькім. А помніце, тады была такая рыба, ялец. Во гэткая ўкусная! А гэты ялец ім іспользаваўся як жывец на шчупака. Тагда ж не было блёсен, спінінгаў. Ялец быў лепшы жывец, таго ж келбуна ён не браў, гэта толькі я ці хто другі бралі келбуна за жыўца, і то калі з берага лавілі на вуду. У Міхалюка быў такі маршрут: уверх, дзе Качан-дуб. Качандуб — там такое месца ёсць каля Тышкевічаў. Там рыба была, з тога боку. Не такая рака была, як сейчас. Ямы былі глубокія. І ён ўжо заплывець, і плыве адтуль, налавіўшы, можа, пяць, можа, дзесяць шчупакоў на вязцы, счапіўшы за лодкай. Вязка была з металу ці тоўстай драціны, во так сагнута і акуратна да вяроўкі прывязана. Бо вяроўку шчупак перакусе. Яны ў вадзе на вяроўцы так і цянуцца, у той вадзе, дзе жылі. Шчупакі тады бальшыя былі, во гэткія. Ну на кіль па пяць былі. Калі браць самыя смачныя рыбы ў Віллі, то гэта быў вусач, галавель, вангор і мянтуз. Вангораў я сам лавіў вясной на шнуры. На адным канцы камень, і на другім камень, шнур, і на кручкі крамжа вешалі. На адным шнуры да дваццаці кручкоў чапляў. Кручкі раней — гэта было багацтва. Рабілі самі з провалакі меднай. Трохі клепанеш, зарэжыш. І гэты кручок разгібаўся. Цяпер і кромжэй не відаць. У Мамаях у кожным дварэ была свая чайка. Ставілі шнуры з чайкі. Во так вот разлажыў сюды кручкі, патом плывеш, ну, как абычна, на гэты бок, а то ж вада цячэ быстра, каб не спутала. Так вот перакінуў вечарам прымерна, а раніцай зняў. Вясной, калі вада ўпадала, бралі добра ў асноўным вангор і мянтуз. Вангора цяжка было выцягнуць, яны вялікія былі, хвастом пад лодку чапляліся, кручкі разгіналі і часта ўхадзілі. А ён слізкі такі, круціцца.У нас, дзяцей, не было добрых навыкаў, як яго не ўпусціць. А ўжо калі выцягнуў, то бягом ад радасці на гэту гару. Вот я быў у Літве, відзеў, як прадавалі там вангораў, але чаму з іх не была знята кожа? Можа, хіба гэна былі

капчоныя. А ў нас з вангора адразу снімалі кожу і тушылі ці жарылі. Такі быў тут заведзены звычай.

Ласося я не лавіў, гэта больш рыбакі са Швядоў. Лавілі глубокай восенню на лучніцу, у некалькі лодак гналі сюды рыбу да Акушкі. Тут мелка было. Назва Акушка пайшла ад чалавека, што жыў, хутар там быў такой. Тыя людзі к палякам аднасіліся, не знаю, ці жывець там хто. Па той старане ракі ўся іх зямля была, і лес і поле, ад таго і назва. Так там, у Акушке, забілі ласося. Але гэта рыба марская, рэдкая, я яе не знаю, вось вусача добра знаю, галаўля добра знаю, ментуза добра знаю, ну, шчупака. Бялугу знаю, белая такая рыба, рот унізе, невялічкая, але смачная рыба. Ой, многа яе было! Помню, да бацькі неяк прыйшлі партызаны. Былі ў яго знаёмыя, ён ім кое-што так дзелаў. Паламаюць гэту стрэльбу, прыдуць: зрабі, пачыні. Бацька па дрэву ўсё мог рабіць. Прыйшлі вечарам, далі нейкае цаўё пачыніць і папрасілі чайкі на рыбу з'ездзіць. Іх было трое, заплылі пад Качан-дуб. Кінулі ўзрыўчатку, прывезлі поўную лодку. Што-та ўзялі з сабой, а астальное нам. Была гэта цырта. Лета, халадзільнікаў не было, солі не было. Што маці прыдумала: клала ў печ і сушыла. Насушылі пару мяхоў. Бульба ёсць, рыба ёсць — можна і жыць.

**Пётра Салавей,** 1935 г. н., мясцовы (зап. 2012 г., М.М.):

...Не было такога рыбака на вёске, як стары Міхалюк. Ён мог лодкай не ўпраўляць, шчупакоў навязваў — і цягнулі. Ён знаў, калі ехаць, куды ехаць, на што і дзе лавіць. Ён быў мужык стопрацэнтовы. Ён да рыбы і да баб — гэта ўжо ў яго першая спецыяльнасць. З ног да галавы глядзеў бабу. Не было больш такіх ядавітых да баб у Мамаях. А цепер і Мамаёў няма — усе бежанцы, папрадавалі хаты дачнікам.

**Аркадзя Салавей**, 1950 г. н., мясцовы (зап. 2012 г., М.М.):

...Тады рыбы было. Пойдзеш на вудачку — і то пяць шчупакоў зловіш. А то дзесяць шчупакоў сарвецца — і ніводнага не зловіш. Самыя смачныя былі келбуны малыя, як пажарыш. Акунь вкусны, тады мянтуз, тады вугры. Судака раней мала было.

Ныралі з пісталетам, у хлапцоў старэйшых бралі. Поўная рака рыбы была. Пад любы корчык занырнеш — там кішыць рыбы. Пісталеты былі самадзельныя, з рамы ад ровара, прорэзь дзелалі. Ручку самадзельную. Ілі кап'ё рабілі, трызубец: палка, і на канцы нацягнутая гумка. Нацягнеш рукой на палец — бах — і ўсё, ёсць! І так калолі, найболей вусачэй. Яшчэ цырта была і бялуга, такая белая рыба. Як зрабілі вадахранілішча, то не стала іх. Няма іх цяпер у рацэ.

*Вёска **Швяды** (140 км/370) ВілейскагараёнаМінскай вобласці*

**Леанід Іванавіч Мамай**, 1951 г. н., мясцовы (зап. 2012 г., М.М.):

– *Кажуць, што ў Швядах самыя лепшыя рыбакі былі?*

— Ну, якія там лепшыя! Лавілі ведзяёй патроху. У дзве лодкі. Васцямі ласося забіў ля Трапалава Алёшаў бацька, мусіць. На дваццаць, а мо і болі кіль быў той ласось. Лавілі тады з агнём. Як вада была чыстая. Цяпер ніколі не паедзеш, вада

карэлая. Цяпер Вялля не рака, а канава. Саўсем не тая рака была. Ямы скрозь былі па тры, па чатыры метры. Болей, можа, не было. Хаця былі і віры падхадзяшчыя, болей за пяць метраў. А так, дзе і мелка, брады былі. На конях пераязджалі, дзе брады былі. Пад'езды да ракі былі. А цепер жа ў раку бяда ўлезці. Во гразі з берага! Дно толькі на сярэдзіне. А з берага — бяда ў раку ўлезці. А якая вада карэлая зараз, зялёная. А была такая чыстая, што пілі з ракі. У канцы жніўня зайдзеш на высокі бераг, дык відаць было, як вансачы на дне па ямах стаяць. Не стала ні ям, ні вансачэй.

Цяпер жа ўсё заросшы. Цяпер жа дзіка ўсё зрабілася. Даўней скаціна была, выядала траву, усё выбівала. Усё харашо было ля берага, усё было чысценька. Зара ўдавы пладзіцца будуць. Ужо і выкашываеш усё харашо — учора сяджу на ганку — во! паўзе во-о гэткая, еці яё маць.

Я кажу: «Куды паўзеш?» Палкай вярнуў, пайшла. Я кажу: «Я цябе не хачу відзець». Я гаджуся на іх глядзець. Вужака. Хужэй гадзюкі ў вёсцы. Сёлета вунь у Асінаўцы ў падворышчы чалавека ўкусіла. Гадзюка. Ну, у падворышчы. Такое пашло: скаціны няма, зарастае ўсё, усё дзічэе. І рака дзічэе. Усё.

Калі шлі на лучніцу, то кідалі жрэбій, каму дзе ісці. Палачкі зробіш — і цягні. Каму карацейшая, каму даўжэйшая. Каму правы бераг, каму левы, каму сярэдзіна. Больш рыбы забіваў той, хто быў ля берага. Было, ішлі ў пяць чаек. З ведзяёй спускаліся ўніз па цячэнню. А з лучэннем ішлі і ўверх, і уніз, разніцы няма. Ну, канешне, калі на ніз, як мы завём, плывеш па цячэнню, і рыба ідзець, скарэй нарвешся на рыбу, але ж забіць можа горай. А ўгару і падажмеш тады. На свайго партнёра кажаш: «Не чапай, не чапай, блага яшчэ ідзець». Ці жаспень, ці якая вялікая рыба. Дык тады, панімаеш, жмеш яго, жмеш. Ён ідзець шыбчэй — і ты шыбчэй, ён цішэй — і ты цішэй. Ён скора морыцца. Тады ідзе ў бераг, прыастанаўліваецца, прыастанаўліваецца. Тады пад'язджаеш, падкладываешся, падкладываешся (рэзка няможна), ён — жых! — і пайшоў! Але каб ён так прыблізіцельна быў, ійці і ійці, думаець, а я за табой, за табой. А тады, калі яму ўжо няма куды, відзіць агонь, тады ўжо падкладываешся, ну ўжо тады ты — шарах іё. На васцях палка была даўгая, метры чатыры. Што ж, калі палка кароткая — гаўно, рака ж глыбокая была. Восцямі біў і з воздуху, і з вады, як справішся — рыба ж не чакае. Бывае, як укопанная стаіць. Бывае, ляціць — б'еш, калі справішся. Усяляк бывала. Я лічна раз сазана забіў на пуд. Мы тады ў адну ноч тры штукі забілі. Але астатнія невялікія — кілаграм на пяць. Цяпер у мяне смалякоў поўнае дварышча. Прыкаціў калодку — тут сасонку рэзалі, так мне смаляк аддалі. Смалякоў тых у мяне ужо няма дзе дзяваць. А раней гора было смалякоў дабыць, леснікі не давалі, старыя пні ўпотай карчавалі, выкапвалі, і тое месца ўсё чысценька прыбіралі, каб не пазнаць, дзе пень стаяў. Скока гадоў усё хачу з'ездзіць, ды вада ўсё карэлая, карэлая, карэлая. І нічога не здзелаеш. А накра напагатове, вунь ляжыць на дровах. І чайка спраўная, прасмоленая.

Калі лавілі ведзяёй, дык па вадзе ці борту «чайкі» вяслом няможна было ляпаць, каб не пудзіць рыбу. Трэба было ўмець кіраваць лодкай ціха.

Мы ні барты, ні вёслы аўчынай не аббівалі, толькі шост. Усе рыбакі ўмелі, злаўчыўшыся, ціха ездзіць, каб кропля з вясла не ўпала. Пра мяне адзін стары рыбак казаў, як я яшчэ вучыўся: «Лёня так едзіць, як на Вялікдзень сонца грае. Так едзе, харашо, атлічна». Самая смачная рыба — рачны сазан. Нет укуснейшай рыбы. Яго трэба абычна, па-вясковаму, проста жарыць. Красата. Яго еслі нажарыш, еслі чалавек не рыбак, а так, як я, іх, вялікіх, у сярэднім па восем кіль забіваў, часам па шэсць, пяць, а яны вялікія ёсць: па сорак кілаграм другія забівалі, дык яго нажарыш, як не рыбак, скажаш: «Ну рыбу еш». Дык другі скажа: «Якая дзе рыба? Гэта ж мяса, якая рыба! Такое мяса цёмнае». Сільна ўкусная рыба. І жэрах укусная рыба. Яна красівая і ўкусная. А што вы думаеце, лешч не ўкусны? Еслі лешч больш за тры кілаграмы — няма ўкуснейшай рыбы. Канешне, калі во — ляшчоўк, так там косць. Ну еслі два-тры кілаграмы — ого-о рыба! Божа мой, якая ўкусная. Мянтуз тожа харошая рыба, касцей нету. Судакі тутака пярвей былі: тожа смачныя. Вот, як мы празывалі, бялуга і цырта такая. Бялуга была больш чым цырта. Бялуга такая таўстая рыба, але яна з касцямі. Кастлівая рыба. З кілю такая, можа, крапчэй. Рыла як у свінні. Круглаватая, белая рыба.

А цырта — яна плоскінькая. Яе тры сарты. Грачанка, другая. ужо забыўся. Адзін сорт даходзіў да кілі. А другі і трэці сорт па паўкілі. Адна ў адну. Мелкаватая, от. Невялічкая такая расла. Касцістая. Але калі тушонку з яе зрабіць, то смачная. Добра скапціць. Жырная рыба, але надта касцей у ёй. У ведзяю добра лезла. Цырта і бялуга нагладка звялася, нават на зелле не знойдзеш. А пярвей на заборах яе, як гаворыцца, што кашы было. На заборах нераставала. Забора — гэта дзе шыбкая вада, дзе каменне. Ішла на нераст у першых чыслах апрэля. Пачынала так восьмага. Аляксей трыццатага, а яна ў першых чыслах. Ад пагоды, канешне, але прыблізіцельна так. Як сопла, то пярвей дзень, два. Пярвей, мне-то не прыходзілася, а старыя людзі гаварылі: жакі ставілі, дык у жакі бялугі так налазіла, што выкачывалі на бераг, падняць не маглі. А цяпер звялася на нагладка. Чаму? Дзе яна дзелася, я не панімаю. Ці там, гавораць, дамбу зрабілі ў Літве, ці дзе тамака. Нешта гавораць. Няма яе. Дык узяць жэрахаў там, дзе забора шум у Нарачанцы, ля млына — аж кіпела вада. Кішэла яе.

Кажуць, і вангор смачны, але я калі яго забіваў, то не браў. Аддаваў напарніку. Мы іх многа не забівалі, тут не сталіца іх, але вангораў было. Былі яны больш у Нарочы і ніжэй па Вяллі. Кажны раз, як паедзем туды — хоць аднаго заб'ем. Як дам васцямі — аж круціцца. Я кажу: «Геня, забірай», бо я яго жудзіўся. Мне здавалася, вот гадзюка, і ўсё. Ні за што браць не буду. Есці я яго не буду. Аднаго як даў у Нарочы ў камень, дык і адламаў восці. Гляжу — круціцца, дык узяў запасныя восці, чах — і палажыў. Запасныя восці заўсягды бралі. А тады прыехалі дамоў, браць, выкідваць з горкі: будзем дзяліць рыбу. Я як узяў яго, а ён як крутане ў руцэ, дык я і восці кінуў. Дык я кажу: бяры ты і знімай гэтага гада, і дамоў бяры. Аднаго ў Нарочы відзёў, дык вось такога. Але восці былі блага наточаны, прытупіліся аб каменне. Я, яшчэ ад'язджаючы, папытаўся ў напарніка: «Восці добра наточаныя?» Ён кажа: «Нармальна, восці як шыла». Ну, я не глянуў:

нармальна дык нармальна. А вангор той вялізны быў наводаль, трэба было біць на ўсе восці. Дык не прабіў яго. Толькі папхнуў яго. А там быў вангорышча. Як дуга ў кані. Надта шкадаваў з таго няўдалага ўдару, хоць ён мне не нада быў, той вангор, але б напарнік паядаў бы.

Восці на сазана і вусача трэба каб сільна прочныя былі. У яго зверху пяро такое, калі восці хілаваценькія, і зверху даць, дык так пайдзёць. Табе восці зробе во гэдак, разагне, зуб ад зуба. Рукамі так не разагнеш. І не возьмеш яго, як ён махане. Сазан — сільная рыба, божа мой. Як дасі ў сазана, што на паўпуда ці болі, — трэба пускаць восці. Калі не пусціш — сазан такі сільны, што можаш і ў рацэ быць з ім. Так рване, што не ўстаіш, такая сіла. Пусціў — хай гуляе. Што, асцявідла дліннае. Адляціць метраў на дзесяць, во як да яблані, і стаіць. І асцявідла стаіць. А тады ўжо млееь, асцявідла на бок, выварачваецца хвост, як лапата. Тады пад'едзеш, другімі васцямі шарах — і ўсё, у чайку! Я многа лавіў, шчупакоў вялікіх забіваў. Цяпер няма з кім, не ловім цяпер рыбы.

Вансача было многа ў Нарачанцы, гэта ж такая мошчная рыба. Я адну ноч аж дзевятнаццаць штук узяў. Усе былі па пяць кілаграмаў, адзін шэсць кіль быў, толькі адзін маленькі — на два. Я паважыў. Старыкі казалі: былі вансачы па паўпуда, а я большага, чым шэсць кіль, не забіваў. Стаяў вансач дзе, як мы гаворым, самы люфт, дзе цячэнне, каля камянёў. Дзе вада б'ець. Пачці ўсё цячэнне зліваецца туды. Куды вада пайшла з усёй ракі. Мы такое месца завём люфт. Там такія каменчыкі, дно чыстае. Каждый каменчык відаць, дык добра тады і яго біць. Бярэш папраўку на цячэнне і б'еш. Ды ездзіць умелі — я табе на любым цячэнні на чайцы стану — і рабі, што хочаш. Прэсам упруся і прыстану. Паддзяржу, калі нада паддзяржаць. Буду стаяць, як угару еду. Лодка будзе толькі віхляць троху.

Я на донкі не лавіў, гэта толькі дзядзька мой лавіў на шнуры. Шнуры ён рабіў ад мейсца, якія яму нада, дзе лавіць будзе, і на дванаццаць кручкоў і на чатыры. Дзе які камень акруціць трэба. Рыбы многа лавіў. І вангары браліся, і ментузы браліся, і галаўні, і язь.

Чайкі ўмеў рабіць мой брат Коля, у Раздорах. Цяпер бальны. Ён быў вадзяны чалавек. Ён пярвей рукамі налоўліваў болей,чым сеткай. Паехалі яны раз са старыкамі яшчэ. Я ўжо, можа, егдзіў, а можа не егдзіў: ён за мяне на тры гады старэйшы. А жара стаяла. Паехалі ўніз у ведзяю. Нет рыбы. Як усіроўна ў рацэ няма. Ну, злавілі яны па пару кіль, ну, ерунда. Тады ён на старых рыбакоў гаворыць: «Палезу я пад каменне». А там, ніжэй Нарачанкі, месца ёсць, камень на камні. Гаварыў, ёсць такія норы ў каменнях, што чалавек увесь туды залезці можа. Такія падходы. Апасна і лезці: можаш ці крануць, ці што, ды цісь — і ўсё. Ага. Ну, палез пад каменне. Дык ён з аднаго каменя адзінаццаць вусачоў во гэткіх дастаў. А быў адзін бальшы, дык абняць не мог. Мацаў, мацаў яго — ніяк. Думаю, паганяю і меншых, і гэтага не злаўлю. Узяў выпхнуў яго, ідзі, кажа, а меншых усіх падаставаў. Ён тады праславіўся, што рукамі болі налавіў, чым у ведзяю старыкі. Быў такі і Пеця, тожа Мамай, няма ўжо, пакойнік. Баніфат яго празывалі. На

«Зеніце» рабіў, клей БФ пілі, дык празвалі Баніфат. Дык тожа надта ўмеў рукамі лавіць. Дык яны ўдвух у вадзе рыбу дастаюць, выкідаюць, а мы па беразе ходзім збіраем. Па вязанцы, брат, налавілі. Плоць і акуні, плоць і акуні. От іх было пад каменнем! А накра вунь ляжыць. Ляжыць, ёсць.

**Леанід Іванавіч Мамай**, 1951 г. н., мясцовы (зап. 2013 г., М.М.М.):

...На лучніцу гналі рыбу звычайна ад Швядоў да Мамаёў, да отмелі. Той бок пад Мамаямі сільна глыбока было, мы там васцямі рыбу ганяем і да Мамаёў, там от-мель была. Назва той отмелі была Акушка. На тым баку быў хутар, там жыў чалавек Акушка. Католік ён, паляк быў. А там, пад Трапалава, заліўнушка: рака і возера ёсць. Возера прыроднае. Там пярвей рыбы многа было. І брэднямі, і таптухамі там лавілі. Прыспасобу для лучніцы, дзе ложуць смалякі, у нас і старыя людзі, і мы завём накра. Каза ніколі не звалі. У лодке пяць адсекаў, іх раздзялялі ўпругі.

У нас лепшы рыбак на вуду быў стары рыбак, зваўся Цыган. Ён знаў, дзе ў якім адвоі які ёсць шчупак — ці малы, ці вялікі. Заядлы рыбак быў. Пярвей рыбы было многа. Яму нашто сеткі былі: ён на вуду наловіць. Плоць, язёў, галаўнёў. Было ўсякай рыбы. Васцей у нас усялякіх. Меншыя, большыя. Была рыба такая, што нам ламалі восці. Слабенькімі васцямі не возьмеш. Вусач які ці сазан які во гэтыя (наш стандарт: шырыня — у дзве пядзі, дліна — у пядзю, асцявідла з ёлкі — чатыры метры) і то згінала рыба. Еслі сазану ў якое месца даць упярод, дык гатова: разгінала і гэткія восці. Забіць рыбу можна на любой глыбіне, еслі ўвідзіш і не прамажаш. Але, відаць, рыба да двух метраў. Бучы раней з дубцоў рабілі, а потым з металу, з дроту. Шкура з вангораў крэпкая, у нас для цапоў шла, што хлеб малаціць. Гужы рабілі. Гэта цяпер капрон, а даўней людзі выдумывалі ўсё з прыроды. Сёлета ў Колі ўкралі лодку. Яго ўжо няма — і лодку ўкралі. Папёрлі. Дзяўчына шукала — дзе ты найдзеш! Я гавару: «Усё ўжо», гавару. І ў Лёшы ў Трапалава, майго таварышча, таксама лодку ўкралі, пагналі. Кажды год крадуць. Кажды год. Гоняць туды ў кар'еры гэныя, пад Белую. Гэта валацугі, п'яніцы. Пытаюца, напрымер: «Табе лодка нада?» Ты рыбак. Ён гавора: «Нада. Дам пару літраў гарэлкі — прыганіце». Вот так. Яны кожны год крадуць. Для злодзея замка няма, замок для чэсных людзей, перарэжа ланцуг — і ўсё, пагнаў лодку. Лодкі рабілі жэлацельна з яловых дасок. Лягчэйшая. Я-то адну лодку зрабіў і з сасны. Мне дзядзька панімаў, падабраў. Глаўная, каб ардзелі не было. Дзе ардзель — прэе, гніе. Ардзель — гэта дрэва такое краснае. Яно маментам прэе. Так-то яно цвёрдае дрэва, але не даўгавечнае, не прочнае. Тая лодка з сасны мне служыла дваццаць сем гадоў. Дваццаць сем гадоў я глядзеў за ею. Сасна болі ходзе, як ёлка. Гэта смала, не так гніе. Ну я смаліў, прапітываў кожны год. Як лодка служыць, завісіць ад досак. Як якія доскі пападуцца. І як ты яе будзеш глядзець. Які ты будзеш хазяін для яе. Еслі год прасмаліў, два не прасмаліў: ай, яшчэ не цячэ, яшчэ не трэба — ну дык ерунда. Як будзеш жалець.

Асінаўка будзе ўбаку, справа, перад Нарачанкай. Блізка ля ракі Алянец. Аж туды мы, браток, на рыбу спускаліся, аж ніжэй Алянца. На лучніцу на гэту. Там

такія ліна праз раку ёсць (Данюшава), а далей той ліны мы ўжо не спускаліся. Вот. Там ужо рыбы было — божа мой мілы! А там кар'еры, яна як вылезе з кар'ераў! Як ноч харошая бывае і ўвосень цёпла — усё, радамі рыбы йшло! Рыбы — во — жарсні па пяць, па шэсць кіль, ляшчы па дзве-тры кілі. Мы з таварышам, як заехалі ў адзін закутак у Чарапана, там пярвей порам хадзіў, мне старыя рыбакі гаварылі. Ага. ў закутак як загналі, дык, муся, во такіх штук з дваццаць, і ты знаеш, як не пайшло нам — дык і нічога мы не забілі. Чайка мая чуць ідзе, становіцца, во па гэтуль вады, а яны яе абмінаюць з бакоў. Дык я кажу таварышу (яго ўжо няма, пакойнік): «Ты ж забі хоць аднаго», гавару. А ён усё большага выбірае, глядзіць на рыб як зачараваны. Я тады вылаяўся матам: цісні, хоць аднаго, кажу, тваю маць! Тут паўзе штук з пяць яшчэ. Дык ён даў, аднаго на шэсць кіль палажыў, забілі. А там іх дваццаць, а то трыццаць, можа, было. Гэта як пайдзёць рыбалка, адно паглядзець прыгожа. Вот як пайдзёць, брат. Бывае і нічога, нікак. Нешта вот у такі час гэта было. Дык там ужо рыбы было — ай-я-я-я-я! Але ж далёка, папробуй чайку прыгані пад ваду тады. І ганялі, такі інцярэс быў. Ласосей не толькі васцямі білі, а нават у ведзяю нашы рыбакі злавілі. Я тады яшчы не быў рыбак, яшчэ пацан быў. На васямнаццаць кілаграм быў той ласось. У ведзяю. Злавілі яго месцам, як мы завём, Котра. Гара вялікая, за паўкілометра да месца, дзе Нарачанка ў Вяллю ўпадае. Не даязджаючы Котры злева тожа ёсць спрытненькае высокае месца, тожа гара, тут яны і злавілі, чуць не на павароце так, ласося вось на васямнаццаць кіль. Ну і, казалі, нехта на восьцi забіў ля Трапалава яшчэ большага. Сазаноў вось па восем кіль я многа, без шчоту забіваў, а ласось рэдкая рыба была.

**Вячаслаў Міхайлавіч Маркевіч**, 1935 г. н., мясцовы (зап. у 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7686/169):

...С удачкай рыбы была многа лавілі. Места харошыя былі такія, называлі «атвоі». Так называлі па-местнаму.

На маю бытнасць, я яшчо пацаном быў да арміі, забілі ласось такі. Трыццаць кілаграм. Гэта ноччу. Дык так во яго як кінулі асцямі, дык он нескалько палак зламаў гэтых. Паймалі, а тады дзялілі. А цяпер рыбы няма.

**Генадзь Лісцэвіч**, 1924 г. н., і ягоная дачка Марыя Захава, 1955 г. н. (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7686/179):

...Абыкнавенную рыбу ачышчалі, засалівалі. Яна паляжыць дзень-два, а патом яе ў печ. У печ. Не на воздух, каб мухі там сядзелі, а ў печ. Яна рабілася такая там — і косці можна было есці, і ўсё.

*Вёска **Асінаўка** Вілейскага раёна Мінскай вобласці*

**Соф'я Васільеўна Шаюк**, 1931 г. н. (зап. 2013 г., МММ):

...Цяпер у Асінаўцы нікога няма, засталіся тры хаты, а астатнія — дачнікі. Мамай, Чайкоўскі і Шаюк. Чайкоўскі з Шылавіч. Хараніліся мясцовыя ў Гануце. А мужа я пахараніла ў Аляксеевым Перавозе.

Польшчы я не памятаю, мне было ўсяго восем гадоў. Помню як праз сон, хата добрая была, сад быў, і яблыні, і дулі, кветкі былі. Суніцы і лес быў ля Вяллі,

залатая выспа. Помню толькі добра, як нас вывозілі на Казахстан. Дык гэта помню. Вывезлі ў тую стэп кругом. Замярзай. Бацька лесніком быў пры Польшчы. Мы з сястрой маленькія, маму, дзеда старога вывезлі. Дзед паромшчыкам у Швядох быў. Не ведаю за што. Ну быў у сям'і адзін дзядзька фуліганчык. Як толькі вайна кончылася, так мы назад і вярнуліся да роднага поля. Разабраліся: не нада нас было вывозіць. Дакументы мы потым у архівах правяралі. Не падляжалі. Бацька ж наш быў на вайне, ваяваў з немцамі. Спачатку на польскай, з польскай папаў у рускую. А з рускай вайны папаў у плен тады. І там пагінуў. Гэта после прыйшло ізвяшчэніе на Шаюка Базыля. Дакумент. Вярнуліся, а хата наша была ўжо занята, там вучыцялей у Швядох сялілі на кватэры. Я ўжо была пад дзевачку, пятнаццаць. Не было грошы, каб сукенку купіць, так мама насіла шчаўе прадаваць аж у Маладзечна пяшком. Болей як дваццаць кілометраў. Праз Вяллю на лодке. Лодка была. А не — на паром у Швядох. Так з лесу, з грыбоў, ягад толькі маглі тое-сёе купіць. Мама памерла маладая, у 1950 годдзе кінула нас, маладых, у зямлянцы, у дзеда. Выжылі. Аднавяскоўцы не далі з голаду памерці: дапамагалі насеннем, ядой, усім, чым маглі. Нашы людзі тады добрыя былі. Замуж выйшла, чатырох дзетак нарадзіла. І цяжка было гадаваць. Ніхто не калыхаў. І ў калхоз хадзіла, і кожны трудадзень вырабляла. Падумайце, гэта ж чацвёра дзяцей! Майму тож не далі спраўкі, хацеў на работу, дык тожа мусіў у калхоз. А после, добры Голуб (дай бог яму здароўя! Пакуль жыву, буду за яго маліцца. Здароўя ў яго ўжо няма, памёр, але ж ёсць яго дзеці, унукі, каб ім вялікая-вялікая дабрата была), ён даў мужу спраўку, тады пашпарт палучыў. В обшчэм, пайшоў на работу, вырваўся з калхозу. У Вялейку ездзіў. Як на рабоце, дык нейкую ж капейку палучыць. Ужо дзеці падрастаць сталі. Я не пайду ў калхоз — дзеці за мяне хадзілі. Хлапец, во, Віцька, ездзіў на кані, сена грабіў, бульбу аборваў, думаў, маме каб хоць які рубль далі.

Сын, як яшчэ жыў і рабіў, быў на кацельне, любіў рыбачыць. Часта рыбу прыносіў, а якую — я не знаю. Я яе пачышчу і пажару. Рыба, яна ўся смачная, якая б ні папалася. А Віце, сыну майму, у рыбалцы шчасціла з дзецтва: мы лодку сваю мелі, ён з маленства на Вяллі быў.

— *А што такое шчасце?*

— Ну, што такое шчасце? Шчасце, што выйшла замуж. Чатырох дзяцей нарадзіла, выгадавала. Што ўнукаў дачакалася, вадзіла сваімі сцежкамі ў грыбы, ягады, што паказала ім Вяллю з Катлы. Як ідзеш з Асінаўкі на зліянне Нарочы і Вяллі, на берагу самая высокая гара называецца Катла. Што Бог памагаў, аднаго разу чуць не ўтапілася сама, і ўнука выратавала. Усегда толькі з Богам. Што мужык, ён не быў, як той казаў, алкаш. Выпіць любіў трохі, і я з ім разам вып'ю капачку. Во пражыла колькі гадоў разам. Шэйсят, болі чым шэйсят. Мой Анатоль старэйшы быў на восем гадоў. Пасціў, гадаваў мяне пяць гадоў. Гэта не было там, каб скарэй на фігу. Вот так. Туды вобме, патанцуе. Навучыў танцаваць, усё. Вот такое было, а такога не было, як цяпер. Як гэта ўжо сам дабравольна, і то лёўхі не чуваць. Весела пражылі. Людзі ідуць, заходзяцца, ніколі не мінаюць, госці, радня

адны за другімі штотыдзень едуць то адведаць, то на рыбалку, то на паляванне — усіх прымаю, як было чым. Кілбасы былі, сала, яйкі, рыба з Вяллі. Апарат у лесе быў. Нават сыр прынясеш і яблыка да хлеба, а калі мёду чуць зверху — няма смачней да гарэлачкі. А калі юшкі зварыш, дык душа пяе. Як магла прынімала. Цяпер ужо няма чым. Карову дзяржала. Сена цяжка касіць. З работы прыдзе, касу ў рукі — і касіць. Накосе, а мы тады самі і з дзяцьмі грабём, цягаем. Кабаноў пару кармілі. А цяпер толькі кот і сабака засталіся. Яшчэ летась былі ў мяне куры і 30 вутак, дык з лесу прыйшоў шашок. Усіх кур паеў, падушыў, і пару вутак задушыў. І няма каму яго злавіць. Дык я тады іх узяла і сама засякла, дзецям параздавала, і ўсё. А цяпер усе хочуць на гатовае, каб нарыхтавалі ўсім. Дзе ж ты нарыхтуеш — мір народу. Усе з вёскі пайшлі, каб панамі быць. А зямлю ніхто не хоча рабіць. А што, не праўда?!

*Вёска **Шыкава** (пры ўпадзенні Ушы ў Вяллю) Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці*

**Мілюк**, 1961 г. н., мясцовы (зап. 05.06.2013):

...Я тут радзіўся, з дзецтва ўсю жызнь на Вяллі рыбу лаўлю. Цяпер жыву ў Маладзечне, сюды да бацькі прыязджаю, яму 82 гады. Даўней разнай рыбы было, пакуль раку не перагарадзілі. Платва, краснапёрка дажэ захадзіла. Самая смачная рыба — гэта галаўль. Іх раней лавілі на перамёты, на страказу. Станавіліся з два чалавекі прыбрэжныя праз раку, адна леса ў дзве катушкі, пасярэдзіне папавадок на метр, і пускалі на страказу ці майскага жука, пападаліся не толькі галаўлі ці язі, нават жэрахі да 10 кіль. Зараз такім спосабам тут ніхто не занімаецца.

Шыкава стаіць на Вушы, але дзеці хадзілі купаца сюды, на Вяллю, таму што вада была куды цяплейшая. Намнога цяплей. Але гэта было перад вадахранілішчам, калі ў Вяллі купацца яшчэ можна было. Тады і Вуша таксама была глыбейшая і чысцейшая. Ракі былі. А дно ўсё было ў ракушках-пярловіцах — зайсці босаму страшна было, можна парэзацца. Ракаў лавілі цэлымі кошыкамі, як мне 6-7 гадоў было. Дык і рыбу, а у нас у Вушы ў асноўным быў ялец і платва, кошыкамі лавілі. Праязжае трактар праз раку, дык за ім валной рыбу нават на бераг вынасіла дажа.

**Антон Васільевіч Мілюк**, 1931 г. н., мясцовы (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Даўней у Вушы рыбы было — рукамі лавіць можна было. Кошыкам рыбу лавілі. Уся яна смачная была. І вокуні, і ляшчы, і шчупакі. У Вушы мянтузоў не было, мянтузоў лавілі ў Вяллі. На Вушы тут толькі ў канцы была яма, і то заплыла. На лодке на лучніцу ездзілі ў Вяллю, я не біў, я быў упраўляюшчы. І ведзяёй лавілі. Самую вялікую рыбу відзеў тую, што не выцягнуў. Во такая таўшчыня ў шчупака была ля хваста (разводзіць рукі на 30 см). Была ў мяне вуда добрая, двухжылка. І ўзяўся ён у мяне на Вяллі, пад Вяжуцямі. На глыбіне. Дык да берага шоў харашо, а тады як стаў бокам упірацца, як абярнуўся, дык там хвост во гэткі,

ну, мусіць, на паўтоны шчупак быў, хе-хе. (Смяецца.) Адкуль такі прыйшоў, невядома.

Вот гэта дык рэчка была!

Была ў мяне лодка, а цяпер і лодкі няма, і Вушы няма, і Вяллі няма, ўсё згадзілі. Вушу з усіх бакаў згадзілі: і з вёсак, і з Маладзечна — усё гаўно ў раку скідаюць. Рыбы зусім не стала, калі якая вясной зайдзе, якая платвічка — і ўсё. Ды яе нідзе рыбы няма. Вяллю перагарадзілі, згадзілі.

Вада стаіць, грэецца, цвіцець, гразная, коням не дасі. Даўней вада ў Вяллі была халаднейшая, чыстая.

*Вёска* ***Заскавічы*** *Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці*

**Уладзімір Міхайлавіч Калачык (зап. 2013 г., М.М.М.):**

...Тут Тапчак такі ў нас быў. Тут недалёка, за Шыкавам, паміж Віліяй і Ушой, там была такая трошкі забалочаннасць. Патаму яе называлі Тапчак. Так прыходзілася, што ў гэтым Тапчаке мы маглі нават рыбу злавіць, у тым балоце. Як Вялля разлівалася, туды рыба заходзіла. Там была смачная рыба: піскуны, ці ўюны, іх лавілі бучамі з лазы плеценымі. Як я толькі ў Заскавічы прыйшоў, то там рыбы было многа. Для мяне самая смачная рыба рачная — гэта лешч. Мы яе з Валодзем Сапачом, як падружылі, сядзем на лодку, запалім корч — і асцямі білі. Ласося і фарэлі тут было мала, іх болей было ніжэй, пад Нарач. Тут аснаўная рыба была лешч. Угра мала было, ён таксама самы смачны. Быў і вансач, і сазан, але больш пападалі ляшча і шчупака. Па затокам былі і самы.

*Вёска* ***Паддубок*** *Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці*

**Віктар Антонавіч Сапач** (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Колькі адсюль да Вяллі? Я некалі камень вазіў, дык спідометрам на машыне замерыў: 700 метраў. Месца гэта завуць Паддубок, а афіцыйна гэта Заскавічы. Тут усе лодкі мелі і дяржалі на Вушы. А рыбу лавілі на Вяллі. Самыя смачныя рыбы лешч, жэраспень і вангор. Вангора больш на шнуры лавілі, хаця і ў лучніцу пападалі. Па вясне на грамжа ментуза лавілі. З сетак былі трыгубіцы, па закуткам Вяллі ставілі, былі ведзяі, палазы. Усё было. І венцеры, і жакі, і бучы. Восьці ў нас рабілі на восем зубоў.

— *А ці лавіў хто ласося?*

— Гэта, я яшчэ пацаном быў, і мой бацька Антось, гэта яшчэ за польскім часам было, паехаў за каменнем, думаў нейкі фундамент рабіць. І гэтым месцам, як мы завём, Чортаў мост, пачаў пабарабаніць там, і відзеў: пайшло нешта там вялікае на той бок, на мялі ганяе рыбку. Ён піхнуўся, а былі такія крукі, ці капачы. Дык ён піхнуўся на тый бок — і там ласось. Дык трыццаць дзве кілі ласося. Было гэта ў 1938 ці 1937 годзе. Ласось — гэта ж ого! Нават не спрабаваў, гэта, вельмі дорага, занеслі жыдам за грошы. Пра гэты случай дажэ ў польскіх газетах было напісана - «Антося з ласося». Нельзя ж было лавіць, але ж злавіў такую рыбіну, не спецыяльна ж асцямі ці сеткай. Пры Польшчы апасна было рыбу сеткай лавіць,

трэба было тайна, нічога нікому не казаць і паказваць, бо маглі даць тры дні турмы, калі зловіць паліцэйскі з пастарунка. Хадзіў тут, лавіў рыбакоў без ліцэнзіі — і туды, у турму, у Беніцу. Бывала, і на нядзелю.

Ужо ў колькі раз ісцёк срок даўнасці з тога дня, прайшоў, дык прызнаюся. Я гадоў дваццаць назад на лучніцы толькі на чатыры кілі ласося забіў.

Раку найперш спорціла няўмелая меліярацыя. Нейдзе ў 60-х. Проста гоне напрамую гэту смугу. Пярвей па берагам паўсюль залаты пясочак быў, цяпер да берага не падыдзеш. Траву на берагах ніхто не выкашвае, у вадзе да пояса таксама трава. Самыя вялікія ямы на Вяллі былі ў канцы Вушы, тады як завуць Котра, тады ля Алянца, «за дэкурнамі», у Залессі проціў вадакачкі.

— *А ці лавіў хто сама?*

— Самоў тут не лавілі, чуў, два гады таму назад у кар'еры на Белай злавілі сама на 32 кілі ў сетку.

Чуў пра Тапчак, гэта за Шыкава. Назва такая там Тапчак, там Чортаў мост, там Рапка, там Кацёл (гэта ўсё па Вяллі). Ёсць у лесе Чорнае возера. Туды пад Нарочу. Праз Шыкава як праедзеш, дык будзе развілка, бярыце лявей. Пайшлі, пайшлі, як мы называем, праз Чортаў мост, будзе Тапчак. У Тапчаку хвойны лес, рэдка відаць, там аддыхаюць; і далей гэтай дарогай і на гару, і з гары зайдзіце на Чорнае возера. Мусіць, гэта было старарэчча Вяллі.

*Вёска **Алянец** Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Лёня** (зап. 2013 г., М.М.М.).

...Я, Лёня, з 1951 года, тут у Алянцэ нарадзілася. Цяпер, як кароў не стала, зарасло ўсякай благой травой ды лазой. А раней на беразе быў заліўны луг з кветкамі. А раней такі пясочак быў чысты, мяккі, а цяпер адны наносы. Вялля змялела. Тут чуць ніжэй быў і цяпер ёсць вялікі вір, дзе ўсе топяцца. Там, у віры жылі самы — самая смачная рыба на Вяллі. Многа іх было даўней, а вы што іх у Вілейцы не спытывалі? Сом, канешне, рыба злая, магла і чалавека раніць. Злыя яны. Як малая была, часта з бацькам хадзіла на рыбалку вудачкамі. Бацька падыме рана-рана. Лавілі на чарвя, шыціка і жоўтага жучка-грачаніка. І донкі ставіла. Пасля сама найлепш налім і шчука. Наш Русланчык, як нежанаты яшчэ быў, злавіў шчупака вялікага. Нёс праз плячо, а хвост па зямлі цягнуўся. Хадзіла глядзець на таго шчупака.

*Мястэчка **Залессе** (156 км/354) Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Сяргей Іванавіч Верамейчык (зап. 2007 г., М.М.М.)**, навуковы супрацоўнік музея-палаца Залессе, аўтар кнігі пра Міхала Клеафаса Агінскага, цудоўны экскурсавод, мастак:

...Акрамя Агінскіх, Залессе праславіў і граф Канстанцін Тышкевіч. Я мару, што тут, на павароце Вяллі, ля вадакачкі будзе ўстаноўлен помнік, які ўшануе кнігу «Вілія і яе берагі» і яе знакамітага аўтара, нацыянальнага героя, постаццю якога ганарыцца беларуская інтэлігенцыя, графа Канстанціна Тышкевіча. Помнік

павінен быць у відзе стылізаваннага вялізнага рыбалоўнага кручка, тырчашчага з ляпы шчупака. Бо менавіта тут, ля Залесся, як апісана гэта ў кнізе «Вілія і яе берагі», вялізны шчупак, адкусіўшы жылку разам з кручком, сарваўся з вуды графа Тышкевіча. Гэты шчупак яшчэ, пэўна, ёсць у рацэ, яшчэ не злоўлены.

**Андрэй Міхайлавіч Зімніцкі**, 1967 г. н., мясцовы (зап. 2015 г., М.М.М.):

...Я з вудай не, не рыбак, каб сеткай — другое дзела, а так рыбалка не маё. Я жыў на самой Вяллі, наш дом там, дзе вадакачка, за заборам. Я там і нарадзіўся. Дзед там мой жыў з бабай. Зімніцкі Мікалай Мікалаевіч. Ён лавіў бучамі. Была старыца Вяллі, Калодаўка звалася і выцякала ў Вяллю. Ён там бучы і ставіў пастаянна. Меў дзве лодкі, адну на Калодаўцы, другую на Вяллі. Першае маё знаёмства з акунём было: я яго ўхваціў голай рукой, а ён, пер'я раскрыўшы, і прапароў пачці наскрозь далонь. Дзецкая рука, што ж ты хочаш...Было гэта яшчэ да школы.

Для мяне самыя смачныя рыбы — акунь, карась. Плотку не, не люблю, ляшча не люблю, надта касцісты. Вот налім — да. Бацька мой, Мішка, некалі тут самоў лавіў. Самы самыя смачныя. Лавіў самоў спінінгам, пападаліся. Помню, вялікія былі. Шчупакоў лавіў. Але вялікія шчупакі толькі на катлеты або фаршыраваць. Так што даўней самыя смачныя рыбы — сом, налім і акунь. Цяпер ужо стала і Вялля пераплюйка, і рыбы ў рацэ амаль не стала. Цяпер ловяць на Карце і на Бухце.

Праз Залессе ідзе гэта рэчка Кужэц, яна ўпадае ў бухту, якую цяпер зрабілі. Як ісці з Залесся на Міхнічы, напісалі на масту Драй, а на самай справе яна называецца Кужэц. Яна з прадвеку была Кужэц. Была Драй і на трасе Мінск-Вільнюс, дык памянялі на Кужэц, яна спрадвеку Кужэц была. Чаму яе Драй назвалі не ведаю. Бераг на той старане Вяллі напроць вадакачкі завецца Лугавыя, далей Студзянец, ніжэй па Вяллі — Ардзея. Раней была Карта такая, гара намытая. Я прыйшоў са службы ў арміі — замест яе стала Бухта. Во цяпер, у асноўным, на гэтай бухце, што першая за Міхнічамі і на Белянскай, там за Белай яшчэ большэ ёсць. Белянская называецца, ці возера Белае. Вадакачка стаяла, качалі ваду на станцыю для паравозаў. Цяпер закансервіравана, а так усё ў рабочым стане. Там вугальныя катлы паравыя.

З віленскай газэты "Słowo", Nr. 178, 21.06.1938 **Праводіцца следсва мясцовай паліцыяй.**

17 кг. ласось у Віліі.

Вілейка. Паблізу чыгуначнай станцыі Залессе людзі лавілі сеткай рыбу у рацэ Віліі, якім папаўся 17кг ласось. Варта адзначыць, што ласось у Віліі надзвычай рэдкі.

*Вёска* ***Студзянец,*** *ці Ракі, Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Мікалай Дзмітрыевіч Драмлюк**, 1939 г. н., і яго жонка (зап. 2013 г., М.М.М.):

Гэта вёска Ракі. Другія кажуць Студзянец. За паследніх 50 год, з 1962 году, Вялля вылілася толькі два разы аж сюды, аж да гэтых самых варот. Выйдзеш са

двара — і сразу на лодку, і пайшоў на работу. Рыбу ў нас не надта лавілі. Вось пойдзець другі, зловіць таптухай, ці чым, ці што на адзін раз. А то так, каб на продаж, не было ў нас такіх рыбакоў. Толькі для сябе. Самы смачны шчупак, наверна, і карась красны. А так не было ў нас такіх рыбакоў.

Падыходзячы да лавы, уступає ў разгавор муж жанчыны:.Ты чыста ўсё ім не расказвай, наводным людзям. Можа, следавацель які? І прыбраны так спецыяльна.

*Мікалай Дзмітрыевіч:*

— Якое табе дзела да рыбы?

*Жонка Мікалая:*

— Ён рыбы не лавіў, і не знае, як лавіць.

*Мікалай Дзмітрыевіч:*

— Ну добра, рыба рыбай. Лес кругом, хто хазяін той — той так і верне. Вось узяць рыбу. Тутака брат мой старэйшы і сусед, 29-га года, яны дружылі. Рыбы набілі. Ну бацька кое-што нажарыў, вот. Прыйшлі партызаны, вот, ещце — людзі ўсё ж. Ну, праўда, усё ж людзі, хай ядуць. Паелі. Усё. Ёлкі-палкі, тут скора — прыходзяць немцы. На бацьку: «Каго ты карміў, Дзмітра?» А як сказаць ім, што стары баяўся: прыходзяць-то ўсе з аружыем — як ты не дасі, не пакорміш? Застрэляць. Быў тут такі Ярашэнка, мусіць, партызан быў. А можа, паліцай. Вывеў бацьку: «Яму капай!» Бацька яму капае. А я ў рызінавых ботах. Выкапаў бацька яму, ён яму рулю наставіў, за тое, што партызан пакарміў. Во як цяпер помню. Стаіць. Наставіў ужо біць бацьку. Не магу, от. (Плача.) У рызінавых ботах, сам хаваюся ў гэтыя боты. Ляцім з братам ратаваць бацьку. А гэты там быў чалавек: «Што дзяцей сіраціць!» Драп за ствол — і адвеў. Я маленькі яшчэ быў, гады чатыры, боты па зямлі цягнуў, а запомніў, як елі тую рыбу. Смак які, кажаш. Смак не ў рыбе, а ў тым, ці шчыра яе чалавек каштаваў. Якую з'еш з душой — то тая і будзе самая смачная.

*Жонка Мікалая:*

— А родны дзядька прадаў. Такая парода.

*Мікалай Дзмітрыевіч:*

— Травы многа, але сіл няма касіць, — звёў я кароў у тым годзе. Конь застаўся. Цяпер можна жыць: дзеці вялікія, пенсію палучаю, а так, як успомню.Дзве лодкі ходзюць, во трэцюю зрабіў, яшчэ не смаліў, пойдзем пакажу. Лодка з сасны на пяць крывулін. А крывуліны з ёлкі. Ёлка раскладаецца. Корань раскладаецца, а сасна не раскладаецца, шпілем ідзе ў зямлю. Зараз невялікую ёлку нетаўстую шчыпіш — і рэж. У ляпу — і пажаласта! Некатарыя жалезныя цяпер крывуліны ставяць, але — ай! не тое. Вясло зробіш. Раней шостам — шосты былі даўгія, метраў па шэсць. Такая глыбіня была, вы ж відзіце, як упала вада. Як карчы сталі ў нас падрываць, паявілася і ў нас узрыўчатка. Тады гэтага ў бутылку з-пад шампанскага — і сталі глушыць. Бывае, як вальнець, — белая Вялля. Во рыбы было: цяпер хоць гадуй — столькі не будзець. На лодках мужыкі стануць, пасабіраюць, пасабіраюць, а я стану далей, дзе мелка, і пераймаю.

Самая смачная ў нас рыба — вугар. Яго, як стаіць ля камянёў, і рукой можна злавіць, толькі слізкі, як вужака. Самую вялікую рыбіну на восем кіль злавіў. А ваабшчэ я не рыбак, ніякіх рыб не ведаю, мне вочы ад смалякоў на лучніцы не дыміліся, не слязіліся. Ой, было рыбы, ой, было! А бывала, лодка з лодкай. Бывае, лодкі з Заскавічоў, з Прудоў рыбу гоняць па цячэнню, а тады пад цячэнне, ну і мы гонім, і як аслепнеш гэтымі смалякамі. Яны едуць, ты едзеш — як улупіш накра ў накру! Цемната, усё.(Смяецца.) Вярні туды, вярні туды — шыш. Накра ў накру адзін аднаго. Глядзіш, каб лодка не загарэлася. Біцца не біліся, але ругаліся. Што ж, ты не мог павярнуць? А ён: «Я не ўспеў». Вярнуць павінен той, хто з вадой ідзе. Ім лягчэй. У таго, хто пад ваду, прэімушчэства. Во як мы жылі.

У мяне ў хлеве многа гадоў жыве вужака. Яйкі ложыць пры сцяне. Дзе навоз, дзе кабыла, дзе цёплае месца, там яйкі свае адкладае. І прама так вылажыць — прырода з прыродай: у кабылы, вунь, калені заднія, праўда? Ужо не стане на яе, і роўненька каля сцяны. А выходзяць во такія маленькія — і праз парог у хлеве і ўцякаюць. А куры бедных: бах-бах-бах! Клююць куры, ім няма як у лес уцячы. А яны не врэдныя. Жаб душаць (я сам відзеў), і з ножкамі — у рот. Як магніт. Пішчыць жаба.

*Вёска **Рудня** Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Вялянціна Мікалаеўна Нікіфарава**, 1932 г. н., мясцовая (зап. 2007 г., ВВ.,Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7686/195):

*— Як даўней рыбу лавілі?*

— Не так, як цяпер, што ставяць трыгубіцы, вудачкі. А пярвей во: шнур закіне, а не — во, пойдзе ў Вяллю, сетачкі якія.

*— А шнур перакідалі з берага да берага?*

— Не. Цяпер завуць донкі, а раньшы звалі шнур. Я хадзіла з папам, капалі грамжы. Такія ладныя чарвячкі. Ён на шэсь. на шэсь. так у адно места начэплівае. Тады і закідае, дакуль дакіне. Раніцай ідзём смотрым, і мянтузіка зловім. І вангор, хоць небальшы, усё, што пападае. Папа мой быў, ён рабіў. ён дзяржаў порам, ён перавозіў. У нас быў свой порам.

**Марыя Сцяпанаўна Захарыч (Зялёнка)**, 1922 г. н., мясцовая (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7686/206): — А рыбаков много было?

— Не знаю. Не. А пры Польшчы не давалі лавіць рыбы. Вудачкай можна было, а паехаць на лучніцу — гэта няможна было. Міліцыя лавіла. І цяпер няможна.

*Вёска **Клідзеняты** Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Яўгенія Пятроўна Івашка** (дзяв. Каспяровіч), 1935 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Самая смачная рыба з Вяллі была судак, а цяпер самая смачная — жывыя карпы з крамы. Рыба павінна быць свежая, ці з ракі, ці сажалкі, ці з крамы.

***Вёска Перавозы Смаргонскія***

**Яня Марцішонак** (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Цепер у Вяллі рыбы няма. А вось калі мы тут набылі хату і пачалі жыць, то мой мужык быў самы заядлы рыбак калі не на ўсю Вяллю, то на ўсю акругу. Марцішонак Станіслаў Францавіч. Няма ўжо. Быў ён з 1947 года. Яны лавілі рыбу мяшкамі. Тут толькі было рыбы, што страх. Але ж лавілі падпольна. Вось тут затока, чуць правей. Бяруць трайнік. Кінуць, а яны ідуць праміком — ліны. А калі не йдуць, то мяне бралі за дзеда. Калі ногі не дастаюць да дна — павісну на гэным калку...ха-ха!.. а яны мяне цягнуць трайнікам. А вось тут было столькі ляшчоў, бялугі, ну і платвы. А платвы было! Помню, мы купаліся перад даждом, а тады ўзялі нейкую сетачку і ўзялі з ім удваём, раз працягнулі ўздоўж берага. Дык узялі цэлую сетку платвы. Едзе на лучніцу, знаеце, што такое лучніца? Бо зараз забыліся, і ніхто не ведае гэткі лоў. Ноччу гэта лавілі. Гарэў касцёр на лодке, і яны васцямі білі рыбу. Мяшок наловяць — і до, ён не браў, бо мы рыбу не елі. Ён страх любіў толькі лавіць, а есці рыбу не еў. Ну, затое ў любой отраслі ў яго быў блат. Усе дзверы былі адчынены: і пракурора, заўмага, і дохтара. А потым мы самі выкапалі сажалку і запусцілі малька, пачці флягу. А было палаводдзе, бераг знясло, і ўся рыба пайшла ў Вяллю. Акрамя ліна, якога было мора, людзі хвалілі і вансача. Лавілі і угра, але нямнога. Не ведаю, ці смачны, бо я яго не ела. А раз вангор уцёк: яны лавілі, а я хадзіла насіла торбу, і там была такая маленькая дзірачка. А мяшок, каб лягчэй насіць, я цягнула па вадзе. І ўцёк, сам вялікі, а дзірачка малая. А помню, у магазіне казалі, ёсць тут магазін у Смургоні ля царквы, яго завуць «Спасіба Гітлеру», такі магазін. А чаму? А таму, што ў савецкі час там абслужвалі ўдзельнікаў вайны дзефіцытам. Так там прадавалі капчонага вугра. На савецкія дзеньгі капчоны вугор каштаваў надта дорага, адзінаццаць рублей. Гэта былі вялікія грошы на той час. Хай сабе, мой добра палучаў, пад чатырыста рублёў — вадзіцелем на «КамАЗе». І вось купілі мы гэтага з магазіна вугра, прынеслі дамоў, а ён такі жырны, і запах добры, і цвет зверху чорны, я ўзяла кусочак, а праглынуць не магу. Вот нешта ў мяне стала — і ўсё.

**Смаргонь,** распавядае **Аляксандр Міхайлавіч Касцючэнка (**1953г., нар. Падсвілле Глыбоцкага раёну, потым, пасля пераезду бацькоў жыў ў Жодзішках і ў Смаргоні**)**

…Вілія была адна з найпрыгажэйшых рэк усходняй Еўропы. Ёй прысвяціў радок у паэме “Ліцьвінка” Юры Лермантаў, звярнуў увагу Леў Талсты у рамане “Вайна і мір”. Пакуль раку не знічтожыла інтэнсіўнай сельскагаспадарчай, лесанарыхтоўчай і прамысловай дзейнасцю савецкая зверхдзяржава – аб гэтым ты і сам добра ведаеш, было тут многа рыбы. Я вельмі любіў рыбаліць з вудай на ямах ад Перавозаў Смаргонскіх да Данюшава збягаючы нават са школы, а потым, працуючы на селікатабетонным заводзе, лавіў на кар’еры ля в. Белая (бухце) які злучаны з Віліяй.

Па расказах старажылаў, недзе у Х1Х і пачатку ХХ стагодзяў тут яшчэ трапляліся ласось і балтыйскі асётр. Асётр дасягаў фантастычнай вагі – больш за паўтоны! Адкуль тут магла вадзіцца такая вялікая і разнастайная рыба? Адказ

просты. Яшчэ да 50-60-х гадоў мінулага стагоддзя глыбіня Вяллі дасягала трох-пяці метраў. А месцамі былі яміны глыбінёй 6-8 метраў. Перайсці раку ўброд было практычна немагчыма і вельмі небяспечна, таму што вялікія ўпадзіны лёгка параджалі бурлівыя віры. Патрапіць у іх нават добраму плыўцу было, што патрапіць у пекла. Але ж мы, няўрымслівыя вясковыя хлопчыкі, свабодна давалі нырца ў самую калаверць. Ратавала тое, што ўсе яшчэ змалку ведалі: вырвацца з віру можна толькі адным хітраватым, амаль што універсальным нават і для іншых выпадкаў і падзей спасабам —трэба плысці з цячэннем, нават дапамагаючы яму, без супраціву, і як мага найхутчэй дасягнуць дна, адразу адысці-адпаўзці ўбок і адпіхнуцца ад дна уверх , што было сілы. Выплывалі ўжо ніжэй, метраў за дзесяць ад віру. А вір, між іншым, уяўляў сабой каля ямы чарнільцападобную варонку дыяметрам 10-12 метраў з уваходным каналам да 2 метраў! Вада у ім пенілася, бурліла, і калі ў яго трапляла лодка, гэта часта заканчвалася трагічна.

Нырца давалі толькі з расплюшчанымі вачыма. Дно, як толькі бачыла вока, было заслана рачнымі ракавінкамі (пярловіцай ці рачной вустрыцай) . У дзіцячай памяці захавалася жывая карціна, як жыхары прыбярэжнай вёскі Рыбакі дабывалі ракавінкі, тут жа на беразе у вялікіх чыгунах варылі іх, і былі яны смачным і якасным бялковым кормам вясковаму свіному статку. Які быў смак у сала з тогу корму не помню, але мусць не бракавала. Каровы тады так сама пасвіліся па рацэ, елі марву, як гэта бачыў і апісаў калісьці граф Канстанцін Тышкевіч. Сапраўды малако, як і апісваў Тышкевіч было вельмі смачное ад кароў якія ужывалі у рацыён марву. У забалочаным урочышчы “Вэнэцыя” што напроць Данюшава людзі спецыяльна накашвалі у рацэ цэлыя стагі з водарасцей -марвы і потым перавозілі на лодках да дому, сушылі і давалі каровам.

Самыя смачныя – ментузы, акуні і мелкая платва – яна жараная як семечкі. З маленькіх рыб самыя смачныя келбы, а на прытоках былі сліжы і гаркушкі ці гаркаўкі. З вялікіх рыб–самая смачная кумжа, лавілася ў нас рэдка. Калі сліжы і гаркушкі даўна начыста прапалі, то кумжа яшчэ траплякцца - ведаю, што дзве на 3 кілі патрапіліся ў бухце, гадоў з пятнаццаць назад.

*Вёска* ***Данюшава*** *Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Станіслава Станіславаўна Гіль** (дзяв. Галдыцкая), 1934 г. н. (зап. 2012 г.):

...А Бог яе ведае, унук бы сказаў. Гэта цяпер рыбы няма, а даўней было. Мы жылі на першым футары ад Данюшава. Дык тады надта бомбы кідалі. Як кінуць бомбу — белая вада ад рыбы. Ды рыбы былі вялікія. Мне наравіліся ментузы, шчупакі. Мой брат надта лавіў вангораў на шнуры. Дык капалі лапатай грамжы, яны надта скора ўцякалі, дык брат мяне браў, каб памагала. І ставіў шнуры, не адзін шнур. А на кожным шнуры было па пятнасці кручкоў. Ставіў і з лодкі, і так пешшу ў ваду заходзіў, знаў дзе. Цяпер няма, цяпер берагоў няма ў Вяллі, а даўней берагі былі чыстыя, бо каровы хадзілі.

**Зося Антонаўна Захарэўская, 1929 г. н., мясцовая:**

...Даўней рыбы хапала. Шчупак — самая рыба, толькі сухаваты. У нас было шмат зямлі, ні дзед, ні тата рыбу не лавілі, не займаліся гэтым. Можа, калі вудай. А муж мой лавіў сеткай калі-нікалі. А прыязджалі да нас рыбакі, што кідалі бомбы, вы не паверыце, — белая Вялля! Як падоймецца рыба — белая Вялля! Мой муж быў яшчэ хлапчуком (ён з Данюшава), як пачуе выбух, туды ляціць, а тыя што возьмуць — і ходу, каб не пазналі, бо забаронена было, а нашы ўжо падбіралі тую рыбу.

*Вёска* ***Маркаўцы*** *(182 км/328) Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Ядвіга Ігнацьеўна Гваздовіч (зап. 2013 г., МММ):**

...У Маркаўцах ніколі дажджу няма! Было тут каля 40 хат, рэчка праз вёску цякла, Чорны ручэй.

...Не знаем. Мы рыбу не лавілі. Рыба раней у Вяллю з мора заходзіла, ласосі, а цяпер рыбы няма, ізвініце, толькі гаўно плыве. Пусцілі трубу са Смургоні. Туды да Вяллі не падыдзеш, такі смурод. Там вода чорна зрабілася. І тут бывае, калі смурод. А людзі сядзяць з вудамі, ловяць рыбу, я гэну рыбу гадзілася б у рукі ўзяць, а не то што есці. Там усё атраўленае такое.

**Ядвіга Казіміраўна Фур**с (Аўгусціновіч), 1929 г. н., родам з в. Круні каля Войстама (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У.):

...Заточка такая, і там надта рыба залазіла. Карочэ, Вілія, там маленькая канаўка, і там азёрка такоя ёсь. Там надта заходзілі і шчупакі, і карасі, як яшчэ можна было лавіць. А мой стары рыбай занімаўся. Дык, бывала, увосень асобенна, ці вясной, паедзець туды, дык кашы вязець. Затока звалі.

**Алег Гіль:**

...На электравуды зазра людзі апалчыліся, ня гэдкая ж каласальная шкода ад іх. Гэта, у адрозненне ад сетак, натуральны спосаб здабычы рыбы, які меецца ў самой прыыродзе, узяць тых жа скатоў, электрычных вангораў. А тое, што повыбівалі электравудамі ўсю рыбу, не- не згодзен.

*Вёска* ***Пільцы*** *Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Стэфанія Іванаўна Мусліцкая**, 1931 г. н. (зап. 2013 г., М.М.):

...Самая смачная рыба на Вяллі была, калі былі разводдзі, вада падымалася, а пасля ападала і рыба заставалася, там былі вансачы. Надта смачная рыба, там у іх косткі няма, толькі адна спінка. Жарылі іх, жыру ж хватала, кабаноў гадавалі. А алей. масла даўней куплялі толькі бутылку, можа, на пост які. І то ж не было купіць, я помню, яшчэ дзеўкай была, мы з татай ездзілі, гналі з сямення. Набіралі мяшок сямення і ехалі, тамака чалавек быў, малоў ён яго. Сяменне было льняное. Са сланечніку масла ў нас не рабілі. Яшчэ быў смачны мянтуз, вангора відзела, ён як гадзіна, есці баялася. А цепер рыба тая няведама дзе дзелася. У мяне тры сыны ў Смаргоні, адзін ну такі заядлы рыбак, як прыедзе, хоць пятнаццаць мінут з вудай на раке пабудзе, дык селёта нічога не ловіцца, а тыя гады хоць кілю, а злове.

Як дзеці, унукі малыя былі: пойдуць да Вяллі, а там залаты пясочак, сунуцьдуюць яго ў вадзічку, а цяпер не падойдзеш да Вяллі: балота, гразь, усё зарасло. Кароў няма, знаеце. На ўсю веску адна карова засталася.

Мы старыя ўжо, дзяржаць не можам, а маладыя не хочуць. Каб дзяржаць карову, трэба накасіць, накарміць, напаіць, падаіць. А маладыя да працы непрывычныя, ніхто не хоча. Адзін толькі чалавек ёсць: жонка памярла, і ён адзін дзяцей гадуе, і працуе, і хазяйства трымае, і агарод аполены чыста, і ў хаце чыста, і мы ў яго малако бяром.

*Вёска* ***Вайнідзеняты*** *(172 км/338) Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Ніна Міхайлаўна Кунавіч**, 1927 г. н., мясцовая (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685/177):

– *Ну а рыбу людзі лавілі?*

— Лавілі. Як такі быў сцішок: Калі рыбу мы лавілі.

З нас жывых скуру лупілі. Адганялі ад вады — Вот было мужыком бяды.

А лавілі рыбу, хацелі рыбы, таксама ставілі тамака нейкія снарады, шукалі тут ужо такую зрыўчатку даставалі і кідалі бомбы, і сеткамі лавілі ж. І была ж і тожа міліцыя, і была ж і власць, і строгая дажа власць была. І судзілі, і лавілі.

– *А чаму мужыкам бяда была?*

— Бо не давалі. Не давалі ж лавіць. Каму давалі рыбу сеткай лавіць?.. Ночы ездзілі на лучніцу. Смалякі палілі такія во, дык яна тады відаць ужо рыба, як паліцца.Тады б'юць васцямі, дык тожа ж баяліся. Запаліш гэтыя смалякі, едзеш па рэчцы, а тожа ж власці было многа. Як гэны казаў. Кажды ж пільнаваўся сваей работы. Бывае, калі не зловяць, і наловяць.

Пасля вайны тут жа ж акопы па лесе ёсць. Хадзілі шукалі тэй зрыўчаткі — снарады былі. вымалі зрыўчатку гэну. І тады кідалі. Як кінуць ужо ў рэчку, дык тады ж рыба падымецца. І тады ўжо лятуць усе ловяць. Ну як не зловя міліцыя, дык наловіш, а зловя, дык будзеш сядзець і год, і паўгода, і ўсяляк.

*Вёска* ***Рыбакі*** *Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Анатоль Уладзіміравіч Дагоцкі**, 1928 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...А я мусіў прамышляць рыбай. У магазінах анічога не было абсалютна. Ні гваздзя. У нас пры Польшчы магазіны былі ў жыдоў. У іх у сваіх хатах. гасударственных не было. Дык пасля вайны, як гэны гаварыў, жыдоў не стала — магазінаў не стала, і ні хера не стала. А строіцца нада было. Рабіў на сплаве, на перавозе. Вазіў дрот, рубіў гвоздзі. Тут каб стаў хату разбіраць, мала гваздзей завадскіх, государственных, усе саматужна рубленыя, з провалакі. Дык мусіў лавіць рыбу, прадаваць, каб рубель які зарабіць. Пайшоў у 48-м гаду ў армію. Не было яшчэ калхозаў у нас. Прыйшоў у 51-м, ужо супруга была ў калхозе. Самая смачная рыба ў Вяллі — вугор, тады налім, і была такая рыба ў нас — вансач. Гэта самыя смачныя рыбы. Ва-первых, у вугра касцей мала, і мяса ўкуснае. І ў наліма гэдак, і ў вансача. Але вот габрэі вугра і ментуза ніколі пры Польшчы не куплялі.

Думалі, што чорнае мяса, пахожа на гадзюку. Дажа глядзі, я строіўся ў 1956 гаду, было зусім туга, нічога не было. А дачы былі ў нас у Перавессі. Дачнікі найболей з Мінска і Вільні, я ім рыбу прадаваў. Былі сярод іх габрэі, дык нават ужо ў 56-м гаду яшчэ мянтузоў не бралі.

Рэчка была пахожа на рэчку. Памяшала меліярацыя, памялела, як сталі засухі. Пасля таго, як зрабілі Вялейска-Мінскую сістэму, не стала рэчкі. Дагэтуль Вяллёй рукавадзіла прырода: яна кожны год разлівалася па ўсіх лугах. Да мяне ў агарод заходзіла. А раз у 56-м вада да ганка даходзіла, але Рыбакі не затапіла, пару хат пасярэдзіне, ў нізіне, а Вайнідзеняты дык затапіла. Пры Польшчы ў нашых Рыбаках было толькі два калодцы на ўсю вёску. Ваду ў асноўным з ракі бралі.Там была крынічная вада! Самы вадзіліся! Праўда, мой пляменнік два гады таму таксама злавіў сама. Вада ж была чысценькая. Травы каля берагу нікакой! Ілі жэ камешкі, ілі жэ белы пясочак. А рыбы што было! Уйма. Уйма рыбы. Мы раз злавілі 7 шчупакоў па 18 кілаграм. Сама я толькі на 6 кіль відзеў, і то яго закалоў асцямі хлопец з майго году, дык той сом сарваўся, і яго, раненага, Данюшы злавілі. А тут ты можаш прадставіць: 18 кілаграм адзін! Як гэны гаварыў, я іх вазьму толькі палкамі, бо рукамі страх за падшчэнак чапаць. Каб цапнуў — канец, у яго зубы, як у нас пальцы, панімаеш. Рот дык вось гэткі: гусь туды ўкінеш. Спіна больш метра. Аднаго ўлажыў галавой у вялікі мяшок, а завязваў ужо па хвасце. Людзі, крамя дачнікаў, рыбу не куплялі, ды і дачніку не трэба такі вялізны шчупак. Дык гэткіх вялікіх насілі па сталовых, ну і жыдам, як пры Польшчы. У жыдоў лядоўні былі, яны ўжо калі не самі елі, дык некуды ў Смургонь, у Вільню вазілі рыбу і перапрадавалі. Гэта ж пойдзеш даўней нават з вудай — дзе хочаш за час наловіш паўвядра рыбы, на добрую жаронку хопіць ці юшку. Дык гэта вудачкай аднэй, лесак жа тады не было. Я малы быў, а ў Данюшава ў касцёле быў ксёндз, такі рыбалоў заядлы. Ён надта сек на гарох язя, і ў яго была бамбукавая вудачка з катушкай. Мы яе называлі вуда калаўроцікам. Вядома, ксёндз. Як падсячэ язя, а язь вялікі, ён яго цягне, цягне на водмель. А язь абварочваецца праз галаву — і зноў на Вяллю. Папусціць — і зноў цягне на водмель. Потым зноў папусціць, гуляе проста з ім, ды і ўсё. Дык мы не прадстаўлялі, дзе браць такую вуду. Мы ж лесу рабілі з конскага хваста, але на яго вялікую рыбіну не выцягнеш. На шчупака шпагат прадаваўся. Спецыяльны, як цяпер капронавы. Рыбы было уйма. Лавілі мы камандай: я і яшчэ адзін быў таксама з лодкай. Ведзяёй лавілі, у дзве лодкі. Была і лучніца, вунь у двары мая накра ляжыць. Палілі смалякі, смальныя дровы. Вада была, як люстэрак, чыстая і празрачная. Відаць было, гэта ж не цяпер. Але ў Рыбаках найбольш ведзяёй лавілі. Дык рыбу часта насілі па сталовых. Гэта што цяпер у Вяллі робіцца, нарасло ад гэтай гразі. Ад ВілейскаМінскага вадасховішча. Потаму што яны врэмя ат врэмені ачышчаюць, спускаюць яго. А ўсю гразь, водарaслі скідаюць уніз. Даўней рака была інцярасней. І вот пагэтаму, як мы кажам, што самае інцярэснае. Самае самае інцярэснае — жыць. Нават раке інцярэсна жыць. Зараз Вялля як мёртвая, і сёлета. Глядзі, якая жарышча, а ніхто не купаецца. А даўней у жару ўсе каля рэчкі, у рацэ людзей аж кішыць. От.

...Вот гавораць людзі, сетуюць: рыбу вывелі браканьеры. Браканьеры б нікагда б рыбу не вывелі, і не вытравілі, і не вывелі. Ужо як немцы глушылі ў вайну, так ніхто не глушыў. Усё роўна рыбы было навалам, патаму што было малька. Малька было. То ж да берага падыйдзеш, станеш — да ног лезуць, цьма цьмушчая, шэрае дно. Няма малька. Пра нашы Смаргоні. Былі два дзеравянныя дамы пасля вайны. Дзеравянныя, у іх не было ні вады, ні каналізацыі, нічаво. У рэчку не было ніякіх сцёкаў..Усялякай рыбы было. Дапусцім, шчука, окунь, да халеры было судака, лешч, язь, галаўль, платва, ну і мелкія разныя: сялява, як мы там называлі, калбы. І вугар быў. Навалам вугра было.

Бялюга была вялікая. Яна была як цырта ростам. Яна дзе нерастуе, яе там чорна.

Самы лепшы быў вансач. Ён з вусамі, но не гэткімі, што ў наліма. А ён белы, белая луска, ён быў самы жырны, самы ўкусны. А цяпер і шчупак укусны, патаму што няма гэтага. Мы наловім шчупака — і яго дзець няма дзе. Ездзім па сталоўках, каб узялі.

Толька вам скажу адно: як мы злавілі шэсць шчупакоў па 18 кілаграм, то яму спакойна ўкінеш у рот курыцу ці гусь, во так во. І лыкі — танейшыя троху за палец. Я адзін раз вялікага мусіў выцягваць, дык я баяўся, каб праз сетку не хапіў за руку. А то тады не асвабадзішся. Маленькі і то як учэпіцца. А гэты і скалечыў бы.

Акуня ж было навалам. Кінь жабу — да берагу не даплывець, кінь жука — да берагу не даплывець. Усё схвацяць. Гэта ўсё нарабіла хімія. А цяпер нідзе нічаво. Пілі вадзічку. У горадзе (Смаргоні) в речке, што ў Вяллю ўпадае, фарэль вадзілася. А дзе тая фарэль? Як стаў мусар нейкі плысці..

А колькі ракаў было! Тут жа ракаў вадзілася. Травіца расла, не гэтакая, як зараз, што мячэўнікам усё заросшы, а травіца была як каўром. І кошыкам шахнеш, адзін-два ракі толькі клюшнямі лопаюць па гэтай кашолцы.

Нас з-за гэтай зямлі, жылі ж часна, не пускалі парыбачыць, прынясеш вядро рыбы, і вудачкай, не нада і снасцямі было. Пры Польшчы снасцямі б тожа крэпка не разгуляўся, патаму што берагі былі занятыя. Былі занятыя людзьмі, ці памешчыкамі, ці хто арандаваў заняўшы. І ўсё, не будзеш рыбачыць. Калі вёскі было, што нічыё, а так арандавалася. Гэта посля ўжо. сазан быў запушчаны. Пры Польшчы яго не было.

*Мятэчка **Жодзішкі** Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Ірэна Станіславаўна Стальчынская** (дзяв. Рыдзель), 1930 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Тут усякай рыбы было, ментузы былі, ласосі вадзіліся. Я сама відзела, як вялікага ласося злавілі, метра паўтара. Было гэта, можа, у 1937 годзе. Злавіў Дудзінскі, а іх празывалі Сачыўкавы, яны жылі праз дзве хаты. Тут было шмат рыбакоў: Кудзін, Мізула Антон. Вось яны злавілі гэнага ласося. Злавілі летам, напэўна, сеткай. Я відзела, як на дварышча ўсе ляталі і глядзелі. Дык ляжаў ён на

зэдліку не менш чым метра паўтара, на ўвесь зэдлік ляжаў. Усе ляцелі глядзець. А тады ўжо неслі яго да жыдоў, тут блізка. Тут былі дзве хаты жыдоў данюшэўскіх, яны дзяржалі крамкі, яны скуплівалі рыбы. Ну, а людзі былі бедныя, вядома, пасля гэтай вайны ў 19-м годзе вярнуліся з выгнання, тут жа нічога не засталося. Дзяржалі за зебры, а хвост аж да зямлі — прадалі, грошы патрэбны былі. Мой тата, бывае вудачкай налове рыбы, дык смажылі. Але ён рэдка лавіў, не было часу, трэба было зямлю рабіць, гадаваць скаціну. Калі і лавіў, то ў нядзелю, да таго, як у касцёл ісці. Рыбакамі былі тыя, у каго зямлі не было. Бо яны толькі з рыбы і жылі. А ў нас палавіна ўчастка зямлі было, а тата адзін. Участак — шаснасця гектараў.

**Адольф Мацвеевіч Рогач**, 1930 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Самая смачная рыба была вансач, потым сом, потым ментузы. Лавілі ментузоў пад каменнямі, небальшых. Прыйдзеш, камень падымеш, вілкай тыц — ёсць! Шнуры закідалі на грамжа. Пападалася харошая рыба. І вангоры пападаліся. Як дзе пасеяны гарох, дык вангоры па расе ў гарох хадзілі. Тата мой увідзеў, дык думаў — гадзін. Утраіх з трайчаком хадзілі. Ідзеш па маўры, дык шчупакоў лавілі. Каторыя займаліся, ставілі мярэжы, бучы. Мелі ведзяі, на лодках ехалі аж пад Данюшава і далей, і пад ваду на двух лодках, а гэныя сетку трымалі, на пальцы вяровачка, калі што пападала, то чуваць. Васцямі лавіць запрашчалі, але на лучніцу хадзілі. Ракаў лавілі: тут рэчка была Пілавойка, так там ракаў было шмат, усе хадзілі. Асабліва тыя любілі, як мой брат, хто ў Латвіі быў у зарабатках. Папросяць мельніка, ён стаў троху спусціць, і тады ішлі. Адзін свеціць, а другі жабу на палачцы трымае, а тады цягне. Ракаў больш самі елі, а рыбу прадавалі, хто меў лодкі і лавіў ведзяёй прыезжаму яўрэю са Смургоні. У яго тут у Жойдзішак была лядоўня, і ён тады закупліваў рыбу. Лядоўню ў сваім двары меў таксама і Мізула Антон. Яго партызаны застрэлілі.

*Вёска* ***Стаўбуцева*** *Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

распавядае **Жылка Францішак Вітольдавіч**, нар. 1951 г., Стаўбуцева (зап. 2003, 2017 г.г.):

— Самыя смачныя з рыб, што еў у дзяцінсве, – гэта вансач, вангор і шчупачок вагой каля паўкілі. Таксама я люблю плотку. Такіх вось шчупачкоў найболей траплялася ў трайчак. Калі лавілі трайчаком, я ніколі не быў за дзядка, а браў далейшы кол, з якім трэбо было лезці на глыб, і потым ужо абціскалі ціну, ідучы пад самы бераг, дзе рос явар. Там было найбольш шчупакоў. А яшчэ я вельмі любіў лавіць рыбу і ракаў рукамі пад камянямі, карчамі і пад "разакамі."

Кожны, хто хоць раз сплаўляўся па Вяллі, ведае месца, дзе стаяць у вадзе рэшткі нямецкага "Тупальскага" моста, які захаваўся з Першай сусветнай вайны (тутэйшыя іх называюць "разакамі"). Па тым мосце праходзіла вузкакалейка для вывазу лесу. Але вандроўнікі найчасцей праходзяць, не спыняючыся на гэтым месцы. Між тым з правага берага, недзе 200 метраў уніз, пасля крайняга разака, праз хмызняк сцежка вядзе да маёй невялікай вёсачкі Стаўбуцева (раней быў засценак), і калі вылезці з лодкі раней, на павароце , дзе камяні, метраў 150 не

даходзячы да “разакоў” і падняцца на прагорак, то апынешся у Тупальшчыне, на месцы былога фальварка Бакшанскіх.

Упершаню легенду пра Стаўбуцева запісаў у 1843 годзе ў “Літоўскіх малюнках” Ігнацій Ходзька. Згаданы ў творы тэрмін “стаўбуй“, альбо стаў буй” азначае прычальванне да правага берага плыта або лодкі. Тут знаходзіўся значны прыпынак на галоўнай артэрыі краю, аб чым не раз успамінаў мой дзед Юльян Жылка. Большасць зямель і нават лесу належала у 30-я гады Жылкам – маім сваякам, а так сама млын у Жодзішках. Старэйшы сын Юльяна, Францішак, мой дзядзька, у 1939 годзе пайшоу у войска добраахвотнікам абараняць сваю радзіму ад нямецкіх захопнікаў, там і загінуў, як невядомы жаўнер. Цяжка ўсвядоміць, чаму і савецкая ўлада, і цяперашняя не ўшаноўваюць памяць беларусаў, якія прымалі удзел у складзе польскай арміі ў вайне супраць нацысцкай Германіі. У 1951 годзе савецкая улада тут арганізавала калгас і ад усіх гаспадароў забрала землі, лес, хатнюю жыўнасць, часткова пабудовы, а напрыканцы 50-х старшыня калгаса забраў сабе на дом свіран маёй бабулі Станіславы (гэта быў яе пасаг). Часта яна плакала, успамінаючы пра гэты выпадак. Побач з вёскай, уверх па цячэнні Вяллі, месціўся старажытны маёнтак Бакшанскых, Тупальшчына, размешчаны на высокім сухім пагорку. Амаль усім вядома, што ў Х1Х стагоддзі тут, у Тупальшчыне, нарадзіўся дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху і аўтар адозвы “Да смаргонскіх сялян” Юльян Бакшанскі. Але не ўсе ведаюць, што ў 30-я гады мінулага стагодзя тут быў летні пансіянат “Тупальшчына”. Гэта не толькі вельмі каштоўны аб’ект дойлідства, але і адна з першых маштабных аграсядзіб на тэрыторыі Беларусі. Варшаўскі ілюстраваны штомесячнік “Зямля” ў сёмым нумары за 1938 г. сведчыў, што “на працягу ўсёй адлегласці паміж Вілейкай і Вільняй знаходзяцца на Віліі самыя прыгожыя месцы лецішчаў. Трэба адзначыць Данюшава, Гануту, Тупальшчыну, Жодзішкі, куды на адпачынак прыязджаюць госці з Варшавы, Кракава, Познані і Вільні”. Госці жылі ў пяці ўтульных доміках і двух лецішчах. Адначасова магло адпачываць да 90 чалавек. Была абсталявана байдарачная прыстань. Два цудоўныя натуральныя пляжы з залатога пяску. Газоны былі засаджаны кустамі бэзу, і рознакаляровымі ружамі, побач быў вялізны фруктовы сад, якім навакольныя дзеці карысталіся яшчэ да 60-х гадоў. Ля стромкага сухога сасновага лесу быў абсталяваны тэнісны корт і спартыўныя пляцоўкі для валейбола і баскетбола.

З пачаткам Другой сусветнай вайны змяніўся лад жыцця на Тупальшчыне. Гаспадар фальварка Уладзімір Бакшанскі быў прызваны ў польскае войска, каб змагацца супраць нацысцкай Германіі. У 1940-м быў арыштаваны савецкай уладай, асуджаны на 5 гадоў і дэпартаваны ва Узбекістан, дзе і памёр у 1944 годзе. Тым не менш у фальварку Тупальшчына пры немцах захавалася вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі. У пачатку сакавіка 1943 года прыйшлі партызаны і забілі адміністратара фальварка Г. Глушака, праз пару тыдняў зноў прыйшлі і спалілі гэты фальварак. Іншыя пабудовы былі страчаны паступова ў пасляваенны час. Саветы не шкадавалі не толькі помнікі архітэктуры на берах Віліі, але і тых

людзей, якім гэты маляўнічы край быў родны і дарагі. Вандроўнікі і цяпер могуць падняцца на высокі бераг, каб захапіцца панарамай фальварка. Яго рэшткі, ганак і фундамент былой сядзібы густа зараслі бэзам. Калі стаяць на ганку, то ўнізе, праз лес, праглядаецца срэбная стужка вады і "разакі". Можа, хто хоць у думках ушануе памяць тутэйшых людзей, пашкадуе аб страчаным харастве, набярэцца эмоцый аж да начлега, каб за вячэрай на біуваку паразмаўляць з сябрамі - вандроўнікамі аб харастве Вяллі, аб мінулым і сённяшім дні, памарыць аб будычым. На жаль, цяпер няма ўжо каталіцкай капліцы над фамільным пахавальным склепам. Ён разбураны, у падлозе прабіта дзірка дыяметрам каля 60 сантыметраў. У склепе раней стаяла 5 ацынкваных трунаў з рэшткамі памерлых, на 2003 год заставалася толькі адна, астатнія разбурылі і разбілі вандалы. А 40 гадоў назад яшчэ сам бачыў цэлае радавое пахаванне. І ўжо тады, калі не было так шмат гэтых зладзеяў – чорных капальнікаў з металашукальнікамі, – нашу ўвагу прыцягнула правільнай формы ніша, якая была выбіта нядаўна і, па ўсёй верагоднасці, усё, што там магло быць каштоўнага, было скрадзена. Што менавіта, мы ніколі не будзем ведаць. А экспанаты маглі б стаць краязнаўчым матэрыялам для будучых пакаленняў (зап.2003г).

*Вёска **Ашмянец** (202 км/308) Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці*

**Савіцкія** (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Самая смачная рыба — гэта вансач.

Рэня Махнач:

...Самая смачная рыба, дзе касцей меней. Найболей у нас — гэта вансач. А так і яльчык, і шчупачок, і акунёк. Многа цырты было, смачная, але яна кастлявая. І плотка добра.

*Вёска **Плавушкі** (199 км/311)*

**Лёня Ляшчук**, 1929 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Бацька мой, Пётра Шэмбер, сам рыбак быў. Тут даўней жылі толькі Шэмберы і Цікоты. У нас лядоўня была, лёду навозіць. Рыбу капціў і вазіў прадаваць у Смургоні. Найбольш капціў цырту, цяпер яе няма. Я яе не любіла, хоць рыба была вельмі прыгожая, ружовая, бо надта кастлівая, але капчоная — яна найсмачнейшая мужыкам да піва. А па мне, ментузы былі найсмачнейшая рыба. Пячонка ментузоў самае тое было. Тады вангоры смачныя былі. Іх ён лавіў, шнуры закідаў. Бывала, і ў сетку пападзецца вангор.

*— А ласося ці елі?*

— А божа ж мой, канечне, нават і сёлета ела. Ёсць тут ласосі, мой сын на вудачку злавіўшы быў. Якіх толькі рыб не было ў Вяллі, усялякіх. А цяпер во не ловіцца, відзіш.

*Вёска **Мель** Смаргонскагараёна Гродзенскай вобласці*

**Гена Чартовіч** (зап. 2013 г., МММ):

*– Якая самая смачная рыба тут была ў Мелі?*

– Усякай рыбы многа было. Цепер няма рыбы. Самая смачная рыба былі вансачы. Фарэль таксама смачная, але мне не пашчасціла злавіць, а хлопцы лавілі гады два назад ніжэй Дубка, злавілі некалькі, кіль па пяць былі тыя фарэлі. Вансачы раньша былі да сямі кіль, а цяпер малыя. Жэрахі яшчэ тут ёсць, зноў паявілася келба. Цырта паявілася. Нават свінку адну злавілі. Тут, ніжэй за Дубок, троху там пападае. Ніжэй там больш рыбы.

**Уладзімір Эдуардавіч Чартовіч (зап. 2013 г., М.М.М.):**

– Тут, у Мелі, брод быў. Я не рыбак. На юшку, бывае, злаўлю, як захачу рыбы, і ўсё. Смачны мянтуз, ліны. Рыбу ўсе дзеці лавілі. А хто не ўмеў, ля ракі жывучы? Самая смачная рыба зараз скумбрыя. Даўней я лавіў вансачоў. Нават сама спытываў. Быў я малы яшчэ, а сетку ўжо насіў ля Вяллі. Нават сомікаў лавіў. Злавіў мой бацька сама тут на 32 кілі. Бродзень быў, дзве палкі, шост 4 метры, ну як чарапло. Сетка метраў шэсць. Адзін далей ля вады становіцца, другі бліжэй, во так ідуць па беразе, а трэці вяроўку цягне. А чацвёрты рыбу носіць у торбе. Усе ідуць па беразе, сетка на шастах. Ну, недзе там папалі і выкацілі тога сама. Адразу думалі – корч. Корч, дык корч, выцягнулі на бераг, а корч пачаў шавяліцца. Спачатку не варушыўся, прытвараўся, а на беразе давай скакаць. Бацька конна на яго сеў, дык падкідваў, такі дужы. Але затаўклі. Дык маёй сястры хрэсьбіны былі у 55-м, катлет нарабілі, так пасмажылі, усіх гасцей накармілі. А так самую вялікую рыбу, што бачыў, гэта шчупака на 20 з гакам кіль.

*– Дык а сом на 32 кілі – што не рыба?*

– Сом – гэта ёсць сом. Пэўна, 25 кіль той шчупак важыў. Гэта з ведзяёй ездзілі. У дзве лодкі. Цяпер так ніхто не ловіць. Дзве лодкі, на пальцы сетка. У нераст ніхто не хадзіў, а хадзілі во ўлета. А Ізідор, як ён злавіў у сетку сазана, дык як парасё, глаўнае. Павесіў на слуп, дык і я хадзіў глядзець, ну таксама кіль на дваццаць быў. Красівыя былі і жэрахі, ці ганцы: іх у нас і так, і так завуць. Іх найболей у бухце, ля Белай. Я там нават чухонь злавіў.

*– А ласося ці відзеў?*

– А ласось – гэта што, беларыбіца?

*– Не, гэта такая рыба з мора, у ей перад хвастом яшчэ адзін, тлуставы плаўнік ёсць.*

– Ну, такую ў дзецтве я быў злавіўшы. Злавіў рукамі, бо калі ледаход, ля маста ў Жодзішках лёд рвуць, а мы тут у гародзе ўсе стаім, ля берага ходзім. Увідзеў рыбіну і пайшоў за ёй па лёдзе. Дык ласося на чатыры кілі я ля ціны згледзеў. Стаіць. падышоў па крызе і рукамі ўзяў. Як прынес дамоў, аддаў маці, дык стала срака сіня, так адлупцавала, і ўсю ноч на гаросе на каленях адстоіў. Дык і не паспытаў тога ласося, і таму і цяпер не надта рыбу люблю. Ласося забаронена лавіць, ды і мы ж з хлопцамі маглі ўтануць.

Раскажу табе. У нас беларыбіца была. Беларыбіца. Я яе не відзеў, ну гэны Дук, знаеш, казаў. Там каля Белай гары, калі яшчэ не было лагера, як дала, на тым баку, а ён на рызінавай лодцы, во так во пайшоў. Слухай далей. Было сем братоў

Лужыцкіх, адзін, ну, я не верыў, пастаронніія людзі гаварылі, што праўда, карочэ, ну, там пайшлі купацца ці рыбу лавіць, і відзяць: спіць рыба. Пэўна, метры два. Беларыбіца, як звалі яе ў дрэўнасці. Ну і што, ён падкраўся, каб яе задавіць. Сунуў рукі пад зябры, а яна яго як зажала там — і папёрла! Насіла, насіла, то падымецць, то да дна апусціць. Тады адпусціла. Карочэ, кілаграм сто пійсят тая рыбіна была. Гэта была бялуга. Было гэта якіх гадоў дваццаць-пятнаццаць назад. Наша баня тады аж там стаяла. Дык бялуга ці беларыбіца гэта была, я ж табе аб'ясняю. Ёсць яна яшчэ ў Вяллі. Ды я гэтага хлапца знаю, ды я яму не верыў. Ён і не расказваў, маўчаў, але што са стараны бачылі, расказалі. Распусціла междуробры і зажала, і ўсё: ты рукі не выпусціш, пакуль не адпусце.

А калі ўжо есці, то я толькі хітрую юшку раблю, і сам тады ем. Юшка! Чуў такую?

— *Гэта, мусіць, уха?*

— Не, не уха, а юшка. Уха варыцца ў сагане, а юшка робіццаў патэльні. Па-другому юшка. Бацька мой рабіў, ні маці, ні жонка не ўмелі. Рабіць юшку павінен толькі мужык. Бярэш патэльню, мелка сала рэжаш.Туды цыбулькі, жарыш. Тады мукі лыжкі тры, ну якая скаварада, — туды. Тады адгартаеш, і ложыш рыбу. Паджарваеш рыбу з дзвюх старон. Тады заліваеш ваду ў гэта ўсё, кіпяціш і пры канцы спецыі. Есці трэба гарачай і з бульбай. О!

— *Які быў самы шчаслівы случай на рыбалцы?*

— Было гэта яшчэ пры Польшы, казаў мне дзед. Карочэ, паставілі яны ў Разаках сеткі. Дасталі. Язі. Адзін у адзін. Парку коней запрагаюць — і на Вільню пруць. Дзве каровы купілі. Карова тады добра стоіла. Вось што было з аднаго раза, так язёў налезла.

Тут жа Ўладзюк браў ліцэнзію (у яго лядоўня была), і яны лавілі рыбу. Прыязджаў кожны тыдзень жыд, забіраў у іх і вёз. Дык во, як зацянуць ад каменя да выспы, — пару бочак рыбы было. Напроць хаты, і ездзіць нікуды не трэба. Цягнулі такой сеткай трыгубіцай. Цяпер бы ў тую сетку ні адна рыба не ўлезла. Цяпер і ў ніякія сеткі рыба не лезе, бо няма яе. Ваабшчэ рыба прапала. Як сілікатны завод запусцілі ў Міхнічах, так рыба і прапала. А тады яшчэ і Вілейка ўсё прыкончыла. Была ж такая чыстая вада, па ўсей Вяллі дно было відаць, дажа на тры метры. Цяпер берагі пазаплывала, зрабіла балота, не пазнаць, што тут каменьчыкі былі. Сілікатны загубіў і Вілейку. Раньше за куст сядзеш — плаваюць там усялякія рыбы, краснаперкі. Чарвя да носа падводзіш, а яна панюхала — і пайшла, усё ж відаць было.

А бывае на рыбалцы, што няма шчасця, ну, не вязе, хоць плач. Трайчаком лавілі раз у Січкунах. Трайчак — гэта дзве палкі па тры метры. Тут на ланцугу, тут стойка, тут стойка і тут стойка. Адзін тут дзержыць, адзін — тут, адзін — тут, «дзедам» завецца і сетка. Раскладаецца, ахоплівае траву і сціскаецца. А тады разам падымаюць. Толькі пачалі, дык шчупак як даў — і сетку прабіў, і «дзеда» паваліў. І гузак на ўсе грудзі, і рыбалцы канец. Аперкот. Дзірка ў трайчаку на паўметра. «Дзеда» адкачалі — так расхацеў зноў у ваду лезці. Адбіла ахвоту. Мусілі бутэльу

прыкончыць не па-людскі: без смажанай рыбы з вады і юшкі, пад казённы часцік, пад кільку.

*Вёска **Дубок** (204 км/306) Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Іосіф Варабей** (зап. 2013 г., МММ):

*— Якая самая смачная рыба тут, у Дубке, на Ашмянцэ?*

— Пэўна, судак і вансач. Цяпер мала іх. Бывае, пападае, зяць во налавіў. Ну, яшчэ шчука. Уперад на шнуры сам лавіў наліма. Ладзіў шнуры. На шнур бярэш дзесяць кручкоў, чапляеш грамжэй, на канцы камні як грузы і ставіш там папярок, дзе камні якія, ці там, дзе быстрэй, таксама. Лодачкай ездзілі ўдваіх. Апускалі на ноч, а раніцай з кручком едзеш. Было, пападзецца, але смярдзіць балотам, хаця касцей няма. Самую вялікую рыбы, што бачыў, — на пятнаццаць кіль шчупака. А яшчэ тут, у Ашмянцы, былі злавіўшы ментуза на 32 кілі, ну, не ментуза, а сама, ён на яго падобны. Злавілі на спінінг, гадоў з сем таму. Чалавек з Андрэяўцаў, Казік, два часы мучыўся, пакуль выцягнуў. Павязло: два пуды мяса. Якраз супроць Маткі Боскай Курганскай, дзе святая вада з крыніцы, з той стараны Вяллі. Месца дзе Маці Божая завецца “Ціхі луг”, за сасоннікам дзе рапс сеюць “Крыжышчы”, далей сенажаць“Курганы”. І праздпік Маткі Боскай Курганскай першага ліпеня тут. Пятнаццаць ксяндзоў прыезжала, пашчыталі.

**Эдуард Міхайлавіч Пастарнак**, 1943 г. н., родам з Навасёлкаў (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

*— А какая первая рыба счастливая?*

— Толька не окунь. Еслі акуня спаймаў — шчытай, дамоў нада. Больша рыбалка не палучаецца. А шчаслівая — уся астальная.

*Вёска **Рымшыненты** (221 км/289) Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Уладзімір Уладзіміравіч Вайцэховіч**, 1939 г. н. (зап. 2013 г., М.М.М.):

...Я сам не рыбак, нават вуды не маю. Але ж рыбу з Вяллі еў. Самая смачная — мянтуз, смачны, як масла. Але цяпер ментузоў няма, звяліся. Перш лавілі яго на донкі, кідалі. А потым, па смаку будзе невялікі, да кілі шчупачок. Самую вялікую рыбіну што бачыў, гэта шчупак. Рыбак з Маркунь на плячах нёс, галаву трымаў спераді рукамі, а хвост па зямлі ззаду цягнуўся. Даўно гэта было, тады рыбу добра бамбілі.

***Вёска Нестанішкі***

**Вальдэмар Пятровіч Федаровіч**, 1940 г. н., мясцовы (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

*— Як даўней рыбу лавілі?*

— Нада мець сеткі, ці сачок, ці брэдзень. Цесць мой лавіў бучамі. А я бучы плясці ня ўмею. Мужыкі чатыры ставілі, хто мог плясці.

*— А ў якую пару лепш ловіцца?*

— Цяпер во, калі брэднем, дык і шчуку злавіў бы ў траве, яна ў траве стаіць.

*— Эта ў гэты час?*

— Да, ужо ёсць. Шчука ўжо да восені. Стаіць у траве, а тады вылятаець. І ловіш.

*— А на лодках ці лавілі?*

— Не. Там, у рапе, на тым баку, быў добры рыбак, ужо памёр.

*— А якая рыба даўней вадзілася?*

— Як цвіцець чаромуха, тады такая цырта нераставала, крупная, а тады другі раз нераставала, тады, як красуець жыта. Але ўжо болей мелкая, чорная. А тады яе адно врэмя не было, Дзе яна дзелася? Мусіць, літоўцы былі перагарадзіўшы. Сетку былі паставіўшы.

*— А дзе тая сетка ў літоўцаў?*

— Дзе ўпадаець Вілія ў Нёман. Там эта сетка. Там яны перагарадзіўшы, і не пускалі эту рыбу.

*— А шчупак калі?*

— Шчупак нерастуе ў канцы апрэля. Разнай рыбы было. Усач такі крупны. Зімой у бучы налім лезіць.

*— А як пад лёдам можна загарадзіць?*

— Гарадзілі летам, а зімой прасек лунку — і дастаеш. Было, што пападуцца і па тры кілаграмы.

*— А русалка якая можа ў вадзе?*

— Да не. Раньшэ захадзіў у Вілію ласось. Даўно. Ён ідзець на чыстую ваду на нераст. Там, у рапе, дзе быстрыня. У нас быў такі заядлы рыбак. Дык агледзеў, што ідзець ласось, адну гранату кінуў, усё раўно пайшоў, другую гранату кінуў — раніў. У куст упёрся. Паймаў ён яго. Берагам там хадзіў яўрэй, чаго яго там чорт насіў?! Падышоў, узвесілі — сем пудоў. Купіў яўрэй гэтую рыбу.

*— А на смак якая рыба?*

— Самая ўкусная паджарыць — окунь.

*— На смак рыба на што пахожая?*

— Рыба ёсць рыба. Ні з чым не зраўняеш.

*— А бывала, што лавілі рукамі рыбу?*

— Бывала, што летам была такая ўклейка небальшэнькая, яе лавілі карзінай. Ваду прымуціш, дык яна аж да ног лезла. Аж чорна было, карзінай зачэрпавалі.

*— А пад камнем іскалі рыбу?*

— Пад камнем і я лавіў, як малы быў. Цяпер не палезу, баюся. Усунуў руку, нашчупаў нешта мяккае. Думаю, налім, ён тожа любіць пад камень залезці. Я шчупаю, каб за галаву ўзяць, ён жа скользкі, яго так не возьмеш. Шчупаў, шчупаў — галава тонкая. Я руку раз з-пад каменя, а ён з гэтай дыркі свісь мне на калені. Дык я выхадзіў аж на бераг. Угар. Ай, тваю макаўку, як выпрастаўся, як пашоў на быстрыню, я б яго рукамі не ўзяў.

*— А нагамі ашчупавалі рыбу?*

— Дзе густая трава, можна стаць на рыбу.

*Вёска**Буякі** (223 км/287) Смаргонскагараёна Гродзенскай вобласці*

**Мар'ян Іванавіч Рогач**, 1938 г. н., мясцовы (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

— Ну як даўней лавілі? Бучы ставілі.

*— А вы рыбак?*

— Бываець, з вудачкай сяджу.

*— А як даўней ночы лавілі. На лодках?*

— Называлася вядзея. Такія як мяшок з нітак. Тут лодка і тут. А яна паміж цягнулася, толькі падымай.

*— А хто сеткі плёў даўней?*

— Самі. Хто рыбак, той і плёў. Наабарот, у нядзелю сетку рабілі, тады, казалі, рыба надта добра ловіцца.

*— У нядзелю трэба было?*

— Ага, так гаварылі. Дзяды гаварылі ў нядзелю рабіць сетку.

*— А якая на смак сама лепшая?*

— Угар. Кажная рыба свой смак маіць. Адной плотнае мяса, другой — рэдкае. Адна кастлівая, другая некастлівая.

*— А калі якую рыбу можна лавіць? Можа, якая прыкмета была?*

— Цяпер ніякай няможна. А даўней як лёд пайдзёт, з лёду шчука нерастуець. З лёду. Патом ялец ідзець, нерастуець. Патом окунь, тады пацяплеець — платва. А тады карась нарастуець, лін, гэта ўжо як цяплей. А як чаромха цвіціць, тады цырта нерастуець. Белая і чорная, два сарты іх ёсь. Тады паследні будзець галаваль. Жэрах — усякіх ёсь названняў.

*— А як дзялілі рыбу, як наловяць?*

— Па такой рыбіне, па такой, па такой. Пароўну. Я гэту вазьму, я гэту.

*Вёска **Маркуні** (232 км/278) Астравецкагараёна Гродзенскай вобласці*

**Станіслаў Мацвеевіч Пазлевіч**, 1922 г. н., мясцовы (зап. 2013 г., М.М.М.):

Я ўжо сёлята ўсё помню, але не віжу. Хаджу яшчэ, але аслеп. Свет толькі віжу, толькі тамака, у тым баку. Самая смачная рыба — гэта вангор. Вангор па расе паўзе, як гадзіна ён. Ён на сваім жыры і распусціцца. Не трэба на патэльню ані жыру. Але як жарыць, трэба кожу здзіраць. Скурай вангоравай даўней падпярэзываліся, як каму сярэдзіна баліць. Смачныя і шчупакі да кілаграму. Было раней і вансачоў. Вансачы там, дзе каменне. На лучніцу ездзілі. Вансача бі — ён не ўцякае, як шчупак. Шчупак раз — замуце і паляцеў, а вансача сячы аднаго за другім. Лучніца, знаеш, калі смалякі палілі і восці такія былі, браканьеры мелі, ганялі за іх. Сусед меў каня — паедзем. Мелі зямлю, лес — накапаем карчоў, насячом смалякоў. Прыб'ём такую казу, паложам смалякі, палім. Спусцімся ніжэй, да Яновіча. Быў хутар на тым баку Вяллі, туды заўсёды спускаліся. Цяпер няма, купілі хату. Як уз'едзеш, то рыба стаіць. Калі сячэш рыбу больш чым тры кілі, трэба пускаць восці, бо сарвецца. Самую вялікую рыбу, што засякалі, звалася болень. Пусціш восці ў ваду, а ён ходзе, ходзе, а тады клюне. Рыбы было. Восці былі — шост на пяць метраў. Як уз'едзеш, так відаць і на глыбі. Чысцюткая вада

была. Ён уставе восці ў ваду і вядзець, вядзець і не так б'е — плюх! — а падводзе да яе блізка, а тады ўжо — чах! І кідае восці. А гэты носе, носе восці, пакуль не замучыцца.

Маста не было, парамы былі. На парам станавіліся два вазы. За перавоз на параме бралі 4 пуды жыта на год, ці ў завісімасці ад участка. У нас было зямлі шостая часць валокі. Валока мела шаснаццаць дзесяцін. На дзесяціне — гэта дваццаць гектараў. Парамы дзяржалі людзі, у нас такі Чайкоўскі дзяржаў. З Міхалішак другі паставіў парам. Нідзе работы не было. Плыты ганялі. Фабрыку на Страчы паставілі. У Міхалішках адны жыды былі, так бабы хадзілі жыдам адзенне мылі. Жыды ездзілі, анучы збіралі па вёсках. Крычалі: «Гэй, бабы, анучы да кучы!» Потым тыя анучы здавалі. Да граніцы ездзілі, селядцоў якіх вазілі, прадавалі. Сялядцы да бульбы смачней, чым рыба з Вяллі. Рыбу мы найболей жарылі ў глыбокай патэльні і тады ўлівалі малака салодкага. Закіпіць малако — і рыба гатова. Найскарэй. Во, проста: яе пачысціш, каб усё было чыста, тады адскрабеш усё чыста, тады нам сказалі прэснага малака: падаі карову, улі малака, як закіпіць малако, перавярнуць — і рыба гатова. Тлустасці дабаўлялі трохі, малака ў патэльню добра дабаўлялі, каб яна была ўся занятая. Гэта паказаў нам з Міхалішак такі жыд, Рандановіч быў. Таксама рыбу сушылі, каторыя рыбакі салілі. Рыбу болей сушылі да піва. За Польшай літр водкі стоіў чатыры злоты. Былі бутылкі па паўлітра і былі кручкі. Кручок — паўбутэлькі, і яшчэ паўбутэлькі. І быў спірт. Але так тады не пілі. Дорага было. Самагонку гналі. Самагонку гналі, як ездзілі ў начное. На каменнях кацёл стаяў, вогнішча палілі і палілі ў начлег. За Польскай у Міхалішках было чатыры паліцыянты і пяты камендант. І былі даказчыкі. Хто дакажа і злове з гарэлкай, шэйсят злотых яму плацілі. Прэмія. Панікі такія былі. А таму, каго злавілі, давалі паўгода турмы. У Дубраўлянах тут быў маёнтак такі, туды везлі, а сядзелі ў Вільні, у Антокалі. І ў Лукішках. Да года давалі турмы.

Рыбу ў Вялле лавілі за Польскай так, не плацілі. Чароплямі лавілі, і такі бродзень быў, з заходам. Бродзенем утраіх лавілі, як палазамі. Чароплы застаўлялі, а тады пачыналі пужаць, заганяць рыбу. Ставілі два чароплы, адзін шырокі на васямнаццаць, каб большая рыба заставалася, а мелач пралятала. Чароплы таксама называлі сак. Бучы ставілі вясной, як вада прыбывала і рыба ў ручаі заходзіла. Тады рабілі загарадзь, ставілі ў ручай буч, і калі вада ўбывала, то рыба надта лезла ў бучы. Пад'ёмнікаў, як на Дняпры, у нас не было. Лавілі таксама ведзяёй. Ведзяёй лавілі з двух чоўнаў. На чоўне сядзелі ўдзвух: адзін спераді грабець, а задні трымае адзін канец ведзяі, на другім чоўне трымаюць другі канец. Рыбы многа было, але бедна жылі. Прападаць Вялля стала, як зрабілі мора для Мінска і сталі ваду перакідаць у Свіслач. Тады і памялела і стала зарастаць. Даўней пясочак быў, а цяпер скрозь берагі пазарасталі, усё змянілася. Раней, за Польскай, і за немцамі, як плыты ганялі, ваду пілі з Вяллі да самай Вільні. У Вільні ваду з Вяллі піць няможна было, бо там скідвалася ўся

каналізацыя, гаўно плыло. Ваду там ужо запасалі. Да Вільні гасцінцам шэйсят кілометраў, а Вяллёй 180 кілометраў.

*Мястэчка **Міхалішкі** (238 км/2 72) Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Альфрэда Станіславаўна Кляцоўская**, 1931 г. н.м. Свір (зап. 2013 г., МММ):

...Сама я са Свіры. Мы з мужам пераехалі ў Міхалішкі з Літвы працаваць у школу. Я была настаўніца матэматыкі. Муж мой, Міхаіл Андрэевіч, многа пісаў. Ён быў полупісацель. Усе бумагі я аддала Свірыду. Свірыд — быўшы дырэктар нашай школы, а цяпер работае ў Астраўцы ў газеце. Ён інфарматар па нашай атамнай станцыі.

У мяне муж калісьці, як жыў, быў рыбаком. Ездзілі мы з ім на рыбалку. Дык едзем, едзем, будуць Маркуні на Вяллі.

На мой погляд, самы ўкусны сом. Сом тут быў. Мой муж і яго бацька лавілі сомікаў. Мы заўсёды былі з рыбай. Судакі — таксама харошая рыба, усягда заліўное можна здзелаць. Язь — смачная рыба. Налім харошая рыбка. Смачныя вельмі сазаны. Яны прыхадзілі сюда на остраў на нерэст. Што ўжо іх было: па восем кілаграмаў, па сем кілаграмаў, я ўсіх родственнікаў надзяляла сазанамі. Шчупачкоў заўсёды фаршыравала. Самага большага шчупака ён злавіў на восем кіль. А лавіў мой муж і яго бацька толькі на вудачку. Лодка была. Сетачка таксама была, але гэта ўжо на якую патрэбу, як раптам рыбы трэба. Была фатаграфія майго мужа з вялікай рыбінай, але яе забрала мая дачушка ў Вільню. І другая дачка ў Літве, аж пад самай Латвіяй.

**Сяргей Мікалаевіч Рукойць**, 1968 г. н. (зап. 2015 г., МММ): Ракаў у Міхалішках даўней лавілі дзе востраў, яны там былі. Там такі пляж ніжэй маста ёсць. Лавілі іх пацанамі. Мусіць, калі быў у трэцім класе.

*Вёска **Малыя Свіранкі** (247 км/263) Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Сп. Казлоўская** (зап. 2012 г., М.М.):

...Самая смачная рыба — гэта фарэль і стронга. Тады мы любілі вангора. Тады ўжо ліны і болені. Болені вялікія былі. Яны асабліва смачныя капчоныя. Займаліся капчэннем. Ліны такія тоўстыя, там мяса многа. Смачныя яшчэ ментузы былі. Раней, я сюда прыйшла, муж вунь такімі кошыкамі рыбу прыносіў. Было рыбы ўсялякай. Ездзілі з агнём і лучылі вілкамі такімі. Дык была надаеўшы гэтая рыба так, што чысціць яе і есці не хацелася.

**Іван Іосіфавіч Казлоўскі** (зап. 2012 г., М.М.):.Самая вялікая рыба ў нас — ганцы ці болені. Найбольшыя былі законна на восем кіль. Былі вялікія ляшчы. Лавілі найболей на лучніцу. У накру лажылі смалякі, а як паявілася саляра, то лажылі гнілякі. Памочыш у саляры — і ў накру. Хадзілі ў адну ці дзве лодкі. Гоніш пад ваду. Болень, як падняўся, дык ён па вярху ідзёт. Па самым вярху. Дык, бывае, кідалі ў яго асцямі, калі пашыбляешся і ніяк не можаш дагнаць. Як кап'ём. І пападалі. Кідалі за метраў восем, а найчасцей за пяць. Восці рабілі ў нас у кузні на восем зубоў. Найбольшыя ж восці былі на дзесяць і нават на дванаццаць зубоў.

Але яны былі вострыя і з вусікамі. Каб не здзіраўся назад. Было ўсялякай рыбы. Ментузоў лавілі на шнуры з кручкамі. Кідаеш поперак шнур на камяні, на кручкі грамжа. Тады бусак бярэш і дастаеш. Крэпка і не хавалі адзін ад аднаго, ніхто з твайго шнура рыбу не знімаў, у нас злодзеяў не было. Фарэль вялікую лавілі, там рэчка Дуда ў Вяллю ўпадае. Даўней, як раку не спорцілі, яе надта многа было. У асноўным на кіль сем-восем. Не маглі адразу ўсю паесці, дык тушонку рабілі. Ужо колькі тушонкі з фарэлі паелі! На лучніцу лавілі і вансачэй. Яны так стаяць, вялікі самы наперадзе. Другі меншы, далей меншы, і меншы, і меншы. Калі ўжо які рухнуў, то ўсе разлятаюцца. Ужо не даганяем — усе пайшлі. А як добра б'еш, то можна ўсіх падрад: першага зрываеш, тады другога, тады трэцяга. Галоўнае не прамазаць, так даць, каб не рухнуўся. А рухнецца — усе паўцякаюць.Самы, ці бусакі,чорныя былі, але рэдка. Шчупакоў мы на лучніцу не лавілі, толькі калі брэднем. Двое цягнуць, а трэці за дзеда. Зажымаеш так, зажымаеш, а тады падымаць. Шчупакоў было. Яшчэ ездзілі з малатай на дзве лодкі. Гэта сетка такая, як посцілка. Рыба ўцякае ўзад, а лодкі ідуць во так во. Гэта называецца малатай. Уперадзе грабуць, а ззаду два сядзяць з сеткай на пальцы. Еслі ўжо торгнула рыба, яны закрываюць гэту посцілку і падымаюць уверх. Дастаюць рыбу і ізноў апускаюць. У нас бабы на лодках не ездзілі, не памагалі лавіць рыбу, хаця ў другіх вёсках я пра такіх чуў. Гэта Мужалянскія, і то калі гэта было! Гэта Казлы. Цяпер у Вяллі і трава памянялася, не было ніколі такой травы. Была маўра, цвіла такая жоўценька і беленька. І ўсё. Вада чысценька. Ямы былі глыбокія, да Радзёў. Там, дзе забора «Ключы», таксама глыбей было.

**Зося Вітольдаўна Казлоўская,** 1941 г. н. (зап. 2012 г., М.М.М.):

...Разваленыя муры належалі некалі біскупу. Нашы Малыя Свіранкі яшчэ мясцовыя завуць Фэрма. Фэрма — другая назва, таму што тут была калісь ферма. Тут яны быкі разводзілі. Біскупы тут жылі, тут была іх гаспадарка. Муры паастаўаўшыся ад хлявоў. За Польшай можна было ў ягады хадзіць толькі ў казенны лес, а ў панскі нельга. Тут паблізу не было казённага лесу. Дык ляснік за тое, што татуня добра шыў, дазваляў па знаёмству схадзіць нам у лес па ягады і грыбы. А так трэба было браць квіток на ягады. Грошы не было, так квіток на дзень давалі за шэсцьдзясят баравікоў. Шэсцьдзясят баравікоў трэба было здаць. А тады прыязджаў пан з брычкай, з сабакамі і катае тут днямі, як дзенег недабраў. Як пападзешся, мог і бізуна даць. Пан наш быў Крукоўскі, з Падольцаў, там за лесам чатыры кілометры адсюль. А Зрэнька з Палянаў, там бровар трымаў. Паны благія былі, дзе ты возьмеш харошага пана? Рыбу ж лавілі, рака не лічылася панскай. Акрамя брусніц і чарніц мы збіралі ягады з ядлаўца. Яны былі надта дарагі, за іх атаварывалі загатаўцелі на корт, каб спадніцу пашыць якую, на платкі цвятныя. Зімой, як мароз вялікі, сцелюць посцілку, тады за верх ядлаўца прыхіляць і палкай як задаў, задаў — ён і абляціць. Гэтыя ягады шлі на лякарства. Збіралі іх і за Польшай, і пасля вайны, і цяпер загатаўцелі бяруць.

**Муж Зосі Вітольдаўны** (зап. 2012 г., МММ):

Самую большую рыбіну — мэтровую я злавіў на вуду, гэта быў шчупак. На блясну.

**Соф'я Сімановіч (Казлоўская)**, 1941 г. н. (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7685):

Як фэст быў у нас фтарога іюля, так тады лавілі рыбу, усё хадзілі. у нас завуць яе «болені» такая. не знаю як гэта. можа, ганец ці як?.. па-кніжнаму?.. Такая. бальшыя яны! Круглы рот.

*Вёска **Мужылы** (250 км/260) Астравецкагараёна Гродзенскай вобласці*

**Стэфанія Антонаўна Бабіч** (дзяв. Войшка), 1933 г. н. (зап. 2013 г.,М.М.М.):

...У Вяллі ўсялякай рыбы ёсць, а самы смачны — ласось. Ён вялікі расце. У майго брата ў Міхалішках свадзьба была, дык аднаго хапіла. Дваццаць пяць кіль быў. Мяса харошае, такі ўжо смачны, што і не расказаць. Ну, шчупакі тады, бо вугра я не люблю, надта ён страшны. Вансачы былі, тожа надта ўкусныя. Калісці рыбы было, і рыбакі сеткамі лавілі поўныя лодкі. А цяпер ні людзей, ні рыбы, на 21 хату мы, дзве бабы, і трэція — сям'я. Цяпер травяць, рыба патравіўшыся.

Вельмі смачныя ментузы, помню, яшчэ дзед мой на шнуры лавіў. Лавіў рыбу і тата, помню, той рыбы былі поўныя цэбры. Самая смачная красная рыба, пэўна, ласось і ікра. Помню, ікры як наварым! Лавілі раней сеткамі. А цяпер стала строга, не дай бог, самаго зловяць. А вудай нічога цяпер, акрамя плотачкаў маленькіх, і не зловіш.

*Вёска **Тартак** Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Вацлаў Блажэвіч**, 1947 г. н., мясцовы (зап. 2015 г., М.М.М.):

...Да таго, як зрабілі вадахранілішча, самымі смачнымі рыбамі на Вяллі былі вангор, налім і цырта. Балень красівы, але ўсё ж не такі смачны. Цырта харошая капчоная. Толькі што касцістая. Вансач — смачная рыба, асобенна той, хто ведае. Сама лепшая для прэзентаў, даюць за ікранога вансача самыя вялікія грошы, стараюцца закупіць у нераст: хто пракурору, хто цёшчы, хто начальніку. Як гэны казаў, хто ведае, а хто не ведае, а ікра ў вансача ў нераст калі-нікалі ядавітая. Выходзіць так, што самая смачная рыба тая, што зараз няма на Вяллі, бо звялася. Само сабой, смачныя стронга і ласось. Стронга, як і цырта, хутка мяняе цвет на берагу, калі засыпае, як зловіш.

**Александр Вацлававіч Кірпа**,1957 г. н., родам з в. Варона, жыхар в. Бярозаўка (зап. 2015 г.):.Самая смачная рыба — налім. Люблю боленя, гэта па-беларуску, а па-руску яго завуць жэрэх, а ў Альхоўцы за Міхалішкамі яго завуць ганец. Галаўлі і ляшчы вялікія тожа нічога сабе, не сказаць, што самыя смачныя. Блажэвіч Вацлаў з валанцёрамі на рэчцы Тартачцы ложыць перад трубой запруду з камення, падымае ваду, каб кумжа магла прайсці на нераст па трубе. Яго бацька быў у Тартаку мельнікам. Як дарогу рабілі, перагарадзілі рэчку, ваду пусцілі ў трубу. А так трубы не дастае, бо высока. Тартачка пачынаецца ля Трокінікаў, пад Быстрыцай. У Тартаку ў 1975 годзе фільм пра вайну здымалі, хлопцы мясцовыя

немцаў іgraлі. Дык пераадзетыя ў салдат-немцаў пайшлі па хутарах з аўтаматамі шуткі шуціць, прасілі: «Матка, шнэль масла, сала, яйка, шнапс», — і людзі вяліся, давалі самагонку і закусь.

*Вёска **Перавознікі** (Быстрыцкія) Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Яніна Іванаўна,** 1926 г. н.(зап. 2013 г., М М М ):

...У Перавозніках было трыццаць шэсць хат. Наша вёска вядома з шаснаццатага стагоддзя. А побач, у Ліпнішках, ёсць курганы і капішча, дык зусім то месца старадаўняе. Тут быў паром, перавозілі праз Вяллю. Перавозілі даўней не за грошы, а плацілі на сяўбаванне. Зерне давалі. Тры пуды трэба было даць на год. Паром быў трохі ніжэй за нашу хату. Там і зараз ідзе дарога на гару. Дарога была на Кемелішкі. Звязваліся з Астраўцом. Ну, і Вільня ж недалёка, і многія нашы працавалі ў Вільні. Бліжэй да Вільні было праз раку ісці. Акрамя парома, кожны ў Перавозніках трымаў лодку і перавозіў людзей, і ровар, вядома ж не дарма. А калі ехаў на возе, то ўжо трэба было на пароме.

**Ірэна Мятліцкая (зап. МММ):**

...Дзеці на гэтым толькі і зараблялі. Нам нават было выгадна пераняць чалавека, каб не на пароме ехаў, а ў нас. І чалавеку добра было: на пароме пятнаццаць капеек, а у нас дзесяць, на савецкі час. У прыватніка было танней. А яшчэ быў вялікі даход ад таргоўлі на пароме ракамі. Цяпер у Вяллі ракі звяліся, а даўней было. Наловіш вядро, зварыш і гандлюеш. Па пяць капеек рак. Ракаў больш усяго было ля Белай гары. Там калісьці было русла, Вялля звярнула і стала старарэчча, утварылася возера. Лавілі ракаў ноччу. Наловіш жаб, трохі ў кастры падсмажыш — і ў ваду. Бярэш факел і глядзіш: ракі акружылі ўжо тую жабу. Ракі балдзелі ад смажаных жаб. І звычайна проста бярэш рукой, пырх — і ў вядро. Рыбу ў нас у асноўным пяклі. Смачны мянтуз. Аднойчы лавілі брэднем. Зайшлі на чыстае месца — ні травінкі няма. Я камандую, дзеці вот разышліся, вось зноў сышліся. Падымаем — гадзюка! Валера крычыць: «Вугар!» Тады на бераг выкінулі.

*Мястэчка **Быстрыца** (265 км/245) Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Міраслаў Уладзіслававіч Тамашэвіч**, 1946 г. н. (зап. 2012 г., МММ):

...Болень і ганец — гэта па-нашаму, а па-навучнаму — жэрэх. Громж такі штырны, на яго мянтуз добра бярэ. Маўра — гэта па-нашаму ціна, у ёй шчупак стаіць найболі. Як квітне трава, яны жыруюць, у ціне хаваюцца. Лоў дзвюма лодкамі, між каторымі сетка, завецца ў нас малата. Дзве лодкі, две палкі, на пальцы вяроўка — сторaж. Яшчэ ў нас ёсць трыгубіца, якую ставіць можна, а ёсць сплаўная трыгубіца. Зараз за лоў строга, у нас адных злавілі, дык сядзяць у турме. На лодку, калі шлі на лучню, ставілі накру, ці казу. А як салярка стала — зрабіў факел, памачыў у саляру — і едзь, навошта смалякі рубаць. Адзін гоня лодку, другі з васцямі, відзе рыбу — і ў хрыбёт.

**Іосіф Іосіфавіч Тамашэвіч,** 1956 г. н. (зап. 2013 г., МММ):

— *А якая самая смачная рыба ў Вяллі?*

— Самую смачную рыбу злавіць трэба. Ну, канешне, стронга даўней была. Лавілі стронгу, тут рэчка ёсць, многа яе было. А после, як з'явіліся электравуды, усю стронгу ў нас высвенцілі. Ну, слава богу, іх у турму на два гады закапалі, тых, што стронгу электравудамі, закапалі. Ну, потым гэта, што на сама падобна, мянтуз называецца. Вангор — на любіцеля, ёсць у Вяллі, але рэдка, як зловіш, то ён як гадзіна, яшчэ трэба думаць, каму ўсунуць.

**Яніна Іосіфаўна Юхно** (Сымановіч),1934 г. н. (зап. 2013 г., МММ):

*— А якая самая смачная рыба ў Вяллі?*

— З рыбы мне найлепе падабаецца стронга. Пажарыць у смятане. Яе некалі многа лавілі, тут месца ёсць, завецца Бухта. Стронга ўсякая ёсць, кажуць, што вялікая пераходзе ў ласось. Гэта вялікая стронга, чырвоныя плямачкі па ёй. А тарсна і балонь былі забаронены. Тарсну ўсю зараз павыбілі. Стронгу добра пажарыць і ўліць смятаны. Смачныя і вангоры. Некалі вангоры лавілі і здзіралі шкуру. І ўплятелі ў касу. Красіва, і каб косы вялікія раслі. На вузкія палоскі спецыяльна рэзалі. Лічылася, што лепей валосы расці будуць.

**Анатоль Нікіціч Багачоў**, сын дырэктара Быстрыцкай школы (зап.2012 г.):

...Быстрыца была рэзідэнцыя вялікага князя Міндоўга, першага князя Літоўскага. Быстрыца — гэта першая сталіца Літвы, а Навагрудак быў ужо потым.

Цяпер у Вяллі рыбы няма, а ў дзецтве дык столькі наліма было! Вот замярзае Вяллля. Дык вось да вострава ідзеш, абухом шлёп, дырку зрабіў — на лёд панавыкідываеш ментузоў. Келбы было многа. Ласось, кумжа на нераст прыходзілі. Яны ішлі ў рэчку за тры кілометра адсюль, Тартачку.

*Вёска **Даўнорышкі** Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці*

**Галіна-Сюзанна Казіміраўна Матусевіч-Гульбіновіч**, 1932 г. н., родам з в. Балоша (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7685):

*— А муж ваш рыбу лавіў?*

— Лавіл, любіл, але яго мама не хацела ні этай рыбы. Знаеце, он адзін, работы многа: і каровы, нада і накасіць, і ўсё. Ана гаварыла: «Последній брадзяга толька сідзіт на рэчке! Ідзі работу рабіць!» Он вціхара накапает чэрвячкоў в чайнік старый — і на рэчку, там атдыхает.

*Вёска **Буйвідзі** Буйвіджай, Летува (Buivydziu, Letuva) (284 км/226)*

**Уладзіслаў Антонавіч Юшкевіч**, 1951 г. н., Туркі Веселухі, Буйвідзі (зап. 2015 г., М.М.М.):

…Samyiya smachnyiya ryibyi z Vyalli — eto yaz, sudak, tsyirta, stronga. Tsyirta ochen vkusnaya, tolko kostlyavaya, iz-za etogo mnogie eyo otvergali, no pod pivo dobra, esli pokoptit. A eshcho ў Buyvidzyah ochen byila vkusnaya krasnopyorka. Konechno, samaya tsennaya i vkusnaya krasnaya ryiba. Kak nerest, lovili kumzhu. V ruche, chut nizhe Buyvidzey, myi lovili strongu. Stronga byila nebolshaya, maksimalno do dvuh kilogramm. Myi detmi byili, sosed u vyihodnoy pryihodze da batski: “Nu shto, davay pa charachtsyi”. Batska kazha: “Davay”. Na matsi: “Maryisya, zrai

zakusits”. Matsi: “U rechtsyi plavae”. Vos yanyi dzyatsey byaruts, i shyibuem da ruchcha, a tam voda ledzyanaya. Palki nas u vadu ne puskalI myi nablyudali. Zahodzyats pa kalena, palkami pa dnu tuh-tuh-tuh — ani shuh pod korch! Dastayuts dzve-tryi rukami z-pad karcha. Dosyits. Pryiyshli. Matsi: vos i ryibka na zakus. Zaraz pazharyilas ryibka, pad vodachku seli. Pasyadzeli susedzi. Pa rumachke vyipili. Tolko seychas v Buyvidzyah stali otmechats Yana i palits kastsyor. Spakon veku takogo ne byilo. Vot festyi byili shyikarnyiya. Petra i Pavla. Na Yana, na Antonego. Detskiy fest byil shyikarneyshi. V etot den vse soiralis. I dzeti, i staryiya. I v kostyol. Posle kostyola molodyozh sebe grupkami. I uzhe gde-to blizhe k obedu imsha u nas byila s dvenadtsati do chasu, uzhe v rayone tryoh mozhesh idti: tam pesni poyut, tam pesni poyut, tam poyut. Tam molodyie, tam pozhilyie sobralis, tam detvora. A kostyor v Buyvidzyah palili tolko pionerskiy, i kogda prohodili turslyotyi, tam na granitse ploschadka byila. Ya tam rodilsya i vyiros, ya tam korovu pas na ploschadkah etih vsyo detstvo, poetomu… Edinstvennoe vognischche, chto tam byilo, 19 maya, Den pionerov, i turslyotyi, sorevnovaniya po orientirovaniyu. Soiralis Vilenskiy, Oshmyanskiy, Ostrovetskiy rayonyi i sorevnovalis

*Вёска***Баран-Рапа** *(Reva, Baran-rapa, Летува) (300 км/210)*
**МіхаілСтэфановіч** (Michal Stefanovk) (зап. 2015 г., М.М.М.):

… Osenyu s Mihalok s 29 sentsyabra nachinaet idtsi losos. I togda do pervogo noyabrya litsenziyu pokupaesh i ryibachyish. Ko mne v proshlom godu (2014) pryiezzhalI s Minska na lososya. Osenyu turyistov na Vilii malo, odni ryibaki u menya nochuyut. Pryiezzhayut imenno na lososya. Lovyat lososya na muhu. Polyaki tak kazhdyiy god priezzhayut. Kompaniya z Varshavyi, 7-8 chelovek. V proshlom godu zdes vzyali lasosya na 22, 15 i na 12 kIlogramm. Vot edinstvenno, kto lovits tut lasosya, eto polyaki, bo yanyi pryiezzhayuts ne pits, a lovits. Ya pro mestnyih ne govoryu: z Klaypedyi, z Kaўnusa eduts, udochek stolko pryivyazuts ne podnyats meshkI. I ne raspakovyivayut. ya gavaru: “Hloptsyi, mne, koneshno, horosho, dengi idut, nu pryiehal tyi hots udochku v Viliyu zabros”. Z Ryigi tozhe pryiehalo chetvero. Tak ya uzh ne mog. Pryipyorli udochek nu vot stolko! Tam vsego I vsyakih snastey i udzilishch raznyih mastsey. Kak zashli v domik, tak ya za nedzelyu tolko dva raza vidzel, kak tam vot na beregu sidzeli. Rubanut i spyat, rubanut i spyat, pobyili i poehali.

Pryiehali frantsuzyi, pryihalI na ryibalku, na lasosya imenno. Vzyali tam po domiku, nu, ya dumal, z Frantsyii pryiehali, paydut na pryirodu. Kastser tam, net im duhovku davay. Oni vsyo gotovyat v duhovke. Na ryibalku on nikuda ne poshyol v kamyishi, po beregu tsi v travu pad kust. On lovit tolko s mostsika, vina vozmet i potsyagivaet. Polyaki vsetaki blizhe k nam: p’yut vodku, viski; kak raz tut na ryibalke i belarusyi byili, tak yanyi ob’edzinilis, vmestse glushyits stali internatsionalnoy kompaniey. Gotovili shashlyiki, barbekyu, gril. Ya plitu spetsyiyalna dravyanuyu

abarudavaŷ na vulitsyi, kab i sup zvaryits, tsi na patelne staradaŷneyshay, chugunnay, shto pazharyits. Na drovah smak drugoy, chem zharyits na gazavay plitse.

A frantsuzyi — vintsa, i s mostsika, a kuryitsu zapekalI v duhovke gazavay plityi. Nu tak v odnom mestse zabrasyivats, gde zh tyi ryibu dabudzesh? A emu, frantsuzu, ne vazhno, emu lish byi pryiehats, pasidzets, posmotret na reku. Nu ne znayu, govoryil cherez perevodchika chto ponravIlos, ya zh pa frantsuzski ne umeyu.

Litoŷtsyi chastku dzeraven peraimenavali. Pailgas zavsegda byila Parcheva. Nazvanie payshlo ad Parcheŷskaga, balshoy kupets byil, vsego ponastroII. A litovtsyi peraimenavali. Mazelyanyi byilI litoŷtsyi Mazelyonis nazvali. Rudovsi byila — nazvali Rudavsyay. Buyvidzi byilI, stalI Buyvidzhay. Verki — Vyarkay. Ranshe i reku tut nazyivali Viliya, tak, kak i u vas.

Кажа **Вітавтус Дамашавічус** рад. Вільно , Жверінас, 1944г.

Kazha Vitavtus Damashavichus rod Vil'na, Zhverinas 1944g.

Samyiya smachnyiya ryibyi z Vyalli byli ehto stronga, ugor', nalim, kelba, losos'. Losos' ran'she byl ochen' redok, poslednee vremya zanimayutsya ego razvedeniem. Kelbu my, hloptsyi sa zhverinasae, lovili steklyannymi bytylkami. Byli vo vremena moego detstva takie butylki s vypuklym, vtyanutym vo vnutr' yak cheril'nica dnom. My umeli sdelat' kol'co iz fitilya, ulozhit' na dniŷe butylki podzhech', rezko ohladit' i vynut' steklyannyj kruzhok diametrom 3-3.5 sm. Iz desyatkov i soten takih dyryavyh butylok delali pod vodoj dambu vysotoj 30 sm i zamutiv vodu zagonyali kosyak kelby. Kelba zahodila v butykii ne mogla vyjti cherez uzkae gorlyshko, zastrevalo po neskol'ko shtuk. Potom eyo vytryasalii dostovalti na beregu

**Чеславас Болеславовіч Аўтукас 1946 г.р. д. Скаруляй**, зап. 2007 і 2017г.г.

Вілію перезвалі в Неріс і поменялі шыльду на мосту в Йоново в начале семідісятых годов. И ніхто тут Нерис не называл. Вілія. Там где Вы в 2007г. байдаркі в Скарулях вытянулі -то место назылось выгон. А урочішче до сіх пор называется крыніцы. А речка, пріток Вілії называлась Ліпка, а теперь напісана Лайнкіс. И ніхто из местных не понімает что это за лайнкіс, а говорят -на ліпке. У нас этіх людей называют до края Вільні тутэйшымі. І говорят, что эта святая ікона, которую опісывает Тышкевіч, то её нашлі на Ліпке. Косцел наш в Скарулях не претерпел нікаких ізменій со времен Напалеона.А пан Скарульский, который построіл косцел, похоронен в Несвеже. В своем тестаменте он попросіл похороніть его в Несвіже, что бы в Судный день іметь возможность как преданого католіка просіть у Господа за Радзівіла Сіротку , который был то католіком, то лютераніным, то кальвіністом .

Самая вкусная рыба із Вілії былі усачі, вторая язь, потом цырта, ее было много весной. Цырта была горячего, холодного копчения, засоленая. Мянтузы як іх тут звалі былі смачныя. Угрі попадаліcь редко. Лососі было только под осень. Іх і осцямі білі і за бок цеплялі, всяк ловілі когда іх много, когда ход был. Ловілі рыбу ночью с огнём. Просто так і называлі ловіць с огнём. Осцямі ілі по літовскі

жэбярклы. У нас назавали осці. Шчупаков и другіх большіх рыб. Бывалі большіе рыбы ночью. Старінные люді расказывалі что осці прівязывалі на длінную веревку. Говорілі едешь, глядіш то лі бревно лежіт, то лі рыба. Нічего не думая білі осці і на веревке пускалі. Не можно было выташчіць. Она такая сільная, і уже когда уставала, замучывалась тогда ее втасківалі в лодку. Вот какіх было раньше рыб в Віліі.

# Частка III.

# ПРАТРАДЫЦЫЙНЫЯ СПОСАБЫ ЛОЎЛІ РЫБЫ НАВЯЛЛІ

…Столькі ж спосабаў выдумала чалавечая дасціпнасць на падман гэтай, відаць, дурной рыбы. Мноства разнастайных формаў сетак маецца, адпаведна патрэбе і мясцовасці.

*Канстанцін Тышкевіч.*
*«Вілія і яе берагі», 1871 год*

Самым старажытным і простым спосабам лоўлі рыбы, канешне, была лоўля рукамі і нагамі. Я асабіста дакладна памятаю, як у пяцігадовым узросце злавіў на Віліі сваю першую рыбку, выпадкова наступіўшы на яе бродзячы па водмелі. Заставалася проста выцягнуць рукой з-пад нагі. Гэта была «каза» (шчыпоўка). У 1963 г. нельга было зрабіць больш шасці-сямі крокаў па пясчанай водмелі ў Віліі, каб не падскочыць ад козыту падэшвы ступні: дзеці і дарослыя падчас купання раз-пораз знячэўку босымі нагамі наступалі на рыбак закапаўшыхся ў мяккі пясок. Другой рыбкай, злоўленай рукамі, стаў маленькі мянтуз. Спосаб, якому навучыў мяне тата, быў вельмі просты. Трэба было адной рукой падняць камень. Калі пад каменем быў мянтуз, ён пачынаў шукаць схованкі. І тады трэба было побач з ім паставіць далонь «домікам», пакінуўшы шчыліну паміж дном і вялікім пальцам — і мянтуз сам заходзіў у «домік-грот». Замест рукі можна было падставіць злёгку вывернуты ступак. Потым ужо я навучыўся абмацваць рыбу ў карчах, у берагавых норах і шчылінах «матылічніку», пад вялікімі камянямі. Мог нават навобмацак пазнаць якая гэта рыба-ці то плотка, ці акунь, ці галавень, ці мянтуз. Таксама шмат рыбы лавілася падчас абмацвання водарасцяў. Ужо стаўшы падлеткам, навучыўся лавіць лінёў і карасёў у затоках і старыцах, намацваючы ў ілістым дне нагамі пасля таго, як гэтую затоку закаламуцілі, працягнуўшы таптухай ці брадніком. Адначасова з малалетсва лавіў на вуду, а стаўшы падлеткам - падводным пісталетам. Быў нейкі перыяд, калі я дапамагаў ставіць сеткі Слаўку Семянковічу. Самым вялікім трафеем быў сумесна здабыты шчупак на 12 кіль, жэрах 5 кіль, на вуду спаймаў шчупака на 6 кіль, яльца на 0,7 кг

У 1981 г. удалося разам з В.М. Пасследам з Вязані злавіць у сетку сазана на 9 кілаграмаў. З Ігарам Пяркоўскім у Сутоках спаймаў трох жэрахаў па 6 кілаграмаў. Самая вялікая рыба з вадасховішча, якую трымаў у руках, — шчупак на 24 кілаграмы, злоўлены Слаўкам Семянковічам у 1983 г. каля насоснай «Кобузі». У

1971 г. з вілейскага аўтамоста, калі знялі ўзброеную ахову, на пачатку лета бачыў здалёк вялізных, як дэльфіны, рыб, адназначна даўжынёй звыш метра. Іх было каля пяці, яны выйшлі ў шэраг з-за павароту, заняўшы ў шырыню траціну ракі, і пачалі павольна падымацца ўверх. Ад іх, як след ад корпуса лодкі, разыходзіліся хвалі, потым іх нешта спудзіла, яны развярнуліся і зноў схаваліся за паваротам. Гэтых рыб — па-мясцоваму сігоў — давялося бачыць не больш за тры разы, да пабудовы плаціны, пакуль вада была празрыстая. На вуду на Віліі маім першым трафеем была келба. Менавіта на келбе ў Красным Беражку або Раманіхе былі адточаныя самыя першыя навыкі па тэхніцы падсечкі. Пасля келбы найбольш проста было вывудзіць акуня, потым сяляўку. Яльчыка, плотку і галаўня — складаней. Цырта вельмі асцярожная, патрабавалася вытрымка, бралася вельмі нясмела, часта адбываліся сходы. Верхам рыбалоўнага майстэрства лічылася злавіць на вуду жэраха, вусача і язя. Месцам, дзе ў мяне найлепш браўся шчупак у межах Вілейкі, з'яўлялася яма з кустом каля гідрапаста, у канцы Глінкі. Быў некаторы час у межах Вілейцы запаведны, агароджаны калючым дротам з берагоў, адрэзак Вяллі, усяго 160-170 мэтраў, дзе не дабывалі рыбу ні толам, не падводнымі пісталетамі, ні сеткамі, ні лучэннем. Гэта была ахоўная зона бетоннага маста праз Вілію, яна згодна прыказу МВД усталявалася у пасляваенны перыяд на усіх мостах даўжыня якіх перавышала 100м. Перш ахоўная зона ахранялася дзвума вартавымі з вінтоўкамі са штыкамі, і дзвума аўчаркамі на кожным берагу, потым стала па адной аўчарке і аднаму вартаўніку на мосце— часавому. Вудай, толькі з левага берага са стараны Ставак, лавілі штодень на прыкормленых кукалкай месцах не болш двух прылегераваных чалавек –гэта быў колішні начальнік угро Корень А.В. які дамаўляўся з аховай маста браць з сабой, каб не сумаваць, яшчэ не больш аднаго чалавека, найчасцей сваіх сяброў работнікаў правахоўных органоў (Хаценчыка Луку Іванрвіча, перш лейценанта міліцыі, а потым пры Хрушчове вольнаемнага – наглядаючага за выкананнем папраўча- працоўных работ асуджанымі па Мядзельскаму і Вілейскаму раёнах, вельмі патрэбнага чалавека – ад яго характарыстыкі залежыла адбыванне тэрміна асуджанымі, бо калі не было заўваг і парушэнняў , то можна было скасціць тэрмін напалову , Коржова, супрацоўніка военкомата Маслова і іншых напрыклад заядлага рыбака з ЖКХ Нахтурліна Мікалая). У калючым дроце пацаны рабілі лазы і залятаі на пяць хвілін з вудамі у запрэтку. Адзін стаяў “на шухеры.” Я так сама заходзіў за дрот — бо надта ж добра там браліся яльцы. І скажу не дарэмна- там я злавіў самага большага ў сваім жыцці яльца, як сялёдку, грам на трыста! Пару раз усё ж папаўся ахоўнікам у засаду — дралі за вушы і канфіскавалі вуды. Я вельмі зайдросціў Сашке Петрыкевічу, больш старэйшаму пацану з суседняй вул. Кастрычніцкай, якога калі некалькі разоў браў з сабой на рыбалку у “запрэтку” , Корень А.В., бо жыў па суседску. Яны ехалі на матацыкле з каляскай праз мост, на левы бераг, кідалі яго у дварэ каравульнага памяшкання і спускаліся з маста уніз, да ракі. Там у “запрэтке” Сашка на вуду, на кукалку злавіў нават двух вусачэй! А так сама прыносіў язёў, вялізных яльцоў. Судак, як і яльчык яшчэ доўга, каля

дзесяці гадоў, лепш за ўсё лавіўся з моста, на вуду з катушкай, пасля таго, калі наогул знялі ахову. А пасля 1973 г. лепшае месца лоўлі на Віліі — адназначна вадаскід з вадасховішча.

Многія рыбаловы ў 60–70-я гады аддавалі перавагу шнурам, донкам, бо гэты спосаб быў вельмі ўловісты і не патрабаваў працяглага сядзення ля ракі: донкі і шнуры вечарам пакідалі на ноч, а раніцай здымалі. У часы майго дзяцінства іх ніхто не пільнаваў: чужое не прынята было ні правяраць, ні красці. Хаця заўсёды знаходзіліся і тыя, хто парушаў правілы, але гэта былі выпадковыя хуліганы, якія не лічыліся сапраўднымі рыбакамі. Самы распаўсюджаны мясцовы спосаб лоўлі на вуду 50 гадоў таму — «паўдонкай» ці «на стаячку», калі паплавок падымаўся за 0,8–1,2 м ад канца вудзільна, выкарыстоўваўся коўзкі груз, прынада клалася на дно. Канешне ж, лавілі і ў праводку без груза, і ў праводку з грузам, з катушкай. Найбольш проста было спаймаць келбу (печкура) і сяляўку (укляю), якія браліся паўсюдна. Келбу лавілі ў праводку з берага на два кручкі, або заходзячы басанож у ваду. Варта было закаламуціць ваду, асцярожна пераступаючы на адным месцы, — і каля ног збіралася чарада келбы. На аднаго чарвяка лавілі да дзесяці і больш келбаў. Сяляўку лавілі без грузіла: на муху, хлеб, цеста. Плотку і іншую белую рыбу — стоячы ў вадзе, на «матыліцу» (мясцовая назва лічынкі аўсяніка), заціснуўшы між кален кучу чорнага і мяккага, як торф, «матылічніку», які хуткае цячэнне паступова размывала, і гэтая цёмная каламута хутка прываблівала рыбу і гарантавала, што яна будзе добра брацца. Яльца лавілі на коніка, муху і жука-грачаніка без груза. Таксама рыбакі 50 гадоў таму вельмі любілі выкарыстоўваць у якасці прынады шыціка (ручайніка) і кукалку шаўкапрада. Гэтай кукалкай кармілі норак у зверагаспадарках і кралі яе для рыбы неміласэрна, бо на яе шалёна браліся звычайна асцярожныя язь, цырта, лешч, галавень. Хто не меў кукалкі лавіў цырту “на бараніну” — так у Вілейцы звалася нажыўка з двустворчатаў ракавінкі-пярлавіцы. Створкі малюска расчынялі сцізорыкам і адрэзаўшы нагу ці “грэбень” насаджвалі на крук мяса з кішкамі. Самым распаўсюджаным жыўцом на шчупака і судака з’яўлялася келба. На вялікага шчупака лепшым быў галавень і ялец. Існаваў рэйтынг вілейскіх рыбалоўаў-вудзільшчыкаў: статус «добры рыбак» пачынаўся з умення злавіць на вуду:цырту, краснапёрку, ліня, ляшча, галаўня, а найлепыя рыбакі павінны мець сярод трафеяў: язя, жэраха, вусача — найбольш асцярожных і дасціпных рыб, для злаўлення якіх патрабуецца праявіць цярплівасць і ўменне. Практычна ўсе вілейскія рыбакі-аматары мелі спінінгі, тэхніка закіду блешні была ў большасці маіх аднакласнікаў адпрацаваная да дакладнасці пападання ў месца, дзе толькі што ўдарыў шчупак ці жэрах — трэба было ў тую ж секунду трапіць блешняй не далей за паўметра ад эпіцэнтра ўдару па вадзе, а часцяком гэта было аж за 40–50 м, ці пад супрацьлеглым берагам Віліі.

У народнай памяці захаваліся віртуозы лоўлі, падобнай да тэхнікі нахлысту. Простыя сяляне з берагоў Віліі (в. Швяды, Малыя Свіранкі), каля 80 гадоў таму (за Польшчай) маглі закінуць лёгкую прынаду, напрыклад муху, коніка ці жука-

грачаніка без грузіла за 50 м «праз усю раку, на супрацьлеглы бераг, туды дзе б’е галавень». Магчыма, мясцовыя рыбакі ўмелі так валодаць вудай і 100, і 160 гадоў таму назад, але няма жывых сведкаў, якія маглі б гэта пацвердзіць.

У Вілейцы асабліва шанаваліся рыбаловы, такія, як Уладзімір Капцюг, якія лавілі асцярожнага жэраха на майскага жука вудай з катушкай. Яны прыкмячалі месца на супрацьлеглым беразе, дзе перыядычна «біў» вялікі жэрах. Ішлі да гэтага месца, метраў за 150 уверх па цячэнні, да павароту, заходзілі па водмелі на сярэдзіну ракі і цягнуліся ўніз з вадой. Каб не спудзіць асцярожную рыбу, пачынаючы метраў за 40–60, пускалі па версе вады прынаду без грузіла (майскага жука) у свабоднае плаванне. Майстэрства праяўлялася ў тонкім разліку накірунку цячэнняў, віроў, ветру такім чынам, каб прынаду прынесла менавіта ў той сектар ракі (з дакладнасцю да метра), дзе быў прыкмечаны жэрах, што жыруе.

Таксама жэраха, язя, вусача, галаўня лавілі з двух берагоў спінінгамі на «перацяжку», «перамёт», дакладна апускаючы з аб’яднанай лёскі на павадку майскага жука (страказу, коніка) у патрэбнае месца. Самыя вялікія віртуозы 40 гадоў таму лавілі кумжу нахлыстам у раёне Смаргоні (нават быў артыкул у часопісе «Рыбалоў-спартсмен» пад назвай «Кумжа на Віліі»). Адзнака іх майстэрства і рэйтынгу нязменная: амаль паўтара стагоддзя гэтая вядомая мноству рыбаловаў рэпліка «Злавіць ласося вудай складае славу і гонар рыбалова. Гэта ўсё роўна, што паляўнічаму забіць ільва» — фраза, якая належыць П. Цярлецкаму, што напісаў кнігу пад назвай «З вудай па Нёмане», прыкладна ў той самы час, што і Канстанцін Тышкевіч свой твор.

**Пра адданасць традыцыйным асаблівасцям лоўлі**

У манаграфіі «Вілія і яе берагі» граф Тышкевіч прывёў назвы найбольш пашыраных снасцяў: wszyscy niewody, podwłoczki, więcierze, tury, podchwyty, tryhuice, brodniki, bucze, saki, kozlatki, dorożki, wędki, oście. На ілюстрацыі ў кнізе выяўленыя пад’ёмнік (падхват, podchwyt), сетка, сак (таптуха), буч (вярша), хабатня. Такому багаццю снасцяў садзейнічала і заканадаўства Вялікага Княства Літоўскага. «Устава на валокі» 1557 года, напрыклад, дэкларавала права свабоднай лоўлі рыбы брадніком, вудай, трыгубіцай і іншымі малымі сеткамі ва ўсіх рэках і азёрах княства.

Паводле сервітуту, сялянам дазваляўся «ўваход» або «ўступ» у памешчыцкія лясы, выганы, сенажаці і вадаёмы. Праўда, рэформа 1861 г. правa сялян як Павілля, так і іншых, абышла, і сервітутныя ўгоддзі поўнасцю перайшлі да памешчыкаў, што выклікала пратэст шырокіх мас сялянства. Але паўстанне 1863 г. прымусіла царскі ўрад Расіі аб'явіць аб захаванні сервітутаў у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губернях, Дынабургскім, Рэжыцкім, Дрысенскім і Люцынскім паветах Віцебскай губерні.

Не цяжка ўявіць, якой бы шырокай народнай павагай карысталася імя героя паўстання 1863 г. Кастуся Каліноўскага, каб раней пра гэтыя сервітуты было вядома пакаленням беларускіх сялян, нават толькі заядлым аматарам рыбалкі, збору ягад і грыбоў у панскіх лясах, азёрах і рэчах, але ж імя Кастуся Каліноўскага

было зусім забаронена пэўны час у нашым краі і нават зараз, пры вывучэнні гісторыі Беларусі па падручніках у школе, вызывае неадназначныя супярэчнасці, а пра згаданыя сервітуты ў беларускіх школах ніколі не казалі, дый не ўсе настаўнікі гісторыі (кажу аб сваіх знаёмых) іх ведаюць.

Запісваючы апавяданні, мімаволі лавіў сябе на думцы, што «тутэйшыя» с 1529 г., калі быў напісаны наш першы Закон (Статут Літоўскі), нікольki не змянілі сваіх адносінаў ні да ўладаў, якія змяняліся, ні да рыбалкі. Усё, што заўважыў і напісаў К. Тышкевіч у 1857 г., справядліва і для XX — пачатку XXI ст.: «Гаворачы тут пра народныя звычаі, дарэчы згадаць і пра тое, што народ лічыць сваім правам свабодна лавіць рыбу нароўні з уладальнікамі тых мясцовасцяў, дзе яна вядзецца. Ніводзін з нашых сялянаў не можа зразумець ці прызвычаіцца да таго, што рака, якая свабодна цячэ, возера ці стаў, нічым не абгароджаныя, з вялікім запасам рыбы былі для яго забароненым плодам. Літоўскі статут пагражаў іх біць пугай за зладзейскую лоўлю са ставоў і сажалак; а за паўтарэнне — адразаннем вуха. Законы, якія дзейнічаюць цяпер, строга ахоўваюць недатыкальнасць рэк, азёраў, ставоў, якія належаць прыватным асобам, таварыствам ці казне. Нягледзячы на былыя пастановы, якія аджылі сваё, і законы, якія дзейнічаюць цяпер, простыя людзі неміласэрна крадуць рыбу са ставоў і ловяць яе ў рэках і азёрах там, дзе не маюць на гэта права (1857 г.)».

У наступным стагодзе тутэйшыя простыя людзі так сама не прызвачаіліся да выканання законаў рэгуліруючых правіла лову рыбы, і нават на гэтай глебе учынілі адзіны адкрыты бунт супраць уладаў у XX ст. жыхары беларускага Павілля (жыхары прыбярэжных вёсак возера Нарач) ў часы Другой Рэчы Паспалітай у 1936 г. У 1932 г. польскі ўрад прыняў закон аб нацыяналізацыі рэк і азёр, які распаўсюджваўся і на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Асабліва ад гэтага закона страцілі вёскі, дзе жылі з рыбы, ля такіх азёр, як звязанае з Вяллёй возера Нарач. Нарач перадалі ў эксплуатацыю Віленскай дырэкцыі дзяржаўных лясоў. Такім чынам, свабодную рыбную лоўлю ў возеры забаранілі, тым самым парушыўшы традыцыйны ўклад мясцовых жыхароў. Сем'і рыбакоў пазбавілі асноўных сродкаў існавання, якія яны раней мелі ад продажу вылаўленай рыбы. У 1935 г. дырэкцыя здала Нарач у арэнду мясцоваму памешчыку пану Яблонскаму, які прапанаваў рыбакам наймацца лавіць рыбу іза невялікую плату ўсю без выключэння здаваць арандатару. Рыбакі вёсак Пасынкі, Мікольцы, Гатавічы, Чараўкі, Урлікі, Занарач былі вымушаны выходзіць на Нарач незаконна. У адзін з такіх дзён 1936 г. паліцыя паспрабавала канфіскаваць улоў, забуксіраваўшы і прыцягнуўшы да берага нагружаныя рыбацкія чаўны. Тым часам на беразе сабраліся сем'і рыбакоў. Як толькі паліцэйская маторная лодка наблізілася да водмелі, жанчыны кінуліся ў ваду і перакулілі яе, а рыбакі, скарыстаўшыся разгубленасцю паліцэйскіх, змаглі адагнаць свае лодкі на сярэдзіну возера. На гэты раз іх ужо не праследавалі.

У 1937 г. асобныя жыхары вёсак , што месцяца на ўзбярэжжы Віліі - Чапельшчына, Маркаўцы, Данюшава, засценкаў Куцькі і Стаўкі, горада Вілейкі

адстойвалі сваё даўняе права лавіць рыбу за папярэднюю аплату на пэўных участках вадаёмаў. Многія гаспадары Асіпавіч прад'яўлялі дакумент 1904 г., дзе паказана, што некаторыя іх асабістыя зямельныя надзелы ўключалі ў сябе каля аднаго кіламетра берага ракі Віліі, і прасілі дазволіць ім там займацца рыбалоўствам.

Нават памежнікі і рызыка арышту не стрымлівалі вясковых аматараў рыбалкі ціхенька паставіць сеткі –а пасля Рыжскай мірнай дамовы 1921г. частка мяжы паміж Польшай і СССР праходзіла па Віліі. Якраз такому выпадку прысвечан артыкул "Bolszewicy uwiezieliêzili rybakôw polskih." у газеце "Kurier Wilenski" [1] 186 ад 17.08.1932 :*з Вілейкі прыйшло данясенне з 10 батальёна памежнікаў, што ў раёне Камено савецкі патруль затрымаў на рацэ Вілія рыбацкую лодку з дзвумя рыбакамі, грамадзянамі Польшы. Рыбакі П. Лінкун і Т. Янулевіч затрыманы былі пры лове рыбы на рацэ, калі не заўважылі як іх аднесла цячэннем і лодку зблізіла з савецкім берагам, дзе яны і былі схоплены бальшавікамі. Рыбакоў бальшавікі адвезлі на заставу Дзяржынава, дзе яны сталі вязнямі мясцовага засценка*. Аналагічных выпадкі экстрэмальных ловаў рыбы жыхарамі былі прыведзены ва успамінах жыхароў, у адпаведнай частцы гэтай кнігі.

Падчас шматлікіх сплаваў (экспедыцый) па Віліі ў канцы XX — пачатку XXI стст. пераканаўся, што ў карэнных сялянаў прыбярэжных вёсак, якія з'яўляюцца «апошнімі магіканамі» павілля, маюцца дакладна такія ж снасці, што апісваў 160 гадоў таму граф Канстанцін Тышкевіч. І гэта нягледзячы на тое, што сучасным рыбаахоўным заканадаўствам стаўнымі сеткамі карыстацца забаронена, за гэта пагражае вялікі штраф. Закон у Беларусі таксама не дазваляе карыстацца традыцыйнымі нацыяльнамі прыладамі лоўлі, вырабленымі з лазы, пянькі і іншых прыродных матэрыялаў. Нельга выкарыстоўваць для лоўлі рыбы і пераносныя стаўныя, і рухомыя пасткі, такія як вярша, буч, морда, кош, нерат, мярэжа. Закон не забараняе карыстацца толькі павукамі (хапунамі) з адным сеткавым палатном памерам 1х1 метр і ячэйкамі не больш за 1 сантыметр.

Традыцыйнымі спосабамі здабычы рыбы і адпаведнымі снасцямі валодалі пагалоўна (без статуса рыбака, які прыпісваўся грамадскай думкай) усе сяляне прыбярэжных вёсак Віліі: гэта лоўля брадніком, крыгай (яны ж палазы, сані, трайчак), таптухай, сакам, мярэжамі, бучамі, пад'ёмнікамі-хапунамі.

Рыбакамі ў жыхароў берагоў Віліі лічыліся тыя людзі, што ўмелі лавіць рыбу на лучніцу, а таксама стаўнымі сеткамі (трыгубіцамі — «ляшчоўкай», «акунёўкай», «яльцоўкай», «сялявачніцай») і сплаўнымі сеткамі — «фірмовым» для беларускай часткі Віліі спосабам — ведзяёй (волакам, малатой), г.зн. спецыяльнай сеткай, якая ўтрымліваецца паміж дзвюх лодак, што рухаюцца. Ведзяёй цяпер ловяць вельмі рэдка, пераважна рыбакі старэйшага пакалення, у якіх захаваліся снасці. У цяперашні час праблемна нават абабіць авечай шкурай спецыяльны шост (прыс), якім кіруецца лодка, каб ён падчас коўзання па дне не выдаваў гуку і не распуджваў рыбу — жыхары амаль не трымаюць авечак. Да таго

ж у апошнія 40 гадоў Вілія настолькі абмяльчэла, што ведзяю (малату) можна ўбачыць толькі ўвесну, па вялікай вадзе.

## Лучніца

Неаднойчы падчас летняй цёплай і цёмнай ночы,
адмежаваны ракой ад узгорка, здзіўлена заўважаў я
здалёк раскладзены там агонь, які знянацку
павялічваўся і пашыраўся ў сваім бляску
альбо знікаў у зацемку дубоў, гэткіх велічэзных
нерухомасцей. Паміж імі мільгалі дзіўныя
чалавечыя постаці, то клубамі дыму
аточаныя, то расчырвоненыя каля вогнішча...
Неверагоднае нейкае відовішча, у асаблівым і
неразгаданым занятку і руху. Урэшце цэлая
тая зграя чарцей разбіваецца на трое, дзеліцца...
паволі агні аддзяляюцца, бліскаючы штораз слабей
па вадзе. Неўзабаве ўсё знікае... прападае!!!
Відовішча тое, якога б спалохаўся прымхлівы
хлапец, калі б не ведаў дакладна яго прычыну,
да якога не аднойчы з задавальненнем сам
прыглядаўся, ёсць проста начная выправа
на лоўлю шчупакоў; тыя, прываблены бляскам
агню, набліжаюцца да чаўноў, дзе іх лягчэй
заўважыць рыбаку, і гінуць пад яго восцямі.

*«Brzegi Wilii» Ignacego Ghodki, Wilno: Wydame*
*Adama Zawadzkiego, 1843 («Берагі Віліі» Ігнацыя Ходзькі)*
*Пераклад А. Мізулы*

Таку 1843 г. ІгнаціХодзька, нашслаўны зямляк, што нарадзіўся на беразе прытоку Віліі р. Сэрвачу маёнтку Заблошчына, «свядомы ліцвінскі пісьменнік», амаль неперакладзены на беларускую і русскую мовы, больш за сто гадоў таму апісваў лучніцу (лучэнне) на Віліі ў раёне ў падзенняў р. Нарачанка і р. Уша. Нажаль, цяпер на Віліі амаль поўнасцю знікла лучніца (лучэнне) разнавіднасць самай старажытнай і рамантычнай, найбольш азартнай і шанаванай тутыйшымі жыхараміначной рыбалкі - біццем васцямі вялікай рыбы з лодкі з вогнішчам. І не таму, што не амаль стала ласося, ганца, вусача,-яшчэ ж застаўся сазан і шчупак. Вада стала практычна непразрыстая з-за сіне-зялёных водарасцяў, плантацыямі для якіх служаць мелкаводныя залівы Вілейскага вадасховішча. А вада ж у Віліі была настолькі празрыстая, што ў 1970 г. у яме, што была ніжэй вусця Нарачанкі, вусача здабылі васцямі з рэкорднай глыбіні пяць метраў (выгледзеў і пацэліў з

лодкі рыбак Мікалай Мамай з в. Швяды, 1949 г.н.). Цікавая трактоўка самога слова «лучніца», “лучэнне”

Лучніца па расійску завецца –“охота с острогой”, па украінскі “рибальства “на посвєт" з остенів. На жаль слова лучніца няма у Вікіпедыі. Але з слоўніка М. Фэсмера можна даведацца што на старажытна-рускай мове “луча” азначала капьё. Па-беларуску, украінску і балгарску слова лучыць *— азначае меціцца, пападаць. Па польску, чэшску и славенску luciti азначаё “кідаць, пацэліць, пападаць” Па беларуску палучыў – азначае што пацэліў . Слова лучніца паходзе, па меркаванню мясцовага вясковага рыбака ад слова «лучына» — шчэпка, што гарыць (Леанід Мамай, в. Мамаі). І Леанід мае рацыю хоця не мае вышэйшай адукацыі і ніколі не чуў і не ведае што па славенску “луча” азначае сонечны свет. Не ведае ен што ў Заходніх украінцаў лоў рыбы асцямі адбываецца ноччу пры свеце адмысловага факела-паходні - "лучниці". Тутыйшыя жыхары, якія ноччу білі ці калолі восцямі рыбу пры святле паходні, са спрадвечных часоў да 1974 года нават не лічылі сябе рыбакамі, але асацыявалі гэты від лоўлі з паляваннем. Цікава што сваяцкія па гучанню словы на літоўскім laukiu, laukti азначаюць «чакаць»старажытна-прусск. laukit «шукаць», luketi –“паджыдаць” На старажытна-індыйскім lokate – “бачу” “заўважаю”, на грэчаским λεὐσσω “бачу” “заўважаю”.

Лучэннем на Вяллі займаліся да Камена, Кастыкаў, Сосенкі, Вілейкі, Асіпавічаў, Трапалава, Мамаёў, Швядоў, Заскавічаў, Залесся, Данюшава, Жодзішак, Мелі — да Міхалішак і Быстрыцы і да самаго Коўна, дзя Вялля злучаецца з Неманам.

Калі надыходзіла асенняя, непраглядная (без месяца), але ціхая, бязветраная ноч (чакалі, каб на вадзе не было рабізны), то рыбакі в. Швяды цягнулі жэрабя, дзе каму ісці ў шэрагу лодак падчас лучэння. Лучніца была супольнай справай, бо трэба было ахваціць адзіным шэрагам усю шырыню Вяллі. Жэрабя ці лёсаванне заўсягды прысутнічала як абавязковы рытуал і цікава ведаць, хоць навукоўцы не бачаць ніякай сувязі з яшчэ адным сазвучным словам на греэчаскім. λαγχάνω «получаю по жребию, овладеваю». Няўдачай лічылася ісці пасярэдзіне ракі: рыбы пры лучэнні здабывалі больш ля берагоў. І праўда, нездарма пра гэта так маляўніча пісаў Ігнаці Ходзька. І пасля таго, як мінула больш за 130 гадоў, у эпоху касманаўтыкі, усё роўна гэта было найбольш фантастычнае начное відовішча на Вяллі, калі пяць–сем лодак ідуць адным шэрагам супраць цячэння. Нельга было ні адставаць, ні вырывацца наперад, таму што рыба таксама, сыходзячы чародамі, адзіным строем падымалася ўверх. І гэтак даганялі яе да павароту, а потым заганялі на водмель. Рыба была вымушаная разварочвацца — і тады пачынаўся бой, вада прама кіпела. Вельмі важным было ўзаемадзеянне членаў экіпажа: поспех часам залежаў нават не ад рыбака з восцямі, байца, а ад стырнавога: як ён плаўна вядзе лодку, з якога боку падыдзе да рыбіны, на якой адлегласці замрэ перад ударам восцямі. Члены каманды ў лодцы падчас лоўлі восцямі не проста павінны былі дзейнічаць зладжана, яны павінны былі адчуваць, разумець і прадбачыць кожны рух, позірк і намер адзін аднаго, нават чытаць думкі, бо

падчас біцця восцямі, таксама, як і падчас лоўлі сеткай і вудай, забаронена размаўляць –так сама як пад час аперацый ніньдзя. Гук па вадзе разносіцца вельмі далёка, браканьеры асцерагаліся, каб іх не пазналі па голасе. Экіпаж павінен быў мець рыбалоўнае шчасце ў пары. Напрыклад, два рыбакі, паасобку вопытныя, якія ўмеюць выдатна і веславаць, і біць прыцэльна восцямі, а пасадзі іх разам у адну лодку — нічога не атрымаецца: фарт прапаў, ніводнай рыбіны не здабудуць. Лічылася, таму што не супадаюць гэтыя людзі для каманды, для экіпажа на лучэнне, хоць і лепшыя сябры. Зараз, пасля эмансіпацыі жанчын, мне надта цяжка зразумець і паверыць, але даўней, па аповедам ад людзей вартых даверу, вельмі часта муж і жонка разам ставілі сеткі з лодкі. Але то ж сеткі, і мне толькі сутрэліся два прыклада сямейных экіпажаў, калі на «лучніцу хадзілі разам», адзін з каторых быў -Мікалай Мамай і яго жонка Зінаіда з вёскі Раздоры.

Самым шыкам лічылася трапіць у рыбіну, кінуўшы восці за пяць метраў. Такім чынам здабывалі ляшча і найбольш каштоўную рыбу — ганца (ён жа жэраспень, ён жа балень, ён жа жэрах). Асаблівасцю гэтай рыбы было тое, што яна сыходзіла ад лодкі, якая пераследавала яе падчас лучэння, па версе вады. Рыбакі гналі яе пад ваду. Напэўна, сваю мясцовую назву на Віліі ў раёне Міхалішак ганец атрымаў як ад асаблівасцяў тутэйшай рыбалкі, так і ад таго, канешне, што і сам ганяе, здабываючы малька і дробную рыбінку.

Вельмі папулярным у Вілейцы ў 50-80-я гг. XX ст. было падводнае паляванне з пісталетам або пнеўматычнай падводнай стрэльбай і нават кап’ём.

Цяпер лучэннем могуць рызыкнуць лавіць толькі самыя адчайныя браканьеры і толькі ў асобных месцах Віліі — напрыклад на Белым, наРаслянскай затоцы, у нізоўях, пасля Міхалішак: — там дзе вада яшчэ празрыстая, і то замест агню на накры выкарыстоўваецца электрафара.

## Глушэнне, электрашок

Нягледзячы на пастановы былога часу,
якія аджылі сваё, і законы, якія дзейнічаюць
цяпер, простыя людзі неміласэрна
крадуць рыбу са ставоў і ловяць яе ў рэках
і азёрах там, дзе не маюць на гэта права.

*Канстанцін Тышкевіч.*
*«Вілія і яе берагі», 1871 год*

Паўстагоддзя, з 1915 да 1965 г., асноўным браканьерскім спосабам здабычы рыбы на Віліі было глушэнне ўзрыўчаткай. Гэтаму варварскаму метаду садзейнічала рэха Першай сусветнай вайны (яна пакінула ў зямлі вялікую колькасць выбуховых рэчываў). Практычна ўздоўж усёй берагавой часткі беларускай Віліі дагэтуль лёгка вызначаюцца акопы той забытай пазіцыйнай Вялікай, ці мікалаеўскай вайны.

Спачатку рыбу глушылі ваенныя, а потым і мясцовае насельніцтва. Навучыліся. Як сведчыць Антон Мікалаеўскі (нар. 1925 г. м. Куранец) нават у 1933 г. яўрэй Кантаровіч з Куранца раз у месяц наймаў вагон у Вілейцы для адпраўкі металалому па чыгунцы з разабраных гільз ад снарадаў і патронаў. Мясцовае насельніцтва навучылася разбіраць снарады — гэта быў не толькі прыбытковы промысел, але лепшыя нарогі для плугоў і сох мясцовыя кавалі-габрэі рабілі менавіта са сталі абясшкоджаных снарадаў. Металалом то здавалі і адпраўлялі, а порах і выплаўленую выбухоўку проста закапвалі у ямах у лесе — а мальчышы падглядалі і было ім раздолле для усялякіх саматужных піратэхнічных вырабаў ад феерверкаў да зарадаў для глушэння рыбы. Потым Другая сусветная вайна, партызаншчына, потым загатоўкі карчоў метадам падрыву каб забяспечыць выраб шкіпінару. Цікавае меркаванне старых браканьераў, якія сцвярджалі, што глушэнне — менш варварскі метад здабычы рыбы, чым электравуда, матывуючы тым, што глушылі рыбу ў ямах, дзе не было малька.

Прывяду для прыкладу ўспаміны віляйчаніна, які нарадзіўся ў Швядах, **Мамая Уладзіміра Уладзіміравіча** (перакладзена з рускай на беларускую):

*Толу хапала. Ведалі, дзе раскапаць, ці дзе знаходзіцца склад са снарадамі яшчэ з першай вайны 16-га года. І было яшчэ вядомае месца ля чыгункі, дзе партызаны пусцілі пад адхон састаў з боепрыпасамі ў 43-м ці 44-м, у другую вайну. А хто і з бомбы, што не разарвалася, вытапліваў. Разразалі, клалі ў выварку, залівалі вадой, кіпяцілі і залівалі ў формы. Толу для глушэння 100 г было мала, 200 г — многа, 150 — у самы раз. Лепшай формай для заліўкі зарадаў была баначка з-пад гуталіну ці ваксы для шаравання ботаў ці чаравікаў, у якую ўстаўлялі кавалачак з высушанай кары, лазы (прабірку) — нішу для ўзрывальніка кнота. Кнот устаўлялі ў «прабірку» і мацавалі з дапамогай смалы і дзёгцю. Цяжэй за ўсё было дастаць бікфордаў шнур (кнот) і ўзрывальнікі. Самаробны кнот (бікфордаў шнур) рабілі з галіны каліны даўжынёй 10–15 см. Прутком для вязання выпальвалі асяродак і ўнутр насыпалі перацёрты артылерыйскі, доўгі, з дзірачкай, як макароны, порах у сумесі з драўняным вугалем.*

*Дэфіцытам былі ўзрывальнікі. Яны выкарыстоўваліся самаробныя, іх выраблялі і здабывалі або з патронаў для супрацьтанкавых ружжаў (СПР), або з гранат, або з разрыўных куляў. Патрон СПР трэба было асцярожна распілаваць па коле папалам, раз'яднаць, выняць сталёвы асяродак і са сценак драўляным скрабком зняць рэчыва зялёнага колеру, якое па кансістэнцыі нагадвае вазелін. Рэчыва гэтае скрабком перанесці ў высушаную лазовую прабірку з цэльнай кары (тэхналогія вырабу цыліндра з цэльнай кары лазы вядомая кожнаму хлапчуку — гэта выманне асяродка пасля абстуквання толькі што зрэзанага дубца, так рабілі свісткі). З нямецкай гранаты даставалі ўзрывальнік, для чаго распілоўвалі папалам корпус — і таксама змяшчалі ў пенал з лазы.*

*Самая небяспечная тэхналогія была ў вырабе саматужнага ўзрывальніка з грымучай ртуці, якой былі начыненыя разрыўныя кулі. Потым, у 60-я, калі леспрамгасам давялі план масава здабываць карчы (для перагонкі смалы на шкіпінар) пры дапамозе зарадаў аманалу, браканьерам стала жыць лягчэй і бяспечней. Пачалі ў працаўнікоў леспрамгасаў выменьваць і даставаць за рыбу фабрычныя кардонныя ўзрывальнікі і бікфордаў шнур. Вось тады, у 60-я, з лішкам хапала дынаміту, толу, аманалу, узрывальнікаў, бікфордавага*

*шнура. Але ўсё роўна больш за ўсё глушылі рыбу ў перыяд акупацыі падчас Другой сусветнай вайны: і немцы, і партызаны, і тутэйшыя. Пасля выбуху рыба ўсплывала, і яе чэрпалі падхватнікамі. Вусач быў цяжкі, гінуў, як гераічная падлодка, не ўсплываючы; яго спецыяльна доўга чакалі на водмелях метраў за 300 ніжэй па цячэнні.*

*Цяпер самым варварскім метадам браканьерства на Віліі з'яўляецца лоўля з дапамогай электравудаў, падчас якой адбываецца масавая гібель малькоў рыбы, адкладзенай ікры, а таксама мноства разнастайных чарвякоў, малюскаў, рачкоў і іншых водных жыхароў аж да самых прасцейшых, без якіх немагчымае жыццё вадаёма. Распаўсюджанню гэтага варварскага віду здабычы рыбы мімаволі садзейнічала ўвядзенне ў эксплуатацыю Вілейскага вадасховішча, пасля чаго вада ў Віліі перастала быць празрыстай. Тады ў Швядах падчас лучэння замест смалякоў на накру сталі ставіць электрафару ад аўтамабіля, якую сілкаваў акумулятар. А ад акумулятара да электравуды паўкрока. Гэты метад лоўлі паўсюдна асуджаюць усе прыбярэжныя жыхары Віліі, але супрацоўнічаць з рыбнаглядам адмаўляюцца. «Не закладзі» — гэта адзінаццатая запаведзь не толькі любога рыбалова, але і проста вясковага жыхара ўсяго Віленскага краю, была і будзе пры усіх уладах.*

Вацлаў Блажэвіч, былы рыбак, ураджэнец і жыхар в. Тартак, які шмат робіць разам з добраахвотнікамі для аховы ад браканьераў і паляпшэння ўмоваў нерасту ласося на р. Тартачцы і іншых прытоках і ручаях Віліі, стварыў у сваім доме музей браканьерства, дзе сярод экспанатаў маюцца восці, дзве электравуды.

# Пра язы на Віліі

Пасля знікнення язаў сеткі рознага
віду іх у рыбалоўстве замянілі.

*Канстанцін Тышкевіч.*
*«Вілія і яе берагі», 1871 год*

*У манаграфіі К. Тышкевіч адзначае: «Здаецца, што ўстройванне язаў (запрудаў) было самым ужывальным спосабам у літоўскім рыбалоўстве; таму што нам вядома, што ўсе рэкі, ў тым ліку і Вілія, былі перапоўненыя як каралеўскімі, княскімі, так і прыватнымі язамі. Да якога дакладна часу адносіцца ўстройванне язаў – гэтага з дакладнасцю вызначыць немагчыма. Спосаб гэты, без сумнення, уяўляе прыналежнасць да старажытнага часу, калі край наш не кіраваўся ніякімі пісьмовымі законамі, а толькі патрыярхальным чынам, воляй першых князёў або вярхоўных жрацоў. Статут Літоўскі ў 1 раздзеле, 29 артыкуле, гаворачы пра пабудовы новых язаў, без указання часу іх заснавання, ужо называе іх старажытнымі. Устройванне на рэках язаў не патрабавала, як відаць, ніякіх асаблівых на гэта правоў або прывілеяў, таму што ў літоўскім заканадаўстве нідзе не згадваецца ні пра права, ні пра згоду, дадзеную камусьці на такія пабудовы. Відавочна, што кожны ўладальнік берага мог ставіць столькі язаў і ў такіх месцах, дзе яму здавалася зручным або выгадным. У XIV ст. рака Вілія была перапоўненая язамі; многія з іх прычынялі перашкоды ў гандлі, на што і былі накіраваныя некалькі скаргаў каралю». Інтарэсы рыбакоў, якія перагароджвалі раку язамі (езамі), ці заколамі, перашкаджалі сплаву стругаў і плытоў гандлёвых людзей. «З часоў Вітаўта купцы і плытагоны ніколі не плацілі за праход праз вароты па грошы ад плыта, але грош гэты дабравольна давалі людзям, якія дапамагалі ім праводзіць плыты праз яз. Кароль Аляксандр пастанавіў у 1502 г., каб ад гэтае пары намеснікі ніколі не смелі збіраць па грошы за пропуск праз вароты плытоў…*

*Злоўжыванні, якія адбываліся на гэтых язах, выраслі да такіх памераў, што XVI ст. яны звярнулі на сябе ўвагу ўрада, і ў 1563 г. на Варшаўскім сейме была выдадзеная пастанова аб знішчэнні ўсіх язаў на ўсіх сплаўных рэках. Потым яшчэ тройчы (1565, 1567, 1576) выдаваліся аналагічныя пастановы, неўзабаве ўсе язы былі знішчаныя… У 1631 г. на сейме было пастаноўлена: на суднаходных і гандлёвых рэках забараніць пабудовы плацін, шлюзаў, млыноў і ўсяго, што магло б перашкаджаць навігацыі; разам з тым прызначана і пакаранне за парушэнне гэтай пастановы. У XVII ст. запруды на суднаходных рэках у Літве ўжо не маглі існаваць з прычыны ўказаў аб іх знішчэнні, і з таго часу пра іх не згадваецца ні ў адным прывілеі».*

Апошнія плыты па Вяллі прайшлі ў 50-я гг. XX ст. Самае дзіўнае, што хаця з часам усё прападае, але нічога не мяняецца на Вяллі. У канцы XX і пачатку XXI ст. язы ўзніклі ізноў, рэшткі язаў захаваліся, і іх нават хоць сёння можна пабачыць ля Соргаўцаў (рапа Зыбуха за Лапавойняй); ля в. Буякі і ля в. Рымшыненты, акраз крыху ніжэй дачы дачкі ранейшага першага віцэ-прэм'ера Беларусі В.І. Сямашка. На прытоку Віліі р. Нарачанка таксама штогод да канца XX ст. мясцовымі

рыбакамі чуць вышэй в. Слабада рабіліся язы, на якіх лавілі вугра. Жыхары прыбярэжных вёсак Асіпавічы, Мамаі, Швяды да пачатку масавага ўзнікнення калгасаў будавалі да 50-х гг. XX ст. язы на праходах у старыцах, калі старыца ўваходзіла ва ўласны зямельны надзел (участак).

Вось што распавядалі пра язы мясцовыя жыхары:

**Станіслаў Пазлевіч** з в. **Маркуні** (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У Расш. Ю.У Зах. LTR7685/495):

...А па рацэ забівалі язы — гэта браканьеры. І тады такімі каробкамі выкладвалі каменняў сюды. А тады ставілі такія бучы. Падойме ён табе ваду на метр вышыні. Шэсць, сем бучоў ставілі. У Жойдзішках такога няма. Во ў Рымшанентах ставілі этыя бучы. Тутака ў Соргаўцах над самой рапай (Зыбуха — рапа ў Соргаўцах).

**Іван Сідарэвіч**, 1940 г. н., з в. **Буякі** (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У Расш. Ю.У Зах. LTR7685/441):

...Набівалі калкоў, «ціпа загарадкі», бралі лазу ці бярозку і заплятылі так. Як кошык плятуць, так заплятылі. А тады накідвалі туды каменняў. А тут стаўлялі варотцы, так называецца. І ставілі буч. Рыба ідзець. Чэраз каменне яна не палезець. Вада чэраз варотцы цячэць. Усё, рыба залазіць, у буч залазіць, а вылезці — не, ня можыць.

— *Вада ж быстра ідзе. Як забіць гэтыя калкі?*

— Ну як? Забівалі, бродзіш там. Дзе глыбака, з лодкі забівалі калкі, а дзе мелка, у ваду залазілі.

— *Калі я зрабіў, то гэта маё?*

— Да ваша лічнае. Цяпер жа нельзя. А раней памногу было. Відзелі. Як плылі, відзелі? Тут перакаты, перакаты. Хто хацеў, гарадзіў. Хочаш рыбіны — значыць, гарадзі. Хочаш — лаві. Ставілі заязкі.

— *А ці доўга такі заязак рабілі? За дзень?*

— За дзень неяк зробіш. І камянёў навазіць, і заплясці ўсё. Дні тры чатыры рабілі. Як ён ужо зроблены, заязак гэты, — легчэ, тады на следуюшчы год яго падрамантаваў троху. Дзе падплёў, дзе які калок паламала, дзе згніў. А як нанава гарадзіць, то доўга.

— *А як зімой даставалі?*

— Прасячэш дзюрку, каб буч выцягнуць. Ды ўсё. Над бучом дзірка. Зімой у вялікія маразы рыба ня лезіць, ніхто іх не ставіў.

— *А калі іх ідзеш глядзець?*

— Часы чэраз два трэба ісці патрасці бучы. Патрасці буч, выбраць рыбу. Падняў — няма, ёсць — бярэш і паставіў на места.

— *А ён там пастаянна стаіць?*

— Да пастаянна стаіць, гэты буч.

**Мар'ян Іванавіч Рогач**, 1938 г. н., з в. Буякі (зап. 2007 г. В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7686/379):

— *А вот тут бучы каля вёскі стаяць?*

— А, гэта даўно.

— *Давно тут построено?*

— Даўно, не за маей памяці. Я не знаю, хто тут цягаў гэтыя камні.

— *А как называете это место, где камни?*

— А як даўней звалі. Перавал нейкі. І далей камні ёсь. А як рыбу лавілі? Мярэжы ставілі. Мярожы такія. З ветак плеценыя. І вудачкамі лавілі. А ў гэта врэмя, як пайшла ўжо дземакрація, ператравілі ўсю.

**Марыя Ігнацьеўна Вайцяховіч**, 1940 г. р., з в. **Рымшыненты** (зап. 2012 г., М.М.):

...Даўней тут мост быў. Калі точна, тры маста былі. Першы — нямецкі — пабудавалі ў мікалаеўскую вайну 1914 года. Спалілі палякі, як гнаў Тухачэўскі. Другі быў мост польскі. Спалілі партызаны ў 44-м, як гнаў немцаў Жукаў. І пасля вайны з немцамі, пры Саветах, зноў пабудавалі — бальшавіцкі мост. Сам разваліўся, знёс крыгаход, пры Хрушчове. Месца, дзе перакат, звалася «Рапа-Поле». Таму шта на тым баку было поле. Людзі, каб рыбу лавіць, яз рабілі ніжэй колішняга маста, перагаражвалі раку яшчэ гадоў пяць назад. Цяпер няма каму займацца. Назва гэтай зямлі ля Вяллі — Рагені.

**Гэлена Іванаўна Шыманель** (Бублевіч),1931 г. н., з в. Нестанішкі (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

— *А даўней як лавілі?*

— Знаеця, чым: ставяць бучы, заезкі такія.

— *А там, у рацэ, ёсць такія камяністыя месцы. Там гэтыя бучы?*

— Там ставяцца бучы.

— *А з якіх гадоў яны тут стаяць?*

— Даўным-даўно, у нас ужо гэтыя мужчыны памёршы, каторыя мелі гэтыя... бучы ставілі. Там з каменяў павымераны палосы.

— *А цяпер імі не карыстаюцца?*

— Маладыя ўсё раўно, хаваючыся, але ставяць усё раўно.

**Вальдэмар Пятровіч Федаровіч**, 1940 г. н., з в. Нестанішкі (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

— *А дзе бучы стаяць у рацэ?*

— Дзяды нашы яшчэ строілі.

— *А вы імі карыстаецеся?*

— Ногі баляць.

# Частка IV.

# ПАЧЫМ РЫБКА, РЫБАЧОК?

…Ніводзін з уладальнікаў берагоў не
перашкаджае рыбакам,таму што
рыбалоўства ў гэтай частцы Віліі
не складае прыбытку.

*Канстанцін Тышкевіч.*
*«Вілія і яе берагі», 1871 год*

Згодна з даследаваннямі Канстанціна Тышкевіча, у першай палове XIX ст. у верхняй частцы Віліі не сустракалася ані прафесійных рыбакоў, ані рыбалавецкіх кааператываў (талок), якія жылі з ловаў рыбы. Граф Канстанцін Тышкевіч так апісвае свае адносіны да рыбалкі:

*«У доўгім падарожжы па рацэ што магло быць нашай галоўнай забавай, як не рыбалка? Усё неабходнае для гэтай бяскрыўднай забавы, гэта значыць: невялікія сеткі, вуды, восці — былі ў нас з сабой».*

Здаўна лавіла рыбу па-аматарску, для сваіх патрэбаў, амаль усё дзіцячае насельніцтва прыбярэжных населеных месцаў. Калі ж дзеці падрасталі, то ім даводзілася займацца цяжкай сялянскай працай, і на рыбалку проста не маглі знайсці час, акрамя самых заядлых рыбаловаў і браканьераў. І тое, дарослыя лавілі рыбу толькі раз на тыдзень, звычайна вудай раніцай у нядзелю («у нядзельку»), да таго часу, калі трэба было ісці на службу ў касцёл ці царкву. Таксама было многа і тых, хто верыў без фанатызму, асабліва пры бальшавіках — яны бралі трайчак ці таптуху і замест храма, калі не было гадавых свят, пасля таго як праграваласяа вада, ішлі талакой на раку. Асобную касту ўтваралі дзяды — заўзятыя рыбаловы, такія меліся ў кожнай прыбярэжнай вёсцы. Гэтак жа рыбалоўствам да 1939 г. захапляліся забяспечаныя людзі: лідар даўгінаўскага дваранства Акушка, ксёндз з Данюшава і іншыя.

*Пра гэта ў манаграфіі «Вілія і яе берагі» даследчык напісаў наступнае: «У пачатковай частцы Віліі рыбалоўства не носіць прамысловага характару; з берагавых яе жыхароў кожны ловіць, дзе каму і як падабаецца плёскацца з сеткай: ніводзін з уладальнікаў берагоў не перашкаджае рыбакам, таму што рыбалоўства ў гэтай частцы Віліі не складае прыбытку. Ніжэй, ужо больш прафесійна лоўляй рыбы займаюцца надвілянскія жыхары; бліжэй да Вільні і за Вільняй, у Коўне, рыба ўяўляе сабой крыніцу, якая прыносіць даход, і таму ўладальнікі берагоў аддаюць іх рыбакам у арэнду. Вакол Немянчына [Niemenczyna] яўрэй, арандатар такіх берагоў, казаў мне, што наём берага з кожнага боку ракі на працягу вярсты каштаваў кожнае лета каля 60 рублёў».*

Але вілейскі краязнавец Валянцін Анатольевіч Рогач знайшоў у архівах дакументы, што ўсё-ткі сустракаліся і ў вярхоўях Віліі рыбакі-прафесіяналы. Так, згодна з інвентаром Маркаўскага староства 1789 г., рыбак Міхаіл Занкавіч з в. Іжа (цяпер Каралеўцы) павінен быў на працягу паўгода дастаўляць у панскі двор на адлегласць каля 50 км па 20 рыбін у месяц. У мястэчку Смургонь у сярэдзіне XVII ст. рыбным промыслам займаліся не толькі два рыбакі з вёсак Белае і Клідзеняты, але і ляснік Юрка з Васілевіч. Сярод цяглавых сялян вёскі Падвілянцы Міхалішскага маёнтка ў 1683 г. былі і чатыры сям'і рыбакоў. Яны, акрамя рыбалоўства ў рэках, разводзілі рыбу ў дворных сажалках, за што былі вызвалены ад паншчыны. Аб гэтым старажытным промысле напамінаюць прыбярэжныя тапонімы — Нараты, Рыбакі, Рыбчанка, Рыбчына, Шчукі, Пруды. Па інвентару Вілейскага павета за 1890 г. у Мядзельскай воласці было 11 рыбаловаў. Акрамя лоўлі рыбы, яны касілі сена на панскіх сенажацях, а таксама даглядалі панскія азяроды. Уладальнікі берагоў ракі часта аддавалі правы рыбалоўства ў арэнду.

Мне таксама пашчасціла знайсці факты з жыцця, з расповедаў. Напрыклад, пра Асінаўскае возера (правабярэжная вялікая старыца, злучаная пратокай даўжынёй 50 м з р. Вілія ніжэй в. Шведы) **Уладзімір Фаміч Мамай** з вёскі Раздоры (Тышкевічы) распавёў мне гэткую гісторыю:

*Асінаўскае возера з Вяллёй злучалася пратокай. Пры Польшчы ў людзей — уласнікаў участка зямлі з Асінаўкі, дзе знаходзілася гэта возера, выкуплялі рыбакі з в. Камары, гэта былі браты Занкавічы, малодшы з якіх, Андрэй (1910 г. н.), да таго ж заўзяты паляўнічы. Закуплялі гэта возера вясной дзеля таго, што ў гэтым возеры надта нераставаў лешч. Лавілі ляшча невадам, некалькі тон і, каб захаваць, перавозілі ў вялізных бочках з вадой да сябе, у выкапаную ў балотцы грабу. Злавіць ляшча было няпроста, трэба было ведаць месцы, куды можна закідаць сетку, бо на дне мелася вялікае мноства дубоў. Грабай у нас (ніжэй г. Вілейкі) называецца, сажалка, пруд, садок. Затым з грабы, як была патрэба, бралі і прадавалі жывога ляшча да святаў, фэстаў ці на патрэбу людзям — на вяселле ці хаўтуры. Да ўсіх Занковічаў, якія жывуць у Камарах, у Перавозе, у Асіповічах ужо два стагоддзі як цвёрда прыляпілася мянушка Булён, дадзеная якому-та іх прапрадзеду, які, вярнуўшыся з Парыжу, пасля вайны 1812 г., ажаніўся і на правах мужа, паснедаўшы, запатрабаваў ад маладой жонкі зварыць яму да палудня не заціркі або поліўкі, ці хоць бы бацвіння, а нейкага замежнага невядомага «булёна». Маладая жонка, яшчэ нявопатны кухар, адкінўшы гонар мусіла звярнуцца за парадай спачатку да свекрыві, потым да суседак і маці –але ніхто з Асіпаўскіх баб не ведаў такой стравы.Тады па загаду маці - браты нявесткі мусілі запргацца, і ляцець узяўшы з сабой гуся за паралдай аж да пані у Канстанполье па дарозе клянучы “балаванага” швагру… Пасля таго, як ліквідавалі ўласнасць на зямлю і парабілі калгасы, у гэта возера, каб немагчыма было лавіць невадам ці трыгубіцай прышлым гарадскім людзям, мясцовыя закінулі з лодак карчоў, абкручаных калючым дротам. Можа, з бухту калючага дроту ўкінулі, што застаўся з мікалаеўскай вайны. Таму на гэтым возеры сетак доўга не ставілі і лавілі толькі вудай. У “перабудову” з'явіліся нейкія мінскія камерсанты, якія беспакарана, задарма цягалі і скралі мароны дуб па усёй Вялле. Тыя камерсанты нанялі трактар з тросам і павыцягвалі ўсе дубы і карчы з дна Асінаўскага возера. Пасля таго як сталі ўсе ставіць сеткі рыба знікла.*

Ускоснай прыкметай наяўнасці рыбакоў-прафесіяналаў на Вяллі, акрамя грабаў (сажалак), з'яўляецца наяўнасць у жыхароў прыбярэжных вёсак «лядовен» (ледников) — збудаванняў для працяглага захоўвання рыбы ў цёплы перыяд года. Першая згадка пра наяўнасць у маёмасці прыбрэжнага селяніна лядоўні, пра якую я пачуў, адбылася ў мястэчку Жодзішкі — у Антона Мізулы. Засталіся рэшткі дзвюх лядовен у Мелі ў нашчадкаў Хвалкі (Владзюка Чартовіча). Таксама захаваліся рэшткі лядоўні ў Рымшынентах; былі лядоўні і у вярхоўях Віліі, у веске Слабада –у Антона Кліменка.

**Вальдэмар Федаровіч**, 1940 г. н., з в. Ністанішкі (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7686/351):

— *А ці прадавалі на кірмашы рыбу?*

— Прадавалі. У нас былі два рыбакі ў вёсцы, лавілі рыбу, насілі да яўрэяў у Міхалішкі. Старая яўрэйка была ў нас. Яна купляла оптам, а тады ў яе другія яўрэі куплялі. Яны ей даражэй плацілі. Яны ж дружныя, штоб яна магла пражыць, эта баба. Яны выручалі адзін аднаго.

**Соф'я Сімановіч (Казлоўская)**, 1941 г. н., з в. Малыя Свіранкі (зап. 2007 г., ВВ., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

— *А вот былі такія людзі, што рыбу толькі лавілі?*

— Не. Рыбу толька сабе, тут у Вяльлі нямнога той рыбы.

М**ар'ян Іванавіч Рогач**, 1938 г. н., з в. Буякі (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685):

— *А рыбу, можа, прадавалі?*

— Самі елі і прадавалі.

— *А каму прадавалі?*

— Жыдам, кажуць. Вазілі мяхамі ў Міхалішкі.

— *А чаму жыдам?*

— Жыды багацейшыя. Вазілі на базар, туды, дзе рэчка далёка, дзе не наловіш.

— *А былі такія рыбакі, што зямлю не рабілі, а толькі рыбу лавілі?*

— Не, не. Толькі такія, што і зямлю рабілі, і рыбалкай займаліся.

**Уладзімір Фаміч Мамай**, 1914 г. н., з в. Трапалава (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR7685/204):

*Лебедзева — крупная вёска, як горад. Лебедзева. Там быў бедны жыдок. І толька хто прынясе рыбу прадаваць — жыды не куплялі. Нясі там. Зваўся ён Хаімка, Хаімка. Нясіце туды да Хаімкі. А яны тады ўжо ад гэтага Хаімка купляюць і дваццаць грошаў даюць яму даражэй. Ён злот заплаціў за кілаграм рыбы, а яму ўжо купляяць, ад яго жыды; жыды ад жыда ад гэтага куплялі, але бедачок быў — ужо дваццаць грошаў даражэй давалі. І ён толька жыў з-за гэтага. Што ніхто не меў рыбы купіць, толька ў яго. Вот. А хто ні прынясе рыбы — ідзіце там, каля мосціка! Там Мэер жывець. Ён купляіць, жыды тады ад яго купляюць.*

**Уладзімір Фаміч Мамай**, 1914 г. н., з в. Трапалава (зап. 2009г. М.М.М.)

Самая смачная рыба -мянтуз, але яе не куплялі жыды. Жыды куплялі толькі качественную шчуку. Што яны там рабілі з той шчукай не ведаю. Але за шчуку

плацілі добра злот дваццаць грош за кілаграм. Не хацелі ні ляшча ні акуня ні жэственя.

**Марыя Ігнацьеўна Сідарэвіч** (Вайцяховіч), родам з Рымдзюнаў, 1940 г. н., з в.Рымшаненты (зап. 2007 г., В.В., Л.С., Ю.У. Расш. Ю.У. Зах. LTR 7685/204):

— *А гэта вёска рыбакоў ці не?*

— Не. Больш рыбакоў — эта окала Свіра. На азёрах. У нас не.

Як расказваў **Канстанцін Пятровіч Чараповіч**, 1921 г. н. (зап. 2007) з Чапельшчыны, што ля Кастык (вярхоўе Віліі) за Польшчай рыбу можна было прадаць толькі габрэям у бліжэйшым мястэчке Даугінава. Але габрэі нават дарма не бралі ляшча, плотку, мянтуза нават сама ці вугра. Яны елі і куплялі толькі шчупакоў і язеў, пры гэтым прыгожы язь быў трохі даражэй чым шчупак. Калі была у іх якая патрэба –то можна было вельмі выгадна прадаць. Аднойчы ён запер пехам у Даўгінава дваццаць кіль вялікіх язёў і назад, у Чапельшчыну ўжо прыехаў на новым ровары. А ровар каштаваў каля 100 злот, пуд жыта ці бутэлька водкі-казёнкі — два злоты.

Напэўна, на самай справе прыбярэжныя вёскі Віліі саступалі ў развіцці рыбалоўства прыбярэжным вёскам азёр басейна р. Віліі, напрыклад, воз. Вялікія Швакшты, адкуль бярэ пачатак прыток Віліі р. Страча; воз. Свір, воз. Нарач. Так, у 1904 г. на пяць вёсак ля воз. Вялікая Швакшта прыходзілася пяць падвалок, 13 ершавікоў, адзін зімовы невад і 400-500 розных сетак. На кожныя два двары (усяго 35-40 двароў) прыпадала 10-15 сетак і адзін невад, г. зн. больш, чым на воз. Нарач.

На рацэ Пуцiлiса ў 50 м ад воз. Свір сяляне бліжэйшых вёсак выстаўлялі звыш 200 бучоў, якімі толькі за снежань вылаўлівалі да 1000 пудоў рыбы (Труды отдела ихтиологии, 1907). Возера Свір у канцы XIX ст. належала шасці памешчыкам, святару з мяст. Свір і свірскім сялянам, якія выкупілі навечна ў казны права на рыбную лоўлю ў гэтым возеры. Прадпрыемца з в. Гарані на воз. Свір наймаў для лоўлі падвалокаў арцель з мясцовых рыбакоў. Плаціў ім за працу рыбай, якую яны павінны былі адразу прадаць прадпрымальніку. Шырока карысталася здача вадаёмаў у арэнду, з рыбакамі таксама зачастую разлічваліся рыбай. Рыбакі вымушаны былі за арэнду аддаць ад трэці да палавіны злоўленай рыбы. Хаця разлічваліся і грашыма ад 9 да 15 руб. у месяц летам, 6 руб. зімой.

Акрамя рыбалоўства і здабычы ракаў, сяляне некаторых мясцовасцей займаліся вязаннем сеткавага палатна на продаж. Сеткавы промысел вядомы з ХУІІІ ст. Сеткі, зробленыя беларускімі майстрамі, не толькі выкарыстоўваліся на месцы, але і прадаваліся за мяжой. У другой палове XIX — пачатку XX ст. выраб сетак на продаж асабліва распаўсюджаны ў Вілейскім павеце. У вёсках Насенкі, Круці, Лук'янавічы, Азяркі Вілейскага павета сеткі вязалі амаль у кожным двары.

І зноў пра ракаў. Згодна са стацццей "Kto zaraia miljony zlotych na rakach naszych ziem?" апублікованай у газеце "Kurier Wilenski [1] 28 13.10.1934, Wlod. : прыведзены вельмі цікавыя факты з Вілейкі павятовай аб тым што нашы селяне на продаж найбольш лавілі не рыбу а менавіта ракаў. Лавілі тысячамі і нават

мілліонамі, мясцовы агент адправіў па чыгунцы, са станцыі севярней Вілейкі вялікі эшалон жывых ракаў на Берлін. Вось вытрымкі з газетнага арцікула.

*Запытаўся у перакупшчыка, ці акупляецца, ці ёсць які прыбытак з гэтага гандлю? Гэты перакупшчык з'яўляўся усяго толькі агентам, нанятым па даручэнні аднаго з некалькіх галоўных экспарцёраў на тэрыторыі Віленшчыны. Ён адразу прызнаўся, што не ведае пэўнага грашовага абароту свайго кіраўніка, але вельмі б хацеў мець хоць сотую частку ад яго прыбыткаў менавіта толькі з гэтай тэрыторыі.*

*-Ці з'яўляецца экспарт ракаў вельмі прыбытковым?*

*-Дае некалькі соцень адсоткаў ад укладзенай сумы! Аднак з кожным годам усё цяжэй на Віленшчыне з добрымі, прызначанымі на экспарт якаснымі ракамі. Вясковыя жыхары, каб зарабіць які злот, ідуць на лоўлю да азёр і рэк цэлымі натоўпамі. Выцягваюць усіх ракаў, што пападаюцца ў дробнаячэістыя сеткі. Такім гвалтоўным чынам вядзецца гэта гаспадарка. У некаторых месцах знішчылі амаль усіх ракаў, не думаючы пра наступствы , бо ў наступным годзе ўжо не будзе якасных, вялікіх ракаў.*

*Агент распавёў, якім чынам адбываецца транспарціроўка жывых ракаў на замежныя кірмашы, такія як Берлін, Парыж і іншыя мясцовасці Францыі. На месцы адпраўкі жывых ракаў абкладаюць вільготным мохам і складаюць у кошыкі з лубу. У моху здаровыя ракі могуць пражыць больш за два тыдні. Дарога да Парыжа займае не больш за 48 гадзін. За дарогу бракуе — робяцца соннымі ўсяго ад двух да пяці адсоткаў ракаў.*

*Пасля гэтай выпадковай сустрэчы я пазнаёміўся, як працуюць агенты у вёсках. Агент пасля прыбыцця ў мястэчка ці вёску стараецца зацікавіць продажам як мага болей жыхароў. Уся вясковая беднага, маючы магчымасць падзарабіць, ідзе да ракі і лавіць ракаў і днём, і ноччу. Ловяць і рукамі, і сеткамі, і на жаб… Але попыт і цэны ўстанаўлівае агент. За аднаго рака на экспарт, а гэта велічынёй ад 9 да 12 сантыметраў, плацяць па 10, а калі і 5 грошаў ( параўнанне: за цяжкую фізічную працу на Крэсах Усходніх больш за два злоты за дзень у 1934 годзе нельга было зарабіць, а тут усяго толькі трэба злавіць 20 ракаў, на гэта не трэба і паўгадзіны). Пачуў я ад вясковых жыхароў – ад людзей сталых, якія разумеюць, што ў азёрах і рэках Віленшчыны колькасць ракаў знікае катастрафічна з кожным годам. Але пакуль яшчэ ловяць многа. Пасля прыезду ў Вільню зайшоў да статыстаў. Гандлёва-прамысловая палата праінфармавала , што ў акрузе толькі ў 1930 годзе вывезена на заграніцныя кірмашы 6 мільёнаў ракаў, у 1931 — 3 мільёны, у 1932 — 5 мільёнаў, у 1934 — 4,5 мільёна. Гэта зацікавіла мяне. Выходзіла, што наша вёска зарабіла на раках 450 тысяч злотых, калі лічыць па 10 грошаў за штуку.*

*— А колькі ўгандлявалі за нашы ракі за мяжой?*

*Адзін з віленскіх дзялкоў шапнуў мне, што ў Берліне ці Парыжы наш рак ідзе па цане 1.60 злотых за штуку.*

*Патэлефанаваў у гандлёва-прамысловую палату для пацвярджэння гэтай інфармацыі. Пачуў у адказ, што сапраўды ў Берліне наш рак ідзе па цане, набліжанай да 1.60 злотых. Голас у тэлефоннай трубцы не хацеў мне сказаць дакладнай, праўдзівай цаны, спасылаючыся на гандлёвую тайну.*

*Пацікавіўся, чаму адбываецца такая вялікая несправядлівасць у адносінах да нашага вясковага лаўца ракаў, чаму наша натуральнае багацце, якое замежнікі купляюць ад нашых экспарцёраў за такую высокую цану , аддаецца задарма.*

*Пачуў у адказ, што прычынай з'яўляецца адсутнасць паняцця — вясковы жыхар не арыентуеца ў якасці, сартах і цэнах на ракаў, з'яляючыся "цёмным", як бутэлька з-пад піва, таму губляе, шта вядзе, на маё разуменне, яшчэ да большых страт ва ўсім краі.*

*А нехта зарабляе мільёны злотых на нашых раках – чыгунка, мытня, пасрэднік і экспарцёр.*

З утварэннем вялізнага штучнага вадаёма на Віліі – Вілейскага вадасховішча з пачаткам "перабудовы" пачалі стварацца першыя рыбалавецкія каператывы. У "ліхія" дзевяностыя усё Вілейскае вадасховішча, як мне казаў **Анатоль Л.,** пажадаўшы астацца невядомым, было падзелена на участкі ці "соткі" паміж браканьерамі і кааператывамі. Афіцыйна дзейнічала аж 14 брыгад легальных рыбалавецкіх кааператываў якія арэндавалі пэўныя плошчы вадаёму. Не менш дзейнічала і нелегальных брыгад. Так за Анатолем з напарнікам былі "замацаваны" неафіцыйныя "соткі" ля Касуты, дзе стаяла аж 1200 мэтраў сетак, якія яны што дня перабіралі нават не выняючы з вады. Яны працавалі кожны дзень, пасля ранішняга пад'ёму сетак удваіх да іх пад'язжалі перакупы з Маладзечна, якія забіралі усю злоўленаю за суткі простую рыбу (лешч, плотка, акунь) оптам па цане адзін даляр па курсу за кілю, а судака і шчупака за два. Калі быў заказ ад знаёмых-то судака можна было прадаць і за тры даляры за кілю. Тады, па чарзе, адзін заставаўся на варце дзяжурыць: ці у лодцы з вудай, ці з берага паглядаць і старажыць сеці ад злодзеяў – "вадзяных Панікоўскіх" якія калі-нікалі парываліся нарушыць канвенцыю і ўлезці на чужыя участкі і аматараў лоўлі на калабашкі ці вуду, а другі ехаў да дому каб паесці хатняй ежы, адаспацца на ложку, пабыць з сям'ёй ці сябрамі і пад раніцу ўжо вярнуцца на вадасховішча на з'ём. Па яго словах участак вадасховішча уверх за Сосанкай быў лакамы, як той Бабруйск для дзяцей лейценанта Шміта з "Залатого цялёнка". Спачатку сезон канчаўся з ледаставам, а потым абнаглелі, пачалі ставіць сеткі і пада льдом, адганяючы на дурніцу аматараў падледнага лову на вуду ад так званага "кааператыва" - бо рыбакі і простыя грамадзяне не мелі інфармацыі пра межы арэндаваных угоддзяў у сапраўдных каапераціваў, ніякіх межаў арэнды тых жа 500 га ці 300 га нідзе і нічым пазначана не было – ні на карце, ні буямі на вадзе. Каму і колькі прыходзілася "адсцёгіваць" казаць адмовіўся, казаў толькі што рыбнагляд у той ліхі час іх рэгулярна прасіў памагчы з судакамі і так сам рэгулярна штрафаваў, для фасону канфіскуючы трохі простай рыбы, праўда не кафіскуючы сяцей – бо трэба было неяк ўсім жыць. З яго слоў рыбалоўны падпольны бізнес выйшаў на другое месца па даходнасці для простага чалавека, не меўшага спрыту гандляваць, а толькі нешта рабіць сваімі рукамі. А самай прыбытковай дзейнасцю на той ліхі час "перабудовы" быў выраб лясной паравой самагонкі на неастывачых не на хвіліну саматужных броварках, пакуль не адмянілі гарбачоўскі "сухі закон". К таму ж уладарам лясных самагонных саматужных міні-бровараў працаваць было лягчэй - можна было рабіць хоць нейкія выхадныя. Стаміўшыся можна было і адпачыць, не калбаціць, адклаўшы надзень - два чарговую гонку. Больш трывалая была і "страха" і цвёрдзейшы

тарыф - толькі своечасова адсцегвай участковаму інспектару і ляснікам з кожнай гонкі, і галоўнае -ніяк не залежыць ад сезону, ад надвор'я і рыбацкага шчасця. Дзесяць гадоў ён нідзе афіцыйна не працауладкоўваўся, то браканьерыў, то займаўся самагонаварэннем, быў жанаты, гадаваў сямью, нават набыў старэнькаю іншамарку. Раптам усё скончылася, пасля як да ўлады прыйшоў Лукашэнка. Не адразу, а ўжо пад той час ўжо як Вілейскую інспекцыю рыбааховы узначаліў **Генадзь Лісоўскі**, былы ваенком, з якім амаль нікому увогуле нельга было дамовіцца ці неяк паўплываць, бо у 2003 г. была праведзена рэарганізацыя рыбнагляда. Інспекцыя рыбааховы была выведзена з падначалення мінісцерства аховы прыроды і райспалкомаў, стала сапраўды поўнасцю незалежнай ад мясцовых улад і пачала кіравацца напроста спецыяльнай структурай пры прэзідзенце. У хуткім часе ад процьмы нелегальных браканьераў на Вілейскім вадасховішчы амаль збавіліся, легальныя каператывы пачалі спушташацца – бо душылі налогі ды і ды рыбу амаль усю вылавілі за якіх пяць гадоў, засталіся толькі тры рыбалавецкіх каператыва.

Са словаў яшчы аднаго майго дасведчага знаёмага (А.В.П.), меўшага непасрэднае дачыненне да кааперацівaў, у цяперашні момант умовы арэнды для рыбалавецкіх кааператываў суб'ектыўныя. А.В.П. казаў мне так:-«У 2014 годзе ўвайшлі ў дзеянне новыя Правілы рыбалоўства Рэспублікі Беларусь. Раней меліся формы абмежавання на ўстаноўленую форму арэнды, суму арэнды, а новымі Правіламі гэтыя абмежаванні адмененыя, і сума арэнды можа расці без абмежаванняў, усталёўваецца кіраўніком, адказным за дадзеную сферу. Захочуць — будуць вызначаць нармальную арэндную плату, захочуць — зробяць недасяжную. Мяне выклікалі і папярэдзілі, што арэндная плата для рыбалавецкага кааператыва ўзрастае ў дзевяць разоў, нават у дзесяць. Я адказаў: «Дзякуй, не трэба». Такім чынам, у 2014 годзе былі зачыненыя два з трох апошніх рыбалавецкіх кааператываў, што заставаліся на Вілейскім вадасховішчы. Застаўся адзін, гандлёва-закупачнага аптова-рознічнага прадпрыемства "Партызанскае" з Мінска які яшчэ дзейнічаў у 2015 годзе. Па стане на 2000 год на Вілейскім вадасховішчы дзейнічала 12 рыбалавецкіх кааператываў».

Рыбакам, што працавалі ў рыбалавецкіх кааператывах плацілі найменшую што было магчыма па заканадаўству заработную плату. Дзейнічаў прынцап па аналогіі з ляснікамі: – Як, лясніку яшчэ і зарплату налічваюць!!? Кажучы па праўдзе гэтыя легальныя рыбакі не жаліліся, былі у пачоце, мелі вялікія сувязі, але ніхто з іх не разбагацеў, хаця спачатку калі было рыбы у асабныя месяцы мелі куды болі чым па так жаданых "папяцьсот " даляраў. У асобных кааператывах, па аповедах рыбакоў, калісь (можа гадоў з пятнаццаць назад) кожнаму рыбаку неафіцыйна з маўчалівага дазволу начальства можна было мець адну асабістую "раму". Рама, гэта на прафісійным слэнгу - сетка даўжыней 90 м, вышыня сценкі 5-6 мэтраў, памер ячэйкі –шасцёрка (60мм). Калі вязло –то можна было і 50 даляраў атрымаць за дзень, калі рыба не лезла –то і за месяц столькі не атрымлівалася. Нават калі ў 2017г. пачаў дзейнічаць прэзідзенцкі Указ "пра

тунеядцаў”, і непрацуючых грамадзян сталі штрафавць, у Вялейцы, дзе працаўладкавацца у той час было немагчыма, летам была вольная вакансія рыбака ў рабалавецкім каператыве - не маглі доўгі час знайсці нармальнага чалавека, не п’яніцу.

Вядомы гісторык, наш зямляк Мікалай Улашчык, вывучыўшы архіўныя дакументы, у манаграфіі «Перадумовы сялянскай рэформы 1861 г. у Літве і Заходняй Беларусі» ў 1965 г. напіша, што толькі ад продажу рыбы ў 50-х гг. XIX ст. Вілейшчына атрымлівала даход у 3000 рублёў. «Колькі ж можна было купіць рыбы на рубель 160 гадоў таму?» — спытае чытач. А я вам адкажу: згодна са звесткамі, запазычанымі з кнігі «Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ним относящихся», складзенай М.В. Без-Карніловічам, выдадзенай у Санкт-Пецярбургу ў 1855 г., на месцы лоўлі пуд (16 кг) буйной рыбы каштаваў ад 120 да 150 капеек срэбрам, дробнай рыбы ад 40 да 70 капеек срэбрам. На таргах жа фунт (0,4 кг) буйной рыбы прадаваўся па 7,8 капейкі, а ў малы прывоз 9 і 10 капеек срэбрам, фунт дробнай рыбы 3-4 капейкі срэбрам. Для параўнання прывяду тагачасную цану на «вадкую валюту» да 1851 г. Беларускія памешчыкі — уладальнікі бровараў прадавалі вядро гарэлкі ад 60 да 90 капеек срэбрам (бутэлька 0,5 л 3-4,5 капейкі), а ў горадзе адкупшчыкі (аптавікі) па 3 рублі 50 капеек срэбрам; у корчмах гарэлка прадавалася па ўсталяванай цане 2 рублі срэбрам (бутэлька 0,5 л 10 капеек). Паводле Сабанеева, найдаражэйшымі з рыб, якіх лавілі ў часы Тышкевіча на Віліі, былі балтыйскі, або нямецкі, асётр (AdpensersturioL., бялуга), які быў вельмі рэдкі, і ў Еўропе ў той час прадаваўся вельмі дорага, як музейны экспанат, — з нямецкага асятра выраблялі натуральны муляж і выстаўлялі ў вітрынах і залах рыбных крам. Далей больш за ўсё каштавалі ласось, цырта і выразуб. *«Па смаку мяса сырці належыць да лепшых і найбольш каштоўных карпавых рыб. Мяса яе белае, далікатнае, сакавітае і, вэнджанае, мала саступае па вартасці і цане шамаі; у Дняпры яна звычайна цэніцца амаль нароўні з выразубам, а на Нёмане, як сказана, свежы рыбец (каля фунта на кола) прадаецца па 20 капеек за штуку (8 рублёў за пуд). Падчас нерасту адбываецца галоўная лоўля сырцяў: часткай невадамі, часткай плаўнымі сеткамі. У астатні час года яны надта асцярожныя і рэдка трапляюць у сеткі (выключна плаўныя), і толькі ў азёрцах і вусцях рэк, куды яны вяртаюцца, адклаўшы ікру, прытым амаль заўсёды па начах.*

*...Колькасць улову гэтай рыбы (ласось) вызначыць вельмі цяжка за недахопам статыстычных звестак. Ва ўсякім разе, яна не павінна быць значнай. Такім чынам, галоўны ўлоў гэтай, бясспрэчна самай каштоўнай, рыбы (ласось), якая прадаецца на месцы ад 8 рублёў за пуд» (Л.П. Сабанееў).*

Як адзначаў граф Тышкевіч, усё ж рыбалоўства на Віліі як промысел было не гэтак развіта, як на поўдні, на Палессі на Прыпяці, дзе рыбы было непараўнальна больш.

Зрэшты, у плыні апошніх 160 гадоў узаемаадносіны рыбакоў, і тады і цяпер, з гаспадарамі берагоў — тады графамі, панамі і манастырамі, а цяпер падатковымі

органамі райвыканкамаў, інспекцыямі рыбааховы — застаюцца таямніцай. Усе мне знаёмыя старшыні рыбалавецкіх кааператываў на Вілейскім вадасховішчы сцвярджалі, што няма абсалютна ніякага прыбытку ад лоўлі рыбы, няма чым плаціць арэнду і зарплату рыбакам. Магчыма, гадоў гэтак праз сто гэтае пытанне кім-небудзь будзе ўдакладнена, калі здымуць грыф сакрэтнасці са справаздач аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці рыбалавецкіх кааператываў.

Расказвае **В.П. Альфер**, 1956 г.н., Вілейка:

*...Першы рыбалавецкі кааператыў «Залатая рыбка» на Вілейскім вадасховішчы пачаў эксплуатацыю ў 1988 годзе. На дзеда (Астрэліна Пятра Мікалаевіча) апранулі парадны кіцель палкоўніка, навесілі «іканастас» (ордэны), і ён давай з папкай да старшыні райвыканкама «швэндаць». Адмовіць жа цяжка: не проста ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны, а ўдзельнік парада на Чырвонай плошчы 7 лістапада 1941 года, баец славутага спецыяльнага атрада асаблівага прызначэння НКУС СССР, які зрабіў рэйд па Беларусі ў 1941 годзе. І ўсё, так іншаму б ніхто ніякіх дазволаў у высокіх інстанцыях не даў. Калі б не «іканастасы» — нічога б не прабіў. А потым, не гледзячы на першых, і іншыя пачалі прарывацца.*

Улетку 2014 г. у знаёмых вілейскіх рыбакоў можна было ў любы дзень, праўда нелегальна, з рук, у спецыяльна абсталяваным халадзільнікамі памяшканні купіць рыбу: дробязь для юшкі, падлешчыка — па 15 тыс. бел. руб. (0,6 доллара), плотку, акуня па 20 тыс. бел. руб, ляшча каля 1 кг — 25 тыс. бел. руб., буйнога ляшча звыш 2 кг — 30 тыс. бел. руб., шчупака па 40 тыс. бел. руб., судака па 50 тыс. бел. руб. Бутэлька гарэлкі 0,5 л у краме каштавала 50 тыс. бел. руб.

У маі 2016 г. дробязь каштавала 30 тыс. руб., шчупак 60 тыс руб., судак 70 (доллар — 20 тыс. руб.), бутэлька гарэлкі каштавала 60 тыс. руб.

# Частка V.

# ПРА ВІЛЕЙСКАЕ ВАДАСХОВІШЧА

Расказвае **Мікалай Аляксандравіч Шчытнікаў**, 1946 г.н., родам з в. Смальяны Аршанскага раёна. Пасля заканчэння Пінскага гідрамеліяратыўнага тэхнікума і службы ў арміі жыве ў Вілейцы. З 1969 г. — майстар БУ-1 трэста «Вилия Минскводстрой». У канцы будаўніцтва ВМВС — галоўны інжынер ПМК-91, з 1979 да 2009 г. — начальнік цэха гідразбудванняў Вілейскага ўчастка ВМВС у падчыненне якога уваходзіла вадасховішча, 4 помпавыя станцыі на узбярэжжы і 3 на галоўным канале, каналы меліаратыўныя і т.д.(перакладзена з рускай на беларускую):

*…Будаўніцтва Вілейскага вадасховішча пачалося ў 1968 г., а я прыехаў пасля Пінскага гідрамеліяратыўнага тэхнікума і арміі ў Вілейку на будоўлю ў 1969 г. Меркавалася размясціць вадасховішча на рацэ Вілія пры зліцці яе з рэкамі Сэрвач, Ілія, Касутка, за пяць кіламетраў на ўсход ад Вілейкі. Тэрміны здачы ў 1975 г. агаворваліся ў дырэктывах XXIV з'езда КПСС (1970 г.). Спачатку праектам не прадугледжвалася выкарыстанне вады для гаспадарча-пітных мэтаў, не было Крылова. Першая задача была папоўніць раку Свіслач праз Мінскае мора. Узбагаціць Мінскае мора і транзітам павялічыць у пяць разоў паток у Свіслачы і падаць тэхнічную ваду да Мінскіх ЦЭЦ-2, ЦЭЦ-3, ЦЭЦ-4 тады яшчэ не планавалася. Былі тры варыянты вырашэння дадзенай задачы, спыніліся на Віліі. Пасля зацвярджэння выбранага варыянта ў 1964 г. пачалася распрацоўка падрабязнага праекта ВМВС. Гэта было даручана дзяржаўнаму праектнаму інстытуту ДПІ «Укрвадаканалпраект», які меў вялікі вопыт праектавання аналагічных сістэм на Украіне. У Мінску было арганізаванае беларускае аддзяленне гэтага інстытута (у далейшым — Мінскае аддзяленне Саюзвадаканалпраекта). Галоўным інжынерам праекта (ГІП) Генплана Вілейскага водасховішча быў Купчынскі Г.Г., усе недапрацоўкі — на яго сумленні. (Праект ВМВС у 1967 г. быў скончаны і атрымаў поўнае адабрэнне. Тады не было недзяржаўных экалагічных арганізацый тыпу «Экадома», і не было экалагічных праблем, хаця па праблемах сіне-зялёных водарасцяў Кіеўскага мора (вадасховішча) на той жа Украіне была абароненая ўжо не адна дысертацыя. Але не было і грамадскіх слуханняў, не было каму абараніць Вілію.)*

*Толькі калі заканчвалі будаўніцтва, адумаліся, што паўднёвы захад Мінска застаецца без вады, і тады дапрацавалі праект. Ложа Вілейскага вадасховішча не падрыхтаванае з-за пралікаў праектантаў. Праект быў проста няслушным. Уся вартасць збудаванняў сістэмы, згодна з праектам, ацэньвалася ў 40 мільёнаў рублёў, калі рубель быў даражэйшы за долар. А калі праект перагледзелі ў Маскве, то вартасць усёй сістэмы была ацэненая ў 88 мільёнаў рублёў. Калі на работы па ўладкаванні толькі ложа Вілейскага вадасховішча, згодна з аэрафотаздымкай і праектам кіеўскіх праекціроўшчыкаў, каштавалі 400 тысяч, то пры пераглядзе нашымі, мінскімі праекціроўшчыкамі ўжо аказалася, што трэба было выканаць работ на 10 мільёнаў! Але выдзелілі толькі 5 мільёнаў, масквічы «абціснулі», і*

*то гэта больш, чым у дванаццаць разоў у параўнанні з першапачатковым варыянтам. Хаця па справядлівасці для мерапрыемстваў па падрыхтоўцы ложа па мінімуму патрэбна было ў 25 разоў больш сродкаў, але і за гэтае разуменне дзякуй Маскве. Украінцы, кіяўляне, што распрацоўвалі праект, паставіліся абыякава. Зусім не ўлічылі неабходнасць правядзення работ па раскарчоўцы, выдаленні лесу, па вывазе вярховых тарфянікаў, толькі запраектавалі выдаленне нізавых тарфянікаў. Не быў улічаны і шэраг іншых праблем, што ўплываюць на якасць вады ў будучым вадасховішчы. Не запраектавалі рыбаход. Пачалі мы будаваць і ўбачылі масу недапрацовак. Звярнуліся ў Маскву, прасіць хаця б па мінімуме звярстаць гэтую ўнікальную сістэму. У Маскве па просьбе беларусаў, якія не мелі вопыту будаўніцтва плацінаў, перагледзелі і перазацвердзілі на чацвёрты год будаўніцтва. На жаль, не паспелі яго поўнасцю выканаць: тэрміны падціскалі.*

Апавядае **В.А. Кульбацкі**, начальнік вадасховішча Вілейскага ўчастка ВМВС, зам начальніка цэха гідразбудванняў ў 1974–2012 гг. (перакладзена з рускай на беларускую):

*…Адна клетка сіне-зялёных водарасцяў дае патомства адну ў дваццатай ступені. Я рэферат абараняў. Ужо ў 1978 годзе першы раз масава задыхнулася рыба. Вадасховішча зацвіло, калі было ціха-ціха, вецер не перамешваў ваду. Рыба ў Чыжэвіцкай затоцы паднялася наверх. У Касуце шмат рыбы памерла. Паздыхала. Было і потым некалькі меншых мораў рыбы летам, у спёку. Першымі гінулі акунь і судак. Па Віліі, адразу за вадаскідам, таксама суцэльным патокам ішла пена вышынёй сантыметраў трыццаць.*

Таксама ў выбары будаўніцтва воднай сістэмы і вадасховішча менавіта на Віліі не апошнюю ролю адыграла прыгожая камуністычная ідэя перакіду вады з басейнаў рэк паўночных мораў у басейны рэк паўднёвых мораў з мэтай знішчэння прыроднай супярэчнасці для ўсёй абжытай тэрыторыі СССР: на поўдні краіны — вялікая колькасць цяпла, сонечных дзён, высокая ўрадлівасць земляў і востры дэфіцыт вады, на поўначы — недахоп цяпла і лішак водных рэсурсаў. І Вілія была першай даследчайракой, першым пробным каменем бальшавіцкай утопіі з трансканэнінтальным перакідам вады .

…Праектам было праведзенае эканамічнае абгрунтаванне паступлення вады з Віліі ў буйныя арашальныя каналы поўдня Украіны (Паўночна-Крымскі, Кахоўскі і інш.). Па падліках выходзіла, што ў прыродна-гаспадарчых умовах поўдня Украіны 1 м3 вады прыносіць чысты прыбытак у памеры не менш трох капеек. Улічваючы, што агульная колькасць перакачваемай вілейскай вады складае 200-400 млн м$^3$ штогод, па гэтым фактары ад эксплуатацыі ВМВС атрымліваўся прыбытак, які вымяраўся мільёнамі рублёў у год (у тыя, 70-я, гады рубель быў даражэйшы за долар у 1,5 разы). Фактычна за дзесяць гадоў эксплуатацыі ВМВС з Віліі ў Днепр праз Свіслач было перакінута каля 2,0 млрд м$^3$ вады. Затрачваемая на перакачку вады з Віліі электраэнергія ў маштабах аб'яднанай энергетычнай сістэмы еўрапейскай тэрыторыі СССР поўнасцю аднаўлялася на каскадзе гідраэлектрастанцый у басейне Дняпра. Іншымі словамі, для СССР у цэлым падача вады да Мінска абыходзілася практычна бясплатна (такім чынам, у бакале духмянага крымскага віна, напоўненага сонцам, ёсць

кропелька слязы-гаркавасці, экспрапрыяванай у нашай Віліі для арашэння вінаграднікаў).

Праектам будаўніцтва ВМВС так дэкларавaўся яшчэ адзін добры намер у комплексным вырашэнні пытанняў міжрэспубліканскага будаўніцтва. Прадугледжвалася, што Вілейска-Мінская водная сістэма адыграе важную ролю ў павышэнні гарантаванага (практычна незалежна ад умоваў надвор'я) водазабеспячэння Вільнюса, сталіцы Літоўскай ССР. Ваганні воднасці Віліі (Нярыса) у натуральных умовах часам (гады ў рады) прыводзілі да падзення яе расходаў у сталіцы Літвы летам да 47 і зімой да 40 м3/с, у выніку чаго ўскладнялася праца гарадскіх водазабораў. Таму падчас праектавання сістэмы былі прынятыя меры для паляпшэння водазабеспячэння Вільнюса. З гэтай мэтай скіданне вады ў ніжні б'еф Вілейскага вадасховішча прадугледжаны ў такім аб'ёме і рэжыме, каб расходы Віліі каля Вільнюса ў малаводныя гады, як правіла, былі ўлетку не ніжэй за 51,5 м3/с, а ўзімку — не ніжэй за 45 м3/с, г.зн. адпаведна на 4,5–5,0 м3/с пераўзыходзілі натуральныя расходы ракі. Такім хітрамудрым спосабам былі прадухіленыя, скажам шчыра, малаверагодныя на той момант, але магчымыя пратэсты больш пасіянарных літоўцаў па экалагічнай абароне ракі.

Цікава, што на будаўніцтве ВМВС у Вілейцы нават працаваў студэнцкі будатрад з Літвы. Хлопцы ў будатрадаўскай форме карысталіся велізарнай любоўю ў мясцовых дзяўчат і, адпаведна, выклікалі такую ж антыпатыю ў юнакоў. Памятаю незабыўныя высвятленні адносінаў і, нягледзячы на прафілактычную працу міліцыі, штодзённыя групавыя бойкі на танцпляцоўцы ў парку.) Таксама мэтай будаўніцтва ВМВС (па некаторых дадзеных, быў таксама і атамны праект) было будаўніцтва першай беларускай АЭС у Рудзенску (любая АЭС ці ЦЭЦ патрабуе шмат вады для сілкавання сістэмы ахаладжэння), для якой меркавалася падвесці ваду ад малаводнай Свіслачы. Замоўцам ВМВС выступала Міністэрства энергетыкі. Злыя языкі сцвярджалі, што сапраўдным замоўцам будаўніцтва было Мінабароны (балбаталі пра нейкі водны экран для лазернай зброі і іншыя фантастычна-ваенныя сакрэтныя праекты).

**Апавядае Мікалай Аляксандравіч Шчытнікаў:**

*…Начальнікам участка быў Лузік. Кіраваў трэстам Голад, у Мінску. Голад і прыслаў сюды, у Вілейку, Лузіка — беспартыйнага, разваднога. Затым стварылі БУ-1, якое і ўзначаліў Васіль Канстанцінавіч Лузік. Спачатку партыйныя органы не ўмешваліся, толькі назіралі за настроямі ў калектыве будаўнікоў. А калі падышлі тэрміны здачы, а ў раёне Беражка ўвогуле яшчэ не было канала, трэцяя станцыя была пад сумненнем, тут ужо Вілейскім вадасховішчам заняўся сам Машэраў. Прыехаў, паглядзеў. У раёне Свіслачы стаялі экскаватары — ён падышоў да іх, у гумовых ботах, без гальштука, а яны проста сядзелі. Спытаў: «Чаму сядзім?» Яму ў адказ: «А ты хто такі?» Ледзь не на хрэн паслалі! Машэраў захаваў спакой, не прадставіўся, у палеміку не ўступіў і проста паехаў. Але пасля наведвання будоўлі зрабіў высновы: выклікаў міністра, Паўлючук такі. Выклікаў і сказаў: вось так, або дырэктыва XXIV з'езда КПСС, або пасады міністра пазбаўляю, адно з двух. Міністр тады нас усіх у катлаван загнаў на другой станцыі і гаворыць: «Пакуль*

*мяне прыбяруць, я вас папрыбіраю. Але не толькі папрыбіраю, але і перасаджаю. Садзіць за што, знойдзецца» (на любой будоўлі кралі, а на такой маштабнай — і пагатоў). Канешне, у той час «напёрлі» людзей з усёй Беларусі. А будаўніка заўсёды пасадзіць было, што плюнуць.*

*Лузік да таго часу быў ужо замначальніка трэста па эканоміцы. Прыехаў да мяне, а рабочыя бачаць, што канец будоўлі, і сталі паціху сабатаваць. Не працавалі, тлумачылі, што зламалася. Прыедзем на самы цяжкі ўчастак, а ўсе экскаватары стаяць «зламаныя». Як прыехаў Лузік, паклікаў усіх і кажа: «Зробім акорд на 40 працэнтаў даплаты, калі заданне выканаў у тэрмін, і, акрамя таго, гэтыя экскаватары, што злева, калі прыдуць першымі— па скрыні гарэлкі кожнаму экскаватаршчыку, а тым, што справа, калі ж прыдуць першымі — кожнаму памочніку экскаватаршчыка таксама па скрыні, але пасля заканчэння». І праца закіпела амаль кругласутачна. Памочнікі экскаватаршчыкаў так запрагліся, што сядзелі за рычагамі больш, чым самі экскаватаршчыкі.*

*…Да будаўніцтва вадасховішча рыбнагляду ў Вілейцы не было, кантралявалі маладзечанцы, быў такі Калашнікаў. Прыязджалі наездамі, але распраўляліся жорстка. Першым вілейскім рыбнаглядчыкам стаў Крот. Ён уступіў у канфлікт з браканьерамі і нават зрабіў папераджальны стрэл з пісталета (потым хадзілі байкі, што застрэліў чалавека).*

*…Самая смачная рыба на вадасховішчы — судак, шчупак і мянтуз. Судак — гэта царская рыба.*

Найбольшага піку колькасці рыбы ў вадасховішчы дасягала ў першыя тры гады. А ў 1981–1985 гг. здараліся ўлетку моры рыбы з-за буйнога цвіцення сіне-зялёных водарасцяў і недахопу распушчанага кіслароду. Берагі былі ўсеяныя акунём, ляшчом, судаком, што раскладаўся. У 1974 г. у неверагодных колькасцях браўся шчупак на дарожку, да лодак з маторам (дазвол на матор мелі толькі цэх гідразбудаванняў і выратавальная станцыя), нават узнікла чарга з паважаных раённых начальнікаў. Лавілася на дарожку з адной лодкі не менш за 15–20 шчупакоў у гадзіну.

Жыхары прыбярэжных вёсак ля вадасховішча і Вілейкі самай смачнай рыбай лічаць судака. Ён, ва ўсякім выпадку для сталічных правяральнікаў, па праве лічыцца візітнай карткай Вілейкі, як вугор для Мядзела і Браслава. Старшыня Вілейскага райвыканкама Іван Мечыслававіч Шнітоўскі (1996–2001) прызнаўся ў адной з асабістых размоваў у 2001 г., што быў настолькі стомлены просьбамі вышэйстаячых сталічных чыноўнікаў аб прадастаўленні прэзентаў судакамі на юбілеі, семінары, пасяджэнні, што нават сапраўды патрэбнаму яму чалавеку (напрыклад, урачу) лягчэй было вырашыць пытанне купіць у калхозе па дзяшоўцы на вяселле кабана, чым прызенаваць, бясплатна пару прыгожых судакоў. Чамусьці грошы за рыбу начальнікі не прапаноўвалі-лічылі што выдаткаў на гадоўлю не мелася, злавіў і ўсё. Пад канец кар’еры ў вертыкальшчыка слова «судак» выклікала алергію. Начальніка Вілейскай ДАІ Рыгора Іванавіча Глускіна ў 1980–2010 гг. у калідорах Міністэрства ўнутраных справаў ведалі практычна ўсе, жартаўліва называючы яго не інакш як Судак Іванавіч. Іван Іосіфавіч Карповіч, які 14 гадоў узначальваў Вілейскі ГРАУС (1971–1985), а затым

АУС Мінаблвыканкама, напэўна, з мэтай здавальнення запытаў і апетытаў вышэйшага начальства, якое мела патрэбу ў рыбных хвастах, нават быў вымушаны пасля стварэння Вілейскага мора паслаць з ДАІ на курацыю прасёлкавых дарог і нават сцяжынак у прыбярэжнай паласе вадасховішча асобнага надзейнага супрацоўніка — Косцю Маркоўскага. Косця «Шкіпер», здавалася, кругласутачна раз’язджаў на матацыкле вакол вадаёма. Акрамя матацыкла з каляскай, у яго на аснашчэнні быў нават кацер. Кантроль на сушы і на моры даў свой плён. Неўзабаве браканьеры пачалі моцна паважаць Косцю, стараючыся з ім пасябраваць, і гатовыя былі выканаць любыя дробныя просьбы і даручэнні. Косця не шкурнічаў, і цяпер яго ўзгадваюць добрым словам.

Але найбольшая колькасць рыбы, напэўна, здабывалася супрацоўнікамі Мінскага спецбатальёна аховы на вадаскідзе, бо частка дамбы-плаціны, што прымыкала да галаўнога гідратэхнічнага збудавання з трыма затворамі, якія рэгулявалі скіданне вады ў Вілію, мела ў перыяд СССР статус асаблівага стратэгічнага аб’екта рэспубліканскага значэння. Гэты ўчастак плаціны стрымліваў навіслую над Вілейкай велізарную масу вады, якая ў выпадку дыверсіі магла знесці горад. Перад развалам СССР аб’ект быў перададзены пад пазаведамасную ахову ГРАУС. На падходах былі выстаўленыя пасты ўзброенай аховы, забяспечаны прапускны рэжым, усталяваныя шлагбаўмы. З двух бакоў на дамбе, што вядзе да затвораў галаўнога гідратэхнічнага збудавання, адчужаная вялізная тэрыторыя, якая прыстае да варонкі размыву і гідравузла з сушы і абгароджаная калючым дротам пасля здачы ВМВС у эксплуатацыю ў 1976 г.

Міліцыянеры пад камандаваннем капітана М.Н. Шарыгіна забаранілі падыходзіць да ракі ніжэй вадаскіду як з правага (з боку Вілейкі), так і з левага берага Віліі нават хлапчукам-рыбаловам. Зразумела, што пабочныя вочы і вушы былі ім не патрэбныя. Гэта было самае элітнае падраздзяленне міліцыі, яго супрацоўнікаў віляйчане празвалі «бабры». Пад спецаховай аказаўся невялікі, але самы рыбны і «ўловісты» ўчастак Віліі, а, магчыма, і ўсёй Беларусі. Ніхто з супрацоўнікаў спецаховы ніколі нічога не казаў пра рыбалку, не хваліўся здабытымі трафеямі: гэта была закрытая тэма. Але ўсё ж рыбай дзяліліся з раднёй, сябрамі, рэвізорамі, вышэйшым начальствам з Мінска. Пасля выхаду ў адстаўку (на пенсію) многія «бабры» і супрацоўнікі РАУС не маглі адмовіцца ад здабычы рыбы і ўзначальвалі брыгады, станавіліся членамі рыбалавецкіх кааператываў, якія дзейнічалі на Вілейскім вадасховішчы і нават фактычна узначалілі тры з такіх кааператываў.

Першымі трыма начальнікамі рыбнагляду з’яўляліся былыя супрацоўнікі МУС: Аляксандр Крот, Пётр Астрэлін, Анатоль Данільчык, — як гаворыцца, крумкач крумкачу… Першы вілейскі інспектар рыбнагляду Аляксандр Крот быў чалавек слабахарактарны. Ходзяць байкі, што не заўсёды мог устаяць перад пачастункам, любіў добрую юшку і гарэлачку і быў пару разоў злоўлены «на гарачым», у нецвярозым стане, супрацоўнікамі РАУС, якія «паслі» яго і некалькі разоў проста забіралі ў яго наган, каб зброя не была банальна згубленая. Пра

справу не апавяшчалі, пратаколаў не афармлялі. І даводзілася інспектару рыбнагляду ісці на паклон да сваіх былых калегаў, прасіць, каб вярнулі табельную зброю, якая лічыцца на ім. Як той казаў, кіпцюрок ушчаміўся.

Мне і некалькім маім аднакласнікам пашчасціла ў 1974 і 1975 гадах і нават вясной 1976-га лавіць вудай з катушкай і спінінгам на гэтым участку Віліі ніжэй вадаскіду, пакуль ВМВС не была здадзеная афіцыйна ў эксплуатацыю. Не было штату аховы, не паспелі ўсталяваць агароджу з калючага дроту, а галаўны гідравузел ужо дзейнічаў. Засталіся самыя незабыўныя ўражанні. Тады дазвалялася лавіць вудай на адзін кручок з берага з 1 мая. Асабліва цікава было закідваць снасць зверху, з высокіх бетонных адкосаў прыёмнага канала (хуткацёку) адразу за прыадчыненымі затворамі і ў віры бурлівага пеністага патоку, адразу за вадабоем, на якім адбывалася гашэнне асноўнай часткі лішкавай кінетычнай энергіі патоку вады.

У вірах паплавок прыктычна немагчыма разгледзець, паклёўка вызначалася толькі па рыўку лескі, пасля чаго ішла рэзкая падсечка, і калі вытрымліваў кручок (бывалі выпадкі, калі кручок рыба выпроствала ў струну, а гартаваны проста ламаўся), то можна было рыбіну выцягнуць да паверхні, даць глынуць паветра і нават паспрабаваць падымаць на сцяну. Вышыня вертыкальных бетонных сцен прыёмнага канала (латака) была метраў шэсць-сем, і немагчыма было выкарыстоўваць падхватнік. За час, пакуль выбіралася лёска, рыба апамятвалася, пачынала трапятацца і зрывалася. Упершыню ў жыцці ўсе хлопцы малілі Бога, каб узялася рыба паменш, якую б удалося падняць.

У красавіку-траўні васьмідзесятых гадоў толькі пабываць на вадаскідзе было цікава, і без вуды, каб з высокіх бетонных берагоў прыёмнага канала зверху паназіраць, наколькі вялізныя вядуцца ў нас ляшчы, сазаны, жэрахі. Сам асабіста бачыў экзэмпляры на поўны размах рук. Метраў праз сто ад затвораў вадаскіду, калі рака вырывалася з высокіх бетонных адкосаў бетоннага латака, канала шырынёй каля 50 м, у кампенсацыйную варонку размыву — яна адразу пашыралася да 100 м, запавольваючы імклівы бег. Менавіта тут, у кампенсацыйнай варонцы (варонцы размыву), глыбіня якой даходзіла да васьмі метраў, дно якой спецыяльна выслана каменем і шчэбенем, каб супрацьстаяць размыву рэчышча ракі, знаходзілася самае ласае месца для лоўлі шчупакоў і судакоў, акунёў і іншай буйной рыбы. У гэтым месцы рыба, гнаная інстынктам на нераст з вярхоўя ракі, масава збіралася перад вадаскідам. Стомленая змагацца з непераадольным вадаспадам, у асобныя дні нерасту яна стаяла ў вусця канала вадаскіду суцэльным, наколькі можна было ўбачыць, слоем, спіна да спіны, і тады падцягваўся шчупак у неверагодных колькасцях — і пачынаўся жор. Адбывалася гэта ўвесну, 3–5 траўня.

Лавілі шчупакоў на жыўца, закідваючы снасць спінінгам, аснашчаным коўзкім паплаўком. А са жніўня да самага ледаставу пачынаўся жор судака. Больш за хвіліну чакаць, пакуль возьмецца рыба, не даводзілася. Пасля таго, як паплавок ішоў «у дно», трэба было падсякаць не пазней 5 секунд, інакш шчупак заглынаў і

павадок, перакусваючы лёску. Каб так бралася рыба, я не бачыў больш нідзе, і не толькі ў Беларусі (хаця ў мяне вельмі добра бралася рыба ў канцы 70-х — да пачатку90-хна Прыпяці і яе прытоках Смердзі, Убарці, Сцвізе, Гарыні, на Дняпры ў раёне Верхняй Альбы іМагіеве у Падніколле, на р. Дрывятцы ля Браслава, глыбоцкіх азёрах, на Сожы вышэй Гомеля, на Нёмане ў раёне Мікалаеўшчыны, Шчорсаў); але пакуль існаваў СССР і танныя білеты то і ў Карэліі на Воньзе і Энг-возеры, і на р.Тутацы на Вепсаўскім узвышшы, і на р.Кызыл-Ункур Заходняга Тянь-Шаня у Кіргізіі, і на р. Прут в Карпатах і на р. Бзыбь на Западным Каўказе, і на Белым (Кандалакшкая і Чупская губа), Азоўскім (Арабатская стрэлка), Чорным (Хоста) марах, і на Кулікалонскіх азёрах у Фанскіх гарах.Трохі было з чым параўнаць.

Па сведчанні **М.А. Шчытнікава**, судак на вадаскідзе, а менавіта ў варонцы размыву, выдатна лавіўся пачынаючы са жніўня да самага Новага года. Доўжылася гэтая раскошная рыбалка гадоў дзесяць, да сярэдзіны 80-х. Для некаторых супрацоўнікаў ВМВС, рыбнагляду і іншых службаў на простай друкаванай машынцы набіраўся па пэўнай форме пропуск і падпісваўся начальнікам Вілейскага ўчастка ВМВС. Міліцыянеры моўчкі адкрывалі шлагбаўм і прапускалі машыну: для тых, хто быў у машыне, пропуск не быў патрэбны. Нават для важных гасцей з Мінска неабходны быў суправаджальнік з пропускам. Знікненне рыбы на вадаскідзе супала з пачаткам устаноўкі земснарада для ўвасаблення ідэі намыву для будаўніцтва жылога мікрараёна Вілейкі на левым беразе Віліі. Земснарад моцна заіліў рэчышча Віліі, былі замытыя апошнія глыбокія ямы, навае рэчышча і Вілія вымушана была пракласці сабе іншы, не прадугледжаны праектам шлях, ізноў па старарэччы.

Пасля ўстаноўкі ў 1998 і 2002 гг. на вадаскідзе дзвюх гідратурбін электрастанцыі патокі вады змяніліся. Непасрэдна праз затвор шлюза вада практычна не скідваецца, а накіроўваецца на гідратурбіны, выходзячы крыху ніжэй шлюзаў асноўнага гідразбудавання. Са словаў знаёмых працаўнікоў цэха гідразбудаванняў і гідрастанцыі, рыбы цяпер у варонцы размыву амаль няма. Даводзіцца верыць на слова, бо забароненая зона з агароджай з калючым дротам усё яшчэ маецца, і пабочных да Віліі ў гэтым месцы не падпускаюць.

**Апавядае М.А. Шчытнікаў:**

*…Пасля затвора зроблены жалезабетонны скід. Для гашэння патоку ўсталяваныя таксама адбойнікі і варонка размыву. Пасля будаўніцтва ГЭС патокі з турбінаў таксама пусцілі ў гэтую варонку размыву. Памятаю, прыязджалі з ЦК. Дык яны лавілі там «акушкоў». У варонцы ўсё «акушкоў» шукалі і лавілі на мармышку або на матыля. Лавілі з лодкі. Варонка ніколі не замярзала, хіба толькі пры мінус трыццаці. А так лавілі па адкрытай вадзе, там лодка Кульбацкага стаяла. Яны якарыліся, і ў гэтых пазухах лавілі «акушка». (Па сведчанні сяброў, з гэтай лодкі, што мелася на вадаскідзе, у асноўным лавілі судакоў вялікім пад'ёмнікам, аснашчаным трайной сеткай, накшталт трыгубіцы).*

*Мясцоваму начальству не было часу на рыбалку, таму з просьбамі суправадзіць у забароненую зону не даймалі. Толькі Гавета любіў і не баяўся сеткі (другі сакратар*

*Вілейскага гаркама КПБ). Булгак (першы сакратар Вілейскага гаркама КПБ у 1974–78 гг., сакратар Белсаўпрофа) на рыбалку не ездзіў, не было яму за працай часу, і галоўнае — не рыбак, яму нецікава. І Каратчэня (першы сакратар Вілейскага гаркама КПБ у 1984–90 гг., выканаўчы сакратар СНД) сам па сабе на рыбалку не ездзіў, але вымушаны быў суправаджаць, калі прыязджалі высокапастаўленыя асобы. Трэба было сустракаць, частаваць, арганізоўваць.*

*Даводзілася і мне з ім суправаджаць гэтых гасцей. Вадзіцеля спецыяльна пакідалі ў нас на базе, а мяне — за руль. І ў кампанію, як ні адмаўляўся, усё роўна налівалі. Каратчэня казаў: «Пі, мы табе лішняга не дамо». Няма чаго граху таіць, прыязджалі з абкама, з ЦК. Вадзіцелі сядаюць у адно месца, выпіваюць, мы — у іншае і таксама выпіваем. Вадзіцелі пілі ледзь не па бутэльцы. І едуць, ні фіга. Бутэльку закладзе — і едзе. І яшчэ хуткасць немалая. Спынілася ўсё з прыходам Лукашэнкі, у 90-я. Тады я дачу займеў. А так ніколі ў суботу-нядзелю мяне дома не было. У святы таксама ніколі. Яны таксама так, як гэты прыязджаў, Аляксандрр Кузьмін, сакратар ЦК па ідэялогіі. Ён прыязджаў часта. А астатнія, паменш, прыязджалі там з ЦК. Ну, здаецца, так праз два-тры тыдні. У цэлым на працягу года — дык кожны тыдзень хтосьці прыязджаў. Узімку нават часцей. Выхадных не было, як выхадны — значыць, рыбалка. Карацей кажучы, выхадных не было.*

*Не сказаць, што трэба было іх моцна паіць і карміць, яны самі ўсё прывозілі з сабой. Галоўнае ім было самім рыбу злавіць, паспяхова парыбачыць. Ну, улетку — юшку само сабой, а ўзімку — лазню на беразе вадасховішча. Запомніліся два выпадкі. Адзін мне спадабаўся. Прыязджаў на рыбалку генерал-лейтэнант, начальнік тылу акругі. Машына ў яго тады была абсталяваная лепш за ўсе сучасныя лімузіны. Усё на кнопках: націснуў — цык! — табе бар адчыўніўся, другую націснуў — цык! — чарачкі, трэцюю — цык! — талерачкі. І так да запасных лёсак і кручкоў з грузіламі. Думаў, раззнаёмлюся, можа, з запчасткамі да машыны дапаможа, дамовімся. Дык яго ў Маскву забралі. Пасядзелі, каньячку папілі, ён прыязджаў разам з Кузьміным. А адзін раз прывёз Рудакоўскі (першы сакратар Вілейскага гаркама КПБ у 1965–73 гг., з 1974 г. — нязменны памочнік першых сакратароў ЦК КПБ) інструктара ЦК КПСС з Масквы. Відаць, вельмі важнае пытанне трэба было вырашыць. Апранулі яго ў касцюм дэсантніка, генеральскі. Цёплы такі, тады ўжо тэрмабялізну нашы ўмелі рабіць круцей за НАТА усякае. Гэта быў ужо пажылы чалавек з хворай печанню, піць яму было нельга. Але тут на рыбалцы ў яго так добра бралася рыба, як па замове: лункі ж прыкормленыя былі, дык ён пачаў садзіць і на ільдзе, і ў лазні, што на беразе вадасховішча была ў марской частцы РФ. Яго паілі так, што мне аж нязручна было. Начаваў у мяне на базе, у спецыяльнай гасцініцы. Карацей, два дні парыбачыў — як схапіла печань, тыдзень у Мінску ў лечкамісіі кропельніцамі адкачвалі.*

*Земснарад пачалі рабіць пры Курмысе, той быў ужо намеснікам старшыні. Гэта быў год 85-86-ы. Перад Гарбачовым. Потым, пад 90-ы, праблем з зямлёй не стала, і ідэю намыву закінулі. Грошай шмат выкінулі, такі басейн выкапалі. І тады рыбы не стала. Бо навошта рыбе ісці ў варонку на гідравузел, калі яна пайшла ў гэтую яму? А да гэтага рыбы было навалам, судака, шчупака. А цяпер рэдка, калі толькі пачынаецца скіданне ўжо праз затвор, тады яна падымаецца, і нешта ловіцца. Калі ж затвор зачынены, і скіданне ідзе праз ГЭС, то рыбы на гідравузле няма. Літаральна абрэзала.*

*А была цудоўная рыбалка. Варонка абгароджаная калючым дротам. Першыя два гады не было рашэння аб ахове, яго трэба было прымаць на ўзроўні Саўміна. Тут далі роту ад батальёна аховы пры «Мінскводаканале». Было шмат аб'ектаў пітнога прызначэння, якія мелі стратэгічную важнасць. Не дай Бог, хто атруціць! Ротай камандаваў капітан Міхаіл Мікалаевіч Шарыгін. Потым, дзесьці ў 85-м, вырашылі Твярдоўскаму аддаць. Палічылі, што гэта больш мэтазгодна ў аператыўным плане. Пакуль батальён з Мінска, а тут усё на месцы. Там жа прарабская стаяла. Я прыйшоў у 79-м годзе. Чорт яго ведае, што там рабілася! МУС усё вышэйшае збіралася. Прарабская лічылася яго прыналежнасцю, там у яго зброя захоўвалася, і ўсё. Неафіцыйна будаўнікі гэты домік перадалі эксплуатацыйнікам, думалі там бытоўкі зрабіць, але давялося перадаць ахове. І нічога не зробіш, паспрабуй паскардзіцца, потым табе следства з падставамі зладзяць.*

*А іх туды наязджала, каго толькі там не было пад гэтай маркай! Як у тэатр Оперы и Балету на 4 сакавіка. І ўсе яны там начавалі. Як выхадныя дні — дык тут, як на міліцэйскім парадзе, да гідравузла нам падысці нельга было. Домік гэты ўнізе стаў, там, дзе ГЭС цяпер. Як толькі мы зрабілі ГЭС, кажу: што будзем рабіць з гэтым домікам? Пра гэтую справу ўжо Герасімёнак ведаў. Вырашылі — хуценька яго зносіць, на працягу двух дзён, пакуль яны не агледзеліся. Тут здача аб'екта, па праекце ніякай каманды МУС няма. Калі б сказалі «Не чапайце» — а так, справа была перад выхаднымі. Я кажу: «Хлопцы, вашая задача — знесці. Па два дні адгулу даю. Каб да панядзелка яго не было». І імгненна разабралі, нават адгулаў не прасілі, так усім надакучылі гэтыя міліцэйскія начальнікі. Пры іх жа нашы рыбу не маглі лавіць. Потым, калі аб'ект ГЭС здалі, рабочыя сышлі, былі разборкі, але дома ўжо не было. І ўсё — спыніліся пасля гэтага заезды высокапастаўленага МУС. Скончылася лафа.*

**Уладзімір Ігнацьевіч Кульбацкі**, начальнік вадасховішча Вілейскага ўчастка ВМВС ў 1974–2012 гг., замначальніка цэха гідразбудаванняў, родам з г. Белагорска (Далёкі Усход):

*…Першым начальнікам Вілейскага цэха гідразбудаванняў быў Жабінец Мікіта Піменавіч. Ён быў з Украіны. Пры ім тады працавалі Целеш (галоўным інжынерам), Перасунька і я, начальнік вадасховішча. Затым яго год замяшчаў Целеш, а потым стаў Шчытнікаў. На вадасховішчы я апошні з магіканаў. Пачынаў будаваць Вілейскае вадасховішча ў 1972 г., займаўся водапаніжэннем — рабіў яго на другой помпавай. А ў 1974 г. перайшоў непасрэдна на працу на вадасховішча. У 74-м перакрылі Вілію, год вадасховішча запаўнялася вадой, у рэчышча Віліі ваду пускалі праз донныя галерэі. Цяпер на іх ГЭС стаяць. Каб пусціць праз затвор, трэба было падняць узровень вады на шэсць метраў.*

*У 75-м — афіцыйны пуск вадасховішча, у 76-м — прынятая ў эксплуатацыю і запушчаная ўся Вілейска-Мінская водная сістэма. У вілейскім цэху працавала тады чалавек сорак, цяпер — каля 100–115. Раней, да перакрыцця, улетку мінімальны расход быў 40 кубоў у секунду ў Віліі. Цяпер — 16. У першы час перад затворам (галаўнога гідратэхнічнага збудавання) рыба добра лавілася падчас падлёднай лоўлі. Там, дзе абсталяванае выдзяленне, ложа водазаборніка. Там любіў лавіць Лёша Янкоўскі. Акуні добра лавіліся. Цяпер рыбы там няма ўвогуле, рыбакі сядзяць на ільдзе паводдаль. Вада са*

*дна ідзе і на ГЭС сыходзіць. Таму і рыбы мала. Улетку халодная вада ідзе, а рыбе цёплая патрэбная.*

*Пакуль не вызначыліся са штатам спецбатальёна аховы, галаўное збудаванне ахоўваў міліцыянер Пеця Дуровіч. Працаваў пад дэвізам «Канкурэнтаў прыбіраць трэба». Ён быў тады на грамадзянцы, без формы. Затым служыў у міліцыі ў Шарыгіна і Твярдоўскага, старшыной, потым стаў камандзірам узвода, у адстаўку выйшаў старшым лейтэнантам. Грошы міліцыянеры дагэтуль атрымліваюць ад «Мінскводаканала». Пазней ён узначаліў рыбны кааператыў Касоўскага. Праз яго рукі прайшло шмат рыбы, але як прыходзіла — так і сыходзіла. Ён не крыхабор, як некаторыя, не рабіў бізнес, палацаў не панабудаваў. Акрамя Шчытнікава, і я часта вазіў на вадаскід дэлегацыі. Адказваў за іх. Прапускала міліцыя толькі тых, хто меў пропуск. Ну, і сваіх, міліцыянераў, канешне.*

*Узначальваў «Мінскводаканал» Шыкун. А калі пайшлі свабодныя выбары, выбралі Герасімёнка. Ён даўжэй за ўсіх працаваў, 20 гадоў. Пасля яго прыйшоў нейкі зануда, які працаваў да гэтага ў тралейбусным парку. Пры ім усе спецыялісты пасыходзілі. Быў такі Мароз, спецыяліст па агульных пытаннях, па будаўніцтве, і то вымушаны быў сысці. А калі ўсіх разагнаў — і самому не працягнулі кантракт. Панакупіў матораў японскіх, квадрацыклаў. Толькі лётаў туды-сюды па вадасховішчы. Лазню зрабіў на левабярэжжы. І — не працягнулі кантракт. Людзі пачалі пісаць. Крыўдзіў многіх. Нават прыбіральшчыц пазбаўляў 50 працэнтаў прэміі. За што, пра што?*

*Цяпер на вадаскідзе пастаянна знаходзіцца рыбнагляд. Лавіць вельмі небяспечна, і рыбы ўжо няма. Раней было прасцей. На вадаскідзе я неяк жэраха на спінінг злавіў на вялікую жоўтую блешню. На тры кілаграмы. А тут Маліжонак, нябожчык, як раз быў прыехаў. Вядро юшкі з жэраха зварылі, ёлкі. А два гады таму адзін сышоў, а другі абарваў блешню. Як ударыў — ні блешні, ні яго. Вяртушку па версе пусціў, па струмені якраз на ГЭСе.*

У 2007 годзе падчас сплаву па Віліі ў складзе Міжнароднай беларуска-літоўскай экспедыцыі «Вілія-Нярыс» у гонар 150-годдзя экспедыцыі графа Канстанціна Тышкевіча я са здзіўленнем даведаўся ад майго прыяцеля з Каўнаса Андрэаса Васіляўскаса, што яго ўлюбёным месцам лоўлі судака і цырты з'яўляецца месца ля вадаскіда Каўнаскага вадасховішча, і што літоўская міліцыя, якая ахоўвае плаціну і вадаскід, не праганяе рыбакоў: гэта справа рыбнагляду. У той жа час рыбу на адлегласці 500 метраў ад плаціны лавіць нельга, пра гэта маюцца аб'явы. Але агароджы з калючага дроту не існуе. Многія рызыкуюць. Рыбнагляд пастаянна ловіць браканьераў і публікуе іх фотаздымкі на спецыяльным сайце. Вілейскі рыбнагляд (потым Маладзечанская інспекцыя аховы жывёльнага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, цяпер Мядзельская) таксама лавіў і ловіць браканьераў-сетачнікаў на Вілейскім вадасховішчы, на Віліі, пра што маецца шмат публікацый у прэсе. Пільнуе цяпер рыбнагляд і вадаскід.

Калі жыхары берагоў ля вытокаў Віліі лічаць, што раку ў 60-я згубіла меліярацыя, калі частка яе была каналізаваная, то ніжэй Вілейкі сяляне лічаць чорнай экалагічнай датай для Вілейскага вадасховішча 8 верасня 1973 г. і прымяркоўваюць яе да часу перакрыцця Віліі. Гэтая падзея адбывалася ва

ўрачыстай абстаноўцы. Мне давялося ўдзельнічаць у свяце адкрыцця — адмянілі заняткі, наш клас для забеспячэння масавасці быў адпраўлены на мітынг. Спачатку хлопцы церліся каля «Чайкі»” Пятра Машэрава, на заклад стараючыся пранікнуць у салон. А калі ўдасца, то і праехацца, нават без дазволу- ну ні дарма ж мы вывучалі “аўтадзела” у СШ№3. Машэраў у сваім сцілі прыпаркаваў аўтамабіль ля людзей. Хаця мог бы і нават павінен быў праехаць крыху далей , праз створ на падрыхтаваную для усяго начальства і ганаровых госцей ахоўваемаю пляцоўку галаўнога гідразбудавання, на будычым левым берагу Вяллі. Потым нас па просьбе вопытнага асабістага вадзіцеля мінты ўсёж адагналі ад “Чайкі” на належнае месца, да дзяўчат: на бетаніраванае дно ложа, будучага русла перад затворам, з боку вадасховішча. Насупраць, на пляцоўцы левага (усходняга) адкоса з жэлезабетона , як на трыбуне, стаялі Машэраў і іншыя сакратары і афіцыйныя асобы.

Памятаю, як Машэраву піянерка першаму паднесла букет кветак. Дакладна памятую, што ўсім не хапіла, а ён і яго адразу ж элегантна перадарыў жанчынам з Вілейскіх уладаў - ці то Сцяшко А.А. ці то Церахавай Т.П. які ён адразу адной з дзвух жанчын, ці то Таісіі Пятроўне Церахавай, намесніцы старшыні Вілейскага равыканкама, ці то Сцешко што стаяліў імпрэзаваным прэзідыуме з іншымі афіцыйнымі асобамі. Пакуль гаварылі доўгія прамовы, экскаватары засыпалі старое натуральнае рэчышча, якое праходіла побач з новым, штучным. Але калі вусце звузілася, Віліязмагаючыя голасна зараўлазаглушыўшы пабедныя прамовы з прызідыума. Нават мусілі экстранна прыпыніць працу бульдозераў, каб даць магчымасць выказацца ўсім гераічным будаўнікам -меліяратарам і адказным партыйцам. А тадыўжо без прамоў, зноў загудзелі маторы, Вілія зноў, ўжо напаследак зараўла -зашумела і праз поўгадзіны усё было скончана. Потым памятаю, як хлынула вада па новым штучным русле і пачала хутка хаваць бетоннае дно ложа.Ўсе ўдзельнікі мітынгу, увесь народ кінуўся наўцёкі, узбіраючыся на правы адкос.З усяго прызідзіма перабег на правы бераг толькі Машэраў, а вось кінаапертар які бег за ім ззаду ўжо замачыў ногі па калена. Адна жанчына паслізнулася і упалазамачыўшы сукенку і ёйнаму гору амаль ніхто неспачуваў, толькі смяяліся. Так Вілія тады сімвалічна раз’яднала народ і партыйна меліяратыўнае кіраўніцтва. У студзені 1976 г. была разабраная зямельная перамычка ў раёне Заслаўля, і вілейская вада атрымала свабодны доступ у канал, пачалося перакідванне на поўдзень.

Вадасховішча, якое вісіць над невялікім, 30-тысячным райцэнтрам, уяўляе патэнцыйную пагрозу затаплення горада Вілейкі і шэрага вёсак у выпадку разбурэння ці прарыву дамбы. Згодна са сцэнарыем развіцця надзвычайнай сітуацыі, па падліках спецыялістаў МНС, магчымыя ахвяры, якія налічвалі дзесяткамі і сотнямі сярод жыхароў дамоў, размешчаных па вул. Стаханаўскай, сярод рабочых завода «Буддэталі». Колькасць мяркуемых ахвяраў у супастаўных лічбах велізарная, калі параўнаць з колькасцю ахвяраў, якія спасцігла буйнейшы

горад ЗША Новы Арлеан у Луізіане. Там абрынуўся ўраган «Катрына» і раптоўна затапіў усе вуліцы. Дзеянні ратавальнікаў ацэньваліся вельмі крытычна ў прэсе.

У нашым выпадку, у сцэнарыем аварыі дамбы Вілейскага вадасховішча, нічога не прадугледжана па ўзнаўляльным забеспячэнні жыхароў і рабочых Вілейкі плаўсродкамі (лодкамі, выратавальнымі коламі і камізэлькамі, надзіманымі ратаўнічымі плытамі, якія могуць быць прыведзеныя ў працоўны стан за лічаныя секунды). З насельніцтвам не праводзяцца навучальныя семінары па дзеяннях у выпадку надзвычайнай сітуацыі. Навучаюць толькі ратавальнікаў, будаўнікоў і транспартнікаў. Хаця сталічныя ратавальнікі маглі б арганізаваць віляйчанам падарунак у выглядзе плаўсродкаў для школаў з мэтай развіцця воднага турызму: тыя ж мінчане шмат гадоў любуюцца Свіслаччу, у гарадскім рэчышчы якой фактычна цячэ вада з Віліі.

Сталічныя эколагі маглі б «адшпіліць» частку сродкаў для поўнага выканання водаахоўных мерапрыемстваў згодна з праектам ВМВС, які маецца і які так і не рэалізаваны за ўсе гэтыя гады ў поўным аб’ёме. Ажыццявіць чыстку дна і ложа вадасховішча, каб яно з часам не ператварылася ў вялікае балота, можна, толькі не з мясцовага, а са сталічнага бюджэту. Наспелі мерапрыемствы па аднаўленні цырты — стварэнне штучных нерасцілішчаў (падсыпка жвіру і камянёў), меліярацыя натуральных нерасцілішчаў (перамешванне жвірова-галечнага субстрату на перакатах для выдалення ілу і абрастанняў), штучнае ўзнаўленне з наступным зарыбленнем ракі. Не настолькі вялікія гэта грошы, але выбіць іх пакуль не можа ніводзін віляйчанін ці смаргонец.

Не могуць яны напісаць абгрунтаванне для выдзялення саліднага гранта з Еўрасаюза для выратавання той жа цырты. Прыязджалі ж у Вілейку з Каўнаса літоўцы ў 2008 г. з прапановай асвоіць грант з мэтай шырокага выкарыстання Каўнаскага і Вілейскага вадасховішчаў для турызму і рэкрэацыйных мэтаў. Але магчымасць асваення гранта Еўрасаюза, які выдзяляўся для добраўпарадкавання гэтых двух вадаёмаў, з-за няспрытнасці некаторых чыноўнікаў Вілейскага райвыканкама была ўпушчаная. Дарэчы мясцовыя ўлады вельмі падозрана адносіліся да помачы аказваемаў іншаземцамі -нават калі немцы у 90-х, пасля аварыі на ЧАЭС аказвалі фінансаванне у будаўніцтве дзіцячага аздараўленчага лагера "Надзея ХХ1 век" ля тагачасны старшыня райвыканкама Язінбскі Я.І выказваў у кулуарах (мне даводзілася чуць) думку што неспраста будуюцца спальныя карпусы ля Вілейскага водасховішча, мусіць калі гэта і не казармы для салдат, то будынкі для прытулка спецыялістаў верхмата. У 2019г. стала вядома аб о старте программы разработки генерального плана развития Вилейского водохранилища.Гэта звязана з лібералізацыяй Зямельнага Кодэкса і пэўнымі магчымасцямі, якія з'явіліся па асваенню прыбярэжных і водаахоўных палос вадаёмаў. Магчыма, гіпатэтычна сродкі на карысць Віліі будуць кампенсацыйна калісьці выдзеленыя з прыбытку Астравецкай АЭС.

Будучыня Вілейскага вадасховішча, як і ўсяго рукатворнага, у агульных рысах вядомая: згодна з праектам, тэрмін эксплуатацыі бетоннай дамбы — 100 гадоў.

Гэта здарыцца няхутка, у 2073 г., але на такі тэрмін перспектыўнае планаванне не вядзецца. Магчыма, умацуюць старую дамбу, фактычна адбудаваўшы яе нанова. Магчыма, Вілія ўвойдзе ў сваё натуральнае рэчышча. Магчыма, месцамі адбудзецца забалочванне ложа. Балота на месцы вадасховішча — гэта жудасна, але, з іншага боку, магчыма, гэта будзе дабро: вада ачысціцца ад сіне-зялёных водарасцяў.

Пры думках пра Вілію і Вілейскае вадасховішча мімаволі ўзгадваюцца цытаты з Эклезіяста: «Якая карысць чалавеку з усёй яго працы? Род мінае, род прыходзіць, але зямля трывае навекі… Што было, тое зноў будзе; а што паўстала, тое зноў узнікне: няма нічога новага пад сонцам».

# Літаратура


1. Без-Корнилович, М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии / М.О. Без-Корнилович. — СПб, 1855.

2. Берг, Л.С. Названия рыб и этнические взаимоотношения славян / Л.С. Берг // Советская этнография. — М.; Л., 1948.

3. Браім, І.М. Рыбалоўства ў Беларусі / І.М. Браім. — Мінск : Навука і тэхніка, 1976.

4. Бурко, Л.Ф. Характеристика ихтиофауны Вилейского водохранилища и особенности её формирования / Л.Ф. Бурко, В.Б. Петухов, Л.П. Шкляров. — Минск : БГУ, 2000.

5. Власов, Б.П. Научое и технико-экологическое обоснование республиканского ландшафтного заказника «Сорочанские озёра» / Б.П. Власов.

6. Жуков, П.И. Определитель рыб Белорусской ССР / П.И. Жуков. — Минск : Изд-во АН БССР, 1958.

7. Информационные бюллетени «Состояние природной среды Беларуси» / НАН Беларуси, Мин-во природных ресурсов и охраны окружающей среды. — Минск : Изд. центр БГУ, 1985-2006.

8. Каханоўскі, Г.А. Повязь часоў / Г.А. Каханоўскі. — Мінск : Полымя, 1985. — С. 80-81.

9. Плужников, В.Н. Вилейско-Минская водная система / В.Н. Плужников, Р. А. Станкевич, М.И. Малижонок, Ж.Ф. Жуков. — Минск : Университетское, 1986.

10. Сабанеев, Л.П. Рыбы России. Жизнь и ловля (уженье) наших пресноводных рыб / Л.П. Сабанеев. — М. : Типография В. Готье, 1875.

11. Терлецкий, П. Жизнь рыб в наших реках и озерах. Рыбное хозяйство и охота / П. Терлецкий ; издание книгопродавца И.Л. Тузова — Изд. 2-е, исправл. и доп. — СПб. : Типография Б.Г. Яснопольского, 1879. (С удочкой по Нёману.) 12. Улащик, Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии: монография / Н.Н. Улащик. — М. : Наука, 1965.

13. Brzegi Wilii/ przez Ignacego Ghodzk; wyd. Adama Zawadzkiego. — Wnm,1843. 14. Tyszkiewkz, K. Wilija i jej brzegi / K. Tyszkiewic. — Drezno, 1871.

15. Vykintas Vaitkevicius —Neris: 2007 metu ekspeicija-Vinius: Mintis, 2010 16. Wlod. Kurier Wilenski № 28 13.10.1934, “Kto zaraia miljony zlotych na rakach naszych ziem?” 17. Kurier Wilenski № 186/ 17.08.1932, “Bolszewicy uwiezieli rybakȏw polskih.” 18. ЖылкаФ.Б. КасцючэнкаА.М. ВіліявачамівандроўікаМінск, “Монлітара” , 2012

16. Wlod. Kurier Wilenski № 28 13.10.1934, “Kto zarabia miljony zlotych na rakach naszych ziem?”

17. Kurier Wilenski № 186/ 17.08.1932, “Bolszewicy uwiezieli rybakȏw polskih.”

18. ЖылкаФ.Б. КасцючэнкаА.М. Віліявачамівандроўіка - Мінск, “Монлітара” , 2012

19. "Słowo", Nr. 178, 21.06.1938 17 kgl. Losos w Wilji.

20 М. Фесмер

21. 3. Моздир М. Один із давніх видів поліського рибальства "на посвєт" // Записки НТШ. Праці секції етнографії і фольклористики. - Т. СССХХХ. - Львів, 1995. - С. 212-215.

22. Znamierowska-PrufferowaM. Oscirybackie. ProbaklasyfikacjiosciPolnoczno-WschodniejPolski.-Wilno, 1939.- 14 s.

23. Традиційне рибальство Галичини у першій третині XX ст.: заборонені знаряддя та способи вилову Микола Лицур http://vuzlib.com/content/view/1868/57

# Дадатак

Цяперашні кіраўнік лабараторыі (з 2006 г.) дацэнт Віктар Казіміравіч Рызеўскі мяркуе, што з улікам самарассялення відавы склад рыб у Беларусі пашырыўся да 68 відаў, падвідаў і формаў, напрыклад, на Дняпры відавы склад на 2014 г. пашырыўся на 5 відаў.

«Пашырэнне спісу чужародных відаў ідзе за кошт самарассялення (пашырэння арэала) пераважна дробных понтэ-каспійскіх саланаватаводных відаў, якія трапляюць на тэрыторыю Беларусі з басейна ракі Днепр, а таксама з-за завозу новых, гаспадарча значных відаў, якія выкарыстоўваюцца ў аквакультурных гаспадарках, адкуль апошнія могуць трапляць у натуральнае асяроддзе».

Уладзімір Каставусаў,
намеснік дырэктара па навуковай рабоце
РУП «Інстытут рыбнай гаспадаркі»
НПЦ НАН Беларусі па жывёлагадоўлі

**Пячкур***(Goio goio)*, у Беларусі на Вяллі — келб, калбы, у іншых басейнах Беларусі — пячкур, пяскар, на Прыпяці — дудорга, стаўпец, на Нёмане — келбук або келбучок (у адрозненне ад вусача, якога на Нёмане называюць келбам, на Зах. Дзвіне — курмель, крумель, па-ўкраінску называецца кобль, кобл, кобель, коба, коблік, у карпацкіх украінцаў — ковблык, говбень, глобень, у палякаў — kiełb, kiołb, kobel, koblik, kowbel, у кашубаў — kelpg, kielb, kielbch, у літоўцаў — kilbukas);

**Жэрах, болень, жэраспень, ганец — назвы жэраха на Віліі;**

**Усач, вансач, мірон, марскі келб - назвы усача;**

**Сліжык**(*Nemachilus barbatulus)* – мясцовая назва гальца (сліж, сліз, слізік, склізок, аўдотка, еўдюшка, слепец, лежань ці лежанька (бассейн Сожа), сікля (Зах. Дзвіна). Галец адрозніваецца ад іншых ўʼюнов своім цыліндрычным валькаватым і амаль голым целам. Гэта невялічкія рыбкі, да 10, калі нікалі, са слоў аматараў лоўлі 15 см дліны. На верхней вусне дзве пары вусікаў и одна пара ў вуглах рота.

1 **Ігнаці Ходзька** — ліцвінскі пісьменнік, нарадзіўся 29 верасня 1795 г. у сяле Заблошчына Вілейскага раёна і 60 гадоў пражыў на Вілейшчыне. Першая аповесць — "Падданы". У апавяданні "Баруны" апісваецца старэйшая навучальная ўстанова Беларусі, дзе ён вучыўся. Стварыў цыкл "Ліцвінскія вобразы". Апавяданне "Нататкі квестара" вызначыла з'яўленне новага жанру — гавэндаў у літаратурнай апрацоўцы. "Нататкі" — гэта стылізаваныя пад XVIII стагоддзе мемуары былога маршалка полацкага ваяводы. Прыняў удзел у стварэнні вернападданіцкага "Альбома", які быў падораны рускаму цару Аляксандру II падчас яго візіту ў Вільню ў 1858 г. Самыя вядомыя творы «Brzegi Wilii» , гавэнды "Obrazy litewskie" , «Domek mojego dziadka» «Podania Litewskie», «Dwie konwersacye z przeszlosci», «Jubilensz»,«Duch opiekunezy»,«Autor swatem»,«Panna respectowa»,«Dworki na Antokolu», «Zegota z Milanowa Milanowski», «Pustelnik w Proniunach». Пісьменнік памёр у 1861 г., пахаваны ў фамільным склепе на могілках ля вёскі Войстам Смаргонскага раёна. І. Ходзька (пакуль што) лічыцца класікам польскаў літаратуры, яго творы вывучаюць як праграмныя у школе. На Вілейшчыне праводзіліся "Ходзкінскія чытанні" аматарамі саматужна перакладаліся яго творы, ставіліся у школках (Крывічы) яго п'есы, аднавілі радод, ініцыявалі устаноўку памятнай шыльды і названне яго імя адной з вуліц Вілейкі. Але як зышлі у іншы сусвет вілейскія краяведы Рогач А.В., КастэнкаВ.М., то Ходзькінскія чытанні згаслі на беларускім павілле.

2 **Канстанцін Пі́евіч Тышкевіч** (5 [17] лютага 1806, Лагойск — 1 [13] ліпеня 1868, Мінск) — археолаг, гісторык, этнограф, фалькларыст з роду Тышкевічаў. У 1842 г. сумесна з братам Яўстахам заснаваў у Лагоўску першы ў Беларусі хатні музей. Канстанцін Тышкевіч таксама быў адным з заснавальнікаў Віленскага музея старажытнасцяў, членам Віленскай археалагічнай камісіі. Актыўна займаўся раскопкамі курганаў на Лагойшчыне, раскапаў каля 200 курганаў. Склаў тапаграфічныя карты замчышчаў і гарадзішчаў. Прапанаваў класіфікацыю знаходак па матэрыяле і спосабе вытворчасці. У 1857 г. арганізаваў экспедыцыю па рацэ Віліі, на аснове чаго напісаў манаграфію "Вілія і яе берагі", выдадзеную ў Дрэздэне у 1871 г. Справаздачы пра свае археалагічныя знаходкі друкаваў у газеце "Новы час", якую выдаваў Адам Кіркор у Пецярбургу ў 1868–1871 гг.

Змест

Ад аўтара ..........................................................................................................3
Частка I
Унікальнасць Віліі.
Цырта і жэрах, ласось і мінога..............................................................5
Частка II
Успаміны жыхароў
аб Віліі, пра рыбу, аб рыбалцы..............................................................................16
Частка III
... Аб традыцыйных спосабах лоўлі рыбы на Віліі..........................................116
Частка IV
Пачым рыбка, рыбачок?...........................................................................130
Частка V
Аб Вілейскім вадасховішчы ...................................................................139
Літаратура.................................... 152

Літаратурна-мастацкае выданне

Міхалевіч Міхаіл Міхайлавіч

ПРА ВЯЛЛЮ, РЫБУ І РЫБАЛКУ

*Нататкі вандроўніка з Вілейкі*

Адказны за выпуск Г. Вінярскі
Рэдактар А. Спрытніч
Вёрстка Л. Гарадзецкай Карэктар А. Спрытніч

Падпісана да друку 21.03.2017. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 10,97. Ул.-выд. арк. 9,11. Наклад 50 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014. Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.